# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

## са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

## 6 клас

## ХРЭСТАМАТЫЯ

Дапаможнік для вучняў
установ агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь

Мінск «Народная асвета» 2012

УДК 373.5.016 : 94
ББК 74.266.3
Ц 51

Аўтар уступных матэрыялаў,
складальнік *С. М. Цемушаў*

Р э ц э н з е н т ы:
аддзел гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і пачатку Новага часу дзяржаўнай навуковай установы «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» (кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык аддзела *А. І. Груша*); настаўнік гісторыі і грамадазнаўства вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 160 г. Мінска» *Т. Г. Яшчанка*

Ц 51 **Гісторыя** Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст. : 6-ы кл.: хрэстаматыя : дапам. для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / аўтар уступ. матэрыялаў, склад. С. М. Цемушаў. — Мінск : Нар. асвета, 2012. — 199 с. : іл.
ISBN 978-985-03-1843-5.

Хрэстаматыя змяшчае матэрыял для вывучэння гісторыі Беларусі старажытных часоў, а таксама Ранняга і Высокага сярэдневякоўя ў 6-х класах устаноў агульнай сярэдняй адукацыі.

Дадзены дапаможнік дапаўняе і ў шмат чым тлумачыць і ўдакладняе матэрыял вучэбнага дапаможніка «Гісторыя Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.», 6-ы кл. Выкарыстанне матэрыялаў на асноўных уроках і факультатыўных занятках будзе спрыяць эфектыўнаму засваенню вучэбнага матэрыялу, зробіць урокі больш цікавымі і разнастайнымі. Дапаможнік дазволіць вучням зарыентавацца ў сучасным разуменні асноўных праблем гісторыі Беларусі са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст., пазнаёміцца з асноўнымі крыніцамі звестак аб мінулым нашай краіны і метадамі працы гісторыкаў.

Прызначаецца вучням і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і ўсходніх славян увогуле.

**УДК 373.5.016 : 94**
**ББК 74.266.3**

**ISBN 978-985-03-1843-5**

# Прадмова

Хрэстаматыя, якую вы трымаеце ў руках, шмат у чым з’яўляецца наватарскай. Перш за ўсё яна змяшчае, нараўне з тэкстамі пісьмовых крыніц, фрагменты даследаванняў вядучых гісторыкаў не толькі нашай краіны, але і суседніх дзяржаў, даследчыкі якіх таксама актыўна займаліся распрацоўкай праблем старажытнай і сярэдневяковай гісторыі Беларусі. Гэта абумоўлена, па-першае, той акалічнасцю, што перыяд першабытнасці вывучаецца ў асноўным з дапамогай археалагічных і этнаграфічных даных. Па-другое, важна не толькі даць тэкст крыніцы, але і яго інтэрпрэтацыю, якая часта ідзе ў разрэз з прамымі ўказаннямі дакументаў. Па-трэцяе, трэба ўлічваць гістарыяграфічную традыцыю, якая склалася ў асвятленні тых або іншых праблем, тлумачэнні прычынна-выніковых сувязей і рэканструкцыі ходу тых або іншых падзей. Акрамя таго, варта аддаць даніну павагі сучасным і ўжо пакінуўшым свет гісторыкам, якія прысвяцілі сваё жыццё вывучэнню мінулага нашай краіны. Навізной прадстаўленай хрэстаматыі з’яўляецца таксама наяўнасць ілюстрацыйнага матэрыялу, што абумоўлена тым, што гісторыкі вывучаюць мінулае пры дапамозе не толькі пісьмовых помнікаў. У шэрагу выпадкаў вялікае значэнне набываюць археалагічныя матэрыялы, даныя сфрагістыкі, нумізматыкі, кніжныя мініяцюры і г. д.

Хрэстаматыя прызначана галоўным чынам для вучняў, якія вывучаюць гісторыю Беларусі і сусветную гісторыю ў 6-х класах устаноў агульнай сярэдняй адукацыі. Яе матэрыялы могуць быць выка-

рыстаны на асноўных і на факультатыўных занятках не толькі вучнямі, але і настаўнікамі. Менавіта для настаўнікаў прызначаны разгорнутыя каментарыі, якія папярэднічаюць усім выняткам з крыніц, фрагментам даследаванняў гісторыкаў і ілюстрацыйнаму матэрыялу.

Для хрэстаматыі адабраны найбольш істотныя даныя пісьмовых крыніц і меркаванні па той або іншай праблеме вядучых спецыялістаў-гісторыкаў. Усе тэксты (за рэдкім выключэннем) перакладзены на сучасную беларускую мову, таму што ўспрыманне пісьмовых помнікаў на старажытнарускай мове не заўсёды даступна сучаснаму чытачу, тым больш вучням 6-га класа. Пераклады тэкстаў з рускай, старажытнарускай, украінскай і польскай моў ажыццёўлены складальнікам хрэстаматыі. У некаторых выпадках тэксты прыведзены і на мове арыгінала, паколькі бывае вельмі важна захаваць нескажонае сучаснай лексікай успрыманне старажытных тэкстаў (напрыклад, паэтычнага твора «Слова пра паход Ігаравы»).

Уступныя матэрыялы ўяўляюць сабой самастойныя невялікія нарысы па найбольш важных праблемах гісторыі Беларусі вывучаемага перыяду. Яны будуць карысны як для вучняў, так і для настаўнікаў, паколькі ўдакладняюць і тлумачаць прыведзеную ў вучэбным дапаможніку інфармацыю, даюць дадатковыя звесткі. Асаблівая ўвага аўтарам-складальнікам хрэстаматыі нададзена аналізу крыніц нашых даных аб далёкім мінулым. Новым у хрэстаматыі з’яўляецца тое, што ў ёй даюцца кароткія звесткі пра гісторыкаў мінулага і сучаснасці, якія ўнеслі істотны ўклад у вывучэнне гісторыі беларускіх зямель са старажытных часоў да сярэдзіны XIII ст.

Акрамя таго, у хрэстаматыі прыведзены звесткі пра вядучых сучасных беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх гісторыкаў, найбольш буйных прадстаўнікоў савецкай гістарычнай навукі, а таксама польскіх даследчыкаў.

Хрэстаматыя забяспечана метадычным апаратам, які дае магчымасць разглядаць яе не як бессэнсоўнае нагрувашчванне тэкстаў пісьмовых крыніц і фрагментаў даследаванняў, а менавіта як дапаможнік, прызначаны для працы на занятках ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі. Пытанні, пазначаныя ✧, прызначаны для больш грунтоўнага аналізу прыведзеных тэкстаў, яны выходзяць за рамкі простай перадачы інфармацыі.

Хрэстаматыя поўнасцю адпавядае дзеючай вучэбнай праграме і праграме факультатыўных заняткаў па гісторыі Беларусі для 6-га класа. Матэрыял хрэстаматыі выкладзены ў адпаведнасці з тэматыкай праграм і матэрыялам вучэбнага дапаможніка.

# Раздзел I
# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў СТАРАЖЫТНЫЯ ЧАСЫ

## § 1. Найстаражытнейшыя людзі каменнага веку

### Знаходка Бердыжскай стаянкі

Верагодна, першымі людзьмі на тэрыторыі Беларусі былі неандэртальцы. Яны маглі пранікнуць на паўднёвыя абшары Беларусі ў адно з пацяпленняў. Аднак рэшткі паселішчаў неандэртальцаў пакуль не выяўлены, таму рана гаварыць аб іх доўгачасовым знаходжанні тут. Між тым на тэрыторыі Беларусі знойдзены стаянкі краманьёнцаў, якія з'явіліся 26—23 тыс. гадоў назад, у перыяд позняга каменнага веку (палеаліту). У дадзены час чалавек асвоіў амаль усю тэрыторыю Еўразіі. Знойдзена больш за 1300 паселішчаў гэтай пары, два з якіх — у Беларусі. Гэта стаянкі Юравічы і Бердыж.

Найбольш старажытная Юравіцкая палеалітычная стаянка (26 тыс. гадоў назад) была адкрыта настаўнікам Ю. Ю. Попелям у 1928 г. Раней, восенню 1926 г., «пашчасціла» прафесійнаму археолагу **К. М. Палікарповічу**. Адкрытая ім Бердыжская стаянка датуецца 21-м тысячагоддзем да н. э. К. М. Палікарповіч вядомы як выдатны спецыяліст па каменным і бронзавым вякам, ён з'яўляўся заснавальнікам вывучэння каменнага веку на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя. Доўгія гады пасля Вялікай Айчыннай вайны і аж да сваёй смерці ў 1963 г. навуковец узначальваў сектар археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР.

Раскопкі Бердыжскай стаянкі праводзіліся з 1926 па 1973 г. У выніку была ўскрыта плошча амаль у 500 $м^2$, знойдзена больш за 1000 крэменяў са слядамі апрацоўкі і каля 2000 цэлых і разбітых костак розных жывёл, галоўным чынам маманта. У 1986 г. стаянка апынулася ў зоне, забруджанай радыеактыўнымі выкідамі, таму зараз даследаванні на ёй прыпыніліся. Аб адкрыцці К. М. Палікарповіча ўспамінае галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі **Алена Генадзьеўна Калечыц** — найбуйнейшы сучасны спецыяліст па перыядзе каменнага веку.

...Існуе легенда аб тым, што Канстанцін Міхайлавіч [Палікарповіч] ішоў правым берагам Сажа. Затрымаўся каля крыніцы, што выцякае з вусця Паўночнага яра на поўдзень ад вёскі Падлужжа Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці. На камені побач сядзеў пастух. Паразмаўлялі аб справах, аб ураджаі, аб тым, ці няма ў акрузе цікавых знаходак, і раптам позірк вучонага спыніўся на валуне, на якім сядзеў пастух. Гэта быў велізарны чэрап мамантa, увесь залеплены зямлёй, з вачніцамі, забітымі глінай, бясформенны і зусім, на першы погляд, не падобны на тое, чым з'яўляўся. Беглы агляд схілу паказаў, што гэта невыпадковая знаходка. Дзе-нідзе ў размытых расколінах берага былі відаць косткі і крэмені, у тым ліку апрацаваныя рукой чалавека. Крэмені пакрываў блакітны налёт-паціна, які выдаваў іх старажытны ўзрост. Пастух пацвердзіў: «Так, костак тут шмат. Па вясне вадой заўсёды вымывае».

У першым жа шурфе, закладзеным на вяршыне схілу, зноў былі знойдзены крэмені і косткі. Доўгачаканы палеаліт! Ёсць паселішча! Чалавек жыў на тэрыторыі Беларусі спрадвеку!

Стаянку назвалі Бердыжскай, але назва гэтая не зусім дакладная. Вёска Бердыж, адкуль прыйшоў К. М. Палікарповіч, размешчана кіламетрах у трох на поўнач, а вось да вёскі Падлужжа — рукой падаць, усяго метраў 200. Тут даліну Сажа прарazаюць два яры — Паўднёвы і Паўночны. А ўсё гэтае месца завецца ўрочышчам Калодзежкі. На паўднёвым схіле Паўднёвага яра і было старажытнае паселішча, заснаванае чалавекам, як выявілася, па адных даных — звыш 23 тысячагоддзяў назад, а па другіх — 15 тысячагоддзяў назад.

Звесткі аб знаходках у Падлужжы ўскалыхнулі ўсю навуковую грамадскасць. У 1927 г. сюды прыехалі вядучыя спецыялісты тае пары...

*Калечыц, А. Г. Першыя людзі на зямлі Беларусі: дапаможнік / А. Г. Калечыц. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 32—33.*

**1.** Знайдзіце на карце (вучэбны дапаможнік, с. 11) Бердыжскую стаянку і раку Сож.

**2.** Па якіх прыкметах удалося знайсці старажытную стаянку на беразе Сажа?

**3.** Што было знойдзена першым на месцы стаянкі каменнага веку?

**4.** Што сведчыла аб старажытным узросце знойдзеных на Бердыжскай стаянцы каменных прылад працы?

**5.** Чаму знойдзеную К. М. Палікарповічам стаянку назвалі Бердыжскай?

**6.** Чаму так важна было знайсці на тэрыторыі Беларусі стаянку каменнага веку?

## Старажытныя прылады працы

Першыя прылады працы чалавека былі вельмі прымітыўныя, але з цягам часу яны станавіліся больш дасканалымі. На тэрыторыі Беларусі знойдзены тры найбольш старажытныя прылады працы, якія маглі трапіць сюды яшчэ ў вельмі далёкі ад нас мусцьерскі час (мусцье — ранні палеаліт, 100—35 тысячагоддзяў назад). Гэта вастраканечнік і два скрабкі (скрэблы). Вастраканечнік — прылада сэрцападобнай формы, абабітая па краях — быў знойдзены ў 1928 г. на Бердыжскай стаянцы (каля вёскі Падлужжа Чачэрскага раёна). У 1929 г. краязнаўцам П. М. Чайкоўскім каля пасёлка Свяцілавічы Веткаўскага раёна быў знойдзены скрабок. Яшчэ адзін скрабок быў знойдзены толькі ў 1960-я гг. археолагам Л. Д. Побалем. Аб старажытнасці гэтых прылад працы сведчыць цёмны налёт на іх паверхні — паціна. Дадзеныя знаходкі пацвярджаюць тое, што людзі жылі на тэрыторыі Беларусі ўжо ў раннім палеаліце (каменным веку). Прылады працы вылучылі чалавека з асяроддзя жывёл, дазволілі яму заняць пануючае становішча ў прыродзе, а з цягам часу з дапамогай прылад працы людзі пачалі пераўтвараць сваё наваколле.




1; 6; 8; 9 — востраканечнікі; 2 — разец; 3 — скрабок; 4 — праколка; 5 — касцяная прыладка для апрацоўкі каменя; 7 — кідальны камень

*Энциклопедия для детей. [Т. 31.] Древние цивилизации. — М.: Мир энциклопедий Аванта+, 2007. — С. 14.*

?

**1.** З якіх матэрыялаў старажытныя людзі рабілі прылады працы?

**2.** З-за чаго змешчаныя на малюнку прылады працы атрымалі свае назвы?

**3.** Як старажытныя людзі выраблялі прылады працы, якія змешчаны на малюнку?

**4.** Для чаго была прызначана кожная з гэтых прылад працы?

✧ **5.** Як дадзеныя прылады працы дазволілі палепшыць жыццё чалавека?

## Жыллё найстаражытных людзей

Маманты на працягу доўгага часу з'яўляліся найбольш каштоўнай здабычай паляўнічых. Іх мяса магло пракарміць шмат людзей. Карыснымі былі і шкуры, і косці гэтых жывёл. Акрамя таго, з костак мамантаў старажытныя людзі рабілі сабе жытлы. На малюнках прадстаўлена рэканструкцыя жытла з касцей мамантаў, знойдзенага каля вёскі Межырычы, што ва Украіне. Магчыма, такія ж жытлы былі пабудаваны на Юравіцкай і Бердыжскай стаянках, але археалагічныя даследаванні не дазваляюць дакладна гэта сцвярджаць. Іклы-біўні мамантаў утваралі ўваход, сцены рабіліся з лапатак, тазавых касцей, рэбраў, сківіц і зубоў. Зверху каркас пакрываўся шкурамі жывёл. На жаль, маманты 12—10 тысячагоддзяў назад назаўсёды зніклі з Зямлі.









? **1.** Якое месца займала паляванне ў гаспадарцы старажытных людзей? На якіх жывёл яны палявалі?

2. Разгледзьце малюнкі. Што знешне нагадваюць такія жытлы?

3. Як вы думаеце, колькі людзей маглі жыць у такіх жытлах?

✧ 4. Як вы думаеце, чаму захаваліся сведчанні будаўніцтва жылля з касцей мамантаў, а не з дрэва?

# § 2. Жыццё людзей у пасляледавіковы перыяд

## Заняткі людзей у пасляледавіковы перыяд

14 тысячагоддзяў назад з тэрыторыі Беларусі адышоў ледавік. Пасля гэтага пачынаецца яе хуткае засяленне з захаду і паўднёвага ўсходу. Перш за ўсё чалавек асвоіў узбярэжжы буйных вадаёмаў. З IX па V тысячагоддзе да н. э. працягваўся перыяд сярэдняга каменнага веку (мезаліт). У гэты час тэрыторыя Беларусі была заселена чалавекам цалкам, хаця і не раўнамерна. Жывёльны і раслінны мір набывае сучасны выгляд, больш дасканалымі робяцца прылады працы чалавека. Тагачасную гаспадарку старажытных людзей называюць прысвойвальнай: з дапамогай палявання, рыбалоўства і збіральніцтва чалавек проста браў, «прысвойваў» у прыроды тое, што яна давала ў гатовым выглядзе. Прысвойвальная гаспадарка ў той час дасягнула максімальнай прадукцыйнасці. Ніжэй прыводзіцца расказ-рэканструкцыя аб занятках людзей той далёкай эпохі нястомнага даследчыка, археолага і таленавітага пісьменніка **Міхаіла Міхайлавіча Чарняўскага**. Нараўне з іншым, навуковец вядомы як даследчык Краснасельскіх крамянёвых шахт (аб іх гл. у § 4, с. 21).

Дзесяць тысяч гадоў назад скончылася ледавіковая эпоха і наступіў сярэдні каменны век — мезаліт (па-грэчаску «мезос» — сярэдні). Клімат пачаў цяплець, а раслінны і жывёльны свет пастунова стаў падобным на сучасны. Асабліва пацяплела ў канцы мезаліту, 6 тысяч гадоў назад...

Раннемезалітычны чалавек, як і палеалітычны, большасць харчу меў з палявання. Ва ўмовах цёплага клімату, пры наяўнасці незлічонага мноства азёраў,

густой сеткі рэк і рэчак, істотнае значэнне набыло і рыбалоўства. Рыбу пачалі здабываць не толькі гарпунамі, але лавіць вудамі з касцянымі кручкамі.

З’явіліся ў мезаліце і найбольш эфектыўныя рыбацкія прыстасаванні — плеценыя з лубяных валокнаў сеткі...

Шмат вільгаці і цяпла стварылі максімальна спрыяльныя ўмовы для развіцця расліннасці. Непраходныя лясы пакрылі наш край. Многія невялікія і плыткія азёры інтэнсіўна зарасталі і ператвараліся ў балоты. Сярод такой разнастайнай расліннасці знаходзілася спажыва і для чалавека — лісце, сцёблы, некаторыя карані і асабліва плады. Мяркуючы па знаходках з тарфянікавых стаянак..., асабліва шмат збіралі людзі лясных і вадзяных арэхаў. На жаль, апошнія сёння амаль выveліся з беларускіх азёр. На зіму рабіліся багатыя запасы з самых розных ягад і сушаных грыбоў. Збіралі таксама ядомых малюскаў і свежыя птушыныя яйкі, асабліва качак і гусей.

*Чарняўскі, М. М. Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: Першабытны перыяд / М. М. Чарняўскі. — Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2003. — С. 22—24.*

? **1.** Калі на тэрыторыі Беларусі наступіла найбольшае пацяпленне?

**2.** Якімі сталі прыродныя ўмовы на тэрыторыі Беларусі ў пасляледавіковы перыяд?

**3.** Як называецца гаспадарка, аб якой распавядаецца ў тэксце?

**4.** Чым з пералічанага вышэй займаюцца і зараз людзі, асабліва ў сельскай мясцовасці?

✧ **5.** Як вы думаеце, ці шмат заставалася часу ў людзей той эпохі, каб займацца іншай дзейнасцю, акрамя здабычы ежы?

## Аб густах не спрачаюцца

Здабыча ежы з'яўлялася галоўным у жыцці першабытнага чалавека. Займацца гэтым павінны былі ўсе без выключэння члены родавага калектыву, ад мала да вяліка. На гэтую справу адводзіўся амаль увесь час чалавека. З-за адсутнасці пісьмовых крыніц, якія датычацца той далёкай эпохі, нельга дакладна вызначыць, як арганізоўвалася здабыча ежы ў тым альбо іншым рэгіёне. Аднак святло на гэта дапамагаюць праліць даныя **этнаграфіі** (навука, якая вывучае розныя бакі жыцця, побыту народаў, у тым ліку і тых, што да апошняга часу знаходзіліся на традыцыйнай стадыі развіцця) і **археалогіі** (навука, якая вывучае гісторыю грамадства па раскапаных з зямлі матэрыяльных рэштках дзейнасці чалавека — «маўклівых сведкаў мінуўшчыны»). Чым жа харчаваліся нашы далёкія продкі? Вось што пра гэта сведчыць вядомы спецыяліст, доктар гістарычных навук А. Г. Калечыц.

Усім неабходным для жыцця палеалітычнага чалавека забяспечвалі тры галоўныя заняткі: паляванне, збіральніцтва і рыбная лоўля. Роля збіральніцтва з цягам часу паступова змяншалася, рыбнай лоўлі, наадварот, узрастала. Паблізу ледавікоў збіральніцтва давала не больш як 1 % харчу, таму асноўнай галіной гаспадаркі доўгі час заставалася паляванне.

Велізарнай падмогай была рыбная лоўля. Мяркуючы па тым, як гэта рабілася зусім нядаўна ў асяроддзі плямёнаў, якія амаль да нашых дзён захавалі многія звычаі і лад жыцця далёкіх продкаў, этнографы сцвярджаюць, што рыбу елі сырой, сушылі, смажылі, варылі, пяклі, замарожвалі. Ядомыя зярняты, карані, костачкі здрабнялі перад ужываннем камянямі. Мяса елі сырым, пакуль не авалодалі агнём. Потым яго, відаць, пачалі смажыць на распаленых камянях, падвешваць над агнём, капцілі ў дыме, запякалі, як і рыбу, у гліне, разразалі на доўгія палоскі і вялілі, сушылі на ветры. Вечная мерзлата дазваляла доўга захоўваць мяса

ў замарожаным выглядзе ў прыродных ямах-халадзільніках.

Старажытныя людзі ўжывалі ў ежу ўвесь арсенал ядомых траў, каранёў, жалуды, сцёблы, лісце, ягады, маладыя парасткі, насенне, арэхі, у тым ліку плады вадзяных арэхаў-чылімаў, яйкі птушак, мёд, малюскаў, лічынкі, мышэй і шмат чаго яшчэ. Плод вадзянога арэха, напрыклад, смачны і спажыўны. Ён змяшчае да 30 % тлушчу, 2,4 % бялкоў, 55 % крухмалу. Яго ядуць сырым, смажаным, вараным, печаным. Гэтыя тры крыніцы харчавання забяспечвалі чалавека неабходнай колькасцю бялкоў, тлушчу, вітамінаў.

Але ўсёй гэтай ідыліі нельга зайздросціць. Нягледзячы на адносна вялікія запасы жывёльнай і раслiннай ежы, часта былі галодныя перыяды. І тлумачыліся яны не толькі няўдалым паляваннем ці прымітыўнымі прыладамі, якімі карыстаўся палеалітычны паляўнічы. Былі гады масавай гібелі і людзей, і жывёл ад эпідэмій. Каб чалавек выжыў, мудрая прырода заўсёды рэгулявала яго колькасць, значна стрымліваючы яе да той пары, пакуль чалавек не навучыўся штучна павялічваць ураджаі, не стварыў больш дасканалыя прылады працы і зброю, не вынайшаў метал і ўсё тое, чым мы сёння карыстаемся.

*Калечыц, А. Г. Першыя людзі на зямлі Беларусі: дапаможнік / А. Г. Калечыц. — Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 53—54.*

?

**1.** Якія заняткі былі галоўнымі для старажытнага чалавека?

**2.** Як гатавалі ежу ў першабытныя часы?

**3.** Ці была магчымасць у старажытных людзей нарыхтоўваць ежу пра запас?

**4.** Чым можна растлумачыць масавую гібель людзей у першабытны час?

✧ **5.** Як адбіваўся спосаб жыцця першабытнага чалавека на яе працягласці і якасці?

## Адзенне людзей позняга каменнага веку

Вывучэнне адзення нашых продкаў — даволі складаная задача. Захавалася зусім няшмат крыніц для рэканструкцыі знешняга аблічча касцюма людзей Ранняга сярэдневякоўя, не гаворачы ўжо пра папярэднія перыяды. Тым не менш не так даўно ва Украіне мастаком-этнографам **Зінаідай Васінай** была выканана крапатлівая праца па рэканструкцыі адзення насельніцтва ўкраінскіх зямель з найстаражытных часоў да XX ст. (1-ы том — да XIII ст.), якая знайшла ўвасабленне ў двухтомным, багата ілюстраваным выданні «Украінскі летапіс убрання». Праца З. Васінай атрымала захопленыя водгукі дзеячаў культуры і была прызнана «Кнігай года-2003» у намінацыі «Візітоўка» (мастацкія альбомы і прадстаўніцкія выданні). Аднак спецыялісты-гісторыкі выявілі ў дадзенай працы мноства памылак і непаразуменняў, якія не дазваляюць назваць яе даследчай і нават навукова-папулярнай. Тым не менш трэба аддаць належнае аўтару, якая паспрабавала выкарыстаць для навукова-мастацкай рэканструкцыі адзення людзей позняга палеаліту археалагічныя матэрыялы, старажытныя статуэткі і малюнкі на іх магільныя барэльефы і інш. Пахаладанне ў познім палеаліце, як і зімовы час года, прымушала людзей на тэрыторыі Усходняй Еўропы шукаць магчымасць знізіць неспрыяльнае ўздзеянне навакольнага асяроддзя. Такім выхадам стала цяплейшае адзенне, варыянт рэканструкцыі якога паказаны на малюнку.



Разнавіднасць першага пашытага адзення. Паўсядзённы футравы касцюм

*Васіна, З. О. Український літопис вбрання. — Том І. 11000 років до н.е. — XIII ст. н. е. Науково-художні реконструкції. — Київ: Мистецтво, 2003. — С. 33.*

1. Як бы мы зараз назвалі адзенне, у якое апрануты старажытныя людзі?

2. Якія матэрыялы выкарыстоўвалі старажытныя людзі для стварэння адзення?

3. Якую ролю выконвалі іншыя рэчы (аксесуары), якія паказаны на малюнку нараўне з адзеннем?

4. Што, акрамя адзення, дапамагала чалавеку перанесці холад у старажытныя часы?

## Пано «Каменны век» В. М. Васняцова

Выдатны расійскі мастак **Віктар Міхайлавіч Васняцоў** (1848—1926) вядомы, перш за ўсё, сваімі карцінамі «Багатыры», «Алёнушка», «Іван Царэвіч на Шэрым Ваўку». Аднак вялікую цікавасць уяўляюць і яго гістарычныя творы: «Пасля пабоішча Ігара Святаславіча з полаўцамі», «Цар Іван Васільевіч Грозны». Да іх ліку належыць таксама пано «Каменны век». Яно было створана па заказе Гістарычнага музея Масквы ў 1883—1885 гг. Перад мастаком стаяла задача паказаць супольнасць людзей каменнага веку, іх калектыўныя намаганні па здабыванні сродкаў для існавання. Гэтую задачу мастак цалкам здолеў рэалізаваць.

*Малюнкі ўзяты з: http://otkritka-reprodukzija.blogspot.com/2008/02/blog-post_7847.html*



Апрацоўка шкур жывёл



Паляўнічы з галавой жывёлы



Паліроўка косці і апрацоўка каменя



Апрацоўка косці і каменя



Правадыр племені



Упрыгожванне глінянага посуду



Здабыванне агню



Паляванне на маманта



Параненны мамант

**1.** Якія паўсядзённыя справы першабытных людзей адлюстраваны на малюнках?

**2.** Ці адрозніваюцца паказаныя на малюнках людзі ў маёмасных адносінах?

**3.** Як адлюстраваны на малюнках падзел працы па полу і ўзросту?

**4.** Чым вылучаецца з асяроддзя супляменнікаў правадыр?

**5.** Што на малюнках указвае на тое, што ўсе людзі ў першабытным грамадстве былі роўныя?

# § 3. Супольнасці людзей каменнага веку

## Праабшчына і род

Каб выжыць у цяжкіх умовах, старажытныя людзі павінны былі аб'ядноўвацца. Толькі разам яны маглі абараніцца ад драпежнікаў і паляваць на мамантаў ці на вялікія статкі жывёл. Акрамя таго, першабытны калектыў дазваляў перадаваць з пакалення ў пакаленне набытыя веды, важны вопыт жыцця. Першае, што натуральным чынам звязвала людзей, гэта іх сваяцтва, роднасныя сувязі. Калектыў першабытных людзей з цягам часу змяняўся, але адбывалася гэта вельмі павольна. Ніжэй прыведзены ўрывак з працы савецкіх навукоўцаў А. С. Амальрыка і А. Л. Мангайта. **Аляксандр Львовіч Мангайт** (1915—1974) доўгі час з'яўляўся адным з найбольш аўтарытэтных археолагаў СССР. Яго падручнікі па археалогіі Еўропы і СССР да нашых дзён выкарыстоўваюцца ў якасці дапаможнікаў па асновах археалогіі ў вядучых ВНУ Расіі. Але выказаныя вучоным у 1960-я гг. думкі зараз не знаходзяць агульнага прызнання. Так, сучасныя даследчыкі не лічаць, што род і абшчына — гэта адно і тое ж. Род — гэта калектыў людзей, звязаных сваяцтвам па маці або бацьку і аб'яднаных забаронай унутрыродавых шлюбаў (такі від шлюбных сувязей завецца родавай экзагаміяй). У той час як першабытная абшчына — гэта частка роду, якая працягвае жыць разам, плюс тыя людзі, якія далучыліся да яго па шлюбе (жонкі і мужы суродзічаў). У першабытную эпоху бо́льшая частка абшчыны з'яўлялася членамі аднаго роду. Таму род і абшчына ў асноўным супадалі і былі цесна звязаны паміж сабой.

Формай грамадскіх адносін у неандэртальцаў быў статак (праабшчына). Першабытным чалавечым статкам мы называем групу людзей, якія аб'яднаны агульным працэсам здабычы ежы. Ніякіх роднасных адрозненняў у статку не было. Іншымі словамі, ніхто не мог сказаць, чый ён сын, хто даводзіцца яму братам, хто дзядзькам, хто пляменнікам. Хоць у статку ўсе былі родзічамі, але роднасці яны не ведалі.

Род, ці родавая абшчына, — гэта таксама група людзей, якая аб'яднана агульным працэсам здабывання ежы, але ў ёй ужо адрозніваюцца ступені

роднасці. На першых этапах развіцця родавага ладу роднасць лічылася толькі па жаночай лініі. Чалавек ведаў сваю маці, сваю бабку, сваю прабабку, але не ведаў, хто яго бацька, дзед і прадзед. Такі род мы называем мацярынскім.

*Амальрик, А. С. Что такое археология / А. С. Амальрик, А. Л. Монгайт. — М.: Просвещение, 1966. — С. 89.*

? **1.** Што такое першабытны чалавечы статак?
**2.** Чым праабшчына магла нагадваць статак?
**3.** Што аб'ядноўвала людзей у род, ці родавую абшчыну?
**4.** Чаму першапачатковы род называюць мацярынскім?
✧ **5.** Як вы думаеце, якое становішча займала жанчына ў мацярынскім родзе?

## Л. Г. Морган аб найбольш ранніх стадыях у развіцці чалавецтва

Знакаміты амерыканскі навуковец, этнограф, сацыёлаг, гісторык **Льюіс Генры Морган** (1818—1881) з'яўляецца стваральнікам навуковай тэорыі першабытнага грамадства. Морган бачыў у развіцці ўсяго чалавецтва агульныя рысы. Гісторыю чалавецтва навуковец падзяляў на тры этапы: дзікасць, варварства і цывілізацыю.

На стадыі дзікасці ў занятках людзей панавалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва, адсутнічала прыватная ўласнасць, існавала роўнасць. На стадыі варварства з'яўляюцца земляробства і жывёлагадоўля, узнікаюць прыватная ўласнасць і сацыяльная іерархія. Трэцяя стадыя — цывілізацыя — характарызуецца ўзнікненнем дзяржавы, класавага грамадства, гарадоў, пісьменнасці і г. д. У сваёй асноўнай працы «Старажытнае грамадства» Морган даказаў, што найбольш ранняй формай аб'яднання людзей быў мацярынскі род. Да гэтага панавала тэорыя, паводле якой асноўнай ячэйкай чалавечага грамадства была патрыярхальная сям'я, заснаваная на прыватнай уласнасці і ўладзе бацькі. Праца Моргана «Старажытнае грамадства» лягла ў аснову адной з найбольш важных марксісцкіх прац — кнігі Ф. Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы».

**I. Ніжэйшая прыступка дзікасці**

Гэты перыяд пачаўся з маленства чалавечай расы і, можна лічыць, скончыўся з уводзінамі ва ўжыванне рыбнай ежы і ўменнем карыстацца агнём. Чалавецтва жыло тады ў сваім першапачатковым абмежаваным месцы пасялення, ужываючы ў ежу плады і арэхі. Пачатак выразнай мовы адносіцца да гэтага перыяду...

**II. Сярэдняя прыступка дзікасці**

Яна пачалася з ужывання ў ежу рыбы і ўмення карыстацца агнём і скончылася з вынаходствам лука і стралы. У гэтым стане чалавецтва з месцаў свайго першапачатковага пасялення распаўсюдзілася па большай частцы зямной паверхні...

**III. Вышэйшая прыступка дзікасці**

Яна пачалася з вынаходства лука і стралы і скончылася з вынаходствам ганчарнай вытворчасці...

Род, хоць і быў найстаражытнай сацыяльнай арганізацыяй, заснаванай на сваяцтве, не ўключаў усіх нашчадкаў аднаго агульнага продка. Гэта таму, што, калі род узнік, шлюб асобных пар быў невядомы і паходжанне па мужчынскай лініі не магло быць дакладна ўстаноўлена пэўным чынам. Сваякі былі звязаны адзін з адным галоўным чынам сувяззю іх матчынага паходжання. У старажытным родзе адлік паходжання абмяжоўваўся жаночай лініяй. Род аб'ядноўваў усіх тых асоб, якія вялі сваё паходжанне ад адной меркаванай прамаці, па жаночай лініі...

*Морган, Л. Г. Древнее общество или исследование линий человеческого прогресса от дикости через варварство к цивилизации / Л. Г. Морган. — Л.: Изд-во Института народов севера ЦИК СССР, 1933. — С. 9, 41.*

? **1.** Калі, згодна з меркаваннем Л. Г. Моргана, пачынаюцца і заканчваюцца ніжэйшая, сярэдняя і вышэйшая прыступкі дзікасці?

2. Якія вынаходствы чалавека Л. Г. Морган лічыць найбольш важнымі?

3. Што дазволіла Л. Г. Моргану лічыць мацярынскі род найбольш старажытным?

✧ 4. Які перыяд, на думку сучасных вучоных, ахоплівае стадыя «дзікасці»?

✧ 5. Як адносіны ў першабытным калектыве маглі адбіцца на рэлігійных уяўленнях тагачасных людзей?

## Даследчыкі аб мацярынскім родзе

Праца Л. Г. Моргана «Старажытнае грамадства» на доўгія гады зацвердзіла пункт гледжання аб асобай стадыі ў развіцці чалавечага грамадства — мацярынскім родзе. Лічылася, што гэтую стадыю абавязкова прайшло ўсё чалавецтва. Сучасная навука не так катэгарычна. Так, дадзенаму сцверджанню супярэчыць этнаграфічны матэрыял. У прыватнасці, была звернута ўвага на тое, што пры аднолькавым узроўні развіцця некаторыя плямёны абарыгенаў Аўстраліі былі арганізаваны па мацярынска-родавым, а іншыя — па бацькоўска-родавым прынцыпе. Даволі пераканаўчым здаецца меркаванне, што род не меў значэння вытворчага калектыву, а існаваў галоўным чынам для рэгулявання шлюбных адносін. Пры гэтым род мог выступаць у мацярынскай альбо бацькоўскай форме ў залежнасці ад пэўных умоў, а не ад стадыі развіцця. Галоўнай жа эканамічнай ячэйкай грамадства з'яўлялася абшчына. Яна магла ўключаць прадстаўнікоў розных родаў. Практычна адкінута ў сучаснай навуцы і ідэя аб **матрыярхаце** (літар. «маці» і «панаванне», «улада»). Жанчына не займала пануючага становішча нават у мацярынскім родзе. На чале такога роду мог стаяць брат жанчыны. Ніжэй прыведзены ўрывак з працы савецкага археолага, спецыяліста па палеаліце, доктара гістарычных навук **П. І. Барыскоўскага** (1911—1991). Навуковец з'яўляўся прыхільнікам традыцыйнага пункту гледжання на мацярынскі род.

Мацярынская родавая абшчына, якая змяніла першабытны статак, з'яўлялася значна больш прагрэсіўнай і развітой грамадскай арганізацыяй... Верагодна, тут далей развіўся натуральны падзел працы паміж праламі, а затым і паміж узростамі. Міжродавыя сувязі, якія ўзніклі, рабілі магчымым аб'яднанне некалькіх родаў (хаця б для вялікіх аб-

лоўных паляванняў) і абмен тэхнічнымі дасягненнямі. У сувязі з гэтым развіццё тэхнікі ў познім палеаліце [каменным веку] ішло значна хутчэй, чым раней. Найбольш важнай прадукцыйнай сілай з'яўляўся сам чалавек. Яго фізічная будова ў познім палеаліце (у адрозненне ад прымітыўнай фізічнай будовы неандэртальца) не была перашкодай для наступнага развіцця тэхнікі.

*Борисковский, П. И. Древнейшее прошлое человечества / П. И. Борисковский. — Изд. 2-е, перераб и доп. — Л.: «Наука», Ленинградское отделение, 1979. — С. 209.*

?

**1.** На змену чаму прыйшла мацярынская родавая абшчына, ці мацярынскі род?

**2.** Як у мацярынскім родзе магла быць падзелена праца паміж паламі і ўзростамі?

**3.** Чаму П. І. Барыскоўскі лічыць мацярынскую родавую абшчыну больш прагрэсіўнай і развітой грамадскай арганізацыяй?

✧ **4.** Як вы разумееце думку даследчыка аб тым, што найбольш важнай прадукцыйнай сілай мацярынскай родавай абшчыны з'яўляўся сам чалавек?

## § 4. Першабытныя жывёлаводы і земляробы ў бронзавым і жалезным вяках

### З'яўленне жывёлагадоўлі

Распаўсюджанне жывёлагадоўлі і земляробства на тэрыторыі Беларусі непасрэдна звязана з рассяленнем тут **індаеўрапейскіх плямён**. Дзе першапачаткова сфарміравалася індаеўрапейская супольнасць (а што такая існавала, сведчаць даныя мовы) — пытанне даволі спрэчнае. Даследчыкі размяшчаюць прарадзіму індаеўрапейцаў на поўначы Еўропы, на Дунаі, на Балканах, у Паўночным Прычарнамор'і, а таксама на ўсходзе Малой Азіі (Усходняя Анатолія). З нейкага з гэтых рэгіёнаў індаеўрапейцы і пачалі шырокае рассяленне. З часам яны занялі ўвесь еўрапейскі кантынент. З'яўленне індаеўрапейцаў на тэрыторыі Беларусі, а дакладней на

правабярэжжы Сярэдняга Падняпроўя, датуецца XXVI ст. да н. э. Да сярэдзіны II тысячагоддзя да н. э. індаеўрапейцы рассяліліся ўжо на ўсіх сучасных беларускіх землях. Паводле асаблівасцей керамічных вырабаў, іх завуць «шнуравікамі». Галоўнай у гаспадарцы індаеўрапейцаў першапачаткова была жывёлагадоўля. У навуцы існуюць дзве асноўныя тэорыі распаўсюджання жывёлагадоўлі (як і земляробства і іншых найбольш важных дасягненняў чалавецтва): 1) шляхам запазычання і разам з міграцыяй насельніцтва з аднаго рэгіёна («дыфузіянізм»); 2) адначасовае з'яўленне і развіццё ў мностве рэгіёнаў. Першая тэорыя доўгі час цалкам аспрэчвалася ў СССР, але цяпер знаходзіць новых прыхільнікаў. Лічыцца, што чалавекам першым яшчэ ў XV тысячагоддзі да н. э. быў прыручаны сабака, затым у X тысячагоддзі да н. э. — алені, у X—VII тысячагоддзях да н. э. — козы і авечкі, у VI тысячагоддзі да н. э. — буйная рагатая жывёла, клуначныя жывёлы.

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці здараліся, мабыць, выпадкі прыручэння дзіцянят забітых лясных жывёл. Так з часам некаторыя звяры прызвычаіліся жыць каля чалавечага жылля. У мезаліце, а можа, і раней, чалавек прыручыў сабаку і ката. У новым каменным веку многія жывёлы зрабіліся настолькі свойскімі, што пачалі размнажацца ў няволі. Гэта ўжо было сапраўднай жывёлагадоўляй.

Вядома, што жывёлагадоўля, як і земляробства, спачатку зарадзілася таксама ў паўднёвых землях. Аднак і ў Еўропе здаўна вадзіліся дзікія свінні, быкі-туры, козы, коні. Так што іх прыручэнне магло адбывацца нават і на нашай тэрыторыі. Як бы там ні было, але познанеалітычны жыхар Беларусі ўжо гадаваў коз і авечак, кароў, коней і свіней. Пільнаваць статак яму дапамагаў сабака.

Свойская жывёла існавала самапасам круглы год, знаходзячы сабе корм у наваколлі. Ноччу яе трымалі ў адкрытых загонах нават зімой, і толькі нованароджаных дзіцянят забіралі марозным часам

у чалавечае жытло. Дарэчы, у некаторых мясцінах Палесся такая завядзёнка трымалася яшчэ 200 гадоў назад.

*Чарняўскі, М. М. Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: Першабытны перыяд / М. М. Чарняўскі. — Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2003. — С. 29.*

? **1.** Якія жывёлы былі прыручаны чалавекам першымі?
**2.** Якія жывёлы маглі быць прыручаны першымі на тэрыторыі Беларусі?
**3.** Як гадавалі свойскіх жывёл у глыбокай старажытнасці?
✧ **4.** Ці магла жывёлагадоўля цалкам забяспечыць старажытных насельнікаў Беларусі?

## З'яўленне земляробства

З'яўленне земляробства і жывёлагадоўлі сталі найбольш важнымі падзеямі перыяду новага каменнага веку — **неаліту** (канец V—III тысячагоддзе да н. э.). Гэта былі сапраўды рэвалюцыйныя падзеі. Плямёны, якія пачалі рэгулярна займацца земляробствам і жывёлагадоўляй, атрымлівалі больш прадуктаў харчавання, чым плямёны паляўнічых і збіральнікаў. У выніку ўзрасла колькасць людзей у аграрных грамадствах, з часам з'явіўся і лішак прадуктаў. Некаторыя людзі ўжо маглі не займацца паўсядзённым пошукам пражытку. Усё гэта запатрабавала новых форм арганізацыі людзей, прывяло да грамадскага падзелу працы, хуткаму развіццю ведаў аб прыродзе і грамадстве, ускладненню духоўнага свету чалавека. Важна, што дадзены гаспадарчы пераварот змяніў адносіны паміж чалавекам і прыродай. Сваёй дзейнасцю людзі ўварваліся ў сферу дзеяння аб'ектыўных законаў прыроды, пачалі змяняць яе ў сваіх інтарэсах. Да гэтага часу толькі натуральны адбор вызначаў тое, якія расліны і ў якой колькасці будуць расці на той альбо іншай тэрыторыі. Са з'яўленнем земляробства ўжо самі людзі сталі вызначаць, якія расліны будуць расці на выбраных імі тэрыторыях. Менавіта таму гісторыкі кажуць аб «**неалітычнай рэвалюцыі**». Пад ёй разумеецца перш за ўсё пераход ад прысвойвальнага да вытворчага тыпу гаспадарчай дзейнасці (аб вытворчай гаспадарцы гл. § 4, с. 20—21). Але не меней важнымі былі сацыяльныя і культурныя наступствы. У выніку неалітычнай рэвалюцыі чалавецтва стварыла ўмовы для ўтварэння новага тыпу супольнасці — цывілізацыі.

Земляробства ў параўнанні з паляваннем і збіральніцтвам патрабуе вялікіх намаганняў: узворванне зямлі, сяўба, праполка і збор ураджаю на палях рабіліся ўручную і займалі ўвесь свабодны час першых земляробаў. Таму пераход да земляробства быў вымушаным выбарам чалавецтва. Паляўнічыя і збіральнікі звярталіся да сельскай гаспадаркі толькі тады, калі паляўнічыя рэсурсы ўжо не маглі пракарміць іх абшчыну. Рост насельніцтва і збядненне паляўнічых угоддзяў сталі першым усеагульным эканамічным крызісам у гісторыі чалавецтва. Пошукі выхаду з яго паступова прыводзілі да ўсё большай залежнасці спачатку ад збору дзікарослых раслін, а затым і ад спецыяльна вырашчаных. Пераход да новага спосабу жыцця быў паступовым і мала прыкметным для людзей аднаго пакалення. Спачатку абшчына паляўнічых сялілася каля дзікіх палёў і ахоўвала ўраджай ад дзікіх жывёл. Затым паляўнічыя-збіральнікі пачалі засцерагаць палі ад засухі, праполваць іх ад пустазелля, рыхліць глебу вясною і, нарэшце, высаджваць зерне.

Вядома, такі выбар быў магчымы не ўсюды. Для занятку земляробствам патрэбны былі спрыяльны клімат, урадлівая глеба, багацце вады для паліву і, нарэшце, такія расліны, якія давалі высокі ўраджай. Усе гэтыя ўмовы паўсталі пасля адступлення ледавіка ў розных частках свету. Незалежна і прыблізна ў адзін і той жа час земляробства зарадзілася на Блізкім Усходзе ў VIII тысячагоддзі да н. э., у Кітаі — у VI тысячагоддзі да н. э., у Цэнтральнай Амерыцы — у VII тысячагоддзі да н. э.

*Энциклопедия для детей. [Т. 31.] Древние цивилизации. — М.: Мир энциклопедий Аванта+, 2007. — С. 28—29.*

? **1.** Чаму земляробства патрабавала большых намаганняў, чым паляванне альбо збіральніцтва?

**2.** Чаму старажытныя людзі вымушаны былі перайсці да земляробства?

**3.** Якім чынам адбываўся пераход да земляробства?

**4.** Якія ўмовы былі патрэбны для занятку земляробствам?

✧ **5.** Ці можна лічыць пераход да земляробства важнейшай падзеяй у гісторыі чалавецтва? Адказ абгрунтуйце.

# § 5. Пачатак выкарыстання металаў на беларускіх землях

## Сцежкай пошукаў

У перыяд бронзавага веку (ад першых стагоддзяў II тысячагоддзя да н. э. да VIII ст. да н. э.) металічныя прылады працы на тэрыторыі Беларусі яшчэ не атрымалі шырокага распаўсюджання. Доўгі час людзі працягвалі карыстацца каменнымі прыладамі працы. Сапраўдная эпоха металу на тэрыторыі Беларусі наступіла ўжо ў жалезным веку, які завяршае першабытнасць (з VIII—VII стст. да н. э. па IV—V стст. н. э.). Справа ў тым, што ў Беларусі няма сваіх радовішчаў ні медзі, ні волава, затое шмат балотнай і азёрнай руды, з якой насельніцтва Беларусі ў спецыяльных печах навучылася «варыць» жалеза і рабіць з яго прылады працы. Вось што аб адным з краязнаўчых падарожжаў са сваімі вучнямі расказвае доктар гістарычных навук, у той час просты настаўнік Г. В. Штыхаў. **Георгій Васільевіч Штыхаў** (нарадз. у 1927 г.) — вядомы беларускі гісторык, археолаг, найбуйнейшы спецыяліст па сярэдневяковай гісторыі Беларусі. Навуковец прайшоў шлях ад настаўніка сельскай школы да галоўнага навуковага супрацоўніка аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Яго манаграфіі «Гарады Полацкай зямлі (IX—XIII стст.)» (Мінск, 1978), «Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі» (Мінск, 1999) і іншыя прынеслі даследчыку заслужаную павагу ў навуковым асяроддзі.

Шмат гадоў назад мне разам з вучнямі Сутkоўскай сярэдняй школы, што на Гомельшчыне, давялося праводзіць краязнаўчую экскурсію і збіраць звесткі пра археалагічныя помнікі Лоеўскага раёна...

— А цяпер нагадаем крыху гісторыі, — прамовіў я. — У VII—VI стагоддзях да нашай эры людзі, якія жылі на тэрыторыі паўднёвай Беларусі, маглі ўжо карыстацца жалезам. З яго яны выраблялі розныя прылады працы. А ці ведаеце вы, дзе людзі бралі жалеза?

— Ведаем! — у адзін голас усклікнулі некалькі вучняў. — Выплаўлялі з балотнай руды. Яна ёсць усюды ля балот, азёр, рэк.

— На тым беразе Дняпра стаіць вёска Рудня. Кажуць, што там некалі выплаўлялі руду, адкуль і пайшла назва вёскі, — нечакана сказала дзяўчынка, якая дагэтуль маўчала.

— Гэта так, але ж «плавіць» жалеза ў тыя далёкія часы людзі не ўмелі, — заўважыў я. — Яно плавіцца пры вельмі высокай тэмпературы — каля 1530 градусаў цяпла. У старажытнасці металургі не ўмелі атрымліваць такой высокай тэмпературы. У жалезным веку жалеза «варылі», моцна награвалі ў прымітыўных невялікіх печах-домніцах. Кавалкі руды спякаліся і ўтваралі порыстую масу — крыцу. Потым з гэтай крыцы кавалі і выраблялі розныя рэчы: нажы, сярпы, шылы, сякеры, наканечнікі стрэлаў і коп’яў.

*Штыхаў, Г. В. Археолагі дапаўняюць летапісцаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — С. 5—6.*

?

**1.** Адкуль старажытныя насельнікі Беларусі бралі жалеза?
**2.** Чаму вырабы з жалеза атрымалі на тэрыторыі Беларусі большае распаўсюджанне, чым вырабы з медзі ці бронзы?
**3.** Якія рэчы выраблялiся з жалеза?
**4.** Чаму правільна казаць, што ў жалезным веку жалеза «варылі», а не «плавілі»?
✧ **5.** Аб чым сведчыць тое, што на тэрыторыі Беларусі ёсць шмат населеных пунктаў з назвай Рудня?

## Аб печы-домніцы

Балотныя або азёрныя жалезныя руды можна знайсці ў Беларусі амаль паўсюль. Асабліва багата імі Палессе. Нават у 1860-я гг. у Беларусі ўсё яшчэ працавалі металургічныя прадпрыемствы на балотных жалезных рудах. Але ўтрымліваюць яны толькі 30—40 %, радзей 50 % жалеза. Патрабаваўся вельмі працаёмкі працэс, каб атрымаць з руды якасны метал. Менавіта таму знакаміты старажытнагрэчаскі паэт Гамер называў жалеза «многотрудным». У старажытнасці жалеза атрымлівалі сырадутным спосабам: размешчаныя пластамі жалезную руду і драўняны вугаль награвалі ў спецыяльных печах (горнах, домніцах). У печы распалены вугаль адбіраў кісларод у руды, тым самым вокіслы жалеза аднаўляліся да металу. У выніку такога пракальвання руды з вугалем атрымлівалася цестападобнае крычнае жалеза. Затым яго чысцілі ад шлакаў коўкай: моцныя ўдары молата выціскалі прымешкі.

«Варылі» жалеза ў печах-домніцах. Нямала такіх домніц, што дзейнічалі каля 2—2,5 тысяч гадоў назад, знойдзена ў Беларусі. Добра захавалася домніца каля вёскі Лабеншчына непадалёк ад Заслаўя.

Печ, зробленая з гліны, была невялікай. Таўшчыня сценак — 5—10 сантыметраў. Ля самага дна знаходзіліся адтуліны, у якія ўстаўляліся гліняныя трубкі — так званыя соплы.

У домніцу засыпалі драўняны вугаль і кавалкі балотнай руды. Вугаль падпальвалі і праз соплы ўдзімалі «сырое», гэта значыць ненагрэтае, халоднае паветра. Адсюль і працэс, які адбываўся ў печы, называлі сырадутным. Тэмпература падымалася да 1200 градусаў. Руда пачынала аддаваць свой кісларод і ператваралася ў жалеза. Кавалкі апускаліся на дно, спякаліся, утвараючы порыстую масу — крыцу. Але крыца — яшчэ не жалеза, у ёй вельмі многа шлаку.

Калі печ астывала, яе ламалі і даставалі крыцу. Потым яе награвалі ў горне і білі, плюшчылі цяжкімі молатамі. Так рабілі некалькі разоў, пакуль не атрымлівалі даволі якаснае жалеза.

*Штыхаў, Г. В. Галасы далёкіх продкаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Беларусь, 1968. — С. 43—45.*

? **1.** Дзе на тэрыторыі Беларусі былі знойдзены старажытныя печы-домніцы?

**2.** Што ўяўляла сабой печ-домніца?

**3.** Чаму працэс атрымання крычнага жалеза называўся сырадутным?

**4.** Чаму крычнае жалеза патрабавалася яшчэ плюшчыць цяжкімі молатамі?

✧ **5.** Як вы думаеце, ці шмат можна было зрабіць жалезных рэчаў з адной печы-домніцы?

## Вырабы з жалеза

З'яўленне жалеза значна паўплывала на развіццё гаспадаркі, што ў сваю чаргу адбілася і на грамадстве. Па-першае, металічныя прылады працы (сякера, саха з жалезным нарогам, рала з наральнікам, сярпы і косы) дазволілі павялічыць пасяўныя плошчы, а ў выніку — ураджай. З'явіўся лішак прадуктаў, які можна было назапашваць. Па-другое, склаліся ўмовы для вылучэння рамёстваў (перш за ўсё кавальскай справы). Па-трэцяе, палепшыўся побыт чалавека (з-за з'яўлення нажніц, абцугоў, піл, больш дасканалай апрацоўкі дрэва, а значыць, будаўніцтва больш камфортнага жылля). Па-чацвёртае, з-за з'яўлення лішкаў прадуктаў, удасканалення сродкаў транспарту, павелічэння асартыменту тавараў пашырыўся тавараабмен. Па-пятае, выраб больш эфектыўнай зброі зрабіў войны пастаяннай з'явай. З-за таго, што некаторыя абшчыны і плямёны атрымалі магчымасць назапашваць маёмасць і прадукты харчавання, яны сталі прывабнымі для грабежнікаў. Гэта вымушала людзей сяліцца ў цяжкадаступных месцах і ўмацоўваць свае паселішчы. Так узнікла адна з важных прыкмет жалезнага веку — умацаваныя гарадзішчы (аб іх — у наступным параграфе). Падчас раскопак гарадзішчаў археолагі знаходзяць шмат жалезных рэчаў. Іх выкарыстоўвалі ў сваёй паўсядзённай дзейнасці старажытныя жыхары беларускіх зямель.

? 1. Назавіце жалезныя рэчы, якія паказаны на малюнках.
2. Для чаго выкарыстоўвалася кожная з гэтых рэчаў?
3. Чым пераўзыходзілі жалезныя рэчы вырабы з медзі ці бронзы?
4. Ці маглі некаторыя з гэтых рэчаў выкарыстоўвацца аднačасова ў якасці прылады працы і зброі?

# § 6. Узнікненне няроўнасці ў грамадстве

## Ф. Энгельс аб з'яўленні прыватнай уласнасці

**Фрыдрых Энгельс** (1820—1895) нараўне з Карлам Марксам (1818—1883) з'яўляецца стваральнікам фармацыйнай канцэпцыі развіцця чалавецтва. Дадзеная канцэпцыя ў значнай ступені паўплывала на сучаснае разуменне гістарычных працэсаў. К 1884 г. Ф. Энгельс завяршыў адну са сваіх асноўных прац — «**Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы**». Прапанаванае ў ёй разуменне заканамернасцей развіцця першабытнаабшчыннага ладу, антычнага і феадальнага грамадстваў, з'яўлення прыватнай уласнасці, фарміравання дзяржавы на многія гады стала агульнапрынятым у СССР і сярод гісторыкаў-марксістаў усяго свету. Гэтая праца захоўвае сваё значэнне і ў нашы дні. Ф. Энгельс з'яўляўся прыхільнікам матэрыялістычнага (абумоўленага аб'ектыўнымі пры-

чынамі) разумення гісторыі. Праблему з'яўлення прыватнай уласнасці навуковец звязваў з развіццём гаспадаркі (пераходам да вытворчага тыпу) і інстытута сям'і.

...прыручэнне свойскіх жывёл і гадоўля статкаў стварылі нечуваныя да таго крыніцы багацця і парадзілі зусім новыя грамадскія адносіны. Амаль да апошняй прыступкі варварства багацце складалася толькі з жылля, адзення, грубых упрыгажэнняў і прылад для здабывання і гатавання ежы: лодкі, зброі, найпрасцейшых хатніх рэчаў. Ежу прыходзілася здабываць кожны дзень. Зараз жа пастухоўскія народы, якія хутка прагрэсіруюць... набылі ў статках коней, вярблюдаў, аслоў, буйную рагатую жывёлу, авечак, коз і свіней — маёмасць, якая патрабавала самага прымітыўнага дагляду, каб размнажацца ўсё ў большай і большай колькасці і даваць багатую малочную і мясную ежу. Усе ранейшыя спосабы здабывання ежы адступілі зараз на задні план; паляванне, якое раней было неабходнасцю, стала цяпер раскошай. Але каму належала гэтае новае багацце? Першапачаткова, безумоўна, роду. Аднак ужо рана павінна была ўзнікнуць прыватная ўласнасць на статкі...

Такія багацці, якія перайшлі аднойчы ў прыватную ўласнасць асобных сем'яў і хутка ўзрасталі, нанеслі моцны ўдар грамадству, заснаванаму на парным шлюбе і на мацярынскім родзе. Парны шлюб увёў у сям'ю новы элемент. Побач з роднай маці ён паставіў роднага бацьку... Паводле існуючага тады падзелу працы ў сям'і, справай мужчыны стала здабыванне ежы і выраб неабходных для гэтага прылад працы, а значыць, і права ўласнасці на апошнія; у выпадку скасавання шлюбу ён забіраў іх з сабой, а за жонкай заставаліся яе хатнія рэчы. Паводле звы-

чаю тагачаснага грамадства муж быў таксама ўласнікам новай крыніцы ежы — жывёлы, а пасля і новай прылады працы — рабоў...

Такім чынам, па меры таго як багацці раслі, яны, з аднаго боку, давалі мужу больш уплывовае становішча ў сям'і, чым жонцы, і, з другога боку, спараджалі яго імкненне выкарыстаць сваё новае становішча для таго, каб змяніць традыцыйны парадак спадкаемства на карысць дзяцей.

*Энгельс, Ф. Происхождение семьи, частной собственности и государства / Ф. Энгельс // Маркс К., Энгельс Ф. Избранные произведения: В 3 т. — Т. 3. — М.: Политиздат, 1986. — С. 56—58.*

? **1.** Што, на думку **Ф.** Энгельса, пазбавіла чалавека неабходнасці кожны дзень здабываць ежу?

**2.** Каму першапачаткова належала ўся ўласнасць у родзе?

**3.** Як звязаны з'яўленне жывёлагадоўлі і вылучэнне на першае месца ў сям'і мужчыны?

✧ **4.** Як вы разумееце словы **Ф.** Энгельса, што «паляванне, якое раней было неабходнасцю, стала цяпер раскошай»?

## Будаўніцтва гарадзішчаў у жалезным веку

У жалезным веку ўмацаваныя паселішчы — гарадзішчы — распаўсюдзіліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Для іх будаўніцтва людзі прыкладалі значныя намаганні, значыць, у іх была вялікая патрэба. Чаму? Па-першае, таму, што ў гэты час у сувязі з назапашваннем багацця, з'яўленнем бедных і багатых павялічыліся канфлікты паміж асобнымі родамі і плямёнамі. Па-другое, адбываліся міграцыі плямён (асабліва ў эпоху Вялікага перасялення народаў), якія шукалі больш спрыяльныя тэрыторыі для пасялення. Сярод найбольш важных прычын міграцый можна назваць: рост колькасці насельніцтва (яму было цесна на старым месцы), пагаршэнне ўмоў для вядзення звыклай гаспадаркі на ранейшай тэрыторыі, націск іншых народаў. Прыходзячы на но-

выя тэрыторыі, перасяленцы сутыкаліся з мясцовымі насельнікамі. Не на ўсіх гарадзішчах людзі жылі пастаянна: на іх хаваліся толькі ў выпадку небяспекі. На гэтыя гарадзішчы-сховішчы людзі зганялі сваю жывёлу і зносілі свой пажытак. Больш за ўсё падобных гарадзішчаў знаходзілася сярод балот Прыпяцкага Палесся.

Умацаваныя паселішчы былі вельмі распаўсюджаны ў раннім жалезным веку. Адкрыццё жалеза азначала пачатак велізарнага тэхнічнага перавароту ў гісторыі чалавецтва. Разам з тым ствараліся ўмовы для назапашвання багаццяў у руках асобных калектываў унутры родавай абшчыны. А гэта вяло да яе распаду, да вылучэння патрыярхальных сем'яў. Тады яшчэ не было ні класаў, ні прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці, ні дзяржавы.

Кожная патрыярхальная абшчына, у якой звычайна налічвалася некалькі дзясяткаў чалавек, вымушана была будаваць свае паселішчы ў цяжкадаступных месцах: на пагорках, на мысах абрывістых берагоў рэк, на астраўках сярод азёр і балот.

Дадаткова гэтыя паселішчы ўмацоўваліся драўлянымі парканамі, валамі, абкружаліся глыбокімі равамі. Бывала так, што рабілі некалькі валоў і некалькі равоў.

Жылі людзі на верхняй пляцоўцы, дзе размяшчалі жыллё, гаспадарчыя пабудовы і ўвесь скарб. Сюды, на пляцоўку, заганялася жывёла. У выніку небяспекі з боку варожых суседзяў тут абараняліся жыхары паселішча.

Усё часцей і часцей адбываліся сутычкі паміж асобнымі патрыярхальнымі сем'ямі, родамі, плямёнамі. У час такіх сутычак ваюючыя бакі імкнуліся захапіць як мага больш здабычы. Само жыццё патрабавала будаваць умацаваныя паселішчы.

На тэрыторыі Беларусі вядомы многія сотні гарадзішчаў. Звычайна плошча пляцоўкі гарадзішча невялікая — ад чвэрці да паловы гектара.

А сустракаюцца гарадзішчы ранняга жалезнага веку яшчэ меншыя. Найбольшая колькасць іх выяўлена ў Віцебскай, Гомельскай, Мінскай абласцях.

*Штыхаў, Г. В. Археолагі дапаўняюць летапісцаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — С. 7—8.*

? **1.** Да якіх змяненняў унутры родавай абшчыны прывяло адкрыццё жалеза?

**2.** Чаму патрыярхальныя абшчыны будавалі свае паселішчы ў цяжкадаступных месцах?

**3.** Якія натуральныя і штучныя ўмацаванні выкарыстоўвалі старажытныя людзі, каб абараніць сваё паселішча?

**4.** Для чаго выкарыстоўваліся гарадзішчы?

✧ **5.** Чаму плошча гарадзішчаў была невялікай?

## Даследаванні гарадзішчаў жалезнага веку

Гарадзішчаў жалезнага веку на тэрыторыі Беларусі захавалася больш за 1 тыс., пры гэтым у палове з іх праводзіліся археалагічныя даследаванні. Гарадзішчы трапілі ў поле зроку даследчыкаў яшчэ ў XIX ст. (З. Я. Даленга-Хадакоўскі, К. П. Тышкевіч). У савецкі час даследаванні праводзіліся ўжо не асобнымі аматарамі, а былі арганізаваны пры падтрымцы дзяржавы. Асобая роля ў даследаваннях гарадзішчаў жалезнага веку да Вялікай Айчыннай вайны належыць А. М. Ляўданскаму. Ён узначальваў гісторыка-археалагічную камісію пры Інбелкульце (затым Інстытуце гісторыі Акадэміі навук), якая пачала сістэматычнае вывучэнне археалагічных помнікаў. А. М. Ляўданскі аб'яднаў вакол сябе выдатны калектыў археолагаў. У яго ўваходзіў і даследчык гарадзішчаў жалезнага веку С. А. Дубінскі. У пасляваенны час мэтанакіраваныя даследаванні помнікаў жалезнага веку праводзілі А. Р. Мітрафанаў, Л. Д. Побаль, К. П. Шут, В. Б. Караткевіч, В. І. Шадыра, В. С. Вяргей, А. А. Егарэйчанка, М. І. Лашанкоў і інш. Значны ўклад у даследаванне азначанага перыяду ўнеслі вядомыя беларускія вучоныя: Г. В. Штыхаў, Э. М. Загарульскі, П. Ф. Лысенка,

В. М. Ляўко, Я. Г. Звяруга, Ю. А. Заяц. У адпаведнасці з месцам узвядзення гарадзішчы падзяляюць на ўзгоркавыя, мысавыя і балотныя. Сістэма ўмацаванняў гарадзішчаў з часам магла змяняцца. Першапачаткова ўзводзілі просты вастракол, затым ствараліся валы і равы. На валах узводзілі сцены з бярвёнаў. Пазней, ужо ў перыяд Сярэднявякоўя, на месцы былых гарадзішчаў маглі паўстаць гарады, замкі і сядзібы знаці, але часта людзі іх пакідалі. Такія пакінутыя гарадзішчы ў вялікай колькасці знойдзены археолагамі.

*Археалогія Беларусі: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. А—К / рэдкал.: Т. У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. — 496 с.: іл.*

**Рэканструкцыі гарадзішчаў ранняга жалезнага веку**





Якія натуральныя і штучныя ўмацаванні можна ўбачыць на малюнках?

**Сучасны выгляд старажытных гарадзішчаў**





Па якіх прыкметах сучасныя археолагі знаходзяць старажытныя гарадзішчы?

# § 7. Культура нашых продкаў

## Загадка старажытнага арнаменту ў выглядзе ромба

Арнамент, які наносіўся старажытнымі майстрамі на ганчарныя вырабы, статуэткі, прылады працы і г. д., заключаў у сабе глыбокі сэнс. Агульнапрызнана, што шэраг арнаментаў сімвалізаваў сонца, дождж, іншыя прыродныя стыхіі, якія спрыялі ўраджайнасці і агульнаму дабрабыту. Аднак у большасці выпадкаў аб канкрэтным змесце многіх арнаментаў можна толькі здагадвацца. Таму гісторыкі і цяпер спрабуюць знайсці патаемны сэнс старажытных арнаментаў і іншых сімвалічных малюнкаў. Аб адным з такіх навуковых адкрыццяў распавядаецца ў манаграфіі Б. А. Рыбакова «Язычніцтва старажытных славян». Савецкі, расійскі гісторык, археолаг **Барыс Аляксандравіч Рыбакоў** (1908—2001) з'яўляўся, без перабольшвання, найбуйнейшым спецыялістам па гісторыі Старажытнай Русі. Ім было падрыхтавана каля 20 манаграфій і некалькі сотняў артыкулаў па розных праблемах гісторыі і культуры славян, Старажытнарускай дзяржавы і старажытнарускіх княстваў. Некалькі пакаленняў савецкіх школьнікаў і студэнтаў (у тым ліку і складальнік дадзенай хрэстаматыі) вучыліся па падручніках, напісаных Б. А. Рыбаковым. Даследуючы вытокі славянскага язычніцтва, навуковец спрабаваў рэканструяваць уяўленні паляўнічых і збіральнікаў перыядаў палеаліту і неаліту. Значны матэрыял для даследаванняў Б. А. Рыбакоў чэрпаў з фальклору (у тым ліку беларускага) і традыцыйнага народнага прыкладнога мастацтва, у тым ліку з вышывак на ручніках.

Рамбічны арнамент вядомы, пачынаючы з палеалітычнай старажытнасці і канчаючы сучаснасцю, на працягу больш чым два дзясяткі тысячагоддзяў. У цяперашні час, паводле этнаграфічных даных, рамбічны арнамент з усёй яго разнастайнасцю сустракаецца ва ўсіх народаў свету...

Такую паўсюднасць ніяк нельга растлумачыць толькі лёгкасцю малюнка рамбічнай фігуры; звычайны квадрат таксама шырока распаўсюджаны ў народнай арнаментыцы, які непараўнальна прасцейшы і лягчэйшы для нанясення. Але з тысячагоддзя ў

тысячагоддзе розныя народы ў розных частках Старога Свету з няўхільнай зацятасцю адлюстроўвалі менавіта ромбы, стваралі суцэльны дывановы ўзор з ромбаў або малявалі знакі ўрадлівасці, у аснове якіх вельмі часта быў ромб... знайсці яго разгадку ў арнаментыцы земляробчых плямён здавалася немагчыма.

Разгадкай нечакана аказалася назіранне над структурай дэнціну [костнай тканкі] мамантавых біўняў. Палеантолаг В. І. Бібікава ў 1965 г. устанавіла, што папярочны, або касы, зрэз мамантавай косткі ўтварае на паверхні любога вырабу як бы дывановы ўзор, складзены з ромбаў натуральнага паходжання, якія насоўваюцца адзін на аднаго. Асноўныя, першасныя ромбікі дэнціну невялікія — 0,5—0,8 мм па вялікай дыяганалі, але ўсё ж добра бачныя няўзброеным вокам. Ромбікі групуюцца ў буйныя, таксама рамбічныя, або зігзагападобныя, сістэмы, якія дасягаюць 10 мм...

...Даследчыца пераканаўча даказала, што ромбы... і серыі паралельных зігзагавых ліній з'яўляюцца свядомым адлюстраваннем першабытным мастаком натуральнага аблічча мамантавай косткі, яе прыроднага «дыывановага ўзору»... Мастак надаў выразнасць і строгую геаметрычнасць зыходным натуральным формам, але яго імкненне пакрыць свае вырабы ўсімі відамі натуральнага «малюнка» дэнціну, павялічыць яго і падкрэсліць глыбокімі разорамі гравіроўкі не падлягае сумненню.

В. І. Бібікава правільна асэнсавала штучны рамбічны арнамент як выражэнне «ўяўленняў аб моцы, сіле, дабрабыце», звязаных з мамантам як галоўнай крыніцай ежы, а значыць, і дастатку.

*Рыбаков, Б. А. Язычество древних славян / Б. А. Рыбаков. — М.: Наука, 1994. — С. 86—88.*

1. З якога часу вядомы рамбічны арнамент?
2. Чым быў для першабытнага чалавека мамант?
3. Ці можна лічыць рамбічныя знакі сімваламі урадлівасці?
4. Чаму першабытныя мастакі наносілі на вырабы, якімі карысталіся, арнамент, падобны на ўзор на костцы маманта?

## Звесткі аб першабытным мінулым Беларусі ў фальклоры

Здаецца, што ўжо немагчыма даведацца аб тым, як уяўлялі навакольны свет нашы продкі, як тлумачылі з'явы прыроды, паходжанне ўсяго існага на Зямлі, калі не існавала навуковых ведаў, а тым больш — пісьменнасці. Аднак тут нам на дапамогу прыходзяць фалькларысты — збіральнікі фальклору (ад англ. folklore — «веды народа»). **Фальклор** — гэта мастацкая калектыўная творчасць народа, якая адлюстроўвае яго жыццё, погляды, ідэалы. Спецыялісты падзяляюць яго на абрадавы (калядкі, масленічныя песні, калыханкі, вясельныя песні) і неабрадавы (быліны, гістарычныя песні, казкі, паданні, легенды, міфалагічныя расказы). Да фальклору адносяцца і анекдоты. Доўгі час фальклорныя творы, створаныя ў вельмі далёкія часы, з пакалення ў пакаленне, ад бацькоў дзецям перадаваліся ў вуснай форме. Іх запіс пачаў актыўна ажыццяўляцца толькі з XIX ст. Да ліку вядомых збіральнікаў беларускага фальклору належалі: Я. Баршчэўскі, П. Шпілеўскі, К. Тышкевіч, Ю. Крачкоўскі, С. Максімаў, Е. Раманаў, П. Шэйн, М. Федароўскі, М. Нікіфароўскі, А. Багдановіч, А. Сержпутоўскі і інш. **Павел Васільевіч Шэйн** у 1867 г. выдаў адну з першых у Расійскай імперыі фальклорную праграму («Программа для собирания памятников народного творчества»).

### Адкуль свет пайшоў

Як Бог стварыў свет, то вялеў сонейку свяціць на добрых і на ліхіх. Сонейка не хацела свяціць на ліхіх і пачало жаліцца Богу, што яму цяжка заўжды свяціць. Тады Бог пакараў сонейка й вялеў яму свяціць толькі ўдзень, а ўночы, калі гуляюць ліхія, не свяціць, а аддыхаць.

### Адкуль горы ды балоты

Рабіў Бог зямлю. Выгладзіў, выдзелаў — люба паглядзець. Гладзенькая, кругленькая, як шпакова яйка. Адляцеў троху воддаль дый дзівіцца са сваёй працы, што добра ўдалося.

Тым часам чорт ужо быў, сядзеў ён за кустом і ад злосці аж тросся. Зайздрасць яго брала, што Бог гэтак добра зрабіў. Як толькі Бог схаваўся за нябеснымі брамамі, а іх цэлых сем, чорт давай са злосці кіпцямі зямлю дзерці ды кідаць. Куды кіне — гара, куды са злосці плюне — балота. Зрабіў зямлю такой, як мы зараз бачым. Сам зарыўся глыбока ў зямлю і зрабіў пад зямлёй сваё княства.

Зямлю Бог перарабляць не захацеў, бо былі ўжо людзі, іх не было куды выганяць падчас рамонту. Так і засталося да нашых часоў.

### Агонь

Як Бог выгнаў першага чалавека з раю, то чалавек пачаў дрыжэць ад холаду. Бог загадаў узяць два кавалкі моцнага дрэва і церці іх. Як чалавек паслухаў Бога й тое зрабіў, то дрэва загарэлася й сагрэла чалавека.

*Чарняўскі, М. М. Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: Першабытны перыяд / М. М. Чарняўскі. — Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2003. — С. 138—139.*

?

**1.** Як тлумачылі людзі ў старажытнасці існаванне дня і ночы?

**2.** Каму прыпісваў чалавек з’яўленне ўсяго існага на Зямлі?

**3.** Чаму старажытныя людзі лічылі, што балоты зрабіў чорт?

✧ **4.** Як у старажытных міфах знаходзіў адлюстраванне паўсядзённы вопыт чалавека?

**5.** Як вы думаеце, у якія часы сфарміраваліся гэтыя міфы?

# Раздзел II
# ЖЫЦЦЁ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У РАННІМ СЯРЭДНЕВЯКОЎІ (V—IX стст.)

## § 8. Балты на тэрыторыі Беларусі

### Рымскі гісторык Тацыт аб балтах

У пачатку нашай эры плямёны балтаў займалі велізарную тэрыторыю: ад узбярэжжа Балтыйскага мора да вярхоўяў Акі. Балты ўжо прайшлі доўгі шлях у сваім развіцці, высокага ўзроўню дасягнула іх гаспадарка. Дзякуючы развіццю абмену з суседзямі і, галоўнае, гандлю па бурштынавым шляху, аб балтах стала вядома і ў цэнтры тагачаснага цывілізаванага свету — Рыме. Рымскі гісторык **Публій Карнелій Тацыт** (каля 56 — каля 117 г. н. э.), які займаў важныя пасады ў дзяржаўным апараце Рымскай імперыі, да 98 г. скончыў сваю першую буйную гістарычную працу «Аб паходжанні германцаў і месцазнаходжанні Германіі» (De origine, moribus ac situ Germanorum) (скарочана: «Германія»). Асноўная ўвага ў працы Тацыта нададзена апісанню гаспадаркі, побыту, нораваў суседніх з Рымскай імперыяй варвараў — германцаў. Трапілі ў поле зроку Тацыта і больш аддаленыя народы, у прыватнасці балты, якія гісторык называе эсціямі.

За свіёнамі яшчэ адно мора — спакойнае і амаль нерухомае, якім, як лічаць, апаясваецца і замыкаецца зямны круг... Што датычыцца правага ўзбярэжжа Свебскага мора, то тут ім абмываюцца землі, на якіх жывуць плямёны эсціяў, звычаі і аблічча якіх такія ж, як у свебаў, а мова — блізкая да брытанскай. Эсціі ўшаноўваюць прамаці багоў і як адметны знак свайго культу носяць на сабе малюнкі вепрукоў; яны ім замяняюць зброю і засцерагаюць тых, хто ўшаноўвае багіню, нават у гушчы ворагаў. Меч у іх — рэдкасць; ужываюць яны часцей за ўсё завостраныя палкі. Хлеб і іншыя плады зямныя вырошчваюць яны больш старанна, чым германцы з

уласцівай ім нядбайнасцю. Больш таго, яны абшукваюць мора і на беразе, і на водмелях, адзіныя з усіх збіраюць бурштын, які самі яны называюць глёзам. Але пытаннем аб прыродзе яго і як ён узнікае, яны, з'яўляючыся варварамі, не задаваліся і нічога аб гэтым не ведаюць, бо ён доўгі час ляжаў разам з усім, што выкідвае мора, пакуль яму не дала імя прага да раскошы. У іх саміх ён ніяк не выкарыстоўваецца; збіраюць яны яго ў натуральным выглядзе, дастаўляюць нашым купцам такім жа неапрацаваным і, на сваё здзіўленне, атрымліваюць за яго цану. Аднак няцяжка зразумець, што гэта — сок дрэў, таму што ў бурштыне вельмі часта прасвечваюцца некаторыя поўзаючыя па зямлі або крылатыя істоты; загразшы ў вадкасці, яны пасля апынуліся зняволенымі ў ёй, пераўтворанай у цвёрдае рэчыва...

*Тацит Корнелий. Соч.: В 2 т. / Отв. ред. С. Л. Утченко. — Л.: Наука, Ленингр. отд-ние, 1969. — Т. 1. — С. 250.*

?

**1.** Якое мора называецца ў працы Тацыта Свебскім?

**2.** Кім былі эсціі-балты па веравызнанню? Знайдзіце пацверджанне ў тэксце.

**3.** Чаму Тацыт лічыць, што мова эсціяў падобна на брытанскую (кельцкую)?

✧ **4.** Ці мае рацыю Тацыт, калі піша, што эсціі-балты зусім не апрацоўвалі бурштын?

## Адам Брэменскі (XI ст.) аб балтах

У Раннім сярэдневякоўі на землі язычнікаў-балтаў звярнулі ўвагу еўрапейскія хрысціянскія місіянеры. Але спробы мірнага распаўсюджання хрысціянства сярод балтаў не давалі вынікаў: тыя ўпарта працягвалі маліцца сваім багам і не жадалі падпарадкоўвацца еўрапейскім феадалам. Між тым місіянеры, якія пабывалі ў паўночных народаў, данеслі да каталіцкай Еўропы звесткі аб іх. Некаторыя з місіянераў пакінулі свае творы. Да іх ліку належаў

і **Адам Брэменскі** (аб яго жыцці вядома няшмат, магчыма, ён паходзіў з Саксоніі, а ў 1067 г. быў запрошаны ў Брэмен). Каля 1075 г. ён напісаў сваю працу аб гісторыі Гамбургскага архібіскупства, у якой падрабязна і дакладна расказаў пра народы Паўночнай Еўропы. Гэтая інфармацыя мела важнае значэнне для дзейнасці будучых місіянераў. Паказальна, што ў гэтай і іншых крыніцах адзначаецца незалежны характар балтаў.

Недалёка ад вобласці склаваў [паморскіх славян] знаходзяцца, наколькі нам вядома, тры прыметныя астравы... Трэці востраў называюць Семландам, ён суседнічае з абласцямі русаў і палянаў [маюцца на ўвазе палякі], а засяляюць яго сембы, або прусы, — людзі вельмі добразычлівыя. Яны, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, працягваюць руку дапамогі тым, хто падвергнуўся небяспецы на моры або зведаў напад піратаў. Мясцовыя жыхары вельмі нізка цэняць золата і срэбра, а чужынскіх шкурак... у іх з лішкам... І вось: за ваўнянае адзенне, якое мы завём фальдонамі, мясцовыя жыхары даюць гэтак жа каштоўныя [для нас] куніцы.

Можна было б шмат чаго расказаць пра норавы гэтых людзей, якія годныя хвалы, калі б толькі яны паверылі ў Хрыста, прапаведнікаў якога яны цяпер жорстка праследуюць. У гэтых землях прыняў вянок пакутніцтва светлы біскуп багемаў [чэхаў] Адальберт. Яны да сённяшняга дня — пры тым, што ўсё астатняе ў іх гэтак жа, як і ў нас, — забараняюць падыходзіць да свяшчэнных гаёў і крыніц, асцерагаючыся, што гэтыя месцы будуць апаганены самой прысутнасцю хрысціян. Мясцовыя жыхары ўжываюць у ежу мяса коней, выкарыстоўваючы ў якасці пітва іх малако і кроў, што, кажуць, даводзіць гэтых людзей да ап'янення. Насельнікі тых месцаў блакітнавокія, чырванатварыя і доўгавалосыя. Знаходзячыся ў непраходнай

багне, яны не жадаюць цярпець над сабой ніякага спадара.

*Адам Бременский. Деяния архиепископов Гамбургской церкви // Латиноязычные источники по истории Древней Руси. Германия IX — первая половина XII в. / Составление, перевод, комментарий М. Б. Свердлова. — Т. I. — М.; Л.: Наука, 1989. — с. 90—91.*

?

**1.** Дзе, згодна з данымі Адама Брэменскага, размяшчаліся балты?

**2.** Чаму балты цанілі ваўнянае адзенне вышэй за футра?

**3.** Як вы думаеце, з якой мэтай накіраваўся да балтаў біскуп Адальберт?

**4.** Што ў тэксце сведчыць аб тым, што балты былі язычнікамі?

✧ **5.** Што ў спосабе жыцця балтаў здзіўляе Адама Брэменскага?

## Беларускі пісьменнік Мікола Ермаловіч аб балцкіх плямёнах на тэрыторыі Беларусі

Доўгі час балты засялялі ўсю тэрыторыю Беларусі. Аднак у крыніцах амаль не захавалася даных аб гісторыі тагачасных балтаў. Таму сучасным даследчыкам даводзіцца прыцягваць усе наяўныя звесткі пра балтаў, у тым ліку археалагічныя матэрыялы, а таксама даныя **тапанімікі** (дысцыпліна, якая вывучае геаграфічныя назвы) і **гідранімікі** (дысцыпліна, якая вывучае назвы водных аб'ектаў). У сваіх працах вядомы беларускі пісьменнік, журналіст, гісторык-самавучка **Мікалай Іванавіч Ермаловіч** (1921—2000) надаваў вялікую ўвагу гісторыі балтаў на беларускіх землях. Ідэі, высунутыя даследчыкам у працах «Па слядах аднаго міфа» (1989), «Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды» (1990), аказалі істотны ўплыў на развіццё беларускай гістарычнай навукі. Так, Мікола Ермаловіч лічыў, што старажытная (летапісная) Літва размяшчалася большай часткай на сучаснай тэрыторыі Беларусі, што цалкам неабгрунтаваны пункт гледжання аб завяванні балтамі-літоўцамі ўсходнеславянскіх зямель.

На жаль, не ўсе балцкія плямёны, што жылі на Беларусі, упомнены пісьмовымі дакументамі, а час-

тка тых, што былі зафіксаваны (літва, земігола, латыгола, яцвягі), засталіся без абазначэння іх месцапражывання. А між тым этнічныя і геаграфічныя назвы вельмі няўстойлівыя, яны могуць змяняцца, пераходзіць з аднаго месца ў другое. Менавіта так і адбылося з назвамі «латыгола» і «літва».

Яшчэ рускі гісторык Барсаў лічыў, што летапісная латыгола («лотьгола») у старажытныя часы жыла намнога далей ад сучаснай Латвіі, уверх па Дзвіне і яе прытоках, г. зн. на поўначы сучаснай Беларусі. Пацверджаннем гэтаму можа быць тое, што на тэрыторыі Бешанковіцкага, Верхнядзвінскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Сенненскага, Талачынскага, Чашніцкага, Глыбоцкага раёнаў сустракаюцца такія назвы, як Латыгаль, Латыгава і ім падобныя... Як і ўсе балцкія назвы, назва «латыгола» з цягам часу прасунулася на захад і замацавалася за ўсходняй часткай Латвіі — Латгаліяй.

Мы ўжо ў свой час паказалі, што трэба адрозніваць старажытную (летапісную) Літву ад сучаснай і на падставе летапісных, тапанімічных і іншых матэрыялаў паказалі яе месцазнаходжанне ў Верхнім Панямонні, у прасторы паміж Менскам і Наваградкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Слонімам з поўначы на поўдзень...

У суседстве з Літвой, а то і ўперамежку з ёй, жыло племя яцвягаў. Паколькі на гэтай тэрыторыі ёсць яцвяжскія гідронімы, а літоўскіх няма, то можна вывесці меркаванне, што яцвягі пасяліліся тут раней, а літва прыйшла сюды пазней і, заняўшы частку іхняй тэрыторыі, увесь час адціскала іх на захад. Як пераканаўча паказаў В. Сядоў, паселішчы яцвягаў былі паміж Нёманам і Вяллёй па рэках Дзітве, Жыжме, Мерачанцы (гэта вобласць называла-

ся Дайновай), а таксама па Свіслачы, Росі, Зэльве, Заходнім Бугу, Нарве, Ясельдзе (уласна Яцвязь). У гэтых месцах і засталіся археалагічныя помнікі яцвягаў — каменныя магілы.

*Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полац. і новагарод. перыяды / М. Ермаловіч. — 2-е выд. — Мінск: Маст. літ., 2001. — С. 17.*

! **Гідронімы —** назвы вадаёмаў: рэк, азёр.

? **1.** Аб якіх балцкіх плямёнах вы даведаліся з тэксту?
**2.** Знайдзіце на карце магчымае першапачатковае размяшчэнне латгалаў, літвы і яцвягаў.
**3.** Дзе, на думку М. І. Ермаловіча, знаходзілася старажытная (летапісная) Літва?
**4.** На падставе чаго М. І. Ермаловічам робіцца вывад аб месцазнаходжанні таго альбо іншага племені на пэўнай тэрыторыі?
✧ **5.** Па якіх прычынах адбываліся перасяленні балцкіх плямён?

## Так выглядалі балты IV—V стст.

Сучасная навука здольна аднавіць знешняе аблічча нашых далёкіх продкаў па шкілетных астанках. Так, твар чалавека аднаўляецца па чэрапе. Гэтая навуковая методыка атрымала назву «метад Герасімава» — па імені вядомага савецкага антраполага, археолага і скульптара **Міхаіла Міхайлавіча Герасімава** (1907—1970). У аснове гэтага метаду ляжыць уяўленне аб існаванні заканамерных сувязей паміж будовай чэрапа і шкілета і пакрываючых іх мяккіх тканках. М. М. Герасімава празвалі «чалавекам, які ўзнавіў мінулае». З дапамогай свайго метаду навуковец стварыў звыш 200 скульптурных партрэтаў-рэканструкцый гістарычных асоб (сярод іх: Тамерлана, Івана IV Грознага, Яраслава Мудрага, Андрэя Багалюбскага), а таксама аднавіў аблічча неандэртальцаў і краманьёнцаў. «Метадам Герасімава» зараз карыстаюцца навукоўцы ва ўсім свеце, у тым ліку даследчыкі мінулага ў нашай краіне (у экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь можна ўбачыць выявы ўсходніх славян IX—XII стст.). На жаль, з-за пануючага абраду крэмацыі па-

мерлых на працягу доўгага часу немагчыма прасачыць змену аблічча людзей на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Ніжэй прадстаўлены рэканструкцыі твараў прадстаўнікоў балцкіх плямён па чэрапах, знойдзеных літоўскімі даследчыкамі.






*Зинкявичюс, З. Откуда родом литовцы / Зигмас Зинкявичюс, Алексеюс Лухтанас, Гинтаутас Чеснис. — Вильнюс, 2006. — С. 83.*

? **1.** Якія можна адзначыць асаблівасці рыс твараў старажытных балтаў?

**2.** Ці падобны паказаныя на малюнках людзі на нашых сучаснікаў?

✧ **3.** Як вы думаеце, наколькі дакладна з дапамогай «метаду Герасімава» можна ўзнавіць аблічча чалавека па чэрапе?

# § 9. Паходжанне і рассяленне славян

## Пракопій Кесарыйскі (VI ст.) пра славян

У VI ст. славяне пачалі шырокае рассяленне з тэрыторыі сваёй прарадзімы. Што было прычынай альбо прычынамі гэтага? Пісьмовыя крыніцы тых часоў не даюць адказу. Сучасныя ж даследчыкі зважаюць на тое, што з-за пагаршэння надвор'я сталі непрыдатнымі для вядзення звыклай гаспадаркі ранейшыя месцы пасялення славян. Таксама аказвалі ціск на славян суседзі. Сваю ролю адыграла і нашэсце гунаў, якія спустошылі велізарныя тэрыторыі на ўсходзе і ў цэнтры Еўропы. Старажытныя візантыйскія аўтары звярнулі ўвагу на славян менавіта ў сувязі з тым, што тыя пачалі напады на тэрыторыю імперыі. Больш таго, з VI ст. славяне пачалі не проста рабаваць багатых суседзяў, але і захопліваць землі, каб пасяліцца на іх. Так, на працягу VI—VII стст. славяне засялілі Сярэдняе Падунаўе, верхняе і сярэдняе цячэнні Эльбы і Одэра, правабярэжную частку Сярэдняга Падняпроўя (гл. карту вучэбнага дапаможніка на с. 44). Тады ж славянскія перасяленцы пранікլі і на тэрыторыю Беларусі. Адным з першых зафіксаваў з'яўленне славян на еўрапейскай арэне візантыйскі гісторык **Пракопій Кесарыйскі** (ці быў ён грэкам, невядома; нарадзіўся на мяжы V і VI стст., памёр пасля 562 г.). Яго гістарычныя працы, перш за ўсё «Гісторыя войнаў» у 8 кнігах, ацэньваюцца вельмі высока з-за іх літаратурных вартасцей і дакладнасці апісаных падзей. У адной з кніг «Гісторыі войнаў» — «Вайне з готамі» — Пракопій Кесарыйскі прыводзіць каштоўныя звесткі аб славянах, якіх падзяляе на склавінаў і антаў.

Бо плямёны гэтыя, склавіны і анты, не кіруюцца адным чалавекам, але спрадвеку жывуць у народаўладдзі, і таму ў іх выгодныя і невыгодныя справы заўсёды вядуцца разам. А таксама аднолькава і астатняе, можна сказаць, усё ў тых і ў другіх, і ўсталявана здаўна ў гэтых варвараў... А жывуць яны

ва ўбогіх хацінах, размяшчаючыся далёка адзін ад аднаго і кожны змяняючы, наколькі можна, часта месца пасялення. Уступаючы ў бітву, большасць з іх ідзе на ворагаў пешымі, маючы невялікія шчыты і дзіды ў руках, панцыра ж ніколі на сябе не надзяваюць; а некаторыя не маюць на сабе ні хітона, ні грубага плашча... Ёсць у тых і другіх і адзіная мова, цалкам варварская. Ды і знешнасцю яны адзін ад аднаго нічым не адрозніваюцца, бо ўсе яны і высокія, і вельмі моцныя, целам жа і валасамі не надта светлыя і не рудыя, зусім не схіляюцца і да чарнаты, але ўсе яны крыху чырванаватыя. Спосаб жыцця іх грубы і непатрабавальны... Ды і імя здаўна ў склавінаў і антаў было адно. Бо і тых і другіх спрадвеку называлі «спорамі», якраз з-за таго, думаю, што яны засяляюць краіну, раскідана размясціўшы сваё жыллё. Менавіта таму яны і займаюць неймаверна вялікую тэрыторыю: бо яны размяшчаюцца на большай частцы другога берага Істра [Дунаю].

*Прокопий Кесарийский. История войн // Свод древнейших письменных известий о славянах. Том I (I—VI вв.). — Изд. 2-е, испр. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1994. — С. 183, 185.*

?

**1.** Як называюцца славяне ў тэксце?

**2.** Ці склалася ў славян у VI ст. моцная цэнтральная ўлада альбо дзяржава?

**3.** Знайдзіце ў тэксце сведчанні таго, што склавіны і анты мелі агульнае паходжанне.

**4.** Якія ў тэксце маюцца сведчанні аб месцазнаходжанні прарадзімы славян?

✧ **5.** Як вы думаеце, чаму славяне часта змянялі месца свайго пасялення?

## «Аповесць мінулых гадоў» аб рассяленні славян

Найбольш важнай, шмат у чым унікальнай крыніцай па гісторыі ўсходніх славян з'яўляецца летапіс, які па першых яго словах названы **«Аповесцю мінулых гадоў»** («Повесть временных лет», больш дакладна па-беларуску «Аповесць датаваных гадоў»). Яна была створана каля 1113 г. у Кіеве манахам Кіева-Пячэрскага манастыра **Нестарам**. У першапачатковым выглядзе гэты твор не захаваўся. Ужо неўзабаве, у 1110-я гг., «Аповесць мінулых гадоў» падверглася рэдагаванню. Да нашага часу яна дайшла ў складзе летапісных зводаў XIV—XVI стст. (з іх найбольш каштоўныя: Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Радзівілаўскі летапісы). Нестар, несумненна, карыстаўся нейкімі больш раннімі крыніцамі, вуснымі паданнямі. Пад рукой у летапісца былі і візантыйскія хронікі. Нягледзячы на тое, што мінула ўжо даволі шмат часу, летапісец досыць дакладна апісвае месцы рассялення славян. Варта звярнуць увагу, што праблему паходжання народаў аўтар «Аповесці мінулых гадоў» цалкам заканамерна вырашае згодна з біблейскай традыцыяй.

Пасля разбурэння сталпа [Вавілонскага] і падзелу народаў узялі сыны Сіма ўсходнія краіны, а сыны Хама — паўднёвыя краіны. Яфетовы ж [сыны] ўзялі захад і паўночныя краіны. Ад іх жа 70 і 2 моў пайшлі і народ славянскі, ад племені Яфета — так званыя нарыкі, якія і ёсць славяне.

Праз шмат часу селі славяне па Дунаі, дзе зараз зямля Вугорская і Балгарская. Ад тых славян разышліся славяне па зямлі і празваліся імёнамі сваімі ад месцаў, на якіх селі. Так адны, прыйшоўшы, селі на рацэ імем Марава і празваліся марава, а другія назваліся чэхі. А вось яшчэ тыя ж славяне: белыя харваты, і сербы, і харутане. Калі валахі напалі на славян дунайскіх і пасяліліся сярод іх, і прыгняталі іх, то славяне гэтыя прыйшлі і селі на Вісле і празваліся ляхамі, а ад тых ляхаў пайшлі палякі, другія

ляхі — луцічы, другія — мазаўшане, другія — памаране.

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 144.*

? **1.** Ад каго, на думку летапісца Нестара, паходзяць славяне?

**2.** Як вы думаеце, чаму Нестар спачатку прыводзіць біблейскую версію паходжання народаў?

**3.** Дзе летапісец Нестар размяшчае прарадзіму славян? Як гэта спалучаецца з пунктам гледжання сучасных гісторыкаў?

**4.** Як Нестар тлумачыць паходжанне назваў славянскіх «плямён»?

✧ **5.** Знайдзіце ў тэксце «Аповесці» адну з прычын рассялення славян.

## Расійскі археолаг аб крыніцах антычных аўтараў пра славян

Першыя 500 гадоў нашай эры зусім не пакінулі пісьмовых сведчанняў аб гісторыі славян. Іх фарміраванне адбывалася па-за полем зроку антычных аўтараў. Чаму так адбылося? У гэты час рымляне актыўна дзейнічалі на Балканах, у Паўночным Прычарнамор'і (Скіфіі), у Заходняй і нават Паўночнай Еўропе (на Брытанскіх астравах). А вось Цэнтральная і Усходняя Еўропа ім была невядома. У гэтым прама прызнаваўся нават «бацька геаграфіі» Страбон (64/63 г. да н. э. — 23/24 г. н. э.). Першае згадванне аб славянах («склавінах») адносіцца толькі да VI ст. (Пракопій Кесарыйскі, Іардан). Рымскі гісторык гоцкага паходжання **Іардан**, які напісаў у сярэдзіне VI ст. сваю знакамітую працу «Аб паходжанні і дзеях гетаў», некалькі разоў зазначыў, што раней склавіны і анты зваліся адным імем — венеты (венеды). Народ з такой назвай быў вядомы антычным аўтарам I—II стст. Плінію Старэйшаму і Тацыту. Але ці славян яны надзялялі дадзенай назвай або германцаў (само гэтае імя кельцкага паходжання) — пытанне дыскусійнае. У палітычнай сітуацыі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў пачатку нашай эры шмат гадоў спрабаваў разабрацца вядомы расійскі археолаг **Марк Барысавіч Шчукін** (1937—2008). Нараўне з фундаментальнымі манаграфіямі «На мяжы эр» (1994), «Гоцкі

шлях» (2005), мноствам навуковых і папулярных артыкулаў (у тым ліку ў часопісе «Знания — сила») пецярбургскі навуковец напісаў і кнігу для школьнікаў «Машына часу і рыдлёўка» (1986).

Для старажытных географаў было вялікай праблемай звесці даныя аб Скіфіі, атрыманыя ў Паўночным Прычарнамор'і, з тымі звесткамі аб Германіі, Паўночным акіяне — Балтыйскім моры і аб тэрыторыі далей на ўсход, якія былі атрыманы падчас ваенных дзеянняў на Рэйне, Везеры і Эльбе і падчас плаванняў уздоўж берагоў Даніі. Яны разумелі, што гэтыя даныя дзесьці павінны з'яднацца, але ў іх распараджэнні не было дадатна ніякіх звестак аб прамежкавых землях. Страбон адкрыта прызнаваўся ў гэтым. Усёведны Пліній тут таксама блытаецца. Аб краінах на поўнач ад Скіфіі ён прыводзіць фантастычныя даныя эліністычных пісьменнікаў аб астравах Акіяна, населеных каняногімі, людзьмі з велізарнымі вушамі і г. д., якім сам не вельмі верыць. Д. А. Мачынскі [савецкі гісторык] думае, што і звесткі, якія непасрэдна ідуць у выкладзе Плінія за расказамі грэкаў, могуць узыходзіць да тых жа крыніц і да таго ж эліністычнага часу. Нам жа ўяўляецца больш верагодным тое, што крыніцай [пра славян] была сума разведвальных даных аб Балтыйскім моры, атрыманых рымлянамі падчас ваенных дзеянняў на ўсход ад Рэйна і на бурштынавым шляху.

*Щукин, М. Б. На рубеже эр: Опыт историко-археологической реконструкции политических событий III в. до н. э. — I в. н. э. в Восточной и Центральной Европе / М. Б. Щукин. — СПб: Фарн, 1994. — С. 239—240.*

? **1.** Знайдзіце на карце геаграфічныя аб'екты, якія ўзгадваюцца ў тэксце. (Карта вучэбнага дапаможніка на с. 44.)

2. Адкуль антычныя гісторыкі чэрпалі інфармацыю аб суседніх з Рымскай імперыяй народах?
3. Што вы ведаеце аб бурштынавым шляху?
✧ 4. Чаму рымскія аўтары так дрэнна ведалі Цэнтральную і Усходнюю Еўропу?

# § 10. Усходнеславянскія плямёны на тэрыторыі Беларусі

## «Аповесць мінулых гадоў» аб славянскіх саюзах плямён ва Усходняй Еўропе

Паводле «Аповесці мінулых гадоў» на тэрыторыі Усходняй Еўропы размясцілася 12 «плямён»: паляне, драўляне, дрыгавічы, валыняне (бужане), севяране, радзімічы, вяцічы, крывічы (іх частка — палачане), славене, улічы, ціверцы, белыя харваты. На сучаснай тэрыторыі Беларусі жылі крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы, а таксама валыняне (на паўднёвым захадзе). «Плямёнамі» іх называе летапісец, на самай жа справе гэта былі складаныя ўтварэнні, у якія ўваходзілі больш дробныя плямёны. Таму гісторыкі называюць іх **саюзамі плямён** або племяннымі саюзамі. Існуе таксама тэрмін «Славініі» (паколькі так славянскія «плямёны» называюць візантыйскія аўтары). Хаця ўсходнеславянскія саюзы плямён адрозніваліся некаторымі элементамі матэрыяльнай культуры (гэта адзначаюць археолагі), усё ж у іх было шмат агульнага, на што ўказваецца і ў летапісе. У той жа час у складзе Старажытнарускай дзяржавы (Кіеўскай Русі) апынуліся і неславянскія — балцкія і фіна-ўгорскія — народы. Не ўсе яны зліліся са славянамі (былі асіміляваны), некаторыя толькі плацілі даніну, захоўваючы поўную самастойнасць.

...славяне прыйшлі і селі па Дняпры і назваліся палянамі, а другія — драўлянамі, таму што селі ў лясах, а другія селі паміж Прыпяццю і Дзвіною і назваліся дрыгавічамі, другія селі па Дзвіне і назваліся палачанамі, ад рэчкі, якая ўпадае ў Дзвіну, па імені Палата — ад яе і зваліся палачане. Тыя ж славяне, якія селі каля возера Ільменя, зваліся сваім імем — славенамі, і пабудавалі горад, і назвалі яго

Ноўгарад. А другія селі па Дзясне, і па Сейму, і па Суле, і назваліся севяранамі. І так разышоўся славянскі народ, а ад яго імя і мова назвалася славянскай...

...а ў драўлян было сваё княжанне, а ў дрыгавічоў сваё, а ў славен у Ноўгарадзе сваё, а другое на рацэ Палаце, дзе палачане. Ад гэтых апошніх паходзілі крывічы, якія сядзяць у вярхоўях Волгі, і ў вярхоўях Дзвіны, і ў вярхоўях Дняпра, дзе стаіць іх горад Смаленск; менавіта там сядзяць крывічы. Ад іх жа паходзяць і севяране. А на Белавозеры сядзіць весь, а на Растоўскім возеры мера, на Клешчыне возеры таксама мера. А па рацэ Ацэ — там, дзе яна ўпадае ў Волгу, — мурама, якая размаўляе на сваёй мове, і чарамісы, якія размаўляюць на сваёй мове, і мардва, якая размаўляе на сваёй мове. Вось толькі хто гаворыць па-славянску на Русі: паляне, драўляне, наўгародцы, палачане, дрыгавічы, севяране, бужане, празваныя так таму, што сядзелі па Бузе, а затым сталі звацца валынянамі. А вось іншыя народы, якія даюць даніну Русі: чудзь, мера, весь, мурама, чарамісы, мардва, пермь, пячора, ямь, літва, зімігола, корсь, нарова, лівы, — гэтыя размаўляюць на сваіх мовах, яны — ад калена Яфета і жывуць у паўночных краінах...

Паляне, якія жылі самі па сабе... былі са славянскага роду і толькі пасля назваліся палянамі, і драўляне паходзілі ад тых жа славян і таксама не адразу назваліся драўлянамі; радзімічы і вяцічы — ад роду ляхаў. Бо былі два браты ў ляхаў — Радзім, а другі — Вятка; і прыйшлі і селі: Радзім на Сажы, і ад яго празваліся радзімічы, а Вятка сеў з родам сваім па Ацэ, ад яго атрымалі сваю назву вяцічы. І жылі паміж сабою ў міры па-

ляне, драўляне, севяране, радзімічы, вяцічы і харваты...

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 144, 146.*

? **1.** Знайдзіце размяшчэнне ўзгаданых усходнеславянскіх саюзаў плямён на карце (с. 50 вучэбнага дапаможніка).

**2.** Якія ўсходнеславянскія «плямёны» суседнічалі з тэрыторыяй Беларусі?

**3.** Як летапісец тлумачыць паходжанне назвы палачан?

**4.** Што, адпаведна летапісу, адзінае ва ўсіх усходнеславянскіх «плямён»?

**5.** Адкуль, згодна з летапісам, паходзяць радзімічы і вяцічы? Ці адпавядае гэта рэчаіснасці?

✧ **6.** Як складваліся адносіны славян з іншымі народамі Усходняй Еўропы?

## Летапіс аб падпарадкаванні кіеўскім князем радзімічаў

Пасля ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы (канец IX ст.) пад уладай кіеўскага князя апынуліся ўсе ўсходнеславянскія саюзы плямён. Аднак доўгі час яны захоўвалі адносную самастойнасць. У шэрагу з іх нават заставаліся свае правіцелі. У дагаворы Русі з Візантыяй 911 г. яны завуцца «светлымі і вялікімі князямі». А вось у руска-візантыйскім дагаворы 944 г. згадваюцца ўжо толькі баяры кіеўскага князя Ігара (тэксты дагавораў захаваліся ў складзе «Аповесці мінулых гадоў»). Такім чынам, мясцовыя князі пазбавіліся права выступаць на міжнароднай арэне. Але ўнутры дзяржавы яны былі яшчэ досыць моцныя, пра што сведчыць забойства князя Ігара драўлянамі ў 945 г. У летапісе згадваецца драўлянскі князь Мал. Пазней свае правіцелі, якія не падпарадкоўваліся Кіеву, з'явіліся ў Полацку і Тураве. Толькі кіеўскаму князю Уладзіміру Святаславічу (980—1015) удалося канчаткова ліквідаваць самастойнасць асобных «плямён». Летапіс данёс да нас не так шмат падзей тых часоў. Адна з іх — расказ аб падпарадкаванні кіеўскім князем радзімічаў.

У год 6492 [984]. Пайшоў Уладзімір на радзімічаў. Быў у яго ваявода Воўчы Хвост; і паслаў Ула-

дзімір Воўчага Хваста наперад сябе, і сустрэў той радзімічаў на рацэ Пішчане, і перамог радзімічаў Воўчы Хвост. Таму і дражняць рускія радзімічаў, кажучы: «Пішчанцы ад воўчага хваста бегаюць». Былі ж радзімічы ад роду ляхаў, прыйшлі і пасяліліся тут і плацяць даніну Русі, павоз вязуць і дагэтуль.

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 176.*

? **1.** Як вы думаеце, ці маглі радзімічы захаваць самастойнасць?

**2.** Ці на самай справе радзімічы былі «ад роду ляхаў»?

**3.** У чым выяўлялася падпарадкаванасць радзімічаў Кіеву?

✧ **4.** Як вы думаеце, ці быў у радзімічаў свой правіцель-князь?

## Меркаванне расійскага гісторыка Валянціна Сядова аб засяленні цэнтральнай часткі тэрыторыі Беларусі

Усходнеславянскія «плямёны» не заставаліся доўга на адной тэрыторыі. І пасля ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы працягваюцца перасяленні славян (міграцыі). Аб іх мы практычна нічога не можам даведацца з пісьмовых крыніц. Вось тут і аказваюцца незаменнымі даныя археалагічных даследаванняў. Археолагі выяўляюць шэраг прыкмет, якія характэрны толькі для пэўнай супольнасці людзей (у нашым выпадку — саюзу плямён). Што гэта за прыкметы? Іх даволі шмат: тып жылля і паселішчаў, тып гліннага посуду, жаночыя ўпрыгажэнні і аксесуары для адзення, абрад пахавання памерлых, найбольш характэрныя прылады працы або зброя і інш. Усю гэтую сукупнасць прыкмет аднаго часу, на адной тэрыторыі, прыналежную адной супольнасці (дадзены тэзіс не заўсёды можа быць справядлівым: суседнія народы могуць запазычаць адзін у аднаго спосаб жыцця, прылады працы і г. д., але захоўваць сваю мову, свой светапогляд, што па археалагічных даных не прасачыць), прынята аб'ядноўваць паняццем **археалагічная культура**. Гэтае паняцце прапанаваў у канцы 1920-х гг. вядомы

аўстралійскі археолаг Вір Гордан Чайлд (Чайльд). Найбуйнейшым спецыялістам-археолагам па праблеме паходжання і рассялення славян з’яўляўся **Валянцін Васільевіч Сядоў** (1924—2004). Менавіта гэтаму расійскаму навукоўцу, члену-карэспандэнту Расійскай акадэміі навук належыць найбольш аўтарытэтнае меркаванне аб месцазнаходжанні прарадзімы славян, акалічнасцях і часе фарміравання славян як самастойнага этнасу (народа), іх наступнага падзелу на тры вялікія групы і асобныя народы.

Меркаванне, якое існуе ў гістарычных працах аб Мінскай воласці як дрыгавіцкай вобласці Полацкай зямлі, не зусім справядліва. Даследчыкамі выказана здагадка, што дрыгавіцкая акруга Мінска і Заслаўя была ўцягнута ў сферу ўлады крывіцкага Полацка толькі таму, што апошняму ўдалося апярэдзіць кіеўскага стаўленіка з Турава. У сапраўднасці басейны Свіслачы і сярэдняга цячэння Бярэзіны, як паказваюць археалагічныя матэрыялы, першапачаткова былі чыста крывіцкай тэрыторыяй. І гістарычныя даныя ніколькі не супярэчаць гэтаму — акруга Ізяслаўя, заснаванне якой звязана з дзейнасцю Ізяслава Полацкага, які памёр у 1001 г., не пазней пачатку XI ст. была ўжо пэўна полацкай тэрыторыяй. Прыкметнае пранікненне дрыгавіцкага насельніцтва на тэрыторыю Мінскай, Свіслацкай і Барысаўскай валасцей Полацкай зямлі пачалося ўжо тады, калі гэтыя вобласці былі асвоены крывічамі. Гэта адносіцца ў асноўным да XI—XII стст. У выніку насельніцтва Мінскага княства аказалася змяшаным — крывіцка-дрыгавіцкім. Гэтая асаблівасць адрознівае рэгіён Мінскага княства ад астатняй, уласна крывіцкай, тэрыторыі Полацкай зямлі.

*Седов, В. В. Древнерусская народность: Историко-археологическое исследование / В. В. Седов. — М.: Языки русской культуры, 1999. — С. 243.*

?

**1.** Знайдзіце на карце рэкі і гарады, якія ўзгадваюцца ў тэксце.

**2.** Які славянскі саюз плямён першым засяліў цэнтральную частку сучаснай Беларусі?

**3.** У чым жа заключалася адрозненне Мінскай воласці ад астатняй тэрыторыі Полацкай зямлі?

✧ **4.** Як вы думаеце, на падставе чаго В. В. Сядоў прыйшоў да вышэйузгаданых вывадаў?

# § 11. На шляху да дзяржавы

## Візантыйскі аўтар Маўрыкій аб славянах канца VI ст.

У пачатку Ранняга сярэдневякоўя славяне яшчэ не прыйшлі да афармлення ўласнай дзяржаўнасці. Для гэтага перыяду характэрна надзвычайнае павышэнне ваеннай актыўнасці славян: іх набегі на суседзяў становяцца больш частымі і масіраванымі. Падобная з’ява назіралася і ў гісторыі іншых еўрапейскіх народаў (напрыклад, германцаў) у перыяд, які папярэднічаў стварэнню імі дзяржаўнасці. У славян у вызначаны час адсутнічала трывалая цэнтральная ўлада, значная роля належала агульнаплемянным сходам, у якіх маглі ўдзельнічаць усе свабодныя мужчыны. Усё гэта дазволіла гісторыкам (услед за Л. Г. Морганам і Ф. Энгельсам) назваць перaддзяржаўны перыяд у гісторыі еўрапейскіх народаў **ваеннай дэмакратыяй**. Аднак у сучаснай гістарычнай навуцы ад гэтага паняцця адмовіліся. Справядліва адзначаецца, што найбольш важнай рысай развіцця тагачасных грамадстваў было менавіта ўмацаванне княжацкай (а значыць, манархічнай) улады. Яркую карціну грамадскага ладу, у якім адсутнічае трывалая адзіная ўлада, малюе ў сваім творы візантыйскі палкаводзец, імператар **Маўрыкій** (забіты ў 602 г.). «Стратэгікон» Маўрыкія (ёсць меркаванне, што аўтарства належыць не яму, таму ў літаратуры сустракаецца пазначэнне «Псеўда-Маўрыкій») з’яўляўся своеасаблівай энцыклапедыяй тагачаснай ваенна-навуковай думкі, практычным дапаможнікам па вядзенні ваенных дзеянняў. Маўрыкій у сваім творы прыводзіць звесткі толькі аб тых народах, якія ўяўлялі ў той час найбольшую небяспеку для Візантыйскай імперыі. Сярод іх называюцца склавіны і анты.

Плямёны склавінаў і антаў аднолькавыя і па спосабу жыцця, і па норавах; свабодныя, яны ніякім чы-

нам не схільны ні стаць рабамі, ні падпарадкоўвацца, асабліва на ўласнай зямлі. Яны шматлікія і вынослівыя, лёгка пераносяць і спякоту, і сцюжу, і дождж, і галізну цела, і недахоп ежы... Тых, хто знаходзіцца ў іх у палоне, яны не трымаюць у рабстве нявызначаны час, як астатнія плямёны, але, вызначыўшы для іх дакладны тэрмін, даюць ім права выбару: альбо яны пажадаюць вярнуцца дадому за нейкі выкуп, альбо застануцца там як вольныя людзі і сябры... Жывуць яны сярод лясоў, рэк, балот і цяжкапераадольных азёр, робячы шмат, з розных бакоў, выхадаў са свайго жылля з-за частай небяспекі; усё каштоўнае са сваіх рэчаў яны закопваюць у схованкі, не трымаючы адкрыта нічога лішняга. Яны вядуць разбойнае жыццё, любяць здзяйсняць напады на сваіх ворагаў у месцах лясістых, вузкіх і абрывістых...

...Знаходзячыся ў стане анархіі і ўзаемнай варожасці, яны ні баявога парадку не ведаюць, ні ваяваць у правільным баі не імкнуцца, ні паказвацца ў месцах адкрытых і роўных не жадаюць...

Яны наогул вераломныя і ненадзейныя ў дамовах, саступаючы хутчэй страху, чым дарункам. Бо пануюць у іх розныя меркаванні, яны альбо не прыходзяць да згоды, альбо, нават калі і згаджаюцца, то вырашанае адразу ж парушаюць іншыя...

Паколькі ў іх шмат правадыроў і яны не згодны адзін з адным, нялішне некаторых з іх прыбраць да рук з дапамогай прамоў або дарункаў, асабліва тых, якія бліжэй да граніцы, а на іншых нападаць, каб варожасць да ўсіх не прывяла б іх да аб’яднання або манархіі...

*«Стратегикон» Маврикия // Свод древнейших письменных известий о славянах. Том I (I—VI вв.). — Изд. 2-е, испр. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1994. — С. 369, 371, 373, 375.*

? 1. Якія станоўчыя і адмоўныя рысы характару адзначае ў славян Маўрыкій?

2. Знайдзіце ў тэксце сведчанні існавання ў славянскім грамадстве патрыярхальнага рабства.

3. Што ў тэксце ўказвае на тое, што ў славян не было адзінай моцнай улады?

4. Якія тактычныя асаблівасці ваенных дзеянняў славян, паводле меркавання Маўрыкія, павінны добра ведаць іх праціўнікі?

✧ 5. Якімі спосабамі, акрамя ваенных дзеянняў, Маўрыкій прапаноўвае змагацца са славянамі?

## Персідскі аўтар Ібн Русце аб славянах IX ст.

У IX ст. у славян ужо існавалі свае дзяржавы. Раней за іншыя ўтварылася Вялікамараўская дзяржава (тэрыторыя сучасных Славакіі і Чэхіі), у канцы IX ст. узнікае і Старажытнаруская дзяржава — Кіеўская Русь. Дзяржаве ўсходніх славян папярэднічалі пераддзяржаўныя ўтварэнні. Гісторыкі называюць іх «Паўночнай канфедэрацыяй плямён» і «Кіеўскім каганатам». Магчыма, былі і іншыя палітычныя аб’яднанні. Аб іх захаваліся звесткі ў арабаперсідскай гісторыка-геаграфічнай літаратуры IX—XII стст. Ніжэй прыводзіцца ўрывак з працы арабскага географа персідскага паходжання **Ібн Русце** «Кніга дарагіх каштоўнасцей». Гэты твор быў напісаны ў першай чвэрці X ст., але звесткі аб славянах і русах былі ўзяты аўтарам з больш ранняй крыніцы, складзенай, верагодна, у 70—90-я гг. IX ст. Сярод гісторыкаў няма ўпэўненасці ў тым, аб якіх славянах распавядае Ібн Русце. Ёсць меркаванне, што згаданы ў дакуменце «свіет-малік» — гэта кіраўнік Вялікай Маравіі Святаполк (871—894). Як бы там ні было, у расказе Ібн Русце прадстаўлены правіцель, у руках якога засяроджаны асноўныя функцыі дзяржаўнай улады (судовая, ваенная, збор падаткаў).

...Кіраўнік іх карануецца, яны [славяне] яму падпарадкоўваюцца і ад слоў яго не адыходзяць. Месца яго пражывання знаходзіцца ў цэнтры краіны славян. І згаданы кіраўнік, якога яны завуць «кіраўніком кіраўнікоў», называецца ў іх свіет-малік, і ён вышэй супанеджа, а супанедж з’яўляецца яго намеснікам. Цар гэты мае верхавых коней і не мае

іншай ежы, акрамя кабылінага малака. Ёсць у яго выдатныя, трывалыя і каштоўныя кальчугі. Горад, у якім ён жыве, завецца Джарваб, і ў гэтым горадзе штомесяц на працягу трох дзён праводзіцца гандаль, купляюць і прадаюць... Цар штогод аб'язджае іх. І калі ў каго з іх ёсць дачка, то цар бярэ сабе па адной з яе сукенак у год, а калі сын, то таксама бярэ па адным адзенні ў год. У каго ж няма ні сына, ні дачкі, той дае па адной з сукенак жонкі або рабыні ў год. І калі зловіць цар у краіне сваёй злодзея, то альбо загадвае яго задушыць, альбо аддае пад нагляд аднаго з правіцеляў на ўскраінах сваіх уладанняў.

*Новосельцев, А. П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998 г. Памяти чл.-кор. РАН А. П. Новосельцева. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 2000. — С. 294—295.*

?

**1.** Як, паводле сведчання Ібн Русце, славяне называюць свайго правіцеля?

**2.** Што ў тэксце ўказвае на тое, што славянскі правіцель меў моцную ўладу?

**3.** Ці дастаткова добра развіты быў дзяржаўны апарат гэтай славянскай краіны? Чаму сам правіцель павінен быў аб'язджаць краіну для збору даніны-падатку?

**4.** Што можна сказаць пра стан судовай справы ў славянскай краіне?

✧ **5.** Як вы думаеце, якая інфармацыя найбольш каштоўная для ўсходняга аўтара?

## Савецкія гісторыкі аб класавай сутнасці ранняй дзяржавы

Гісторыкі вылучаюць знешнія і ўнутраныя прычыны ўтварэння дзяржавы. Да знешніх адносіцца неабходнасць у аб'яднанні сіл для супрацьстаяння рабаўніцкім або заваявальным намерам суседніх народаў. У гэтым было зацікаўлена ўсё насельніцтва, якое паку-

тавала ад варожых нападаў. Да ўнутраных прычын адносяць абвастрэнне канфліктаў у грамадстве. Гэтыя ўнутраныя канфлікты былі выкліканы з'яўленнем бедных і багатых. У руках невялікай групы людзей (яна становіцца знаццю) назапашваецца вялікая маёмасць. Гэтыя ж людзі займаюць прэстыжныя пасады (жрацы, суддзі) і тым самым атрымліваюць магчымасць уплываць на іншых. З прычыны шэрага акалічнасцей (напрыклад, у неўрадлівы год бедны земляроб вымушаны быў прасіць дапамогі ў багатага) асноўная маса насельніцтва пападае ў залежнасць ад невялікай групы людзей. Дадзеная залежнасць, як і высокае становішча знаці, перадаецца па спадчыне. Ва ўласнасці заможных людзей з часам аказваецца асноўны сродак вытворчасці — зямля. Гэта адбываецца таксама і ў выніку падараванняў правіцеля. Так грамадства прыходзіць да фарміравання феадальных адносін. Між тым асноўная маса насельніцтва не жадала мірыцца з прыгнечаным становішчам. Адсюль і ўзнікаюць канфлікты, якія даходзяць да паўстанняў. Вось гэтыя ўнутраныя супярэчнасці гісторыкі-марксісты называюць **класавымі**. Дзяржава ж, на іх думку, якраз і заклікана падаўляць выступленні абяздоленых і падтрымліваць панаванне аднаго класа (эксплуататараў — рабаўладальнікаў, феадалаў, буржуазіі) над другім (эксплуатаванымі — рабамі, сялянамі, пралетарыямі).

Марксісты лічаць, што характэрнай рысай развіцця ўсіх грамадстваў (акрамя першабытнаабшчыннага, сацыялістычнага і камуністычнага) з'яўляецца **класавая барацьба**, якая абавязкова павінна прывесці да іх краху. Тым не менш у грамадстве існуе і мноства іншых канфліктаў, якія патрабуюць урэгулявання праз суд. Аб класавых супярэчнасцях у грамадстве ўсходніх славян пісаў савецкі гісторык А. П. П'янкоў, які выкладаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце, Мінскім педагагічным інстытуце (зараз БДПУ імя Максіма Танка) і іншых ВНУ рэспублікі. **Аляксей Пятровіч П'янкоў** (1901—1987) у поўнай меры аддаў даніну марксісцкай канцэпцыі. Між тым у яго працах выказаны арыгінальныя ідэі аб утварэнні ў IX ст. вялікага крывіцкага племяннога саюза і значнай ролі рабства ва ўсходнеславянскім грамадстве.

Дзяржаўнасць усходніх славян развівалася ў становішчы ўсё больш нарастаючых класавых супярэчнасцей. У гэтых умовах баяры павінны былі мець сілу, якая змагла б у любы момант падавіць супраціўленне народных мас. Так узнікала неабходнасць

стварэння княжацка-дружыннай арганізацыі, якая выражала і бараніла інтарэсы баярства.

Князі са сваімі дружыннікамі забяспечвалі баярам пануючае становішча ў грамадстве. Для ўтрымання сябе і дружыны князі збіралі даніну. Разам з тым даніна была адной з крыніц далейшага ўзбагачэння баярства, якое само нярэдка ўваходзіла ў склад княжацкіх дружын.

Служба ў князя давала баярам магчымасць заняць кіруючае становішча ў складзе княжацка-дружыннай арганізацыі, узбагачацца за кошт разарэння сялян — асноўных плацельшчыкаў даніны. Нарэшце, баяры-дружыннікі ўзбагачаліся, захопліваючы ваенную здабычу...

Усходнеславянскія княствы, якія існавалі да ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы, не толькі забяспечвалі баярству класавае панаванне, але і змагаліся адно з адным. У аснове гэтай барацьбы ляжалі інтарэсы мясцовых груповак баярства, мэтай яе быў захоп здабычы і павелічэнне колькасці плацельшчыкаў даніны...

Усходнеславянскія княствы, умацоўваючы класавае панаванне баярства, паскаралі разарэнні сялян-абшчыннікаў. Гэтая акалічнасць, зразумела, не магла не абвастраць адносін паміж баярамі, з аднаго боку, і сялянамі-абшчыннікамі — з другога. Баяры былі вымушаны перасяляцца са сваіх сельскіх «харомаў» у больш бяспечныя месцы — у «дзядзінцы» і гарады-замкі. Пачатак іх перасялення, паводле археалагічных матэрыялаў, трэба датаваць прыблізна VIII ст. У гэты час пануючы клас усходняга славянства і княжацка-дружынная арганізацыя, што адлюстроўвала яго інтарэсы, размяшчаюцца галоўным чынам у гарадах, якія менавіта тады

сталі ператварацца з дзядзінцаў і замкаў у рамесна-гандлёвыя цэнтры...

*Пьянков, А. П. Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси / А. П. Пьянков. — Минск: Изд-во БГУ, 1980. — С. 171, 172.*

? **1.** Чые інтарэсы, на думку савецкага гісторыка, абараняла ўсходнеславянская дзяржава?

**2.** Якую ролю ва ўсходнеславянскім грамадстве адыгрывала даніна?

**3.** Што было крыніцамі ўзбагачэння баяр?

**4.** Чаму ўсходнеславянскія княствы змагаліся паміж сабой?

✧ **5.** Якім шляхам узнікалі, на думку савецкага гісторыка, усходнеславянскія гарады? Як яшчэ гэта магло адбывацца?

# § 12. Гаспадарка, рамяство і гандаль усходніх славян

## Славянскія праслiцы

Археолагі падчас раскопак часта знаходзяць невялікія круглыя прадметы, зробленыя звычайна з гліны, каменю або асобага матэрыялу — ружовага шыферу (гліністы сланец). Гэта **праслiцы** (або прасла, праслень; назва «праслiца» — недакладнае) — гліняныя або каменныя грузікі з круглай адтулінай у цэнтры, якія надзяваліся на ручное верацяно для яго пацяжэння, паскарэння кручэння і мацавання на ім прадзіва. Знаходкі праслiц сведчаць, што паўсюдна ў сялянскіх (затым і гарадскіх) жытлах было распаўсюджана **прадзенне** і **ткацтва**. Менавіта для прадзення — першага этапу атрымання тканіны — і патрэбна было верацяно з абавязковым праслiцам на ім. Пры дапамозе верацяна з кудзелі (першапачатковая сыравіна — лён, каноплі, воўна) пралася прадзіва. Затым на ткацкім станку з прадзіва рабілася тканіна. Праца гэтая не такая складаная, як можа здацца, але яна патрабавала шмат часу, увагі і старання. Прадзенне і ткацтва былі выключна жаночай справай. Менавіта гэтай працай былі заняты жанчыны доўгімі зімовымі вечарамі, збіраючыся ў кампанію, каб паміж справай абмяняцца на-

вінамі, папляткарыць і перадаць назапашаны культурны вопыт новаму пакаленню. Лічыцца, што заступніцай прадзення была язычніцкая багіня Мокаш. Магчыма, яе імя звязана з працэсам вымочвання прадзіва.




На малюнку справа: *а* — кудзеля; *б* — прадзіва і верацяно; *в* — прасліца

**?** **1.** Для чаго выкарыстоўваліся прасліцы? Растлумачце гэта, абапіраючыся на схему.
**2.** Які памер мелі прасліцы?
**3.** Чаму часта прасліцы знаходзяць у грашовых скарбах?
✧ **4.** Якія надпісы маглі быць нанесены на прасліцы?

## Персідскі аўтар Ібн Хардадбех аб рускіх купцах

Яшчэ да ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы рускія і славянскія купцы вялі гандаль з суседзямі і больш аддаленымі краінамі. Так, у IX ст. рускіх купцоў добра ведалі ў Арабскім халіфаце. Між тым араба-персідскія аўтары некаторы час падзялялі русаў і славян. Шматлікія даследчыкі перакананы, што пад русамі меліся на ўвазе скандынавы-вікінгі. Але ў геаграфічнай працы персідскага аўтара **Ібн Хардадбеха** «Кніга шляхоў і краін» русы вызначана завуцца «відам славян». Ібн Хардадбех займаў высокую пасаду начальніка пошт у Паўночным Іране і меў доступ да каштоўных пісьмовых крыніц. Таму звесткам, якія ён прыводзіць, сучасныя гісторыкі схільны давяраць. Дадзеная праца была напісана прыблізна ў 80-х гг. IX ст. Да гэтага часу ў Багдадскім халіфаце ўжо добра ведалі славян, нават адна з рэк (Дон ці Волга) атрымала назву па

іх імені. У той час рака знаходзілася пад кантролем Хазарыі. **Хазарскі каганат** быў створаны качэўнікамі-хазарамі яшчэ ў VII ст. і ахапіў тэрыторыі Паўночнага Каўказа, Прыазоўя, Крыма, частку Паўночнага Прычарнамор'я, уключаючы Ніжняе Паволжа. Сталіца Хазарыі першапачаткова размяшчалася на Паўночным Каўказе (Семендэр), а затым пасля няўдалых войнаў з арабамі была перанесена ў вусце Волгі (Ітыль).

Што ж датычыцца рускіх купцоў — а яны від славян, — то яны вывозяць бабровы мех і мех чорнай лісіцы і мячы з самых аддаленых [частак] краіны Славян да Румскага мора, а з іх [купцоў] дзесяціну спаганяе цар Рума (Візантыі), і калі яны жадаюць, то яны адпраўляюцца па... [слова неразборлівае], рацэ Славян, і праязджаюць пралівам да сталіцы Хазар, і дзесяціну з іх спаганяе іх [Хазар] правіцель. Затым яны адпраўляюцца да Джурджанскага мора і высаджваюцца на якім жадаюць беразе. І дыяметр гэтага мора 500 фарсангаў, зрэдку яны прывозяць свае тавары на вярблюдах з Джурджана ў Багдад, дзе перакладчыкамі для іх служаць славянскія рабы. І выдаюць яны сябе за хрысціян і плацяць джыз'ю.

*Новосельцев, А. П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998 г. Памяти чл.-кор. РАН А. П. Новосельцева. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 2000. — С. 291.*

**1.** Чым гандлявалі рускія купцы ў IX ст.?
**2.** Якія моры называюцца ў тэксце Румскім і Джурджанскім?
**3.** Знайдзіце ў тэксце сведчанні цесных сувязей Багдадскага халіфата са славянамі.
**4.** Як вы думаеце, ці быў выгадны для рускіх купцоў гандаль з Багдадам?

✧ **5.** Як вы думаеце, ці сапраўды рускія купцы ў згаданы ў тэксце час былі хрысціянамі?

## Вытрымкі з працы савецкага гісторыка Б. А. Рыбакова «Рамяство Старажытнай Русі»

Адной з найбольш важных з'яў у гісторыі чалавецтва стаў падзел працы паміж людзьмі. Вельмі доўгі час чалавек цалкам сам забяспечваў сябе ўсім неабходным — ад ежы да адзення і жылля. Вядома, усім займацца ў дасканаласці адзін чалавек не мог. Менавіта таму ў перыяд першабытнасці людзі жылі так бедна і непатрабавальна. Але ўжо тады было заўважана, што адны віды працы лепш выконваюць жанчыны, а другія — мужчыны. Да таго ж трэба было даваць нескладаную працу дзецям і пажылым людзям. У выніку адбыўся натуральны падзел працы па полу і ўзросту. Разам з удасканаленнем прылад працы, з'яўленнем новых тыпаў гаспадарання (вытворчай гаспадаркі) некаторыя віды працы сталі ўсё больш адасабляцца адзін ад аднаго. Да гэтага прыводзіла простая мэтазгоднасць: станавілася зразумелым, што падзел працы вядзе да росту яе прадукцыйнасці. Практычна ўсе навукова-тэхнічныя дасягненні чалавека, паляпшэнне яго побыту, умоў і якасці жыцця можна растлумачыць бесперапынным укараненнем падзелу працы. Канцэпцыя падзелу працы найбольш дасканала ўпершыню была абгрунтавана ў працы шатландскага эканаміста і філосафа **Адама Сміта** (1723—1790) «Даследаванне аб прыродзе і прычынах багацця народаў». Менавіта ён і ўвёў паняцце «падзел працы». Канцэпцыя падзелу працы была ўспрынята гісторыкамі-марксістамі. У гісторыі чалавецтва яны вылучалі **тры буйныя грамадскія падзелы працы**. Яшчэ ў рамках першабытнаабшчыннага ладу адбыўся першы буйны грамадскі падзел працы — вылучэнне пастухоўскіх плямён, жывёлаводаў. Затым (паводле марксісцкай канцэпцыі, у рамках рабаўладальніцкай фармацыі) адбыўся другі буйны грамадскі падзел працы — аддзяленне рамяства ад земляробства. Гэтыя з'явы садзейнічалі пашырэнню абмену паміж людзьмі, якія займаліся рознай працай. Земляробы і рамеснікі былі зацікаўлены ў выніках працы адзін аднаго. Гэта прывяло да трэцяга буйнога грамадскага падзелу працы — адасаблення гандлю ад вытворчасці і вылучэння купецтва. Занятак гандлем зрабіўся асобай сферай дзейнасці спецыяльнай групы людзей. На пэўным этапе развіцця праславянскага грамадства вылучыліся людзі, якія займаліся выключна рамеснай дзейнасцю. Яны абменьвалі вырабленыя імі рэчы на харчовыя прадукты, а таксама рамесныя вырабы іншых

майстроў. Вядомым спецыялістам па развіцці рамяства ва ўсходніх славян з’яўляўся акадэмік Б. А. Рыбакоў. Адна з першых яго прац, выдадзеная больш за 60 гадоў назад, — «Рамяство Старажытнай Русі» (1948) — захавала сваё значэнне да нашых дзён.

Сярод членаў родавага калектыву раней за ўсіх іншых спецыялістаў адасобіліся металургі, якія займаліся складанай, небяспечнай і некалькі таямнічай справай апрацоўкі руды ў горнах і кавання гарачага металу. У цэлым натуральна, што з ростам грамадскага падзелу працы менавіта кавалі сталі першымі рамеснікамі-спецыялістамі, што менавіта іх, творцаў металу, народ акружыў сотнямі розных легенд і павер’яў: каваль — вядзьмак, «хітрун», знаходзіўся пад заступніцтвам рускага Гефеста — бога Сварога, ён мог не толькі выкаваць плуг або меч, але і лячыць хваробы, спраўляць вяселлі, варажыць, адганяць нячыстую сілу ад вёскі. У эпічных паданнях менавіта каваль з’яўляецца пераможцам дракона — Змея Гарыныча, якога ён прыкоўвае за язык.

Ганчарная справа ў славянскіх землях мае старажытныя карані, якія вядуць нас да неаліту. На мяжы IX і X стст. яна набыла новую тэхніку і ператварылася ў рамяство. Гісторыя ганчарнай справы падзяляецца на дзве часткі; мяжой паміж імі з’яўляецца вынаходства ганчарнага круга. Посуд першага перыяду (да вынаходства круга) завецца ляпным, а другога перыяду — ганчарным, зробленым на крузе.

Пры натуральнай гаспадарцы, прынцыпам якой было «ўсё нараджаецца дома», шмат чаго выраблялася ў кожнай асобнай гаспадарцы, і не ў выглядзе рамяства, а ў выглядзе хатняй вытворчасці. Да такой хатняй вытворчасці трэба аднесці выраб адзен-

ня, абутку, хатніх рэчаў, земляробчага інвентару. Для гэтага патрабаваліся нескладаныя прылады, якія выраблялiся мясцовым кавалём; сякера, цясла, іголка, качадык, нож — вось, мабыць, і ўсё, што трэба было для абслугоўвання такой хатняй вытворчасці.

*Рыбаков, Б. А. Ремесло / Б. А. Рыбаков // История культуры Древней Руси. Домонгольский период. I. Материальная культура / Под ред. Н. Н. Воронина, М. К. Каргера и М. А. Тихановой. — М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1948. — С. 79, 100, 106.*

?

**1.** Якія рамёствы ва ўсходніх славян з'явіліся першымі і якія заняткі засталіся на ўзроўні хатняй вытворчасці?

**2.** Як вы думаеце, чаму менавіта кавальская справа першай вылучылася ў асобнае рамяство?

**3.** Якое вынаходства стаяла на мяжы двух этапаў у развіцці ганчарнай справы?

**4.** Як вы думаеце, ці спрыяў натуральны характар гаспадаркі ўсходніх славян развіццю гандлю?

✧ **5.** Дзе старажытнаславянскія кавалі здабывалі сыравіну для сваёй вытворчасці?

## § 13. Рэлігія і міфалогія ўсходніх славян

### Пракопій Кесарыйскі (VI ст.) аб язычніцтве славян

Упершыню суседнія народы сутыкнуліся са славянамі, калі тыя маліліся сваім шматлікім багам, мелі ўласную самабытную рэлігію. У беларускай мове яна (як і рэлігійныя вераванні многіх іншых народаў) атрымала назву «**язычніцтва**» (інакш — «паганства», ад лац. paganus — язычнік; pagus — «вёска»). Гэтае паняцце паходзіць ад стараславянскага слова «языцы», што азначае «народы, якія маюць сваю ўласную мову, культуру, светапогляд, пісьменнасць». Такім чынам, у літаральным сэнсе «паганства» — гэта «рэлігія народаў», або «народная рэлігія». Як правіла, да язычніцтва адносяць усе рэлігіі, акрамя монатэістычных (у якіх ушаноўваецца адзін Бог-Творца) — хрысціянства, ісламу і іўдаізму. Акрамя таго, язычніцкімі лічацца рэлігійныя вераванні, абрады і святы

першабытных народаў і ўсе політэістычныя (у якіх ушаноўваюцца некалькі багоў) рэлігіі. З пункту гледжання хрысціян галоўная сутнасць язычніцтва — гэта пакланенне тварэнню (стварэнню), а не Творцу (Стваральніку); гэта пакланенне каму-небудзь або чаму-небудзь, акрамя адзінага Бога, бо з пункту гледжання хрысціян усё было Ім створана («ідалапаклонства»). Як бы то ні было, найбольш ранніх крыніцы аб славянах прадстаўляюць іх тыповымі язычнікамі. Ва ўжо згаданым вышэй творы Пракопія Кесарыйскага «Вайна з готамі» аўтар упершыню прыводзіць дакладныя звесткі аб сутнасці славянскага язычніцтва.

Бо яны лічаць, што адзін з багоў — стваральнік маланкі — менавіта ён ёсць адзіны ўладар усяго, і яму прыносяць у ахвяру быкоў і ўсякіх ахвярных жывёл. Прадвызначэння [лёсу] яны не ведаюць і наогул не прызнаюць, што яно мае нейкае значэнне, прынамсі ў стаўленні да людзей, але калі смерць ужо ў іх у нагах, альбо іх ахоплівае хвароба, або выступаюць на вайну, яны даюць абяцанне, калі выратуюцца, зараз жа прынесці богу ахвяру за сваё жыццё; а калі пазбегнуць смерці, ахвяруюць, што паабяцалі, і думаюць, што гэтай ахвярай купілі сабе выратаванне. Аднак ушаноўваюць яны і рэкі, і німф, і некаторыя іншыя божаствы і прыносяць ахвяры таксама і ім усім, і пры гэтых ахвярах праводзяць варажбу.

*Прокопий Кесарийский. История войн // Свод древнейших письменных известий о славянах. Том I (I—VI вв.). — Изд. 2-е, испр. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1994. — С. 183.*

?

**1.** Як вы думаеце, які язычніцкі бог лічыўся ў славян «уладаром усяго»? Як славяне называлі гэтага бога?

**2.** Што ў тэксце сведчыць аб тым, што славяне былі язычнікамі?

✧ **3.** Якія перажыткі першабытных вераванняў можна выявіць у славян?

## Арабскі аўтар Гардзізі аб звычаях і вераваннях славян

Развіццё гандлю садзейнічала таму, што на арабскім Усходзе ўсё больш даведваліся аб славянах, іх культуры і побыце. Так, у працы арабскага гісторыка **Гардзізі** «Краса паведамленняў» (сярэдзіна XI ст.) прыводзіцца цікавая інфармацыя аб паўсядзённым жыцці ўсходніх славян, у тым ліку аб іх вераваннях. Якія-небудзь біяграфічныя даныя аб Гардзізі не захаваліся, але вядома, што пры напісанні сваёй працы ён выкарыстаў больш раннія творы, у тым ліку звесткі Ібн Хардадбеха. У расказе Гардзізі славяне паўстаюць яшчэ язычнікамі, хаця ў час аўтара Русь ужо была хрысціянскай. Арабскі гісторык апісвае язычніцкі абрад пахавання — **трупаспаленне** (**крэмацыю**). Пахавальны абрад у розных груп славян адрозніваўся, але ў цэлым да распаўсюджання хрысціянства панавала крэмацыя. У той жа час рознай была форма пахаванняў: у ільменскіх славен пасля спалення прах хавалі пад невялікімі насыпамі — сопкамі, у крывічоў — у доўгіх курганах-валатоўках. Прадстаўнікоў княжацкай дружыны, сярод якіх было шмат выхадцаў са Скандынавіі, спальвалі ў ладдзі і зверху насыпалі курган. Было вядома ў славян і **трупапалажэнне** (**інгумацыя**). Інгумацыяй археолагі завуць пахаванне цела памерлага цалкам у зямлю (у супрацьлегласць крэмацыі). Ускосна гэты абрад згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» і легендах пра князёў і іншых ушанаваных асоб. Гэты абрад хутка распаўсюджваецца на Русі пасля прыняцця хрысціянства.

**...**І калі паміраe ў іх жанчына, то жанчыне рэжуць твар нажом. І калі спальваюць нябожчыка, на другі дзень прыходзяць на гэтае месца, збіраюць яго попел, кладуць яго ў мяшок і пакідаюць на вяршыні ўзгорка. Калі пройдзе год пасля смерці, гатуюць шмат мёду, збіраецца ўся сям'я нябожчыка на гэтым узгорку, п'юць мёд і памінаюць яго. Яны ўшаноўваюць быка [варыянт: агонь], і вялікая частка іх пасеваў з проса. І калі прыходзіць час жніва, то ўсё збожжа кладуць у коўш, затым узнімаюць галаву да неба і кажуць: «Гэта даў ты нам сёлета, падай нам багацце і ў наступным годзе». У іх ёсць розныя віды лютняў, тамбураў і жалеек. Даўжыня

іх жалейкі — 2 локці; на іх лютнях — 8 струн. Напой іх робіцца з мёду. Яны граюць пры спальванні памерлага на струнных інструментах і кажуць: «Мы весялімся, бо літасць божая сышла на яго».

*Новосельцев, А. П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998 г. Памяти чл.-кор. РАН А. П. Новосельцева. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 2000. — С. 296.*

? **1.** Пра які пахавальны абрад гаворыцца ў тэксце?

**2.** Аб шанаванні якіх багоў славянамі сведчыць арабскі гісторык Гардзізі?

**3.** Як заняцце земляробствам адбілася на рэлігійных уяўленнях славян?

**4.** Якімі музычнымі інструментамі карысталіся славяне?

**5.** Як бавілі час славяне?

✧ **6.** Што ў тэксце сведчыць аб веры славян у замагільнае жыццё?

## Уваскрашэнне Перуна

Міфалогія славян сваімі каранямі ўзыходзіць да часоў індаеўрапейскага адзінства (V—IV тысячагоддзі да н. э.). У гэты перыяд адбываецца фарміраванне ўяўленняў больш складаных, чым прымітыўныя першабытныя вераванні. Яны ўключалі цэлы пантэон багоў, якія адказвалі за розныя сферы гаспадарчай дзейнасці чалавека. Гэтыя ж багі маглі захоўвацца і пасля распаду індаеўрапейскага адзінства. Але змены ў жыцці народаў, якія мелі індаеўрапейскія карані, высоўвалі на першы план больш значных багоў. Гэтыя змены былі звязаны ў першую чаргу з павышэннем ролі земляробства, а значыць, з’яўленнем моцнай залежнасці ад надвор’я, а таксама з вядзеннем рабаўніцкіх і захопніцкіх войнаў, што прыводзіла да перавагі воінскага культу. Менавіта дадзенымі акалічнасцямі тлумачыцца вылучэнне на першае месца ў шэрагу шматлікіх язычніцкіх божастваў індаеўрапейскіх народаў бога-грамоўніка — балцкага Перкунаса або ўсходнеславянскага Перуна. У сучаснай гістарычнай навуцы ўжо не знаходзіць падтрымкі прапанаваная Б. А. Рыбаковым перыядызацыя славянскага язычніцтва.

Савецкі гісторык меркаваў, што славяне першапачаткова «клалі требы ўпырям і берагіням», затым пад уплывам міжземнаморскіх культаў славяне «пачалі трапезу ставіці Роду і рожаніцам», пазней высунуўся культ Перуна (які ўзначаліў спіс іншых багоў), а пасля прыняцця хрысціянства «Перуна отринуша», але «отай» маліліся як комплексу багоў, узначаленаму Перуном, так і больш старажытным Роду і рожаніцам (Рыбакоў Б. А. Паганства старажытных славян. М., 1994. С. 15—16). Рэзкай крытыцы канцэпцыя Б. А. Рыбакова была падвергнута ў манаграфіі Л. С. Клейна «Уваскрашэнне Перуна». **Леў Самуілавіч Клейн** (нарадз. у 1927 г.) — гісторык, археолаг, выкладчык, добра вядомы ў навуковых колах краін Захаду. Ён нарадзіўся ў Віцебску, тут жа вучыўся ў сярэдняй і музычнай школе; пасля Вялікай Айчыннай вайны пасяліўся ў Гродне, дзе скончыў педагагічны інстытут, а пазней працаваў настаўнікам. У Беларусі Л. С. Клейн удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях. Навуковец шырока вядомы сваімі працамі, прысвечанымі праблемам ранняй гісторыі і паходжання індаеўрапейцаў, ролі скандынаваў ва ўтварэнні Старажытнарускай дзяржавы і інш.

...у роднасных славянам народаў вылучэнне бога-грамоўніка на першае месца ў пантэоне адносіцца, прынамсі, да другой паловы II тысячагоддзя да н. э., г. зн. да таго часу, якім Рыбакоў датуе пачатак праславянскай эпохі, калі славяне і іх суседзі яшчэ параўнальна нядаўна выйшлі з суцэльнага арэала і раз'ядналіся. Развіццё дзвюх сфер жыцця магло спрыяць узвышэнню бога-грамоўніка: з'яўленне моцнай залежнасці ад надвор'я (пагроза ўрадлівасці палёў ад засух, а жніва ад дажджоў) і вядзенне войнаў. Але войнамі маглі ведаць і іншыя багі, а надвор'ем — толькі бог-грамоўнік...

...у славян Пярун вельмі рана высунуўся на першы план, а неўзабаве і на першае месца ў пантэоне — калі яшчэ славяне не вельмі далёка адышлі ад іншых індаеўрапейцаў, так што на ўзвышэнні Перуна адбіліся свежыя індаеўрапейскія традыцыі, а можа, і кантакты...

...Усё ж такі Род са сваімі рожаніцамі ніколі не быў часткай пантэона ў славян. Гэта быў позні, хрысціянскага часу, дух народных нізоў, дух лёсу, які ведаў зачаццем дзяцей, постаць ніжэйшай дэманалогіі. Вышэйшаму бажаству хрысціян яго супрацьпастаўлялі не па становішчы ў пантэоне, а па функцыі дараваціеля нараджэнняў. Да гэтага часу іншыя паганскія багі ўжо даўно сталі хрысціянскімі святымі (Пярун — Іллёй, Сварог — Казьма-Дзям'янам, Мокаш — Параскевай і г. д.), а даручыць якому-небудзь святому прэрагатыву «вдувать душу живу» было неймаверна. Вось і даводзілася Рода зжываць без раўназначнага замяшчэння. Увасобіўшы запазычаныя ў грэкаў забабоны, разнавіднасць моднай ерасі, ён таму і засяродзіў на сабе ў позні час агонь хрысціянскіх павучанняў супраць язычніцтва.

*Клейн, Л. С. Воскрешение Перуна. К реконструкции восточнославянского язычества / Л. С. Клейн. — СПб: Евразия, 2004. — С. 234—235.*

! **Дэманалогія** — вучэнне аб злых духах — дэманах, да якіх у хрысціянстве далучылі ўсіх былых язычніцкіх багоў.

? **1.** У які час на першае месца ў пантэоне славян выйшаў бог-грамоўнік?

**2.** Што спрыяла вылучэнню на першае месца ў шэрага язычніцкіх багоў славян бога-грамоўніка Перуна?

**3.** Кім быў у славян бог Род?

**4.** На якіх хрысціянскіх святых перайшло шанаванне славянскіх язычніцкіх багоў?

✧ **5.** Як Л. С. Клейн тлумачыць тое, што некаторыя крыніцы называюць Рода вышэйшым богам славян?

## Выявы найбольш вядомых язычніцкіх ідалаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі

Славяне шмат стагоддзяў былі язычнікамі. Хрышчэнне Русі ў 988—990 гг. не магло прымусіць іх адразу ж адмовіцца ад сваіх багоў. Доўгі час насельніцтва (асабліва ў сельскай мясцовасці) працягвала ўшаноўваць ідалаў і прыносіць ім ахвяры. **Ідалы** (багі, балваны, куміры, стоды, ёлупы) — гэта скульптурныя выявы язычніцкіх багоў. У асноўным ідалы рабіліся з дрэва — матэрыялу недаўгавечнага. Вядомы толькі адзінкавыя знаходкі нешматлікіх каменных ідалаў. Самая вядомая — Збручскі ідал (быў знойдзены яшчэ ў 1848 г. у рацэ Збруч, прытоку Днястра). На тэрыторыі Беларусі ў 1934 г. быў знойдзены Слонімскі ідал (захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі), а ў 1963 г. — Шклоўскі ідал («ёлуп», зараз захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі). Ідалы ставіліся для пакланення на язычніцкіх свяцілішчах — капішчах. Кожны з іх увасабляў нейкага аднаго язычніцкага бога, але вядомы і ідалы з мноствам «твараў» (такі Збручскі ідал). Некаторыя даследчыкі лічаць, што каменныя ідалы не былі ўласцівы славянам. Таксама лічыцца, што доўгі час культ багоў у славян быў бесфігурным, а статуі запазычаны ад мясцовых народаў пры асваенні новых тэрыторый.



Збручскі ідал з розных бакоў



Слонімскі ідал



Шклоўскі ідал

**?**

**1.** Разгледзьце выявы ідалаў. Што ў іх выглядзе аднолькавае?

**2.** Ці падобны язычніцкія ідалы да сучасных скульптур?

✧ **3.** Як вы думаеце, якіх багоў маглі ўвасабляць Слонімскі і Шклоўскі ідалы?
✧ **4.** Калі не славянам, тады каму маглі належаць гэтыя статуі ідалаў?

# § 14. Матэрыяльная культура ўсходніх славян

## «Аповесць мінулых гадоў» аб спосабе жыцця ўсходнеславянскіх саюзаў плямён

У «Аповесці мінулых гадоў», як вы ўжо ведаеце, падрабязна расказваецца аб дзяленні ўсходніх славян на асобныя, адрозныя адно ад аднаго «плямёны». Грунтоўны этнаграфічны расказ аб іх размешчаны ў недатаваных уводзінах да летапісу. Гэтых уводзін не было ў летапісах, якія папярэднічалі «Аповесці мінулых гадоў». Паколькі аўтарам «Аповесці» быў манах Кіева-Пячэрскага манастыра Нестар, то не здзіўляе тая акалічнасць, што найбольш культурным «племем» названы продкі кіяўлян — паляне. На самай справе ў дадзяржаўны перыяд, а тым больш пазней, усе славяне знаходзіліся на адным узроўні развіцця і іх звычаі, побыт, норавы не вельмі адрозніваліся. Тым не менш можна адзначыць, што па сваім паходжанні бліжэй між сабой былі паляне, дрыгавічы, драўляне і валыняне. Непасрэднымі нашчадкамі антаў з'яўляліся улічы, ціверцы і белыя харваты. Агульнага паходжання былі крывічы і ільменскія славене. У ніжэйпрыведзеным урыўку з летапісу Нестар расказвае пра пахавальны абрад і шлюбныя звычаі славян. І хаця летапісец спачатку адзначае, што кожнае «племя» мела свае звычаі і законы, з далейшага тэксту можна зразумець, што ва ўсіх усходніх славян яны былі падобнымі.

Усе гэтыя плямёны мелі свае звычаі і законы сваіх бацькоў, і паданні, і кожнае — свой нораў. Паляне маюць звычай бацькоў сваіх, кроткі і ціхі... А драўляне жылі звярыным звычаем, жылі па-скоцку: забівалі адзін аднаго, елі ўсё нячыстае, а шлюбаў у іх не бывала, але ўмыкалі дзяўчат у вады. А радзімічы, вяцічы і севяране мелі агульны звычай: жылі ў лесе, як і ўсе звяры, елі ўсё нячыс-

тае і брыдкасловілі пры бацьках і пры нявестках, і шлюбаў у іх не бывала, але ладзіліся ігрышчы паміж сёламі, і схадзіліся на гэтыя ігрышчы, на скокі і на ўсякія д'ябальскія песні, і тут выкрадалі сабе жонак па змове з імі... І калі хто паміраў, то ладзілі па ім трызну, а затым рабілі вялікую калоду, і клалі на гэтую калоду нябожчыка, і спальвалі, а пасля, сабраўшы косткі, складвалі іх у невялікую пасудзіну і ставілі на слупах па дарогах, як робяць і зараз яшчэ вяцічы. Гэтага ж звычаю трымаліся і крывічы, і іншыя язычнікі, якія не ведалі закона Божага, але самі сабе ўстанаўлівалі закон.

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 146—147.*

? **1.** Якія асаблівасці адрознівалі розныя ўсходнеславянскія «плямёны»?

**2.** Якія са згаданых у тэксце «плямён» жылі на тэрыторыі Беларусі?

**3.** Якое славянскае язычніцкае свята нагадваюць згаданыя ў тэксце «ігрышчы»?

**4.** Які пахавальны абрад апісваецца ў прыведзеным урыўку з летапісу?

✧ **5.** Як вы думаеце, чаму летапісец так адмоўна ставіцца да звычаяў язычніцкіх часоў?

## Ібн Русце (пачатак X ст.) аб славянах

Вышэй ужо прыводзіўся ўрывак з твора арабскага географа, перса па паходжанні, **Ібн Русце** (поўнае імя: Абу Алі Ахмад ібн Умар Ібн Русце), які жыў у Іране (горадзе Ісфахане — гэта самы цэнтр краіны) у IX — першай трэці X ст. Над сваёй вялікай энцыклапедычнай працай «Кніга дарагіх каштоўнасцей» аўтар працаваў шмат гадоў (903—925 або 903—913 гг.). На жаль, захаваўся толькі сёмы том рукапісу, але менавіта ў ім утрымліваюцца найбольш старажытныя падрабязныя звесткі аб народах Усходняй Еўропы. Даследчыкі лічаць, што арабы рэдка самі бывалі на тэрыторыі сла-

вян. Прыведзены ніжэй расказ сведчыць аб тым, што яго аўтар не быў непасрэдным сведкам таго, што апісваецца, паколькі тут відавочны розныя недарэчнасці.

У іх краіне холад настолькі моцны, што кожны чалавек выкопвае сабе падабенства ямы пад зямлёй, затым робіць над ёй вастраверхі дах з дрэва, як на храме, затым пакрывае гэты дах зямлёй. У гэты склеп прыходзіць чалавек з сям'ёй і прыносіць дровы і камяні. Затым разводзіць агонь і распаляе камень на агні дачырвана. Калі камень распаліцца моцна, яго абліваюць вадой, так што распаўсюджваецца пар, і награваецца жыллё да таго, што здымаюць адзенне. У такім жыллі застаюцца яны да вясны.

*Ибн Русте. Книга дорогих ценностей // Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том III: Восточные источники. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2009. — С. 47.*

? **1.** Аб чым на самай справе распавядаецца ў тэксце?
**2.** Ці на самай справе ўсходнія славяне выкарыстоўвалі для жылля падобныя прыстасаванні?
✧ **3.** Чаму менавіта на кліматычныя ўмовы краіны славян звярнуў увагу ўсходні аўтар?

## Славянскія сарочкі

Патрэбнасць у адзенні — адна з найважнейшых для чалавека. Славяне са старажытных часоў выраблялі адзенне з канапель, ільну, крапівы, воўны, а таксама карысталіся футрам. Славянам здаўна былі вядомы сакрэты прадзення і ткацтва. У касцюме славян галоўнае месца займала кашуля — сарочка. Яе крой, канструктыўныя асаблівасці, разнавіднасці рэканструююцца галоўным чынам па этнаграфічных матэрыялах. Справа ў тым, што на працягу многіх стагоддзяў адзенне сельскага насельніцтва (гараджане больш схільныя да знешніх культурных уплываў, часта змянялася і этнічнае аблічча насельніцтва гарадоў) істотна не змянялася. Ме-

навіта таму ва ўжо вядомай вам кнізе З. Васінай «Украінскі летапіс убрання» асноўная ўвага надаецца менавіта этнаграфічным даным. Разам з тым ад пазнейшых часоў захаваліся кніжныя мініяцюры, фрэскі, нават фрагменты самога адзення (захавалася дзякуючы вільготнай глебе без доступу кіслароду). Падчас археалагічных раскопак знойдзена мноства разнастайных упрыгажэнняў. Усё гэта дазваляе, выкарыстоўваючы рэтраспектыўны метад, палегчыць рэканструкцыю знешняга выгляду адзення нашых продкаў.

Асноўным відам адзення ўсіх пластоў насельніцтва славян былі сарочкі (кашулі). Паводле даследаванняў этнографаў XIX—XX стст., сарочкі былі рознымі па сваім канструктыўным рашэнні. «Дадыльная» сарочка складалася з прамых суцэльных палотнішчаў ад каўняра да падола. Такія сарочкі ў асноўным былі абрадавымі: вясельнымі, святочнымі або пасмяротнымі. Сарочка «да падточкі» мела дзве часткі: верхнюю — «стан, станок, аплечча» і ніжнюю, уласна «падточку» (падвязку). Існавалі і карацейшыя сарочкі, якія насіліся асобна: «аплечча» і ніжняя частка — «падшыўка». Па сваім крої яны былі тунікападобныя, шыліся з аднаго, перагнутага напалову, палатна. Паколькі яно было не вельмі шырокім, з бакоў ніжэй праёмаў прышывалі прамыя або клінападобныя бакі.

Рукавы былі нешырокія, прамыя, часта значна даўжэйшыя за рукі. Яны выконвалі ролю рукавіц: засцерагалі рукі ад холаду. Каб рукавы неміналі працаваць, іх закасвалі, а ў святочныя дні — закасвалі да локця ў зборку і каля запясця прытрымлівалі бранзалетам. Такая шматфункцыянальная форма рукавоў была вынікам жыццёвага вопыту, прыстасаваннем да ўмоў суровага клімату.

Мужчынская сарочка была без каўняра, з акруглым або прамавугольным выразам. Зрэдку спе-

раду мела невялікі разрэз і зашпілялася каля шыі на адзін гузік. Яе звалі «галашыйкай». Упрыгожвалі вышыўкай або ўстаўкамі па гарлавіне, разрэзе, рукавам і падоле. Мужчынская сарочка была карацейшай за жаночую. Яна даходзіла толькі да каленяў. Насілі яе навыпуск, падпяразваючы тканым або скураным поясам з металічнай спражкай і ўпрыгажэннямі. Пояс не зацягвалі, што стварала напуск верхняй часткі кашулі над станам у выглядзе папярочнай складкі. Хадзіць без падпяразвання лічылася непрыстойным. Адсюль і выраз — «разпяразаўся», знахабіўся.

Мужчынскае споднае адзенне дапаўнялася нешырокімі штанамі з прамавугольнай пахвіннай устаўкай. У поясе працягвалі ачкур [ашкура, падпяразка] і завязвалі наперадзе на стане. Штаны (нагавіцы) запраўлялі ў высокія шытыя шкарпэткі, чаравікі або боты альбо зверху абмотвалі іх анучамі і замацоўвалі на назе шчыльна абкручанымі раменьчыкамі ад поршняў, пасталоў або лапцей. Сарочка і штаны былі асноўным споднім адзеннем.

У адрозненне ад мужчынскай жаночая сарочка была даўжэйшай, да ступняў, мела такі ж тунікападобны крой, доўгія рукавы. Акрамя практычных уласцівасцей, жаночыя рукавы, распушчаныя да зямлі (малюнкі на сярэбраных бранзалетах XII ст.), мелі магічны сэнс у старажытных язычніцкіх абрадах «русаліях». Каўнер жаночай кашулі цесна аблягаў шыю або прыбіраўся на гарлавіне пад падшыўку «рурык». Спераду сарочка мела невялікі разрэз і зашпілялася на гузік. Каля каўняра, а таксама па разрэзе на грудзі сарочку вышывалі ніткамі, галоўным чынам чырвонага колеру, альбо вузкай палоскай каляровай тканіны. Кашуля была

споднім адзеннем. Яе абавязкова падпяразвалі тонкім вяровачным поясам-засцярогам з абавязковым напускам.



Верхняя мужчынская сарочка



Сарочка-галашыйка

*Васіна, З. О. Український літопис вбрання. — Том І. 11000 років до н.е. — XIII ст. н.е. Науково-художні реконструкції. — Київ: Мистецтво, 2003. — С. 229—230.*

? **1.** Якія дзве разнавіднасці сарочак славян вылучаюць украінскія этнографы XIX—XX стст.?
**2.** Чаму рукавы ў мужчынскай і жаночай сарочкі рабіліся доўгімі?
**3.** Чым упрыгожваліся мужчынскія і жаночыя сарочкі?
**4.** Як насілі мужчынскую сарочку?
**5.** Як славянскія мужчыны насілі штаны?
**6.** Чым адрознівалася жаночая сарочка ад мужчынскай?
✧ **7.** Чым маглі адрознівацца сарочкі бедных і заможных пластоў насельніцтва?

## Зброя ўсходніх славян

Зброя была абавязковым спадарожнікам чалавека ў родаплемянную эпоху. Усе дарослыя мужчыны племені ўдзельнічалі ў апалчэнні, адбіваючы напады ворагаў, захопліваючы новыя землі для пасялення або выступаючы з рабаўніцкімі набегамі. Зброя выкарыстоўвалася на паляванні, а некаторыя яе віды (сякера) і ў гаспадарчых работах. Самай каштоўнай баявой зброяй Сярэдневякоўя быў **меч**. Аднак у дачыненні да перадддзяржаўнага перыяду ў гісторыі ўсходніх славян мячы археолагамі не знойдзены. Меч

стаў своеасаблівай ваеннай эмблемай Русі. Мячы прыкладна аднолькавага тыпу ў IX—X стст. былі распаўсюджаны па ўсёй Еўропе, але больш за ўсё іх знойдзена ў Нарвегіі. Мабыць, менавіта са Скандынавіі мячы трапілі на Русь. У большасці выпадкаў яны знойдзены ў курганных пахаваннях дружыннікаў. Аб тым значэнні, якое надавалі дружыннікі сваім мячам, сведчыць зафіксаваная ў руска-візантыйскім дагаворы язычніцкая клятва на мячы. Аднак асноўнай зброяй славян спецыялісты прызнаюць **кап'ё** (дзіду): не кожны воін меў меч, але без кап'я ён не мог абысціся. Коп'і называюць самым масавым і дэмакратычным відам зброі.

У адрозненне ад мяча кап'ё было значна таннейшым, хоць і не меней важным. Коп'і выкарыстоўваліся як для кідання, так і для рукапашнага бою. Былі ў славян і спецыяльныя кідальныя коп'і, на Русі іх звалі суліцамі. Па памерах яны былі чымсьці сярэднім паміж кап'ём і стралой. Славянскія плямёны на тэрыторыі Беларусі карысталіся і такім самым простым відам наступальнай зброі, як лук са стрэламі. Наканечнікі стрэл знойдзены падчас археалагічных даследаванняў. Так, разам з наканечнікамі дзідаў на славянскім гарадзішчы Хотамель знойдзены ўтулкавыя і тронкавыя стрэлы. Звыклай для славян прыладай працы і ў той жа час зброяй была **сякера**. Зрэшты, спецыялісты настойваюць на неабходнасці адрозніваць баявую сякеру ад рабочай. Крытэрыямі для гэтага служаць яе памеры, форма і ўпрыгажэнні. Коп'і і лук шырока выкарыстоўваліся простымі абшчыннікамі, між тым баявыя сякеры былі прывілеем больш заможных людзей, у тым ліку княжацкіх дружыннікаў. Акрамя таго, у бітве славяне выкарыстоўвалі булавы, кісцені, кінжалы і нажы. У дадзяржаўны перыяд баявая зброя была яшчэ зусім недасканалай, простым было і засцерагальнае ўзбраенне славян. Безумоўна, выкарыстоўваліся драўляныя шчыты. Вельмі рэдкім у славян да стварэння дзяржавы было нацельнае засцерагальнае ўзбраенне. Аднак на тэрыторыі Беларусі на гарадзішчы Хотамель былі знойдзены тры пласціны ад панцыра. Гэты панцыр належаў, верагодна, багатаму дружынніку. Найбуйнейшым спецыялістам па ўзбраенні, вайсковай справе, фартыфікацыі (пабудове абарончых збудаванняў) Старажытнай Русі з'яўляецца доктар гістарычных навук, прафесар **Анатолій Мікалаевіч Кірпічнікаў** (нарадз. у 1929 г.). Шмат гадоў гэты навуковец кіруе раскопкамі старажытнага рускага горада — Старой Ладагі. Пры вывучэнні ўзбраення ўсходніх славян А. М. Кірпічнікаў шырока выкарыстоўвае археалагічныя матэрыялы з тэрыторыі Беларусі. Прымаў ён удзел і ў раскопках беларускіх гарадоў — Полацка і Навагрудка.




*Кирпичников, А. Н. Древнерусское оружие / А. Н. Кирпичников. — Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. — М.; Л.: Наука, 1966.*
*Кирпичников, А. Н. Древнерусское оружие / А. Н. Кирпичников. — Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX—XIII вв. — М.; Л.: Наука, 1966.*

? **1.** Назавіце паказаную на малюнках зброю.
**2.** Назавіце зброю, якая магла выкарыстоўвацца і не ў ваеннай справе.
**3.** Якая зброя адносіцца да рэжучай, а якая — да колючай?
✧ **4.** Як вы думаеце, адкуль славяне бралі зброю?
✧ **5.** Як вы думаеце, якая зброя была найбольш эфектыўнай у баі?

# Раздзел III

# СЯРЭДНЕВЯКОВЫЯ КНЯСТВЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ Ў IX — СЯРЭДЗІНЕ XIII ст.

## § 15. Дзяржаўнасць усходніх славян

### «Аповесць мінулых гадоў» аб запрашэнні варагаў

У «Аповесці мінулых гадоў» сярод першых датаваных падзей гісторыі ўсходніх славян змешчаны расказ аб складаных адносінах насельніцтва Паўночна-Усходняй Еўропы з варагамі. **Варагамі** летапіс называе выхадцаў са Скандынавіі. Археолагамі ўстаноўлена, што гэта былі галоўным чынам шведы і, у меншай ступені, нарвежцы. Пранікненне скандынаваў (або нарманаў — «жыхароў поўначы») ва Усходнюю Еўропу пачалося з сярэдзіны VIII ст. Менавіта тады імі быў заснаваны горад Ладага (пасля перанясення горада ў пачатку XVIII ст. Пятром I на новае месца яго сталі зваць Старой Ладагай). Скандынавы імкнуліся знайсці найбольш кароткі водны шлях у краіны Усходу. Так быў адкрыты Вялікі Волжскі шлях. Але не толькі з гандлёвымі мэтамі прыходзілі скандынавы ва Усходнюю Еўропу. Мела месца перасяленне (каланізацыя) скандынаваў. Акрамя таго, як і ў Заходняй Еўропе (дзе яны трымалі ў страху ўсё насельніцтва прыбярэжных раёнаў), скандынавы прыходзілі сюды з рабаўніцкімі мэтамі. Але славяне яшчэ не пабудавалі багатых гарадоў, цэркваў і манастыроў, якія можна было абрабаваць. Варагі вымушаны былі ўступаць у больш цесныя адносіны з мясцовым насельніцтвам. З часам некаторыя з прадпрымальных скандынаўскіх конунгаў аказаліся на чале ўсходнеславянскіх перадддзяржаўных утварэнняў: Рурык — на поўначы, Аскольд і Дзір — на поўдні (у Сярэднім Падняпроўі). Як гэта адбылося? У «Аповесці мінулых гадоў» прыводзіцца расказ аб добраахвотным запрашэнні правіцеля з варагаў-русі. Меркаванні гісторыкаў на гэты конт раздзяліліся: адны схільны цалкам давяраць летапісу, другія даследчыкі лічаць, што мела месца заваяванне славян варагамі. І гэта быццам бы пацвярджаюць даныя археалогіі: якраз у 860-я гг. адзначаецца пажар на ўсіх гарадзішчах поўначы будучай Русі. Між тым для некаторых гісторыкаў летапісны расказ паслужыў доказам няздольнасці славян самастойна стварыць дзяржаўную арганізацыю. Ня-

мецкі гісторык і філолаг А. Л. Шлёцар, які працаваў у Расіі, прама сцвярджаў: «Скандынавы, або нарманы, у шырокім сэнсе заснавалі рускую дзяржаву». Супраць падобных поглядаў (гэта і ёсць «**нарманская тэорыя**») выступілі патрыятычна настроеныя рускія навукоўцы (сярод іх першым — М. В. Ламаносаў). Але барацьба паміж **нарманістамі** і **антынарманістамі** часта выходзіла за рамкі чыста навуковай спрэчкі. Антынарманісты ўпадалі ў другую крайнасць: яны рашуча адмаўлялі скандынаўскае паходжанне правячай на Русі дынастыі і этноніма «русь» (этнонім — назва народа, харонім — назва мясцовасці, у нашым выпадку — Русь) і наогул які-небудзь уплыў скандынаваў на ўтварэнне Старажытнарускай дзяржавы. У савецкі перыяд антынарманізм быў афіцыйна замацаваны. У той жа час савецкія гісторыкі зрабілі важныя высновы аб тым, што: 1) дзяржаўнасць не можа быць прыўнесена звонку (неабходны доўгі падрыхтоўчы працэс у самім грамадстве); 2) скандынавы і ўсходнія славяне ў IX ст. знаходзіліся на аднолькавай стадыі развіцця. Сучасныя гісторыкі імкнуцца больш узважана, з апорай на ўвесь комплекс пісьмовых і археалагічных крыніц, падыходзіць да «нарманскай праблемы».

У год 6367 [859]. Варагі з замор'я спаганялі даніну з чудзі, і са славен, і з меры, і з крывічоў. А хазары бралі з палян, і з севяран, і з вяцічаў па белай веверыцы ад дыму.

У год 6368 [860].

У год 6369 [861].

У год 6370 [862]. Выгналі варагаў за мора, і не далі ім даніны, і пачалі самі сабою валодаць, і не было сярод іх праўды, і паўстаў род на род, і была ў іх усобіца, і сталі ваяваць адзін з другім. І сказалі сабе: «Пашукаем сабе князя, які бы валодаў намі і судзіў па праве». І пайшлі за мора да варагаў, да русі. Тыя варагі зваліся руссю, як другія завуцца шведы, а другія нарманы і англы, а яшчэ другія готландцы, — вось так і гэтыя. Сказалі русі чудзь, славене, крывічы і весь: «Зямля наша вялікая і багатая, а парадку ў ёй няма. Прыходзьце княжыць і валодаць намі». І выбраліся трое братоў са сваімі

родамі, і ўзялі з сабою ўсю русь, і прыйшлі, і сеў старэйшы, Рурык, у Ноўгарадзе, а другі, Сінеус, — на Белавозеры, а трэці, Трувор, — у Ізборску. І ад тых варагаў празвалася Руская зямля... Праз два ж гады памерлі Сінеус і брат яго Трувор. І прыняў усю ўладу адзін Рурык, і стаў раздаваць мужам сваім гарады — таму Полацк, гэтаму Растоў, другому Белавозера.

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 149.*

**1.** Якія плямёны выплачвалі даніну варагам, а потым выступілі з ініцыятывай запрашэння да сябе правіцеля з варагаў?

**2.** Хто, на думку летапісца, называўся ў той час «руссю»?

**3.** Якія гарады былі падначалены Рурыку?

✧ **4.** Чаму правіцель быў запрошаны з асяроддзя варагаў?

✧ **5.** Як вы думаеце, з-за чаго маглі ўзнікнуць усобіцы ў славянскіх плямён?

✧ **6.** Што азначала раздача Рурыкам гарадоў «мужам сваім»?

## Нараджэнне агульнарускай дзяржаўнасці

Меркаванні даследчыкаў раздзяліліся і па пытанні аб тым, дзе — на паўночнай (будучая Наўгародчына) або на паўднёвай (Сярэдняе Падняпроўе — Кіеўшчына) тэрыторыі рассялення ўсходніх славян зарадзілася старажытнаруская дзяржаўнасць. На карысць прыхільнікаў першага меркавання, як быццам, сведчаць даныя летапісу. Прыхільнікі ж другога меркавання адзначаюць апераджальнае гаспадарчае развіццё паўднёвага рэгіёна з яго даўнімі традыцыямі земляробства. Адначасова звяртаецца ўвага на слабае гаспадарчае развіццё паўночнага рэгіёна будучай Русі: дрэнныя глебы не дазвалялі дасягнуць тут істотных поспехаў у земляробстве. Да таго ж даследчыкі ўказваюць на шэраг непаразуменняў у летапісным расказе аб запрашэнні варагаў: у той час яшчэ не існавала Ноўгарада, Белавозера, Растова. Значыць, Рурык проста не мог быць запрошаны ў Ноўгарад (на ролю цэнтра «Паўночнай канфедэрацыі плямён» некаторыя гісторыкі высоўва-

юць Ладагу). На карысць Поўначы прыводзіцца яшчэ такі доказ, як удзел паўночнага рэгіёна ў міжнародным гандлі. Менавіта тут сустракаліся Вялікі Волжскі шлях і шлях «з вараг у грэкі». Відаць, праблема «Поўдзень або Поўнач» ніколі не будзе вырашана, і абодва рэгіёны адыгралі, хутчэй за ўсё, роўную ролю ў стварэнні Старажытнарускай дзяржавы. Тым не менш традыцыйна за вядучую ролю паўднёвага цэнтра фарміравання дзяржаўнасці ва ўсходніх славян выступаюць украінскія гісторыкі. Адзін з іх — доктар гістарычных навук, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны **Мікалай Фёдаравіч Катляр** (нарадз. у 1932 г.). Ужо шмат гадоў гэты навуковец займаецца праблемамі развіцця старажытнарускай дзяржаўнасці, асаблівасцей палітычнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця Кіеўскай і Галіцка-Валынскай зямель. Доктарская дысертацыя М. Ф. Катляра была прысвечана гісторыі грашовага рынку Украіны IX—XVIII стст.

Прапаноўваючы лічыць часам нараджэння першай усходнеславянскай (яшчэ не агульнарускай!) дзяржавы сярэдзіну IX ст., не магу пярэчыць супраць таго, што сістэматычныя звесткі аб нараджэнні дзяржаўнасці на Русі пачынаюцца ў летапісе з канца IX ст. Умацаванне Алега ў Кіеве стала вырашальным крокам на шляху дзяржаўнага будаўніцтва ва Усходняй Еўропе. Рускі Поўнач быў аб'яднаны з рускім жа Поўднем, а Кіеў абвешчаны сталіцай ужо Старажытнарускай дзяржавы — у вусны Алега летапісец уклаў знамянальныя словы: «Се буди мати градом русьским».

Пасля звестак аб будаўніцтве Алегам гарадоў і ўстанаўленні князем данін «Аповесць мінулых гадоў» малюе карціну паслядоўнага распаўсюджання цэнтральнай улады на землі племянных княжанняў: «Поча Олег воевати деревляны и, примучив а, имаше на них дань по черне куне». Далей надышла чарга севяран і радзімічаў. Спачатку ў склад дзяржавы ўвайшлі паўднёва-славянскія (за выключэннем радзімічскага) племянныя княжанні. Стара-

жытнаруская дзяржаўнасць у IX — першай палове X ст. фарміравалася ў асноўным на поўдні.

Землі племянных княжанняў, далучаных да Кіева, адразу ж адзяржаўліваліся, галоўным чынам, шляхам распаўсюджання на іх сістэм збірання даніны, судаводства і адміністрацыі. Неўзабаве пасля ўсталявання ў Кіеве Алег абклаў данінай драўлян, пасля северан і радзімічаў... А затым летапісец на многія гады забывае пра Алега і ўспамінае аб ім у апісанні падзей паходу на грэкаў 907 г. З пераліку плямён, якія прынялі ўдзел у паходзе, даведваемся, што ў склад дзяржавы к гэтаму часу ўвайшлі яшчэ княжанні вяцічаў, харватаў і дулебаў.

У расказах летапісцаў аб падначаленні племянных княжанняў кіеўскімі ўладарамі першае месца займае клопат апошніх аб збіранні даніны, імкненне перашкодзіць яе збіранню суседзямі. Гэтая палітыка праводзіцца, паводле прамых сведчанняў летапісу, пачынаючы з Алега. Аднак яшчэ пры княжанні Аскольда і Дзіра ў Кіеве паляне вызваліліся ад выплаты даніны хазарам, такім чынам, даніна дасталася новым князям... Першачарговае імкненне абкласці данінай толькі што далучаныя да Кіева племянныя княжанні прасочваецца і ў дзейнасці Ігара. Пры гэтым памер даніны выкарыстоўваўся князем як сродак эканамічнага і палітычнага ціску на непакорлівых: «Иде Игорь на деревляны и, победив а, возложи на ня дань болши Олгови». Разам з тым з першых гадоў існавання Старажытнарускай дзяржавы даніна доўга заставалася, як правіла, ненармаванай.

*Котляр, Н. Ф. Древнерусская государственность / Н. Ф. Котляр. — СПб: Алетейя, 1998. — С. 48—50.*

? **1.** Якая падзея стала вырашальным крокам у справе стварэння Старажытнарускай дзяржавы?

**2.** Якія ўсходнеславянскія «плямёны» першымі ўвайшлі ў склад Старажытнарускай дзяржавы?

**3.** Якім чынам адбывалася адзяржаўленне падначаленых Кіеву земель?

✧ **4.** Якія прыкметы дзяржаўнасці ўкраінскі гісторык М. Ф. Катляр лічыць найбольш важнымі?

## Рагвалод — валадар Полацкага княства

Акрамя кароткай летапіснай фразы, аб Рагвалодзе больш нічога невядома. У «Аповесці мінулых гадоў» пад 980 годам адзначаецца: «Бе бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья, имяше власть свою в Полотъске». Менавіта гэтая фраза дае падставу зрабіць вывад аб тым, што Рагвалод быў адным са скандынаўскіх конунгаў, такіх як Рурык або Аскольд і Дзір. Паказальна, што ў скандынаўскіх сагах захаваліся звесткі аб праўленні ў Полацку скандынава Эймунда. Слова «власть» у старажытнарускай мове азначала і «воласть». На пытанне, хто надзяліў Рагвалода Полацкай «воласцю», летапіс не дае адказу. Радзівілаўскі летапіс адзначае, што Рагвалод «держащу и владеющу и княжащю Полтескою» пад 1128 г. Даследчыкі мяркуюць, што Рагвалод аказаўся ў Полацку (захапіў, быў надзелены, запрошаны) у 60-х гг. X ст. У гэты час Кіеў не мог трывала ўтрымліваць пад сваёй уладай усе ўсходнеславянскія «плямёны», паколькі кіеўскі князь Святаслаў Ігаравіч пастаянна знаходзіўся ў паходах — супраць Хазарыі, Балгарыі, Візантыі. Больш таго, Святаслаў нават збіраўся перанесці сталіцу сваёй дзяржавы на Балканы. Як бы то ні было, на некаторы час Полацк атрымаў самастойнасць. У 980 г. Полацк захапіў наўгародскі на той момант князь Уладзімір Святаславіч. Неўзабаве ён стаў і кіеўскім князем, забіўшы рукамі варагаў свайго старэйшага брата Яраполка. Так ненадоўга ўсе ўсходнеславянскія землі апынуліся пад уладай аднаго кіраўніка. Між тым у беларускай гістарыяграфіі ў праўленні Рагвалода прынята шукаць вытокі самастойнай полацкай дзяржаўнасці, якая была адноўлена ў 988 г. у выніку перадачы Полацкай зямлі Ізяславу Уладзіміравічу, маці якога была Рагнеда, дачка Рагвалода. У вядомым творы Вітаўта Чаропкі «Імя ў летапісе» князь Рагвалод называецца прадстаўніком мясцовай знаці, самастойным кіраўніком Полацкай зямлі. **Вітаўт (Віктар) Кузьміч Чаропка** (нарадз. у 1961 г.) з'яўляецца аўтарам шматлікіх артыкулаў па разнастайных праблемах гісторыі Беларусі. Яго

кнігі «Імя ў летапісе» (1994) і «Уладары Вялікага княства» (1996) у жанры гістарычнай біяграфіі расказваюць аб падзеях на тэрыторыі Беларусі з X да XVII ст. Гістарычны раман Вітаўта Чаропкі «Храм без бога» (1992), паводле газеты «Наша Ніва», увайшоў у спіс «Сто беларускіх кніг XX стагоддзя».

Рагвалод стаў першым, чыё імя не загінула ў тоўшчы стагоддзяў. Летапіс паказвае яго самастойным валадаром Полацкага княства: «Роговолоду державщю и владеющу и княжащю Полотьскую землю». Хто ж такі быў Рагвалод? У летапісе сказана, што прыйшоў ён «з-за мора, имяше свою волость в Полотьске». Нельга пагадзіцца з тымі гісторыкамі, якія лічылі (і дагэтуль той-сёй лічыць), што Рагвалод быў нарманам, які падначаліў сваёй уладзе Полацк. Адно славянскае імя князя абвяргае іх сцверджанні. Яно сустракалася ў чэхаў, дзе, як вядома, нарманаў не было. Славянскім з'яўляецца і імя Рагнеды. Тут назіраем старажытны славянскі звычай (дарэчы, пашыраны і ў старажытнай Германіі) даваць дзецям імя, у якім гучала б для азначэння сваяцтва частка імя бацькоў. Так што імя князёўны вытворчае ад імя Рагвалода. Сімвалічнае значэнне апошняга імя магло ўказваць на тое, што яго носьбіт з'яўляўся «валадаром рогу». У паганстве рог быў сімвалам зямной урадлівасці, багацця (нагадаем пазнейшае пераасэнсаванне рога ў беларускай казцы «З рога ўсяго многа»). Калі ўлічыць гэта, дык імя Рагвалод можна растлумачыць як валадар багацця, багаты і шчодры чалавек. Ну, а ўладар Полацкай зямлі, вядома, не быў жабраком.

*Чаропка, В. Імя ў летапісе / Вітаўт Чаропка. — Мінск: Полымя, 1994. — С. 11—12.*

?

**1.** Што вядома з летапісаў пра Рагвалода?
**2.** Якія доказы прыводзіць беларускі пісьменнік В. Чаропка на карысць славянскага паходжання Рагвалода?

**3.** Што азначае імя полацкага ўладара?

✧ **4.** Ці дастаткова важкія доказы прыводзіць В. Чаропка, каб адмовіцца ад прамога ўказання летапісу аб іншаземным паходжанні Рагвалода?

## Паданне пра Рагнеду

Рагнедзе летапісы надалі больш увагі, чым яе бацьку Рагвалоду. У «Аповесці мінулых гадоў» утрымліваецца расказ аб сватаўстве да яе Уладзіміра Святаславіча, а ў пазнейшых летапісных зводах (Лаўрэнцьеўскім і Радзівілаўскім) — падданне аб замаху Рагнеды на свайго мужа. Паведамляе летапіс і аб смерці Рагнеды ў 1000 г. Больш позні Цвярскі летапіс дадае, што перад смерцю княгіня прыняла пострыг пад імем Анастасіі (праўда, гэтаму паведамленню гісторыкі не схільны давяраць). Мала знойдзецца жанчын у старажытнарускай гісторыі, аб якіх маецца столькі інфармацыі. Аб вельмі важнай для гісторыі Беларусі падзеі — вылучэнні Полацкай зямлі сыну Рагнеды і Уладзіміра Ізяславу — «Аповесць мінулых гадоў» узгадвае пад 988 г. Дадзенае летапіснае паведамленне ўяўляе сабой сухі пералік сыноў Уладзіміра і гарадоў, якімі іх надзяліў бацька. І толькі ў позніх летапісах пад 1128 г. з'яўляецца расказ аб акалічнасцях, якія папярэднічалі перадачы Ізяславу горада ў Полацкай зямлі. Запіс гэтага паддання, які, мабыць, доўгі час перадаваўся ў вуснай форме, быў абумоўлены жаданнем летапісца растлумачыць прычыны варожасці паміж полацкімі і кіеўскімі князямі. У наступным (1129) годзе кіеўскі князь Мсціслаў Вялікі выслаў полацкіх князёў у Візантыю. Асноўныя вехі ў жыцці Рагнеды паспрабаваў рэканструяваць у сваёй кнізе «Таямніцы полацкай гісторыі» вядомы беларускі гісторык, пісьменнік **Уладзімір Аляксеевіч Арлоў** (нарадз. у 1953 г.) — аўтар двух дзясяткаў кніг прозы, паэзіі, гістарычных нарысаў, эсэ. Творы У. Арлова перакладзены на 25 моў, ён з'яўляецца аўтарам сцэнарыяў шэрага навукова-дакументальных фільмаў (сярод іх: «Ефрасіння Полацкая», «Полацкія лабірынты», «Сімяон Полацкі»). У 1991 г. «за ўклад у распрацоўку тэмы гістарычнага мінулага Беларусі ў літаратуры» У. А. Арлоў быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Рагнеда нарадзіла ад Уладзіміра сыноў Ізяслава, Яраслава (яго потым назавуць Мудрым), Мсціслава і дачок Прадславу і Праміславу. Князь бываў у Кіеве наездамі, у Прадславіна заяўляўся зусім рэдка.

Бавячыся з малымі, Рагвалодаўна бясконца вярталася думкамі на паняволеную радзіму.

Уладзімір, безумоўна, мае заслугі перад Руссю, аднак для палачан ён назаўсёды застанецца захопнікам і забойцам. Як жа павінна была ставіцца да яго Рагнеда, якую ён ударамі скрываўленага мяча пакінуў адну-аднюткую на свеце, а потым зневажаў як жонку, месяцамі не пераведваючы яе і дзяцей? У княгінінай душы выспявала прага помсты.

Дадзім слова летапісцу: «Аднаго разу, калі Уладзімір прыйшоў да яе і заснуў, яна наважылася зарэзаць яго. І надарылася яму ў тую хвілю прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: «Ты бацьку майго забіў і зямлю ягоную паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцем». І загадаў ёй князь прыбрацца па-царску, як перад шлюбам, і сесці ў хораме на белым ложы, а ён прыйдзе і заб'е яе. Яна па словах мужавых і зрабіла. І дала ў рукі сыну свайму Ізяславу аголены меч і навучыла: «Як зойдзе твой бацька, скажы яму: не думай, што ты адзін тут». І ўчыніў так Ізяслаў. Уладзімір жа прамовіў: «А хто ведаў, што ты тут». І апусціў ён меч і, склікаўшы баяраў, расказаў ім усё. Яны ж парадзілі: «Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй з сынам сваім». І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў горад гэты Ізяслаўлем. І з таго часу ўзнімаюць меч Рагвалодавы ўнукі супраць унукаў Яраслававых».

Рагвалодаў унук Ізяслаў меў тады ад нараджэння гадоў сем, Рагнедзе было трохі болей за дваццаць. Яраслававы ўнукі (нашчадкі князя Яраслава Мудрага) падымаць меч на полацкіх сваякоў яшчэ не маглі, бо не нарадзіліся. Праўда, ад гэтага двум парасткам спляжанага роду было не лягчэй. Рагне-

ду з сынам чакала невядомае, небяспечнае ад мужавай няміласці жыццё на крывіцка-дрыгавіцкім памежжы, дзе стаяла сярод лясоў маленькае драўлянае Заслаўе.

Уладзімір неўзабаве абвянчаўся з грэцкаю прынцэсаю Ганнай, пасек над Дняпром паганскія стоды і ўзяўся прыводзіць да веры ў Хрыста падуладныя землі. Перад вянчаннем князь зазнаў багата клопату, бо, зрабіўшыся хрысціянінам, мусіў неяк пазбавіцца ранейшых законных жонак, не кажучы ўжо пра сотні наложніц. Дзякуючы новай веры, насельніцы велікакняжых гарэмаў павярталіся дахаты, а жонак аддалі замуж за знатнейшых дружыннікаў. З Рагнедаю было складаней, бо яна, у адрозненне ад іншых, паходзіла з княскага роду. Летапісы паведамляюць, быццам Уладзімір прапанаваў ёй выйсці за аднаго са сваіх баяр, ды ганарлівая княгіня вырашыла лепей прысвяціць сябе Хрысту і стала першаю на ўсходнеславянскіх землях манашкаю, прыняўшы імя Анастасія. Магло быць і іначай, як рабілася ў такіх выпадках у Візантыі: Рагнеду пастрыглі ў манастыр, не пытаючы яе згоды, а малога Ізяслава павезлі ў Полацк.

Лёс адмераў чарніцы Анастасіі яшчэ дванаццаць гадоў жыцця. Яны праміnуць у келлі бясконцаю чарадою аднолькавых дзён — без дзяцей, без улюбёнага сына-заступніка, у растанні з роднай зямлёй. Недзе там, у Заслаўі, яе і пахавалі. Будзеце ехаць праз старажытны Ізяслаўль-Заслаўе (гэта чыгуначная станцыя Беларусь), паглядзіце ў акно, успомніце, што тут знайшла апошні спачын выратавальніца полацкай княжай дынастыі. Праз гарадок плывуць у Свіслач дзве рачулкі з адметнымі гістарычнымі імёнамі — Княгінька і Чарніца. На пачатку гэтага стагоддзя

заслаўцы яшчэ называлі ўзвышша па-над Чарніцаю Чорнай гарою і апавядалі, што на ёй і жыла Рагнеда.

*Арлоў, У. Таямніцы полацкай гісторыі / Уладзімір Арлоў. — Мінск: Беларусь, 1994. — С. 32—34.*

?

**1.** Якія ж «заслугі перад Руссю» мае кіеўскі князь Уладзімір?

**2.** Які быў вынік няўдалага замаху Рагнеды на свайго мужа?

**3.** Чаму Рагнеда вымушана была прыняць пострыг?

**4.** Як у сучасным Заслаўі захавалася памяць аб Рагнедзе?

✧ **5.** Падумайце, ці магла на самай справе Рагнеда — дачка скандынаўскага конунга — лічыць Полацк сваёй радзімай?

✧ **6.** Ці можна лічыць, што пасля апісаных падзей была адноўлена незалежнасць Полацкага княства?

## Замах Рагнеды на Уладзіміра. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу

Ад сярэдневяковага перыяду гісторыі ўсходніх славян захавалася зусім няшмат крыніц. Таму ў сваіх даследаваннях гісторыкі імкнуцца максімальна выкарыстаць любыя магчымасці для рэканструкцыі мінулага нашых продкаў, не абмяжоўваючыся толькі пісьмовымі крыніцамі. Так, для вывучэння побыту, паўсядзённага жыцця, падрабязнасцей тых або іншых падзей выкарыстоўваецца і такая ўнікальная крыніца, як **кніжныя мініяцюры**. Найбольш цікавыя іх узоры дайшлі да нас у складзе **Радзівілаўскага (Кёнігсбергскага) летапісу**, даведзенага да пачатку XIII ст. Радзівілаўскі летапіс датуецца XV стагоддзем і мае два спісы, адзін з якіх (уласна Радзівілаўскі) змяшчае 618 размаляваных мініяцюр, якія літаральна ілюструюць тэкст. Як тэкст, так і мініяцюры, трапілі ў спіс XV ст. з больш ранняга летапісу XIII ст. Найбуйнейшы спецыяліст па старажытнарускім летапісанні **А. А. Шахматаў** (1864—1920) лічыў, што Радзівілаўскі летапіс узыходзіць да летапіснага зводу Пераяслаўля Суздальскага, складзенага ў 1214—1216 гг. А вось Радзівілаўскі летапіс (віленскі ваявода Януш Радзівіл з'яўляўся яе ўладальнікам у XVII ст.) быў створаны ў канцы XV ст., як мяркуецца, у Смаленску або Полацку. У мініяцюрах знайшлі адлюстраванне самыя розныя

сюжэты старажытнарускай гісторыі: батальныя сцэны, сялянскія паўстанні, народныя святы, бытавыя сцэны, канкрэтныя гістарычныя падзеі. Шэраг мініяцюр мае прамое стаўленне да беларускай гісторыі: «Узяцце Ноўгарада князем Усяславам Полацкім», «Бітва на Нямізе», «Паланенне князя Усяслава Полацкага», «Замах Рагнеды на Уладзіміра» (прадстаўлена ніжэй) і інш. Нагадаем, што ў падданні аб замаху Рагнеды на Уладзіміра летапісец тлумачыць прычыны варожасці нашчадкаў Рагвалода да нашчадкаў Яраслава Мудрага (другі сын Уладзіміра, больш малады за Ізяслава). Дадзенае тлумачэнне нельга прызнаць цалкам справядлівым, зыходзячы хаця б з таго, што як Ізяслаў, так і Яраслаў былі нашчадкамі (унукамі) Рагвалода. «Аповесць мінулых гадоў» сцвярджае, што менавіта Рагнеда была маці Яраслава (у артыкуле пад 1000 г.; шэраг даследчыкаў схільны лічыць гэта пазнейшай рэдакцыяй).



?

1. Назавіце імёны тых, хто адлюстраваны на мініяцюры.
2. Якая падзея адлюстравана на мініяцюры?
3. Як вы думаеце, ці мела месца ў сапраўднасці адлюстраваная на мініяцюры падзея?
4. Падлічыце, колькі гадоў магло быць у той час Ізяславу.

# § 16. Полацкае княства ў IX — XI стст.

## Ісландская «Эймундава сага» аб лёсе Полацка ў пачатку XI ст.

У пачатку XI ст. Полацкае княства знаходзілася пад кіраваннем уласнага князя. Яно падпарадкоўвалася Кіеву толькі з прычыны таго, што там на прастоле сядзеў дзед полацкага князя Брачы-

слава Ізяславіча (1003—1044), які меў мянушку Краснае Сонейка. Не выклікае сумненняў, што ва ўнутранай палітыцы полацкі князь быў цалкам самастойны. Маюцца ўскосныя даныя, што і на міжнароднай арэне Полацкае княства ўспрымалася як незалежная дзяржава. У гэтых адносінах паказальны даныя скандынаўскіх крыніц, а менавіта **«Эймундавай сагі»** (інакш: «Сага пра Эймунда», «Пасма аб Эймундзе»). Яна была запісана ў канцы XIII ст., але, магчыма, складзена была неўзабаве пасля таго, як варажскія наёмнікі вярнуліся дадому ў Швецыю. **Сагі** (у літар. значэнні — «сказ», «тое, што кажуць») — гэта старажытнаскандынаўскія паданні, часта ў вершах, якія было прынята распавядаць нараспеў. Усе яны былі запісаны значна пазней тых падзей, аб якіх апавядаюць («стагоддзе саг» — гэта 930—1030-я гг.), што магло адбіцца на дакладнасці іх зместу. З прычыны многіх акалічнасцей большасць саг аб подзвігах швецкіх і нарвежскіх конунгаў і іншых герояў лепш захаваліся ў Ісландыі, дзе і былі запісаны. Увогуле сагі — даволі спецыфічная крыніца, іх мэтай было не данесці да нашчадкаў рэальны змест тых або іншых гістарычных падзей, а ўславіць іх галоўных дзеючых асоб, зрабіць іх бессмяротнымі. Менавіта таму варта ўлічваць схільнасць аўтараў саг перабольшваць заслугі герояў, прыпісваць ім значныя перамогі і вырашальны ўплыў на падзеі, хаця ў рэчаіснасці роля героя магла быць другараднай. «Эймундава сага» распавядае аб службе наёмных варагаў на чале з конунгам Эймундам спачатку Ярыцлейву (Яраславу Мудраму), а затым Вартыславу (магчыма, Брачыславу Ізяславічу). Калі верыць сазе, то менавіта дзякуючы Эймунду і яго суайчыннікам Яраславу Уладзіміравічу ўдалося выйсці пераможцам з усобіцы, распачатай паміж братамі пасля смерці Уладзіміра Краснае Сонейка. Сага паказвае на Ярыцлейва як на вінаватага ў забойстве (рукамі варагаў) брата Бурыслава, што служыць для некаторых даследчыкаў падставай цалкам перагледзець традыцыйную версію падзей міжусобіцы пасля смерці Уладзіміра (забойства Святаполкам Акаянным братоў Барыса і Глеба). *(Гл.: Филист, Г. М. История «преступлений» Святополка Окаянного / Г. М. Филист. — Минск: Беларусь, 1990. — 156 с.).*

...Затрубілі тады, склікаючы на сход, і было сказана, што Інгігерда княгіня жадае гаварыць з конунгамі і іх дружыннікамі. І калі сабраліся, убачылі ўсе, што Інгігерда княгіня — у дружыне Эймунда конунга і нарманаў. Было абвешчана ад імя Вартыслава конунга, што княгіня будзе ўладкоў-

ваць мір. Яна сказала Ярыцлейву конунгу, што ён будзе трымаць лепшую частку Гардарыкі — гэта Хольмгард, а Вартыслаў — Кэнугард, другое лепшае княства з данямі і паборамі; гэта — напалову больш, чым у яго было дагэтуль. А Палтэскью і вобласць, якая сюды належыць, атрымае Эймунд конунг, і будзе над ёю конунгам, і атрымае ўсе земскія падаткі цалкам, якія сюды належаць, «таму што мы не жадаем, каб ён сышоў з Гардарыкі». Калі Эймунд конунг пакіне пасля сябе спадкаемцаў, то будуць яны пасля яго ў тым княстве. Калі ж ён не пакіне пасля сябе сына, то яно вернецца да тых братоў. Эймунд конунг будзе таксама трымаць у іх абарону краіны і ва ўсёй Гардарыкі, а яны павінны дапамагаць яму ваеннай сілай і падтрымліваць яго. Ярыцлейв конунг будзе над Гардарыкай...

На такую дамову і падзел княстваў пагадзіўся ўвесь народ у краіне і пацвердзіў яго. Эймунд конунг і Інгігерда павінны былі вырашаць усе цяжкія справы. І ўсе паехалі дадому па сваіх княствах. Вартыслаў конунг пражыў не даўжэй за тры зімы, захварэў і памёр, гэта быў конунг, якога любілі як нельга больш. Пасля яго прыняў уладу Ярыцлейв і правіў з тых часоў адзін абодвума княствамі. А Эймунд конунг правіў сваімі і не дажыў да старасці. Ён памёр без спадкаемцаў, і памёр ад хваробы, і гэта была вялікая страта для ўсяго народа ў краіне, таму што не бывала ў Гардарыкі чужынца больш мудрага, чым Эймунд конунг, і пакуль ён трымаў абарону краіны ў Ярыцлейва конунга, не было нападаў на Гардарыку...

*Джаксон, Т. Н. Исландские королевские саги о Восточной Европе (первая половина XI в.) / Т. Н. Джаксон. — М.: Ладомир, 1994. — С. 118—119.*

! **Эймунд** — кіраўнік наёмнікаў-варагаў.
**Інгігерда** — жонка князя Яраслава Уладзіміравіча.
**Вартыслаў** — меркавана, Брачыслаў Ізяславіч.
**Ярыцлейв** — Яраслаў Уладзіміравіч, з 1018 г. — кіеўскі князь.
**Гардарыка** — скандынаўская назва Русі.
**Хольмгард** — Ноўгарад.
**Кэнугард** — Кіеў.
**Палтэскью** — Полацк.

? **1.** Што ў «Эймундавай сазе» сведчыць аб высокім становішчы Полацка ў пачатку XI ст.?
**2.** Як былі размеркаваны землі Старажытнай Русі згодна са сведчаннем сагі?
**3.** Якія абавязкі належала выконваць Эймунду пасля надзялення яго ўладай у Полацку?
✧ **4.** Ці магчыма было ўсталяванне ўлады скандынаўскага конунга ў Полацку ў пачатку XI ст.? Адказ пацвердзіце прыкладам.
✧ **5.** Як вы думаеце, ці на самай справе варагі адыгрывалі такую важную ролю ў старажытнарускім грамадстве?

## Праўленне ў Полацку Брачыслава Ізяславіча

Першыя стагоддзі старажытнарускай гісторыі вельмі дрэнна асветлены летапісамі. У іх былі занесены ў асноўным толькі некаторыя падзеі палітычнай гісторыі (дакладней: узаемаадносіны паміж князямі). Аднак і гэтыя даныя не дазваляюць колькі-небудзь падрабязна вывучыць унутраную палітыку князёў, у шэрагу выпадкаў аказваюцца невысветленымі матывы іх замежнапалітычных акцый. Так, пачатак агрэсіўных дзеянняў Полацка ў гады княжання Брачыслава Ізяславіча (1003—1044) у дачыненні да Ноўгарада, пра што ёсць пэўныя звесткі ў летапісе, здаецца загадкавым. Сваё бачанне зместу палітыкі Брачыслава Ізяславіча прапанаваў расійскі гісторык, археолаг **Леанід Васільевіч Аляксееў** (1921—2008). Шмат у чым жыццё і навуковая дзейнасць гэтага навукоўца была звязана з Беларуссю: некаторы час ён працаваў у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, выкладаў у Магілёўскім педінстытуце. Найбольш важным укладам у вывучэнне гісторыі Беларусі

Л. В. Аляксеева стала выяўленне ім у Ленінградскім архіве фотапласцінак крыжа Ефрасінні Полацкай. У 1955 г. Леанід Васільевіч абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Полацкая зямля ў IX—XIII стст.», яна стала асновай для апублікаванай у 1966 г. манаграфіі (М.: Навука, 1966). У прыведзеным ніжэй урыўку з манаграфіі Аляксеева змешчана спроба рэканструкцыі гісторыі Полацкага княства першай паловы XI ст., у тым ліку з выкарыстаннем ісландскай «Сагі пра Эймунда» (Эйдмунд — памылковае напісанне аўтара).

Адзінаццатае стагоддзе вядома нам, дзякуючы войнам князёў, з летапісных апавяданняў, а таксама некаторых заканадаўчых дакументаў і г. д. Менш мы ведаем аб хрысціянізацыі рускіх зямель, якая ажыццяўлялася ў гэты час. Не прыходзіцца сумнявацца, што гвалтоўнае хрышчэнне Русі не было і не магло быць адначасовым актам. Толькі праз некалькі пакаленняў пасля ўвядзення хрысціянства можна лічыць, што Русь у нейкай ступені была ахрышчана. Працэс хрысціянізацыі, несумненна, быў справай грэчаскіх місіянераў. І вядома, у іх дзеяннях найбольш актыўны ўдзел прымалі князі, якія давалі дружыну для іх аховы, працоўную сілу для разбурэння «кумірніц» і ўзвядзення на тых месцах хрысціянскіх храмаў. Аднак аб усёй гэтай велічэзнай справе, якая ажыццяўлялася ў старажытнарускіх лясах, летапісы маўчаць, і аб усім гэтым прыходзіцца толькі здагадвацца па ўскосных даных.

Дзейнасць полацкіх князёў першай паловы XI ст., можна меркаваць, у значнай ступені была звязана менавіта з гэтым працэсам. І сапраўды: калі Усяслаў Брачыславіч (1044—1101) вялікую частку жыцця правёў у войнах з паўднёварускімі князямі, то яго бацька Брачыслаў... у сваім жыцці амаль не ваяваў (мяркуючы па летапісах). Адсюль можна

зрабіць вывад, што Брачыславу, кіраванне якога выпала на першую палову стагоддзя, прыйшлося ўсе сілы кінуць на хрысціянізацыю насельніцтва, на падначаленне тых абшчын, якія паўсталі супраць. Па яго загадах, мабыць, у полацкіх лясах разбураліся язычніцкія свяцілішчы, знішчаліся ідалы, будаваліся хрысціянскія храмы... Сутыкненне Брачыслава з Яраславам Мудрым адносіцца да 1021 г.

Такім чынам, толькі праз два дзесяцігоддзі пасля пачатку свайго княжання Брачыслаў, магчыма, стаў, нарэшце, настолькі моцны, што прыступіў да ваенных дзеянняў супраць кіеўскіх князёў. Аб'ектам быў Ноўгарад...

Цікава, што на баку Брачыслава ваявалі, відаць, і нарманскія наёмнікі, і падзеі гэтыя знайшлі адлюстраванне ў скандынаўскай сазе, складзенай па вяртанні скандынаўскіх воінаў дадому і запісанай у XII—XIII стст. Нарманы пад камандай нейкага Эйдмунда на працягу трох гадоў служылі ў Яраслава (1016—1019 гг.) і пасля яго перамогі над Святаполкам Акаянным, чымсьці пакрыўджаныя, перакінуліся да ворага Яраслава — Брачыслава. Сага сведчыць, што, жадаючы адпомсціць Яраславу, Эйдмунд угаворвае Брачыслава напасці на Ноўгарад, што і было зроблена, і ў рукі пераможцаў нават трапіла наўгародская князёўна Інгігерда. Разрабаваўшы Ноўгарад, паведамляе сага, варажскія наёмнікі сышлі, пакінуўшы Брачыслава адзін на адзін з грозным ворагам.

Што ж азначае гэты першы дэмарш полацкага князя, што ён меў на мэце? Меркаванняў на гэты конт было шмат. Меў рацыю А. М. Насонаў, які ўбачыў у ім дамаганні эканамічна ўзрастаючага Полацка на ключавыя пазіцыі ў адным з адгаліна-

ванняў Шляху з Варагаў у Грэкі: Віцебск, дзе гэты шлях скрыжоўваўся з Заходне-Дзвінскім, і Усвяцкі волак, які кантраляваў увесь гэты шлях. У Брачыслава былі сувязі з варагамі, ён валодаў шляхам па Дняпры ў Паўднёвую Русь і зараз лічыў, мабыць, сябе досыць моцным, каб прабіць шлях на поўнач да Ноўгарада. Узяўшы гэты горад з дапамогай варагаў, Брачыслаў адышоў, ведаючы, што гэта не застанецца беспакараным. Аднак саюз з полацкім князем быў важны для Яраслава настолькі, што ён усё ж-такі аддаў яму гэтак важныя ключавыя цэнтры на волаках. Набыццё было належным чынам ацэнена полацкім князем, і саюз з Кіевам ім не быў парушаны да самай смерці і выконваўся нават яго сынам Усяславам да 1060 г.

*Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: В 2 кн. / Л. В. Алексеев. — Кн. 2. — М.: Наука, 2006. — С. 5—6.*

?

**1.** Што было, на думку Л. В. Аляксеева, галоўнай турботай князя Брачыслава падчас яго праўлення ў Полацку?

**2.** З-за чаго адбылося сутыкненне Брачыслава і Яраслава Мудрага?

**3.** Хто дапамог Брачыславу захапіць Ноўгарад?

**4.** Чым тлумачыць Л. В. Аляксееў саступку кіеўскага князя князю полацкаму?

✧ **5.** Што ў тэксце сведчыць аб магутнасці Полацкага княства ў час праўлення Брачыслава Ізяславіча?

## «Аповесць мінулых гадоў» аб бітве на Нямізе

Падчас кіравання князя Усяслава Брачыславіча (1044—1101) Полацкая зямля дасягае найвышэйшай магутнасці. Толькі аб'яднаўшы сілы правіцелі іншых старажытнарускіх княстваў — у той час гэта сыны Яраслава Мудрага Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад — здолелі перамагчы Усяслава ў бітве на Нямізе 3 сакавіка 1067 г. Але, мабыць, у полацкага князя яшчэ былі сілы для працягвання

барацьбы. Таму, толькі парушыўшы клятву — крыжацалаванне, Яраславічы захапілі небяспечнага саперніка. Тым не менш вельмі хутка Усяслаў аднавіў сваю ўладу ў Полацку. Бітве на Нямізе надавалі вялікае значэнне сучаснікі гэтай падзеі. Таму ў «Аповесці мінулых гадоў» прыводзіцца нават дакладная дата гэтай бітвы. Акрамя таго, бітва на Нямізе знайшла адлюстраванне ў паэме «Слова пра паход Ігаравы» (як мяркуецца, створана ў 1187 г.).

У год 6575 [1067]. Узняў раць у Полацку Усяслаў, сын Брачыслава, і заняў Ноўгарад. Трое ж Яраславічаў, Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, сабраўшы вояў, пайшлі на Усяслава ў люты мароз. І падышлі да Менска, і мяняне зачыніліся ў горадзе. Браты ж гэтыя ўзялі Менск і перабілі ўсіх мужоў, а жанчын і дзяцей захапілі ў палон і пайшлі да Нямігі, і Усяслаў пайшоў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-і дзень; і быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была сеча жорсткая, і многія палеглі ў ёй, і перамаглі Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, Усяслаў жа ўцёк. Пасля гэтага месяца ліпеня ў 10-ы дзень Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, пацалаваўшы крыж святы Усяславу, сказалі яму: «Прыйдзі да нас, не створым табе зла». Ён жа, спадзеваючыся на іх крыжацалаванне, пераехаў да іх у ладдзі праз Днепр. Калі ж Ізяслаў першым увайшоў у шацёр, схапілі тут Усяслава, на Ршы ля Смаленска, пераступіўшы крыжацалаванне. Ізяслаў жа, прывёўшы Усяслава ў Кіеў, пасадзіў яго ў поруб [турму] з двума сынамі.

*Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996. — С. 210.*

?

**1.** Што ў летапісе сведчыць аб тым, што Усяслаў узначальваў адно з найбольш моцных княстваў Старажытнай Русі?

**2.** Якія былі вынікі бітвы на Нямізе?

3. Чым знамянальны ўспамін у летапісе аб Менску?

✧ 4. Як вы думаеце, што было з Полацкам, пакуль Усяслаў знаходзіўся ў «порубе» (турме) у Кіеве?

## «Слова пра паход Ігаравы» аб князі Усяславе

Самым вядомым літаратурным творам Старажытнай Русі з'яўляецца **«Слова пра паход Ігаравы»**. Дадзены паэтычны твор настолькі незвычайны, што ў шэрага даследчыкаў (нават такіх грунтоўных, як А. А. Зімін) узнікалі сумненні ў яго сапраўднасці. Падставай для гэтага з'яўляецца тая акалічнасць, што арыгінал «Слова» не захаваўся: ён згарэў пры пажары ў Маскве ў 1812 г. Між тым у XIX ст. сталі шырока вядомы прыклады некаторых літаратурных падробак (напрыклад, Краледворскі, Зеленагорскі рукапісы), якія патрабавалі ўважлівага вывучэння новых знаходак сярэдневяковых літаратурных помнікаў. Аўтарства «Слова» прыпісвалі дзеячам XVIII — пачатку XIX ст. А. І. Мусіну-Пушкіну (ён знайшоў гэты твор), М. М. Бантыш-Каменскаму, І. Быкоўскаму, М. М. Карамзіну, Ёзафу Даброўскаму. Найбольш актыўным абаронцам сапраўднасці «Слова» ў нашы дні з'яўляецца глыбокі спецыяліст па старажытнарускай мове **Андрэй Анатольевіч Залізняк** (нарадз. у 1935 г.). Даследчык, які шмат гадоў займаецца вывучэннем «Слова», пераканаўча паказаў, што фальсіфікатар XVIII ст. не мог мець тых лінгвістычных ведаў, якія неабходны для стварэння тэксту гэтага літаратурнага помніка. У сваёй працы «“Слова пра паход Ігаравы”: погляд лінгвіста» акадэмік Расійскай акадэміі навук А. А. Залізняк здолеў аспрэчыць усе лінгвістычныя аргументы супраць сапраўднасці «Слова». Вывады навукоўца катэгарычны: унікальны твор старажытнарускай літаратуры быў створаны ў XII—XIII стст., затым перапісаны ў XV—XVI стст. Між тым сама дыскусія аб сапраўднасці «Слова» спрыяла актывізацыі ўсебаковага вывучэння гэтага твора. Само «Слова» прысвечана адной з малаважных падзей старажытнарускай гісторыі — няўдаламу паходу ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча на качэўнікаў-полаўцаў. У 1185 г. князь Ігар Святаславіч пацярпеў парашэнне ад полаўцаў і трапіў у палон, з якога, праўда, хутка здолеў збегчы. Аднак нараўне з апісаннем акалічнасцей паходу і далейшага лёсу Ігара аўтар звяртаецца і да падзей мінулага і, сярод іншага, успамінае полацкага князя Усяслава Брачыславіча. Некаторыя падрабязнасці (нярэдка загадкавыя) жыцця полацкага князя могуць служыць яшчэ адным аргументам на карысць сапраўднасці «Слова».

На седьмомъ вѣцѣ Трояни връже Всеславъ жребій о дѣвицю себѣ любу.

Тъй клюками подпръся окони и скочи къ граду Кыеву и дотчеся стружіемъ злата стола Кіевскаго.

Скочи отъ нихъ лютымъ звѣремъ въ плъночи изъ Бѣлаграда, обѣсися синѣ мьглѣ,

утръже вазни с три кусы, отвори врата Новуграду, разшибе славу Ярославу,

скочи влъкомъ до Немиги, съду токъ. На Немизѣ снопы стелютъ головами, молотятъ чепи харалужными, на тоцѣ животъ кладутъ, вѣютъ душу отъ тѣла.

Немизѣ кровави брезѣ не бологомъ бяхуть посѣяни, посѣяни костьми Рускихъ сыновъ.

Всеславъ князь людемъ судяше, княземъ грады рядяше, а самъ въ ночь влъкомъ рыскаше: изъ Кыева дорискаше до куръ Тмутороканя, великому Хръсови влъкомъ путь прерыскаше.

Тому въ Полотскѣ позвониша заутренюю рано у Святыя Софеи въ колоколы, а онъ въ Кыевѣ звонъ слыша.

Аще и вѣща душа въ друзѣ тѣлѣ, нъ часто бѣды страдаше.

Тому вѣщей Боянъ и пръвое припѣвку смысленый рече:

«Ни хытру, ни горазду, ни птицю горазду, суда Божіа не минути».

*Слово о плъку Игореве, Игоря сына Святъславля, внука Ольгова // Зализняк, А. А. «Слово о полку Игореве»: взгляд лингвиста / А. А. Зализняк. — 3-е изд., доп. — М.: Рукописные памятники Древней Руси, 2008. — С. 471—472.*

## Тлумачэнне «Слова пра паход Ігаравы» сучаснымі даследчыкамі

Асобныя фразы, выразы і нават словы старажытнарускай паэмы сталі падставай для грунтоўных даследаванняў. У «Слове» прысутнічаюць як элементы кніжнай мовы XII ст., так і гутарковай старажытнарускай мовы, у ім таксама шмат запазычаных (напрыклад, з цюркскай мовы качэўнікаў Стэпу) і знікшых з ужывання слоў. Усё гэта вельмі абцяжарвае разуменне тэксту паэмы, яе пераклад на сучасную мову. Тым не менш «Слова» — непаўторны ўзор старажытнаславянскай паэзіі. Найбольш вядомыя паэтычныя пераклады гэтага старажытнарускага твора належаць: на рускую мову — У. А. Жукоўскаму і М. А. Забалоцкаму, на беларускую — Янку Купале, Рыгору Барадуліну, на ўкраінскую — Івану Франко, на польскую — Юльяну Тувіму. Да ліку найбольш вядомых даследчыкаў «Слова» адносіўся найбуйнейшы спецыяліст па старажытнарускай літаратуры акадэмік **Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў** (1906—1999). Надзвычай складаны быў лёс гэтага навукоўца: ён прайшоў сталінскія лагеры для палітвязняў, працаваў на будаўніцтве Беламорканала, з сям'ёй пражываў у блакадным Ленінградзе. Між тым за сваю навуковую дзейнасць Д. С. Ліхачоў быў узнагароджаны Сталінскай прэміяй, пазней абраны ганаровым доктарам і акадэмікам шэрага замежных устаноў. Працы даследчыка (а гэта больш чым 40 кніг і некалькі сотняў артыкулаў) перакладзены на мноства моў свету. Галоўнае месца ў даследаваннях Д. С. Ліхачова займала вывучэнне «Слова пра паход Ігаравы».

На сёмым (на апошнім) стагоддзі (язычніцкага бога) Траяна (гэта значыць у канцы язычніцкіх часоў) кінуў Усяслаў жэрабя аб дзяўчыне, яму мілай (паспрабаваў шчасця дамагчыся Кіева). Ён хітрасцямі асядлаў коней (якіх запатрабавалі паўстаўшыя кіяўляне) і скокнуў (з падгародняга «поруба», дзе ён сядзеў у зняволенні, наверх) да горада Кіева і крануў дрэўкам кап'я залатога (княжацкага) прастола кіеўскага (здабыў яго ненадоўга не па праве спадчыны і не «кап'ём», гэта значыць не ваеннай сілай, а дрэўкам кап'я — як у сутыкненнях паміж сваімі). Скокнуў ад іх (ад паўстаўшых кіяўлян — сваіх са-

юзнікаў) лютым зверам у поўнач з Белгарада, агорнуты сіняй (начною) імглою, здабыў шчасця; у тры ўдары адчыніў вароты Ноўгарада, разбіў славу (заснавальніка наўгародскіх вольнасцей) Яраслава (Мудрага), скокнуў ваўком да (ракі) Нямігі з Дудутак (пад Ноўгарадам). На Нямізе (не мірна працуюць) — снапы сцелюць з галоў, малоцяць цэпамі булатнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. У Нямігі крывавыя берагі не дабром былі пасеяны — пасеяны касцьмі рускіх сыноў (замест мірнай працы — вайна на Нямізе).

Усяслаў-князь людзям суд чыніў, князям гарады размяркоўваў (пануючы такім чынам і над простымі людзьмі, і над князямі), а сам (не маючы прыстанку) уночы (як тады, калі ўцёк з Белгарада) ваўком рыскаў: з Кіева дарысківаў раней за (спевы) пеўняў да Тмутаракані, вялікаму Хорсу (богу сонца) ваўком шлях перарысківаў (да ўзыходу перабягаючы яму дарогу). Для яго ў (яго прастольным горадзе) Полацку пазванілі да ютрані рана ў святой Сафіі ў званы, а ён у Кіеве (у зняволенні) звон (той вымушаны быў) чуць. Хоць і вешчая душа (была ў яго) у храбрым целе, але часта (ён) ад бед пакутаваў. Яму вешчы Баян даўно (яшчэ) прыпеўку, разумны, сказаў: «Ні хітраму, ні спрытнаму, ні птушцы ўмелай суда божага не абмінуць» (як ні «здатны» быў Усяслаў, але ўсё яго непрыкаянае жыццё было як бы адплатай за яго ўсобіцы).

*Слово о полку Игореве: [Для сред. и ст. школ. возраста / Предисл., дослов. и объясн. пер. с древнерус. Д. Лихачева]. — Минск: Юнацтва, 1981. — С. 74—75.*

? **1.** Аб якой падзеі ў жыцці Усяслава расказваецца ў «Слове пра паход Ігаравы» наступнымі словамі: «крануў дрэўкам (кап'я) залатога (княжацкага) прастола кіеўскага»?

2. Якія яшчэ гістарычныя падзеі ўзгадваюцца ў дадзеным урыўку «Слова»?

3. Што ў тэксце сведчыць аб моцнай уладзе полацкага князя Усяслава?

4. Назавіце гарады, звязаныя з дзейнасцю Усяслава.

✧ 5. Знайдзіце ў «Слове» пацверджанне язычніцкага светапогляду яго аўтара.

# § 17. Полацкая зямля ў XII — сярэдзіне XIII ст.

## Урывак з кнігі У. М. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» Полаччына пасля Усяслава

Калі для Старажытнарускай дзяржавы ў цэлым раздробленасць асабліва выразна выявілася пасля смерці кіеўскага князя Мсціслава Вялікага (1125—1132), то для Полацкай зямлі — ужо пасля смерці Усяслава Брачыславіча (1044—1101). Характэрнай рысай раздробленасці з'яўляліся бясконцыя ўсобіцы паміж князямі — кіраўнікамі асобных земель і валасцей (паняцце «ўдзельныя княствы» непрымальна для дадзенага перыяду і ў крыніцах сустракаецца толькі з сярэдзіны XIV ст.). Ёмістую (але не ва ўсім дакладную) характарыстыку перыяду раздробленасці даў у сваёй працы «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» вядомы беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, акадэмік Акадэміі навук БССР **Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі** (1881—1931). Гэтая праца, упершыню выдадзеная ў 1919 г., шмат гадоў выкарыстоўвалася ў якасці падручніка па гісторыі Беларусі. У. М. Ігнатоўскі абгрунтаваў перыядызацыю гісторыі Беларусі ў адпаведнасці з дзяржаўнай прыналежнасцю беларускіх земель. Навуковец вылучаў полацкі перыяд (IX—XII стст.), калі Полацкае княства фактычна існавала як незалежнае дзяржаўнае ўтварэнне, і перыяд Вялікага Княства Літоўскага (XIII — першая палова XVI ст.), якое лічыў этнічна беларускай дзяржавай.

Пасьля сьмерці чарадзея-князя Полаччына пачынае хіліцца ўсё данізу. Прыгарады Полацка вядуць бязупыннае змаганне з іх галоўным горадам, а таксама і паміж сабою. На чале варожых гарадоў становяцца асобныя князі Рагваложага роду і вя-

дуць змаганне як адзін з другім, так і ўсе разам са старэйшым полацкім князем. У кожным горадзе на вечавых сходах ідзе барацьба паміж багацейшымі і бяднейшымі станамі грамадзянства. Адным словам, на абшарах Полацкай тэрыторыі разгарэлася якаясь палітычная і грамадзянская барацьба. З тых скупых вестак, каторыя прыпадкова сустракаюцца ў летапісах, няма ніякай магчымасці даць поўны і дакладны малюнак гэтай хатняй барацьбы і выясніць усе яе прычыны.

*Ігнатоўскі, У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У. М. Ігнатоўскі. — 5-е выданне. — Мінск: «Беларусь», 1992. — С. 46.*

? **1.** Як можна інакш назваць «хатнюю барацьбу»?
**2.** Паміж кім адбывалася «хатняя барацьба» ў Полацкім княстве ў пачатку XII ст.?
✧ **3.** Ці можна назваць падзеі таго часу «грамадзянскай барацьбой»?
✧ **4.** Што было прычынай міжусобіц у Полацкім княстве ў пачатку XII ст.?

## Паход Мсціслава Вялікага на Полацк у 1127 г.

У пачатку XII ст. Полацкая зямля, якая складалася з некалькіх княстваў-валасцей, уяўляла сабой моцнае, самастойнае дзяржаўнае ўтварэнне. Мабыць, незалежная палітыка полацкіх князёў, якія не падпарадкоўваліся магутнаму кіеўскаму князю Мсціславу Вялікаму, прымусіла апошняга арганізаваць у 1127 г. вялікую аперацыю для захопу Полацка. Полацкая зямля заставалася ў той час амаль што адзінай, у гарадах якой не сядзелі блізкія сваякі і прыяцелі кіеўскага князя (за выключэннем Менска, які Мсціслаў захапіў у 1119 г.). Нават у Чарнігаве аказаўся зяць Мсціслава, хаця ён быў з дынастыі Вольгавічаў, якая варагавала з Манамашычамі (Манамахавічамі). Між тым і полацкі князь Давыд Усяславіч парадніўся з Мсціславам: яго сын Брачыслаў ажаніўся з дачкой ўсёмагутнага правіцеля. Але гэта яго не выратавала. Тым не менш, нягледзячы на відавочную перавагу антыполацкай кааліцыі, Полацк узяты не быў. Мсціслаў задаволіўся толькі зменай правіце-

ля на полацкім прастоле. Расійскі гісторык Л. В. Аляксееў, услед за іншымі даследчыкамі, тлумачыць гэты нечаканы вынік саперніцтвам двух княжацкіх дынастый — **Манамашычаў** (нашчадкаў Уладзіміра Манамаха) і **Вольгавічаў** (ад Алега Святаславіча, празванага «Гарыславічам»), паколькі і тая і другая была не супраць прыбраць да рук багатую Полацкую зямлю. Ужо неўзабаве (у 1129 г., у Л. В. Аляксеева памылкова — 1130 г.) Мсціслаў арганізаваў высылку полацкіх князёў у Візантыю і захапіў Полацкую зямлю. Гэтую гвалтоўную, цалкам незаконную акцыю кіеўскія ўлады паспрабавалі пісьмова абгрунтаваць для сучаснікаў. Менавіта тады ў летапісе з'яўляецца запіс аб спрадвечнай варожасці кіеўскіх і полацкіх князёў, пры гэтым апошнія аб'яўляліся нашчадкамі Рагвалода, гэта значыць, не зусім Рурыкавічамі (у сапраўднасці гэта цалкам беспадстаўна), і што толькі Рурыкавічы маюць права на ўладу ў Рускай зямлі. Цяпер немагчыма дакладна сказаць, якія яшчэ змены былі ўнесены ў летапіс для абгрунтавання тэрытарыяльных прэтэнзій кіеўскіх князёў, пад кантролем якіх адбываўся запіс падзей.

Па колькасці войскаў гэта быў беспрэцэдэнтны паход у гісторыі Полацкай зямлі дамангольскага часу. Асноўныя сілы рухаліся на... Ізяслаўль і Лагожаск. На чале іх былі найбольш моцныя князі — браты вялікага князя, якім былі прыдадзены два больш дробныя князі — гарадзенскі і клецкі. На Лагожаск ішлі дружыны больш дробныя, але яны, відавочна, уяўлялі вялікую сілу, бо складаліся з асабістых войскаў вялікага князя, куран і торкаў. У супрацьлегласць сілам, накіраваным на Ізяслаўль, гэтымі войскамі камандаваў толькі адзін князь — старэйшы сын вялікага князя Ізяслаў. Лагойск быў у той час, відаць, другім горадам на паўднёвых межах Полацкай зямлі; да таго ж узяцце яго адкрывала шлях на Полацк. На Стрэжаў да Барысава рухаліся Вольгавічы, на Друцк — знакаміты пазней Расціслаў Смаленскі. Наўгародцы спазніліся і ад Некалоча вымушаны былі вярнуцца. Размяшчэнне Стрэжава паблізу ад Заходняй Дзвіны ў напрамку

Полацка, відаць, тлумачыць, чаму гэтыя моцныя князі, якія звычайна варагавалі з Манамахавічамі, пагадзіліся ісці на гэты маленькі горад: далейшы рух на Полацк быў спакуслівым.

Чым жа растлумачыць, што кіеўская кааліцыя пры відавочна выйгрышным становішчы пайшла на перамовы з палачанамі і Полацк не быў узяты?.. Прычыны, відаць, крыліся ў супярэчнасцях у асяроддзі нападаючых, якія дзеля поспеху справы запрасілі Вольгавічаў. Гэтым апошнім было выгадна адным узяць Полацк, паблізу якога яны ўжо амаль стаялі. Манамахавічы імкнуліся гэтаму перашкодзіць. Вынікам гэтага стала тое, што Полацк наогул не бралі, але скінулі ненадзейнага полацкага Давыда і на яго месца пасадзілі Рагвалода-Барыса. Аб Рагвалодзе саюзнікаў прасілі палачане, ён, такім чынам, не быў прамым стаўленікам тых або другіх, аднак яму можна было дыктаваць свае ўмовы. Рагвалод-Барыс быў друцкім князем, яму было выгадна сесці на вялікі полацкі стол, хаця б і цаной вызначаных яму ўмоў. На тое, што ўмовы такія сапраўды былі, паказвае летапісны запіс аб тым, што пасля смерці князя полацкага Барыса-Рагвалода (1129 г.), у наступным годзе (1130), «поточи Мьстиславъ Полотьскии князе съ женами и с детьми въ Грекы, еже преступиша хрестьное целование...».

Нам няясна, што адбылося ў гэтыя гады ў Полацкай зямлі, каго з полацкіх князёў запрасіла полацкае веча пасля смерці Рагвалода-Барыса. Мяркуючы па тым, што сярод выгнаных княжацкіх дзяцей знаходзіўся... сын Барыса Рагвалод-Васілій, можна быць упэўненым, што полацкім князем у 1129—1130 гг. быў менавіта ён і менавіта ён стаў

парушаць нейкія пункты крыжацалавання свайго бацькі ад 1127 г., за што і паплаціўся.

*Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. / Л. В. Алексеев. — Кн. 2. — М.: Наука, 2006. — С. 13—14.*

? **1.** Хто ўдзельнічаў у паходзе 1127 г. на Полацк?
**2.** На якія гарады Полацкай зямлі рухаліся войскі, накіраваныя кіеўскім князем Мсціславам?
**3.** Што стала галоўнай прычынай таго, што Полацк не быў узяты войскамі саюзнікаў?
**4.** Хто і ў выніку чаго апынуўся на полацкім прастоле?
✧ **5.** Як вы думаеце, чаму менавіта ў Візантыю былі высланы полацкія князі?

## Вытрымкі з летапісаў аб дзейнасці полацкага веча

*(Прыведзены на старажытнарускай мове і ў перакладзе)*

З другой паловы XI ст. летапісы адзначаюць актывізацыю дзейнасці веча ў старажытнарускіх гарадах. Звязана гэта было з ростам насельніцтва гарадоў і перш за ўсё з павелічэннем колькасці купцоў і рамеснікаў, эканамічная моц якіх хутка ўзрастала. Акрамя таго, адзначаецца і ўздым палітычнага значэння гарадоў. Варта адрозніваць народныя сходы рода-племянной дадзяржаўнай эпохі і сходы насельніцтва гарадоў і воласці ў дзяржаўны перыяд. Нягледзячы на тое, што яны завуцца аднолькава — «веча» — гэта розныя з'явы. Актыўнасць гараджан у перыяд палітычнай раздробленасці стала падставай для некаторых даследчыкаў (І. Я. Фраянаў, А. Ю. Дворнічанка) для вываду аб існаванні ў Старажытнай Русі своеасаблівых «рэспублік, якія прынялі форму горада-дзяржавы». Гэтыя «гарады-дзяржавы» (да іх аднесена не толькі Наўгародская зямля, але і іншыя старажытнарускія землі, найперш Полацкая і Смаленская), паводле меркавання даследчыкаў, выяўляюць падабенства з полісамі антычнага свету. Аднак гэты пункт гледжання не знайшоў шырокай падтрымкі спецыялістаў. Старажытнарускія княствы-землі нельга прызнаць «рэспублікамі», бо ў іх даволі моцнай была ўлада князёў (манархія), якія засяроджвалі ў сваіх руках асноўныя функцыі кіравання. Крыніцы сведчаць, што насельніцтва

гарадоў праяўляла сябе толькі ў экстраардынарных выпадках: у сувязі з няздольнасцю княжацкай улады вырашыць тую альбо іншую праблему, з-за знешніх акалічнасцей, пры адсутнасці князя (напрыклад, у перыяд inter regnum — паміж праўленнем князёў) і інш. Звяртае на сябе ўвагу часты ўдзел насельніцтва Полацка ў XII — пачатку XIII ст. у рашэнні найбольш важных праблем жыцця Полацкай зямлі, перш за ўсё замяшчэнні княжацкай пасады. Звязана гэта было галоўным чынам з нестабільнасцю княжацкай улады ў Полацку: пасля Усяслава Брачыславіча ў полацкай дынастыі не знайшлося гэтакай жа моцнай асобы. Разам з тым ні ў якім разе нельга разглядаць грамадскую актыўнасць насельніцтва Полацка як яго спецыфічную асаблівасць. Гэта аспрэчвае нават летапіс, які прама сведчыць, што насельніцтва збіралася на веча ва ўсіх валасцях Рускай зямлі. Неабходна таксама адзначыць, што веча ў Полацку (у адрозненне ад Ноўгарада Вялікага) не было пастаянна дзеючым органам і не вырашала паўсядзённыя, бягучыя пытанні жыцця зямлі.

Манах Кіева-Пячэрскага манастыра Нестар у «Аповесці мінулых гадоў» даводзіць апісанне падзей да 1113 г. Пазней летапісанне было працягнута, прычым не толькі ў Кіеве, але і ў цэнтрах самастойных княстваў-зямель. Мясцовае летапісанне дасягнула росквіту ў перыяд палітычнай раздробленасці, пры гэтым бо́льшая ўвага звярталася на падзеі, якія адбываліся на месцах, хаця і не быў цалкам згублены агульнарускі характар летапісання. Магчыма, летапісанне вялося і ў Полацку. Да нядаўняга часу лічылася, што фрагменты полацкага летапісання захаваліся ў працы расійскага гісторыка, «апошняга летапісца» **В. М. Тацішчава** (1686—1750). Сучасныя даследчыкі скептычна ставяцца да гэтага. Да ліку найбольш старажытных рускіх летапісаў, якія захаваліся ў арыгінале, адносіцца **Лаўрэнцьеўскі** (захоўваецца ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу). Ён быў створаны ў 1377 г. пры двары суздальска-ніжагародскага князя Дзмітрыя Канстанцінавіча манахам Лаўрэнціем (адгэтуль і назва). Лаўрэнцьеўскі летапіс на самай справе — складаны па саставе звод, які ўключае некалькі папярэдніх яму летапісных помнікаў. Лаўрэнцій з'яўляўся ў асноўным толькі перапісчыкам летапісу. Аповед у Лаўрэнцьеўскім летапісе даводзіцца да 1304 г. У складзе гэтага летапіснага зводу найлепш захавалася «Аповесць мінулых гадоў» (падзеі да 1110 г.), далей змешчаны звесткі галоўным чынам па гісторыі Паўднёвай Русі, а пасля 1164 г. у асноўным распавядаецца аб падзеях Паўночна-Усходняй Русі. У той жа час з поля зроку летапісца не выпалі і падзеі ў іншых рэгіёнах Русі.

В лето 6635 [1127]... Полочане сътснувшеся выгнаша Давыда и с сынами, и поемше Роговолода, идоша къ Мстиславу, просяще и собе князе. И створи волю их Мстиславъ, и поимше Роговолода ведоша и Полотьску.

У год 6635 [1127]... Палачане, змовіўшыся, выгналі Давыда з сынамі і, абраўшы Рагвалода, пайшлі да Мсціслава, просячы таго [Рагвалода] сабе за князя. І пасупіў па іх жаданні Мсціслаў, і, захапіўшы Рагвалода, адвялі яго ў Полацк.

*Лаврентьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 1. — Л.: Изд-во АН СССР, 1928. — С. 206.*

В лето 6640 [1132]. Преставися Мстислав, сын Володимерь, месяца априля въ 14 день. И седе по немь брат его Ярополк княжа Кыеве, людье бы Кыяне послаша по нь. В то же лето... [Ярополк] посла по другаго Мстиславича [по Изяслава] в Полтеск, и приведе и с клятвою [в Переяславль]. Он же оставивъ брата Святополка в Полотьске... Полочане же рекше лишается насъ и выгнаша Святополка, а Василка посадиша Святославича. Видевъ же то Ярополк оуладися с братьею и да Переяславль Вячеславу, а Изяслава выведе с нужею. И тое же зимы даша Изяславу Туров и Пинескъ к Меньску, то бо бяшеть его осталося передьние волости его.

У год 6640 [1132]. Памёр Мсціслаў, сын Уладзіміра, месяца красавіка ў 14 дзень. Пасля яго сеў княжыць у Кіеве яго брат Яраполк, паколькі кіяўляне паслалі за ім. У тым жа годзе... [Яраполк] паслаў за іншым Мсціславічам [Ізяславам] у Полацк і прывёў яго з клятвай [у Пераяслаў]. Ён жа пакінуў брата Святаполка ў Полацку... Палачане ж вырашылі, што не ўлічылі іх жадання і выгналі Святаполка, а Васілька Святаславіча пасадзілі на прастол. Бачыўшы ж гэта, Яраполк дамовіўся з іншымі князямі і даў Пераяслаў Вячаславу, а Ізяслава вымушана вывеў з яго. І той жа зімой даў Ізя-

славу Тураў і Пінск да Менска, паколькі гэта была пакінутая за ім яго ранейшая воласць.

*Лаврентьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 1. — Л.: Изд-во АН СССР, 1928. — С. 208.*

Адным з найбольш старажытных, а таму і найбольш каштоўным, з'яўляецца **Іпацьеўскі летапіс** (складзены, верагодна, у канцы XIII ст.). Яго асноўны спіс датуецца прыкладна 1420 г., у XVII ст. ён знаходзіўся ў Іпацьеўскім манастыры каля Кастрамы, адсюль і паходзіць яго назва. Іпацьеўскі летапіс таксама ў сваёй пачатковай частцы змяшчае «Аповесць мінулых гадоў» (праўда, у ёй прысутнічаюць нешматлікія, але вельмі істотныя адрозненні); затым з 1118 па 1199 г. ідзе тэкст Кіеўскага летапісу XII ст., а падзеі наступнага перыяду (да 1292 г.) былі запазычаны з Галіцка-Валынскага летапісу. Апошні асабліва важны для гісторыі Беларусі, паколькі перадае падзеі, якія датычацца заходніх і паўднёвых зямель Беларусі, а таксама пачатковага этапу ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага. Асноўная частка Іпацьеўскага летапісу ўтрымоўвае вельмі каштоўныя звесткі аб гісторыі Полацка.

Том же лете [1159] светъ золъ свещаша на князя своего полочане, на Ростислава на Глебовича, и тако преступиша хрестное целование... и послаша в таине к Рогъволоду Борисовичю Дрьютьску... и начаша Ростислава звати льстью... [князь] безъ всякого извета еха к ним оу городъ. И се погна изъ города детьскии его, противу ему: «Не езди, княже, вече ти в городе, а дружину ти избиваютъ, а тебе хотятъ яти». И ту воротися опять...

У тым жа годзе [1159] палачане задумалі зло на свайго князя, на Расціслава Глебавіча, і тым парушылі крыжацалаванне... і таемна паслалі да Рагвалода Барысавіча Друцкага... і сталі ліслівасцю клікаць Расціслава... [Князь] без усякага паклёпу паехаў да іх у горад. І прагналі тыя з горада яго дзецкіх, якія яго папярэджвалі: «Не ездзі, князь, веча супраць цябе ў горадзе, а дружыну тваю за-

біваюць, а цябе хочуць схапіць». І так вярнуўся зноў...

*Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 2. — Изд. 2-е. — СПб: Типография М. А. Александрова, 1908. — С. 340—341.*

**Радзівілаўскі летапіс** быў створаны, як мяркуецца, у пачатку XIII ст., захаваліся два яго спісы XV ст. — уласна Радзівілаўскі і Маскоўска-Акадэмічны. Як ужо адзначалася, значную каштоўнасць першаму надаюць змешчаныя ў ім мініяцюры. У XVII ст. гэтым спісам валодаў віленскі ваявода Януш Радзівіл, адсюль і яго назва. Пазней ён захоўваўся ў Кёнігсбергу, адкуль і трапіў у Расію падчас Сямігадовай вайны ў 1758 г. (адсюль другая назва — Кёнігсбергскі летапіс). У аснове Радзівілаўскага летапісу таксама ляжыць «Аповесць мінулых гадоў», якая працягнута пагадовымі запісамі да 1214 г. Спецыялісты прыйшлі да вываду, што гэты летапісны помнік узыходзіць да летапіснага зводу Пераяслаўля Суздальскага (створаны ў 1214—1216 гг.), таму больш грунтоўна перадае падзеі, што адбываліся ў Паўночна-Усходняй Русі.

В лето 6684 [1176]. ...Новгородци бо изначала, и смолняне, и кияне, и полочане, и вся власти, якоже на думу, на вечье сходятся; на что же стареишии здумают, на том же и пригороды станут.

У год 6684 [1176]. ...Бо наўгародцы спрадвеку, як і смаляне, і кіяне, і палачане, і ўсе воласці, як на думу, на веча сходзяцца; пра што старэйшыя вырашаць, тое ж і прыгарады павінны прыняць.

*Радзивилловская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 38. — Л.: Наука, 1989. — С. 142.*

? **1.** Якія пытанні вырашаліся палачанамі на вечы?

**2.** Па якім пытанні найчасцей збіраліся на веча палачане ў XII — пачатку XIII ст.?

**3.** Ці было характэрна існаванне веча толькі для Полацка?

✧ **4.** Як вы думаеце, хто на самай справе прымаў рашэнні на вечы?

## Скандынаўскія крыніцы аб умацаваннях Полацка

Пасля смерці Мсціслава і вяртання з Візантыі полацкіх князёў Полацкая зямля аднаўляе сваю незалежнасць. Пісьмовыя помнікі, створаныя ў далёкіх ад Русі краінах, па-ранейшаму называюць Полацк сярод асноўных старажытнарускіх гарадоў, нараўне з Кіевам, Ноўгарадам і Смаленскам. Полацку прыпісваюць і магутныя ўмацаванні, пераадолець якія было магчыма толькі хітрасцю. Гэта інфармацыя знаходзіцца ў дзвюх зусім розных крыніцах — хронікі **«Дзеі датчан» Саксона Граматыка** і **«Сазе аб Тыдрыку Бернскім»**. Дацкі храніст Саксон, аб жыцці якога не захавалася аніякіх даных, напісаў сваю працу з 16 тамоў на мяжы XII—XIII стст. «Сага аб Тыдрыку Бернскім» была запісана ў Нарвегіі ў XIII ст., але распавядае аб падзеях нашмат больш ранніх (Вялікага перасялення народаў). Полацк у гэты літаратурны твор трапіў, несумненна, дзякуючы аўтару. Найбуйнейшы знаўца скандынаўскіх пісьмовых крыніц, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута ўсеагульнай гісторыі РАН **Таццяна Мікалаеўна Джаксан** у адной са сваіх манаграфій паспрабавала знайсці ў названых творах адлюстраванне рэальнай сітуацыі, звязанай з Полацкам. Як бы то ні было, згадванні аб Полацку ў крыніцах рознага паходжання як аб добра ўмацаваным цэнтры з уласным правіцелем з'яўляюцца сведчаннем яго высокага і незалежнага статуса.

...Саксон Граматык у «Дзеях датчан» (мяжа XII—XIII стст.) апавядае аб узяцці Полацка конунгам Фродам I, сынам Хадзінга, з выкарыстаннем ваеннай хітрасці, бо «сілай горада не перамагчы»:

Толькі з нешматлікімі сведкамі ён таемна адправіўся ў адасобленае месца і загадаў абвясціць паўсюль, што ён памёр, каб тым самым усыпіць ворага. Для пераканаўчасці быў здзейснены абрад пахавання і збудаваны пахавальны курган. Да таго ж ваяры, свядома паказваючы засмучэнне, прайшлі ў працэсіі за нібыта памерлым правадыром. Пачуўшы аб гэтым, цар горада Веспасій, які амаль ужо атрымаў перамогу, так пагрэбаваў абаронай, што, даўшы магчымасць ворагам уварвацца ў горад, быў забіты сярод гульняў і забаў.

...Варта звярнуць увагу на іншую скандынаўскую крыніцу, якая таксама выпадае са стройнай

сукупнасці сачыненняў ісландска-нарвежскай гістарыяграфіі, — «Сагу аб Тыдрыку Бернскім», запісаную каля 1250 г. і заснаваную на германскім гераічным эпасе. Тут маюцца два згадванні Полацка, адно з якіх уяўляе сабой разгорнутае апісанне ўмацаванняў горада:

І зараз знаходзіцца конунг Атыла з ўсім сваім войскам перад тым горадам, які называецца Палтэск'я. Горад гэты так умацаваны, што наўрад ці яны ведаюць зараз, як яны змогуць узяць гэты горад. Там моцная каменная сцяна і высокія вежы. Равы — шырокія і глыбокія, і ў горадзе было вялікае войска, каб абараняць гэты горад...

Натуральна, гэта не гістарычна дакладнае апісанне ўмацаванняў Полацка: разыходжанне з тымі данымі, што атрыманы ў выніку археалагічных даследаванняў, заключаюцца хаця б у тым, што амаль да XVII ст. сцены Верхняга замка былі не каменнымі, а драўлянымі. Але сам факт, што Полацк — адзіны старажытнарускі горад (з дванаццаці), умацаванні якога апісаны ў сагах, вельмі паказальны. Ад сагі, з прычыны яе жанравай спецыфікі, цяжка чакаць звестак аб рэальных асаблівасцях абарончых збудаванняў Полацка, як гэта робіць Г. В. Глазырына. Даследчыца мае рацыю ў тым, што апісанне ўмацаванняў Полацка пабудавана тут «па вызначаным стэрэатыпе, сітуатыўным і лінгвістычным», аднак гэты стэрэатып ніяк не падыходзіць для апісання старажытнарускіх гарадоў. Для старажытнарускіх гарадоў дадзенае апісанне ўнікальна!

Сказанае вышэй дазваляе думаць, што тут крыецца адгалосак рэальнай інфармацыі аб умацаванасці Полацка, і ў першую чаргу — аб тапаграфіі Верхняга замка. Бо нават у XVI ст. Полацк успрымаўся як «горад, які моцна ўмацаваны самою прыродаю...».

Палата працякае з захаду і поўначы ад Верхняга замка, з поўдня бераг крута абрываецца ў бок Заходняй Дзвіны. Летам 1988 г. экспедыцыяй Інстытута гісторыі АН БССР і Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка на Вялікім пасадзе (на паўночны ўсход ад Верхняга замка) былі выяўлены фрагменты каменнага падмурка пасадскай сцяны, датаванага XI—XII стст. Такім чынам, можна меркаваць, што ў XII ст. у Полацку мелася сцяна, якая агароджвала горад з адзінага, неабароненага натуральна, усходняга боку. Так што, можа быць, не так ужо гістарычна няпэўныя звесткі «Сагі аб Тыдрыку Бернскім». Сукупныя даныя сагі і звесткі Саксона Граматыка дазваляюць казаць аб тым уражанні ўмацаванасці і цяжкадаступнасці, якое рабіў Полацк на скандынаваў, якія набліжаліся да яго па Заходняй Дзвіне.

*Джаксон, Т. Н. AUSTR Í GÖRÐUM: Древнерусские топонимы в древнескандинавских источниках. — М.: Языки славянской культуры, 2001. — С. 131—135.*

! **Тапаграфія** — навуковая дысцыпліна, якая вывучае метады адлюстравання геаграфічных аб’ектаў і стварэння на іх аснове карт.

? **1.** Якую хітрасць ужыў скандынаўскі конунг, каб захапіць Полацк, калі верыць інфармацыі Саксона Граматыка?

**2.** Якія ўмацаванні быццам бы меў Полацк згодна з «Сагай аб Тыдрыку Бернскім»?

**3.** Што сведчаць аб умацаваннях Полацка даныя археалогіі?

✧ **4.** Ці можна ўсё ж такі цалкам давяраць інфармацыі скандынаўскіх крыніц аб умацаваннях Полацка?

## § 18. Тураўскае княства

### Паданне пра князя Тура і заснаванне Турава

У гістарычнай навуцы прынята лічыць князя Тура цалкам легендарным персанажам, якога прыдумаў летапісец, каб растлумачыць паходжанне назвы горада Турава і яго жыхароў — тураўцаў. У летапісе ён згадваецца ў тым жа сказе, што і Рагвалод («Бе бо Рогъволодъ пришелъ и-заморья, имяше власть свою в Полотьске, а Туры Турове, от него же и туровци прозвашася»). Гэта дазволіла некаторым даследчыкам аднесці частку інфармацыі, якая датычыцца полацкага князя, да Тура (напрыклад, аб прыходзе «и-замор'я»). Аднак наўрад ці ёсць падставы бачыць у Туры рэальную гістарычную асобу — першага правіцеля Тураўскай зямлі. У даследаванні сучаснага беларускага гісторыка, дацэнта кафедры старажытнага свету і Сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта БДУ **Андрэя Аркадзьевіча Прохарава** пераканаўча паказана, што ў летапіснай звестцы аб Туры знайшлі адлюстраванне старажытныя міфалагічныя паданні, якія ўзыходзяць да часоў індаеўрапейскага адзінства. У шэрага народаў індаеўрапейскага паходжання існавалі міфы аб іх родапачынальніках з блізкімі імёнамі (з асновай taur-, tur-), якія азначалі «дзікі бык». Такое імя атрымлівалі ваяры, якія вылучаліся незвычайнай сілай і нястрымнай адвагай. Міф аб Туры захаваўся на Беларускім Палессі і ў вуснай перадачы.

Гэта было даўно. Там, дзе цяпер Тураў і бліжэйшыя вёскі, былі дрымучыя лясы. Рака называлася тады Струменню. Прыпяці зусім не было. Цякла Струмень там, дзе і цяпер, але была вялікая. Язда таксама была вялікай ракой, цяпер ад яе застаўся невялікі ручай.

У гэты час прыйшоў князь Тур з вялікім войскам. І прыйшоў ён сюды таму, што былі тут вялікія выгоды — звяры, рыба і рознае птаства.

Аднойчы князь Тур лёг спаць на гары. Заснуў ён і бачыць, быццам ляжыць ён на паднятым возе, а кругом яго — гарады. Ён быў тады самы хітры, і не было яму з кім параіцца. Ён зразумеў, што трэба яму будаваць вялікі горад.

Князь Тур пачаў будаваць горад. І быў горад такі вялікі, што і Верасніца, і Рычаў, і Дварэц, і Азяраны, і іншыя вёскі былі пад ім. Будаваў князь Тур гэты горад не абы-як: спачатку насыпаў Тур рачнога пяску тоўсты пласт. Пасля пачаў паліць лес і насыпаў пласт дробнага вугалю ў тры аршыны. Потым надралі і палажылі пласт бярозавай кары; пасля кары насыпалі бітых гаршкоў; пасля — звярыных касцей. У канцы насыпалі пласт лускі з рыбы язя — і ўсё гэта засыпалі зямлёю.

Уязныя вароты былі каля Азяран. Пасярод горада выкапалі калодзеж, які называецца Тур-калодзеж.

*Прохоров, А. А. Князь Тур: история легенды. Сакрализация княжеской власти у славян / А. А. Прохоров. — Минск: БГУ, 2005. — С. 220—221.*

? **1.** Чаму князь Тур, паводле вышэйпрыведзенага падання, «прыйшоў» да ракі Струмень?

**2.** Якімі якасцямі надзяляецца ў паданні князь Тур?

**3.** Чым у паданні даказваецца, што Тураў быў вялікім горадам?

✧ **4.** Чаму князь Тур будаваў горад не абы-як?

## Летапіс аб абароне Турава ў 1157 г.

Доўгі час Тураўская зямля не была самастойнай і з’яўлялася воласцю Кіеўскага княства. Тым не менш значэнне гэтай воласці падкрэслівалася тым, што ёю валодалі будучыя кіеўскія князі (непасрэдна перад тым, як заняць найбольш прэстыжны прастол Старажытнай Русі). Выгаднае геаграфічнае становішча Турава на гандлёвым шляху ў Цэнтральную Еўропу, прагрэс у земляробстве і рамястве ўмацоўвалі эканамічную незалежнасць Тураўскай зямлі. У 1157 г. (у Іпацьеўскім летапісе — 1158 г.) Тураў дамагаецца і палітычнай самастойнасці. Князь Юрый Яраславіч, карыстаючыся моцнай падтрымкай насельніцтва, здолеў замацаваць Тураўскую зямлю ў валоданні сваёй дынастыі. З часам на першае месца сярод цэнтраў валасцей Тураўскай зямлі выходзіць Пінск. Менавіта

гэта дазволіла гісторыкам выкарыстоўваць паняцце «Турава-Пінская зямля». Паводле меркавання вядомага савецкага даследчыка Старажытнай Русі А. М. Насонава, магчыма, менавіта ў Пінску быў створаны арыгінал Іпацьеўскага летапісу (пазней ён быў перапісаны і захаваўся ў двух спісах — уласна Іпацьеўскім і Хлебнікаўскім). Паказальна, што апошнія звесткі Іпацьеўскага летапісу прысвечаны турава-пінскім князям. У апошнім запісе згадваецца пінскі князь Юрый. Яго сын Дзмітрый стаў родапачынальнікам князёў Астрожскіх. Мяркуецца, што ў родзе Астрожскіх і захоўваўся першапачатковы варыянт Іпацьеўскага летапісу. А. М. Насонаў таксама мяркуе, што пры стварэнні летапісу ў Пінску былі перапісаны не проста папярэднія Кіеўскі і Галіцка-Валынскі зводы, але і былі зроблены некаторыя ўстаўкі (гл. *Насонов, А. Н. История русского летописания XI — начала XVIII века. Очерки и исследования / А. Н. Насонов. М.: Наука, 1969. С. 230—231*). У Іпацьеўскім летапісе прыкметна ўвага яго складальніка да падзей у Турава-Пінскай зямлі і яго добразычлівае стаўленне да мясцовых князёў.

У тым жа годзе пайшоў Ізяслаў на Яраславіча да Турава, і з ім пайшоў Яраслаў з Луцка, і Яраполк Андрэевіч, і галіцкая дапамога, і Рурык Расціславіч са смалянамі, і Уладзімір Мсціславіч, паколькі для яго здабывалі Тураў. І палачане, якія прыйшлі да Турава, папалілі сёлы каля яго. І ваявалі берандзеі каля Пінска і за Прыпяццю. І біліся дужа, выходзячы з горада, і шмат бывала параненых. І шмат разоў прасіў Юрый Яраславіч, пасылаючы з горада да Ізяслава, кажучы: «Брат, давай складзём мір з табой». Ізяслаў жа таго не пажадаў, але любым спосабам намерваўся ўзяць пад ім Тураў і Пінск. І стаяў каля горада 10 тыдняў. Быў мор сярод коней. І так нічога не дамогшыся, вярнуўся дадому, не склаўшы з ім міру. І многія пешымі прыйшлі з той вайны.

*Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 2. — Изд. 2-е. — СПб: Типография М. А. Александрова, 1908. — С. 338.*

! **Ізяслаў Давыдавіч** — у той час кіеўскі князь.
**Берандзеі** — качэўнікі цюркскага паходжання на службе ў кіеўскіх князёў.

? **1.** Што ў тэксце сведчыць аб тым, што Тураўскае княства падчас вышэйапісаных падзей было вельмі моцным?
**2.** Якія былі ў гэты час адносіны Тураўскага княства з Полацкім?
✧ **3.** Як вы думаеце, у чым былі прычыны перамогі тураўскага князя Юрыя Яраславіча?

## Палітычнае жыццё Турава-Пінскага княства

Тураўскае княства было створана на тэрыторыі дрыгавіцкага саюза плямён. Паводле летапіснага паведамлення, тут спачатку існавала дрыгавіцкае племянное княжанне. Вядома, вельмі павабна выказаць здагадку, што яно знайшло працяг у Тураўскім княстве. Аднак гэта не так. Несупадзенне тэрыторый княстваў Старажытнай Русі і ўсходнеславянскіх саюзаў плямён было даказана яшчэ ў XIX ст. Княствы дзяржаўнай эпохі былі створаны на прынцыпова іншай аснове — тэрытарыяльнай, а не рода-племянной. Межы княстваў фарміраваліся не ў адпаведнасці з тэрыторыяй рассялення таго або іншага «племені», а па волі вярхоўнай улады, у выніку заваяванняў і г. д. Таксама не заўсёды былыя племянныя цэнтры станавіліся цэнтрамі старажытнарускіх княстваў-земель. Сярод адметных асаблівасцей палітычнага ладу Тураўскай зямлі прынята называць наяўнасць **пасадніка** і **тысяцкага**. Паколькі тураўскія князі пераходзілі на кіеўскі прастол, то замест сябе яны пакідалі пасаднікаў. Гэтая пасада захоўвалася і пазней. Так, у 1146 г. згадваецца пасаднік Жыраслаў. Але падобная з’ява была характэрна і для іншых зямель Старажытнай Русі (менавіта так фарміраваўся інстытут пасадніцтва ў Ноўгарадзе Вялікім). Тысяцкія, як і ў іншых рэгіёнах Русі, узначальвалі гарадское апалчэнне. Абсалютным аўтарытэтам ва ўкраінскай гістарычнай навуцы карыстаюцца працы выдатнага навукоўца, актыўнага грамадскага дзеяча **Міхаіла Сяргеевіча Грушэўскага** (1866—1934). Галоўнай яго працай стала шматтомная «Гісторыя Украіны—Русі», у якой навуковец выказаў свой погляд на паходжанне ўкраінскага народа і месца ўкраінскіх зямель у гісторыі Усходняй Еўропы. М. С. Грушэўскі адводзіў Тураўскаму княству нязначную ролю ў гісторыі Старажытнай Русі. Спецыяльныя работы гісторыі Тураўскай зямлі прысвяціў

брат Міхаіла Сяргеевіча Аляксандр Сяргеевіч Грушэўскі («Очерки истории Туровского княжества». Кіев, 1902; «Пинское Полесье XIV—XVI вв.: исторические очерки». Кіев, 1903).

Аб палітычным жыцці дрыгавічоў да таго моманту, калі тут, у Тураве, пасадзіў Уладзімір свайго сына Святаполка, летапіс не кажа нічога, акрамя той легенды аб князі Туры. Пры ўсёй легендарнасці... яна ўказвае, аднак, на памяць аб тураўскіх князях, што былі да Святаполка. Аб адносінах да дрыгавічоў кіеўскіх князёў перад заняццем Святаполкам пасады ў Тураве не чутна нічога; у свой час я прывёў аргументы на карысць таго, што дрыгавічы павінны былі знаходзіцца ў залежнасці ад Кіева яшчэ ў пачатку X ст. Заняцце пасады ў Тураве адным са старэйшых сыноў Уладзіміра паказвае, што тады гэтая воласць ацэньвалася досыць высока. Праўда, летапісная аповесць пра Уладзіміра распавядае, што ён не любіў Святаполка, «бо той быў ад двух бацькоў, ад Яраполка і ад Уладзіміра», але гэтыя звесткі не вельмі дакладныя (магчыма, рэтраспектыўныя), а выключнае значэнне Турава-Пінскага княства пераканаўча пацвярджаецца тым, што і Яраслаў аддаў яго аднаму са старэйшых сыноў — Ізяславу, так што Тураў у шэрагу прастолаў Яраславічаў стаіць на другім месцы, нават вышэй за Валынь.

Аднак такое выключнае значэнне Турава скончылася са смерцю Яраслава. На працягу наступных ста гадоў... ён лічыцца прыдаткам да Кіева, «кіеўскай воласцю»; хаця, напрыклад, пры падзеле Манамахавых зямель Тураў па старой традыцыі атрымаў усё ж такі адзін са старэйшых сыноў Манамаха (аднак разам з тым і самы няздольны) — Вячаслаў, але значэнне Турава не мае ў сабе ўжо нічога вы-

ключнага. Гэтую зямлю кіеўскія князі выкарысталі для нейтралізацыі розных прэтэнзій: так, адсюль перададзены Святаполку або Манамаху Гарадзенскае і Клецкае княствы; Усевалад Вольгавіч аддаў па дзве дрыгавіцкія воласці сваім сваякам, каб суняць іх прэтэнзіі на чарнігаўскія землі. Толькі пасля смерці Юрыя заканчваецца роля кіеўскай прышчэпкі для Турава-Пінскай зямлі: тут замацаваўся тады ўнук Святаполка Юрый Яраславіч, толькі невядома — або па ўласнай ініцыятыве, або быў запрошаны самімі гараджанамі. Дзе ён быў перад гэтым, нічога не ведаем, але, мяркуючы па тым, што перад гэтым бачым іншага Яраславіча — Вячаслава — у Клецку, можам здагадвацца, што і Яраслаў сядзеў калі не ў Клецку таксама (паколькі Клецк нейкі час, у саракавых гадах, быў у другіх руках — у чарнігаўскіх князёў), то ў нейкай іншай дрыгавіцкай воласці. Як бы там ні было, зразумела толькі, што дрыгавічы з гэтага часу лічылі справу Юрыя сваёй справай і ўзяліся ў поўную сілу абараняць яго.

Відавочна, дрыгавічам роля кіеўскай воласці моцна не падабалася і яны жадалі абавязкова аддзяліцца ў асобнае палітычнае цела. Гэта ім удалося дзякуючы іх энергіі, паколькі паказалі яе нашмат больш, чым, напрыклад, кіяўляне ў абароне Мсціславічаў. Двойчы (1158 і 1160 гг.) арганізоўвалі князі калектыўныя паходы на Юрыя, але дрыгавічы не паддаліся; асабліва цяжка прыходзілася ім у першы раз, калі паход быў асабліва вялікім: чорныя клабукі [качэўнікі на службе кіеўскіх князёў] руйнавалі ўсё цячэнне Прыпяці, а магчыма, і далей, паўднёвыя землі; цяжкая аблога Турава працягвалася больш за два месяцы, але тураўцы ўсе біліся моцна, выходзячы з горада і наносячы цяжкія паразы вой-

ску кіеўскіх князёў. Гэтым выйгралі новую справу: ужо ў 1161 г. кіеўскі князь Расціслаў уступіў у дыпламатычныя зносіны з Юрыем Яраславічам, і яго новае становішча ў палітычнай сістэме Усходняй Еўропы было гэтым санкцыянавана.

Аднак выключнай ролі Турава-Пінскае княства і пасля гэтага не дамаглося, застаючыся сярод другарадных.

*Грушевський, М. С. Історія України-Руси: В 11 т., 12 кн. / М. С. Грушевський. — Київ, Наук. думка, 1992. — Т. 2. — С. 307—308.*

? **1.** Чаму Тураўская валасць, на думку ўкраінскага гісторыка, ацэньвалася ў канцы X ст. даволі высока?

**2.** У якіх мэтах выкарыстоўвалі Тураўскую зямлю кіеўскія князі?

**3.** Якія звесткі прыводзіць украінскі гісторык пра князя Юрыя Яраславіча?

**4.** Калі Юрый Яраславіч канчаткова здолеў замацаваць за сабой і нашчадкамі Тураўскую зямлю?

✧ **5.** Чым можна растлумачыць наданне нязначнай ролі Тураўскаму княству ўкраінскім гісторыкам М. С. Грушэўскім?

## § 19. Пасожжа, Берасцейская зямля і Панямонне

### Фрагмент з кнігі П. Ф. Лысенкі «Адкрыццё Берасця»

Берасце (Брэст) з'яўляецца адным з самых старажытных гарадоў беларускай зямлі. У «Аповесці мінулых гадоў» ён упершыню згадваецца пад 1019 г., калі сюды быў прынесены хворы Святаполк Акаянны, які прайграў барацьбу з Яраславам Уладзіміравічам. Археалагічныя даследаванні пацвердзілі старажытнасць горада: у XI—XIII стст. тут існавала гарадзішча, яшчэ раней, на мяжы X—XI стст., на мысе, утвораным рэкамі Заходні Буг і Мухавец, быў пабудаваны дзядзінец, умацаваны з падлогавага боку ровам, земляным валам і частаколам. Не так даўно (2006 г.) былі знойдзены

сведчанні пражывання людзей на месцы Берасця ў апошняй трэці X ст. Горад знаходзіўся на крайнім захадзе Рускай зямлі, на мяжы з польскімі і літоўска-яцвяжскімі ўладаннямі. Некаторы час на яго прэтэндавала Польшча. Берасцейская зямля першапачаткова, мабыць, непасрэдна падпарадкоўвалася кіеўскаму князю. Прыналежнасць Берасця Тураўскаму княству вельмі спрэчная. Дакладна вядома, што з другой паловы XII ст. Берасце ўваходзіла ў склад Уладзіміра-Валынскага княства, а з 1199 г. — Галіцка-Валынскага княства. Берасце было важным гандлёвым і рамесным цэнтрам, тут спаганялася пошліна за правоз тавараў. Аднак у самастойнае княства Берасцейшчына не вылучылася. Значная заслуга ў вывучэнні старажытнага Бярэсця належыць беларускаму археолагу **Пятру Фёдаравічу Лысенку** (нарадз. у 1931 г.). З 1964 г. гэты навуковец працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР, з 1980 па 2001 г. узначальваў аддзел археалогіі Сярэдневякоўя, у цяперашні час з'яўляецца галоўным навуковым супрацоўнікам аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі. П. Ф. Лысенка даследаваў цэлы шэраг старажытных беларускіх гарадоў: Тураў, Берасце, Пінск, Слуцк, Давыд-Гарадок, Клецк, Рагачоў, Мазыр, Мінск. Па выніках яго даследаванняў былі створаны археалагічныя музеі «Бярэсьце» ў г. Брэсце (1982) і «Старажытны Тураў» (2005). П. Ф. Лысенка прыклаў значныя намаганні, каб даказаць, што Берасце было заснавана дрыгавіцкім насельніцтвам. Аднак гэты пункт гледжання не з'яўляецца агульнапрынятым.

У даследаваннях Берасця самымі нечаканымі і значнымі вынікамі варта лічыць выяўленне драўляных збудаванняў незвычайнай захаванасці і выключна высокую шчыльнасць забудовы, якая дазволіла на параўнальна невялікім участку вызначыць планіроўку і прынцыпы забудовы старажытнага горада...

Берасце, як і большасць старажытнарускіх гарадоў мяжы X—XI стст., было заснавана на мысе, утвораным буйной ракой і яе прытокам, і яго планіроўка была падпарадкавана натуральнаму рэльефу мясцовасці. Горад быў абмежаваны з заходняга боку Заходнім Бугам, з поўначы — Мухаўцом, з усходняга і паўднёвага бакоў — абарончым ровам

і валам з навальнымі драўлянымі абарончымі збудаваннямі. Планіроўка гарадской забудовы знаходзілася ў прамой залежнасці ад гэтых умоў.

Раскопамі выяўлены тры вулічныя маставыя, якія ідуць у асноўным з усходу на захад. Умоўна яны названы намі паўночнай, цэнтральнай і паўднёвай вуліцамі. Ва ўсходняй частцы паўночная і паўднёвая вуліцы паварочваюць у бок цэнтральнай і, магчыма, за межамі раскопу злучаюцца з ёю, утвараючы цэнтральны праезд, хутчэй за ўсё ў напрамку гарадскіх варот і ўезду ў горад. Вуліцы вызначалі планіроўку горада і рэгулявалі яго забудову. Усе хаты былі арыентаваны па напрамку вуліц, а прамежкі паміж імі ўздоўж вуліц перакрываліся частаколамі. Пабудовы паміж паўночнай і цэнтральнай вуліцамі размяшчаліся ў тры рады, а паміж цэнтральнай і паўднёвай — у чатыры. У радах, якія прымыкалі да вуліц, дзвярныя праёмы высякаліся ў процілеглай ад вуліцы сцяне, а ва ўнутраных радах — у сцяне, звернутай да вуліцы. Вельмі рэдка дзвярныя праёмы прарублены ў бакавой сцяне, і не выяўлена ніводнага выпадку, каб дзвярны праём выходзіў прама на вуліцу. Пры вельмі высокай скучанасці і цеснаце ў горадзе адсутнічала сядзібная забудова, пры якой у кожнай жылой хаты павінен быць свой агароджаны частаколам двор з дапаможнымі і гаспадарчымі памяшканнямі. На ўсёй раскапанай пляцоўцы выяўлены толькі адзін малюсенькі дворык з навесам для жывёлы.

У Берасці выяўлены 224 жылыя і гаспадарчыя пабудовы. Усе яны наземныя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі, галоўным чынам квадратнай формы, памерам 13—16 квадратных метраў. У асноўным пабудовы ўзводзіліся прама на месцы іх

размяшчэння. Але адзначаны выпадкі, калі зруб пабудовы рабілі ў другім, больш зручным месцы, затым памячалі бярвёны насечкамі, разбіралі зруб і пераносілі яго на пастаяннае месца ў горадзе. Асноўны будаўнічы матэрыял, з якога ўзводзіліся будынкі, — бярвёны хвойных парод дыяметрам 15—17 см. Часам для ўзвядзення падмурка бралі дубовыя бярвёны. Вельмі рэдка на гаспадарчыя пабудовы, дваровыя і вулічныя насцілы выкарыстоўваліся дрэвы ліставых парод.

*Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. — 2-е изд., доп. — Минск: Белорус. наука, 2007. — С. 75, 77, 80.*

?

**1.** У чым заключаюцца асаблівасці месцараспалажэння Берасця?

**2.** Што і чаму выкарыстоўвалася ў якасці асноўнага матэрыялу для будаўніцтва горада?

**3.** Якія асаблівасці мелі знойдзеныя пры раскопках Берасця пабудовы?

✧ **4.** Як вы думаеце, чаму забудова ў горадзе была такая скучаная?

## Раскапаныя рэшткі драўлянага Берасця

У 1982 г. у Брэсце на месцы археалагічных раскопак быў адкрыты археалагічны **музей «Бярэсьце»**. Аснову экспазіцыі музея склалі пабудовы, выяўленыя падчас раскопак. Яны праводзіліся з 1968 г. пад кіраўніцтвам П. Ф. Лысенкі. Рэшткі пабудоў старажытнарускага перыяду былі размешчаны ў крытым павільёне плошчай 2400 м$^2$. Рэшткі 28 жылых пабудоў з бярвення і драўляных маставых былі закансерваваны спецыяльна распрацаванымі сінтэтычнымі рэчывамі. Акрамя таго, у экспазіцыі музея прадстаўлены сведчанні паўсядзённага жыцця сярэдневяковага насельніцтва Берасця: вырабы з металаў, шкла, дрэва, гліны, косці, тканіны, у тым ліку шматлікія ўпрыгажэнні, посуд, дэталі ткацкіх станкоў. Усё гэта таксама было знойдзена падчас раскопак. Усяго ў экспазіцыі і фондах музея захоўваецца каля 43 тыс. экспанатаў.






Фрагменты экспазіцыі музея «Бярэсьце»

✧ Выкарыстоўваючы матэрыял папярэдняга дакумента і дадзеныя малюнкі зрабіце расказ аб жыцці ў старажытнарускім горадзе.

## Гродна ў Сярэдневякоўі

На заходняй ускраіне Кіеўскай Русі памежнай крэпасцю служыў горад Гродна (варыянты ў крыніцах: Городен, Горадня, Гародня, Городок). Яго назва якраз і азначае «агароджанае», «абгароджанае» месца. Найбольш ранняе згадванне Гродна змяшчаецца ў Іпацьеўскім летапісе: у артыкуле 1128 г. (правільнае датаванне: 1127 г.) распавядаецца аб удзеле князя Усеваладкі з Гарадка ў паходзе на Полацк, які арганізаваў Мсціслаў Вялікі. І пазней гарадзенскія князі ўдзельнічалі ў розных акцыях па патрабаванні кіеўскіх князёў. Мабыць, небяспечнае становішча Гродна на мяжы з літоўцамі вымушала яго князёў шукаць падтрымкі ў моцных кіеўскіх правіцеляў, адмаўляючыся пры гэтым ад сваёй незалежнасці. Пытанне аб паходжанні гарадзенскіх князёў застаецца спрэчным. Магчыма, бацькам Усеваладкі быў князь-ізгой Давыд Ігаравіч, унук Яраслава

Мудрага. Паводле меркавання сучаснага расійскага даследчыка А. В. Назарэнкі, галіна гарадзенскіх князёў ідзе ад Яраслава Яраполчыча, унука Ізяслава Яраславіча (ад яго сына Святаполка пайшла дынастыя тураўскіх князёў). У цэлым пісьмовыя звесткі пра Гродна нешматлікія. Значна больш інфармацыі пра Гродна даюць археалагічныя даследаванні. Так, высветлена, што ў XII ст. тут існавалі мураваныя ўмацаванні — сцены дзядзінца, што было рэдкай з'явай на Русі. Археалагічныя раскопкі дазволілі праліць святло і на гісторыю горада да яго першага згадвання ў летапісе. Да ліку найбольш буйных даследчыкаў гарадскіх цэнтраў Панямоння адносіцца беларускі археолаг **Яраслаў Генрыхавіч Зверуга** (нарадз. у 1928 г.), расказ якога аб ранняй гісторыі Гродна прыведзены ніжэй.

Найбольш старажытныя напластаванні ў Гародні выяўлены на тэрыторыі так званага Старога замка, або Замкавай гары. Гэта высокі (да 32 м ад узроўня ракі) трохвугольны ў плане мыс, утвораны правым берагам Нёмана і левым берагам р. Гараднічанкі (Гародні). Сваім вострым бокам мыс павернуты на захад. Ад берагавой грады ён аддзелены глыбокім і шырокім ярам, які выходзіць у бок Нёмана.

На Замкавай гары ў XI ст.... паўстала славянскае селішча, само месцазнаходжанне якога сведчыць аб яго ваенным прызначэнні. Гэта была крэпасць на славяна-літоўскім памежжы, у якой нараўне з ваярамі-дружыннікамі жылі рамеснікі. Пляцоўка крэпасці (каля 0,8 га) па перыметры была абаронена магутным (да 15 м шырынёй) земляным валам з драўлянымі сценамі або частаколам. Гэтыя ўмацаванні загінулі ад пажару.

У пачатку XII ст. крэпасць ператварылася ў княжацкую рэзідэнцыю (замак), дзядзінец горада і цэнтр удзельнага княства. На паўднёвым баку пляцоўкі над Нёманам быў збудаваны цагляны двухпавярховы палац князя (церам), у цэнтры — вялікая, багата ўпрыгожаная царква (Ніжняя), а на мысе — цагляная сцяна, прызначэнне якой не вызначана.

Прастора вакол царквы забудавана драўлянымі пабудовамі. Летапісы сведчаць, што ў другой палове XII ст. замак меў сцены з бярвёнаў з бакавымі пляцоўкамі, прыкрытымі брустверамі, а подступы да варот, якія знаходзіліся з усходняга боку, абараняла высокая круглая ў плане каменная вежа (стоўп). У XIV ст. на руінах згарэлай у 1183 г. Ніжняй царквы быў пабудаваны невялікі квадратны ў плане храм з адной абсідай (Верхняя царква).

*Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. / Я. Г. Зверуго. — Минск: Навука і тэхніка, 1989. — С. 63—65.*

! **Бруствер** — земляны насып, які прызначаны для зручнай стральбы і абароны ад стрэлаў праціўніка.

? **1.** З якога часу, згодна археалагічным даным, адлічвае сваю гісторыю Гродна?

**2.** У чым заключалася ваеннае прызначэнне Гродна?

**3.** Якія штучныя і натуральныя ўмацаванні абаранялі Гродна?

**4.** Якія пабудовы былі адкрыты археолагамі на месцы Гродна?

✧ **5.** Што ў расказе Я. Г. Звяругі сведчыць аб тым, што Гродна ў пачатку XII ст. было цэнтрам асобнага княства-воласці («удзельнага» княства)?

## Польскі гісторык Ежы Ахманьскі аб узаемаадносінах старажытнарускіх княстваў і літвы

Балцкае племя літва згадваецца сярод даннікаў Русі яшчэ ў недатаваных уводзінах да «Аповесці мінулых гадоў». Адносіны літвы і Русі часам мяняліся ад безумоўнага падпарадкавання і выплаты даніны да ўдзелу ў міжусобных войнах і пераходу да рабаўніцкіх набегаў, а затым і да тэрытарыяльных захопаў. Гэтая перамена характару ўзаемаадносін была абумоўлена не толькі зменамі ў палітычнай сітуацыі ва ўсходнеславянскіх землях (пачатак перыяду

палітычнай раздробленасці), але і зменамі ў літоўскім грамадстве: разлажэнні родаплемяннога ладу, вылучэнні племяннoй вярхушкі, пэўным прагрэсе ў эканамічным развіцці, якія дазволілі мабілізаваць частку насельніцтва для правядзення ваенных акцый і г. д. Дакладна не высветлена, калі ж літва была падпарадкавана Русі і калі здабыла ад яе поўную самастойнасць. Паколькі «Аповесць мінулых гадоў» была створана ў пачатку XII ст., цалкам вызначана можна сцвярджаць, што ў гэты час літва яшчэ плаціла даніну Русі. Пачатак жа падначалення літвы, як мяркуецца, можна звязаць з паходам Яраслава Мудрага 1040 г. (1044 г.). Гэты паход кіеўскага князя быў выкліканы хутчэй за ўсё адмовай літвы плаціць даніну Русі. У другой палове XII ст. літва ўжо не плаціла даніну. Гэта, несумненна, трэба звязваць з раздрабленнем Русі. Спыненне выплаты даніны літвой адбылося, відаць, пасля падзей 1129 г. — высылкі полацкіх князёў у Візантыю. З гэтай нагоды паход кіеўскага князя Мсціслава Вялікага на літву ў 1132 г. трэба разглядаць як спробу аднаўлення ранейшых адносін. Паход, мабыць, не дасягнуў мэты. Як адзначае летапісец, «киян тогда много побиша Литва». Да гэтага вываду прыходзіць польскі гісторык **Ежы Ахманьскі** (1933—1996), які доўгі час займаўся праблемамі славянска-літоўскіх узаемаадносін і гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

...У другой палове XII ст. сітуацыя на літоўска-полацкай мяжы так прынцыпова змянілася, што аб выплаце даніны Літвой Полацку не было ўжо і размовы. Магутная да гэтага Кіеўская Русь падверглася ўдзельнаму драбленню, якому спадарожнічалі крывавыя войны Рурыкавічаў паміж сабой за кіеўскі прастол. Наступіла ўнутранае раздрабленне, палітычнае паслабленне Русі да такой ступені, што заваяваная да гэтага Літва паднялася да рангу жаданага для рускіх князёў саюзніка, а неўзабаве стала пагражаць і ім самім. Літва стала выйграваць у канфлікце полацкіх князёў з Мінскам, які як асобнае княства вылучыўся ў пачатку XII ст. Падчас унутранай барацьбы ў Полацкім княстве ў сярэдзіне XII ст. у Мінску правіў князь Валадар Глебавіч. Калі князі, якія пасварыліся, у 1159 г. склалі

мір, Валадар Мінскі «не целова креста тем, оже ходяше под Литву в лесех [в Лясех]». Гэта азначала, што мінскі правіцель падтрымліваў тады літоўцаў у іх набегах на Польшчу. Тры гады пазней (1162 г.) полацкі князь Рагвалод зноў напаў на мінскі ўдзел і аблажыў Валадара ў Гарадцы (месца яго знаходжання невядома). Валадар не выйшаў на адкрытую бітву, але ўначы напаў на саперніка «из города с Литвой», учыніўшы яму такія страты, што цалкам пабіты Рагвалод не адважыўся нават вярнуцца ў Полацк. Такім чынам, саюз Валадара з Літвой быў даволі трывалым і складаўся на ўмове ўзаемнай дапамогі. Расстаноўка сіл была не толькі карыснай для Валадара Мінскага, але і, мабыць, неабходнай: становішча літоўцаў адносна барацьбы паміж Полацкам і Мінскам прыносіла ў той час перамогу таму боку, які літоўцаў прыцягваў і за дапамогу ім заплаціў. Пры гэтым Літва выступала на баку слабейшага, за Мінск, і такім чынам аслабіла галоўнага саперніка — Полацк. Яна прымала ўдзел у барацьбе паміж Рурыкавічамі і пазней. У 1180 г. разам з князем Лагойска Усяславам Мікулічам, князямі полацкімі і віцебскімі «Либь і Литва» падтрымалі іх у паходзе на Друцк супраць Святаслава, які прэтэндаваў на кіеўскі прастол. У 1198 г. літоўскай дапамогай скарысталіся палачане падчас паходу на Лукі.

*Ochmański, J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku / J. Ochmański. — Poznań: Wydawnicnwo Naukowe UAM, 1981. — S. 22—23.*

?

**1.** Чаму ў другой палове XII ст. рэзка змяніліся адносіны Літвы і Русі?

**2.** Якія адносіны былі ў мінскага князя Валадара Глебавіча з літвой?

3. Чаму літоўцы дапамагалі мінскаму князю?
✧ 4. Як літоўцы ў далейшым маглі выкарыстаць міжусобіцы паміж старажытнарускімі княствамі і, як вынік, іх аслабленне?

# § 20. Знешняя небяспека ў першай палове XIII ст.

## Нямецкія рыцары ў Прыбалтыцы: з крыжам і мячом

*(Урывак з мастацкага твора)*

З пачатку XIII ст. пачалося паслядоўнае, планамернае заваяванне нямецкімі рыцарамі (крыжакамі) тэрыторыі Прыбалтыкі. Адбывалася гэта з санкцыі Рымскага Папы, які абвясціў крыжовы паход супраць мясцовых язычнікаў. Пасля заснавання брэменскім канонікам Альбертам у 1201 г. Рыгі пры падтрымцы Ордэна мечаносцаў (Ордэн братоў мяча, створаны ў 1202 г.) крыжакі прыступілі да падпарадкавання тэрыторыі Усходняй Прыбалтыкі. Тут на берагах Заходняй Дзвіны (Даўгавы) і яе прытокаў здаўна пражывалі балцкія — латгалы, селы — і фіна-ўгорскія плямёны — лівы (лібь) і эсты (чудзь). Яшчэ да з'яўлення нямецкіх рыцараў на землях латгалаў існавалі палітычныя аб'яднанні Ерсіке (Герцыке), Какнесе (Кукенойс), Талаве (Талове) і Атзеле. Найбольш моцным было княства Ерсіке, цесна звязанае з Полацкам (тут правіў сын полацкага князя Усевалад). К 1214 г. крыжакі падпарадкавалі Ерсіке. Упартую барацьбу з імі вёў правіцель Какнескага княства Вячка (Вячаслаў, у нямецкіх крыніцах Ветсеке). Аднак ужо ў 1207 г. Вячка вымушаны быў аддаць палову сваіх зямель Ордэну, а ў 1208 г. спаліць замак і адысці на Русь. Рыцары пабудавалі ў Какнесе мураваны замак. У Талаве і Атзеле не сфарміравалася трывалая княжацкая ўлада, яны знаходзіліся ў данніцкай залежнасці ад Ноўгарада (больш дакладна — ад яго прыгарада Пскова). У 1224 г. улады Ноўгарада і Пскова саступілі збор даніны з Талавы Ордэну і рыжскаму біскупу. Метадычнае заваяванне крыжакамі зямель латгалаў было завершана да 1230-х гг. Яшчэ раней імі былі падпарадкаваны лівы. У 20-х гг. XIII ст. лівы ўжо складалі дапаможнае войска нямецкіх рыцараў і хадзілі з імі супраць эстаў, латгалаў і рускіх. Заваяванне зямель эстаў (на якія прэтэндавалі і датчане) было завершана Ордэнам да 1227 г., але пазней эсты

неаднаразова паднімалі паўстанні. Селы трапілі пад уладу Ордэна яшчэ ў 1208 г., калі вымушаны былі хрысціцца. Асноўным спосабам замацавання нямецкіх рыцараў на захопленай тэрыторыі было будаўніцтва невялікіх мураваных замкаў. Яны густой сеткай пакрывалі заваяваныя землі, прадухіляючы магчымае аб'яднанне мясцовага насельніцтва для супраціўлення. Аб падзеях нямецкага «націску» на Прыбалтыку распавядаецца ў гістарычным рамане беларускага пісьменніка **Леаніда Марцінавіча Дайнекі** (нарадз. у 1940 г.) «Меч князя Вячкі» (1987). За гэты твор Л. М. Дайнека быў узнагароджаны Літаратурнай прэміяй Саюза пісьменнікаў Беларусі імя І. Мележа. За гэты ж твор разам з раманам «След ваўкалака» (рускамоўны варыянт — «Тропой чародея») (1988) пісьменнік атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя К. Каліноўскага.

Калі б ён зараз сеў на шкут або на лайбу, у якіх купцы плаваюць па Дзвіне, то ўжо на світанку з правай рукі ад сябе ўбачыў бы замак Ашэрадзен. А трохі ніжэй — Леневардзен. А потым — Ікесколь, і Гольм, і нарэшце Рыгу. І ўсюды сядзяць тэўтоны. Усе гэтыя замкі — гнёзды ненаедных каршуноў. Адсюль божыя пілігрымы, несучы крыж і меч, ходзяць у паходы на эстаў Сакалы, на латгалаў Таловы. Сюды яны вяртаюцца, гонячы палонных жанчын і дзяцей, коней, кароў і авечак, везучы нарабаванае дабро. У самым вусці яны наступалі на горла Дзвіне, слаўнаму полацкаму Рубону, і Вячку часам здаецца, што любімая рака задыхаецца, б'ецца ў сутаргах, чарнее і вось-вось знікне пад зямлёю, растворыцца ў пясках і балотах, абы толькі не бачыць глум і здзек, якія пасяліліся на яе берагах.

Спрадвеку была Дзвіна полацкім вадзяным ходам у Варажскае мора, на Гоцкі бераг і да паўночных людзей — урманаў. Латгалы, селы і лівы караніліся ўздоўж яе. Яны яшчэ былі язычнікі і плацілі полацкім князям даніну. Іхнія старэйшыны і купцы ўсё часцей прымалі праваслаўную веру, не забываючы, праўда, і сваіх мясцовых багоў і баж-

коў. Які ж злы вецер прыгнаў сюды караблі тэўтонаў?

Тэўтоны прыплылі з крыжамі, схаваўшы на першым часе мячы пад сутаны. І на гэтых берагах, у гэтых лясах і палях рымскі крыж сутыкнуўся з крыжам славянскім.

*Дайнека, Л. Меч князя Вячкі. След ваўкалака / Л. Дайнека. — Мінск, 1993. — С. 34.*

? **1.** Што выкарыстоўвалі нямецкія рыцары для замацавання свайго панавання на захопленых землях Прыбалтыкі?

**2.** Якое мора называецца ў тэксце Варажскім?

**3.** Якія мэты ставілі сабе нямецкія рыцары ў Прыбалтыцы? «Які ж злы вецер прыгнаў сюды караблі тэўтонаў?»

✧ **4.** Что значаць словы пісьменніка «рымскі крыж сутыкнуўся з крыжам славянскім»?

## Нямецкі аўтар Генрых Латвійскі (XIII ст.) аб смерці полацкага князя

Насельніцтва Усходняй Прыбалтыкі яшчэ з Ранняга сярэдневякоўя аказалася ў сферы ўплыву Русі, што выяўлялася ў выплаце даніны. Ва ўнутранае жыццё прыбалтыйскіх плямён усходнія славяне не ўмешваліся: невядома ні аднаго прыкладу гвалтоўнага распаўсюджання тут хрысціянства ўсходняга ўзору (пры гэтым, паводле археалагічных даных, адзначаецца несумненны культурны ўплыў Русі). Нямецкія ж рыцары, якія тут апынуліся, акрамя гвалтоўнага хрышчэння, стваралі тыповыя феадальныя гаспадаркі, у якіх мясцовае насельніцтва няшчадна эксплуатавалася. Між тым крыжакі сваімі дзеяннямі ў Прыбалтыцы закранулі інтарэсы Старажытнай Русі. Але Русь у гэты час ужо не была адзінай: разам з драбленнем на асобныя княствы была падзелена і даніна з прыбалтыйскіх плямён. На частку яе прэтэндавала Полацкае княства, на іншую — «Господин Великий Новгород» з яго прыгарадам Псковам. Асобныя старажытнарускія княствы не жадалі дамаўляцца паміж сабой, дзейнічалі часта самастойна і клапаціліся толькі аб сваіх інтарэсах. Так, землі эстаў лічыў сваімі Ноўгарад. У 1210 і 1212 гг. наўгародскі князь здзейсніў паходы на эстаў. Больш таго, пскоўскі князь Уладзімір удзельнічаў у спусташэнні зямлі эстаў разам з крыжакамі. Менавіта таму ў 1216 г. эсты звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра. Расказ аб гэтых падзеях

змяшчаецца ў «Хроніцы Лівоніі» **Генрыха Латвійскага** (памёр у 1259 г.). У гэтым творы, напісаным у перыяд з 1225 па 1227 г. добра інфармаваным сучаснікам падзей, падрабязна асвятляецца гісторыя звароту ў хрысціянства куршаў, ліваў, латгалаў і эстаў. Генрых Латвійскі падрабязна распавядае і аб няўдалай спробе стварэння антынямецкай кааліцыі старажытнарускіх князёў у 1216 г., аднак смерць полацкага князя перашкодзіла гэтаму. Не выклікае сумнення, што князь Уладзімір быў атручаны агентамі рыжскага біскупа або Ордэна.

**Аб раптоўнай смерці караля Уладзіміра.** Пасля свята Уваскрэсення Гасподняга эсты паслалі да караля Полацкага Уладзіміра просьбу, каб ён прыйшоў з войскам і аблажыў Рыгу, а самі абяцалі ў гэты ж час пачаць наступленне супраць ліваў і летаў, а таксама замкнуць гавань у Дынамюндзе. І спадабалася каралю задума вераломных, бо ён заўсёды імкнуўся разбурыць Лівонскую царкву, і, паслаўшы ганцоў у Русь і Літву, ён склікаў вялікае войска з рускіх і літоўцаў. І калі ўсе ўжо сабраліся і былі гатовыя і кароль збіраўся падняцца на карабель, каб адправіцца з імі, ён раптам упаў бездыханна і памёр смерцю раптоўнай і нечаканай, а ўсё войска яго разышлося і вярнулася ў свае землі.

*«Хроника Ливонии» Генриха // Матузова В. И., Назарова Е. Л. Крестоносцы и Русь. Конец XII в. — 1270 г. Тексты, перевод, комментарий. — М.: Издательство «Индрик», 2002. — С. 124.*

?

**1.** Чаму літоўцы і рускія былі зацікаўлены ў аб'яднанні сіл супраць нямецкіх рыцараў?

**2.** З тэксту вызначыце, хто быў праціўнікам нямецкіх рыцараў, а хто — саюзнікам.

**3.** Чаму распалася антынямецкая кааліцыя старажытнарускіх князёў 1216 г.?

✧ **4.** Як вы думаеце, хто больш за ўсё быў зацікаўлены ў смерці полацкага князя?

## Летапіснае сведчанне мангольскага нашэсця ў раёне Берасця (пачатак 1241 г.)

У 1237 г. з нападу на Разанскае княства пачалося мангольскае нашэсце на Русь. Мангольскія плямёны, аб'яднаныя Чынгісханам (памёр у 1227 г.), да гэтага часу заваявалі велізарныя тэрыторыі Усходняй і Сярэдняй Азіі. Яшчэ ў 1223 г., падчас разведвальнага рэйду, манголы змаглі даведацца аб галоўнай слабасці рускіх — адсутнасці адзінства дзеянняў. Унуку Чынгісхана Бату-хану (Батыю) удалося на працягу 1237—1241 гг. захапіць і разбурыць буйныя гарады старажытнарускіх княстваў. Не пацярпелі толькі Наўгародская зямля і землі Заходняй Русі — Полацкае, Тураўскае, Новагародскае (Навагрудскае) і большая частка Смаленскага княства. Такім чынам, мангольскае нашэсце амаль не закранула сучаснай тэрыторыі Беларусі. Аднак у апошні час, дзякуючы археалагічным даследаванням, выяўляюцца пераканаўчыя доказы спусташэння манголамі Гомеля і Магілёва. У іх археолагамі знойдзены сляды пажараў, датаваных часам Батыева нашэсця, а таксама тыповыя мангольскія наканечнікі стрэл і пасечаныя зброяй косці. Іпацьеўскі летапіс у запісе пад 1240 г. (фактычна вясна 1241 г.) захаваў ускоснае сведчанне спусташэння манголамі Берасця. Берасцейшчына ў гэты час уваходзіла ў склад Галіцка-Валынскага княства, князі якога — Данііл і Васілька Раманавічы — падчас мангольскай навалы знаходзіліся ў Венгрыі, а пасля ў Польшчы. Дадзеная летапісам інфармацыя дазваляе выказаць здагадку, што горад быў манголамі ўзяты, а яго жыхары — выведзены ў поле і забіты. Тым не менш беларускія землі не трапілі ў залежнасць ад Залатой Арды — дзяржавы, створанай манголамі ў Паволжы, Прычарнамор'і, Сярэдняй Азіі і Заходняй Сібіры. Аднак пазней татарскія набегі [татары — адно з мангольскіх плямён, так у рускіх крыніцах звалі заваёўнікаў] на беларускія землі сталі звычайнай з'явай.

Данилови же съ братомъ пришедшю къ Берестію, и не възмогоста ити в поле, смрада ради множьства избіенныхъ: не бе бо на Володимери не осталъ живый, церкви пресвятыа Богороди исполнена трупіа, и иныя церкви наполнены быша трупіа и телесь мертвыхъ.

Данііл жа з братам прыйшлі да Берасця і не змаглі ісці ў поле з-за смуроду мноства забітых. Ва Уладзіміры ж не засталося ніводнага жывога, царк-

ва найсвяцейшай Багародзіцы напоўнена трупамі і іншыя цэрквы былі напоўнены трупамі і мёртвымі целамі.

*Галицко-Волынская летопись. Текст. Комментарий. Исследование / Сост. Н. Ф. Котляр, В. Ю. Франчук, А. Г. Плахонин; Под ред. Н. Ф. Котляра. — СПб: Алетейя, 2005. — С. 110.*

? **1.** У склад якога княства ўваходзіў горад Берасце падчас мангольскага нашэсця на Русь?

**2.** Ці сведчыць летапіс аб тым, што горад Берасце быў узяты манголамі?

✧ **3.** Паразважайце, што магло адбыцца ў Берасці вясной 1241 г.

## Крыжовы паход на Русь

Уварванне нямецкіх рыцараў у Прыбалтыку мела шэраг мэт, сярод якіх «выратаванне душ язычнікаў», несумненна, стаяла далёка не на першым месцы. Як і крыжовыя паходы ў Палесціну, паход у Прыбалтыку для рыцараў са Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі (Германіі), Англіі, Францыі і г. д. быў спосабам разбагацець, ухіліцца ад праблем на радзіме. Свае мэты, акрамя, вядома, «высокай духоўнай місіі», мела ў Прыбалтыцы і каталіцкая царква. Тут нямецкія рыцары і іх «духоўныя пастыры» знайшлі масу супярэчнасцей, якімі ўмела скарысталіся. Умяшанне нямецкіх рыцараў у прыбалтыйскія падзеі паўплывала на развіццё адносін паміж мясцовымі плямёнамі і іх адносіны да старажытнарускіх княстваў. У сваю чаргу апошнія саперніцтва паміж сабой перанеслі на прыбалтыйскія землі. Складаны клубок міжнародных адносін гэтага перыяду паспрабаваў разблытаць у сваёй манаграфіі «Знешняя палітыка Старажытнай Русі» выдатны савецкі гісторык, член-карэспандэнт АН СССР **Уладзімір Цярэнцьевіч Пашута** (1918—1983). Названая праца савецкага навукоўца па сённяшні дзень застаецца адзінай абагульняючай манаграфіяй па праблемах развіцця міжнародных адносін Кіеўскай Русі і старажытнарускіх княстваў у дамангольскі перыяд. Акрамя таго, У. Ц. Пашута вядомы як аўтар фундаментальных прац па гісторыі Галіцка-Валынскай зямлі і праблеме ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага (апошняя праца высока ацэньваецца беларускімі гісторыкамі. (*Пашуто, В. Т. Образование Литовского государства / В.Т. Пашуто. — М.: Изд-во Академии наук СССР, 1959. — 531 с.*).

К канцу XII ст. нямецкі «націск на Усход» дасягнуў Віслы, дзе сустрэў адпор моцнага Паморскага княства. Тады нямецкія правіцелі, не пакінуўшы задумы авалодаць землямі паміж Віслай і Нёманам, вырашылі стварыць другі плацдарм на Заходняй Дзвіне.

Уварванне ў Прыбалтыку, а затым у Літву, Польшчу і Русь нямецкія крыжакі ажыццявілі тады, калі барацьба іх былых саюзнікаў крыжакоў-франкаў у Пярэдняй Азіі была яшчэ ў поўным разгары.

Дзеянні крыжакоў і на Міжземным, і на Балтыйскім... морах накіроўвала папская курыя. Курыя добра разумела ўзаемасувязь усіх напрамкаў гэтых паходаў. Крыжакі, якія ўварваліся ў Прыбалтыку, здолелі забяспечыць сабе досыць шырокі прыток людскіх падмацаванняў і сродкаў з іншых краін у немалой ступені таму, што гэты крыжовы паход быў адразу ж афіцыйна прыраўнаваны курыяй да паходу на арабаў.

Германская імперыя, хаця і варагавала з курыяй [Рымскім Папам], але ў прыбалтыйскім пытанні іх інтарэсы супадалі. Палітычныя мэты і германскіх імператараў і папскай курыі патрабавалі стварэння тут пастаянных феадальных калоній для кантролю над балтыйскім гандлем і палітычнага ціску на Швецыю, Нарвегію, Данію і Польшчу, а галоўнае — для наступлення на Русь, каб забяспечыць прагнае нямецкае дваранства новымі землямі, а каталіцкую царкву — крыніцамі багатых прыбыткаў.

Момант для ўварвання быў выбраны зручны, бо землі Верхняй Русі не мелі ўзгодненай палітыкі ў балтыйскім пытанні. Эстонія і Латвія знаходзіліся ў данніцкай залежнасці ад Ноўгарада, Пскова і Полацка, барацьба за ўплыў на гэтыя моцныя баярскія

цэнтры ішла між уладзіміра-суздальскімі і смаленскімі князямі...

*Пашуто, В. Т. Внешняя политика Древней Руси / В. Т. Пашуто. — М.: Наука, 1968. — С. 227—228.*

**?** **1.** Хто накіроўваў дзеянні нямецкіх рыцараў у Прыбалтыцы?

**2.** Што забяспечыла крыжакам у Прыбалтыцы шырокі прыток людскіх падмацаванняў?

**3.** Якія былі палітычныя мэты германскіх імператараў і папскай курыі ў Прыбалтыцы?

✧ **4.** Як вы думаеце, што спрыяла поспеху нямецкіх крыжакоў у Прыбалтыцы?

## § 21. Гаспадарчыя адносіны

### Канстанцін Багранародны (сярэдзіна X ст.) аб усходнеславянскім палюддзі

Старажытнаруская дзяржава мела патрэбу ў сродках для падтрымання свайго апарату, які ажыццяўляў бы важныя для жыцця грамадства функцыі: судовую, ваенную (абарончую), адміністрацыйную (аб'ядноўваў тэрыторыю) і інш. Галоўнай асаблівасцю маладой Старажытнарускай дзяржавы з'яўляўся актыўны ўдзел у кіраванні дзяржавай княжацкай дружыны, менавіта з яе складу фарміраваўся дзяржаўны апарат (таму некаторыя даследчыкі прапаноўваюць называць Кіеўскую Русь да пачатку XI ст. «дружыннай дзяржавай»). Кіеўскі князь забяспечваў усім неабходным сваю дружыну за кошт падуладнага яму насельніцтва. Ва ўмовах, калі яшчэ не існавала прыватнага землеўладання, слаба было развіта рабства, найбольш просты спосаб вынятку ў земляробаў і жывёлаводаў выработленых імі прадуктаў (іх лішкаў — «прыбавачнага прадукту») заключаўся ў асабістым аб'ездзе князем з дружынай селішчаў сваёй дзяржавы. Гэтая форма збірання ўнутранай даніны атрымала назву **палюддзя**. Падрабязнае апісанне дадзенага мерапрыемства змешчана ў знакамітым трактаце візантыйскага імператара **Канстанціна Багранароднага** (908—959) «Аб кіраванні імперыяй», які ён напісаў у 948—952 гг. для свайго сына ў якасці павучэння будучаму правіцелю. У трактаце імператара палюддзе апісваецца як маштабнае мерапрыемства, якое ажыццяўляецца на

працягу большай часткі года (з восені да вясны). Звяртае на сябе ўвагу ўказанне аўтара на тое, што палюддзе ажыццяўлялася правіцелямі (архонтамі) русаў у розных саюзах плямён усходніх славян — «Славініях». Падчас палюддзя князь (а таксама, мабыць, прадстаўнікі яго сям'і) з дружынай літаральна карміліся на падуладнай тэрыторыі, адначасова ажыццяўляючы суд і расправу. Асабістая прысутнасць князя падчас палюддзя садзейнічала легітымізацыі (узаконьванню) дзеянняў, якія здзяйсняліся (гісторыкі кажуць аб персаніфікацыі дзяржавы ў асобе князя). Акрамя таго, князь мог успрымацца як свяшчэнная фігура, якая нясе благадаць. Пасля забойства падчас збірання даніны князя Ігара (945 г.) і мерапрыемстваў княгіні Вольгі палюддзе як агульнадзяржаўнае мерапрыемства перастала існаваць. Але доўгі час (адзначаецца яшчэ ў XVI ст. на Палессі) палюддзе захоўвалася як падатак прадуктамі кіраўніку той альбо іншай тэрыторыі.

...Славяне ж, іх [росов] пакціоты, а менавіта: крывітэіны, лендзаніны і іншыя Славініі — выдзёўбваюць у сваіх гарах маноксілы падчас зімы і, падрыхтаваўшы іх, з надыходам вясны, калі растане лёд, спускаюць у змешчаныя па суседстве вадаёмы. Паколькі гэтыя [вадаёмы] упадаюць у раку Днепр, то і іх [маноксілы] з тамтэйшых [месцаў] спускаюць у гэтую самую раку і адпраўляюцца ў Кіав. Іх [маноксілы] выцягваюць [з ракі] для [аснасткі] і прадаюць росам. Росы ж, купіўшы гэтыя даўбёнкі і разабраўшы свае старыя маноксілы, пераносяць з тых на гэтыя вёслы, уключыны і іншы рыштунак... рыхтуюць іх. І ў чэрвені месяцы, рухаючыся па рацэ Днепр, яны спускаюцца ў Віцічаву, якая з'яўляецца крэпасцю-пакціотам росаў, і, сабраўшыся там на працягу двух-трох дзён, пакуль злучацца ўсе маноксілы, тады адпраўляюцца ў шлях і спускаюцца да названай ракі Днепр... Зімовы ж і суровы спосаб жыцця тых самых росаў такі. Калі надыходзіць лістапад месяц, адразу іх архонты выходзяць з усімі росамі з Кіава і адпраўляюцца ў

палюддзі, што называецца «кружэннем», а менавіта — у Славініі вервіянаў, другувітаў, крывічаў, северыяў і іншых славян, якія з’яўляюцца пакцыётамі росаў. Кормячыся там на працягу ўсёй зімы, яны зноў, пачынаючы з красавіка, калі растане лёд на рацэ Днепр, вяртаюцца ў Кіаў.

*Константин Багрянородный. Об управлении империей. — М.: Наука, 1991. — С. 45, 46, 51.*

!

**Пакцыёты —** саюзнікі альбо даннікі.

**Славініі —** візантыйскае азначэнне славянскіх саюзаў плямён.

**Маноксілы —** «аднадрэўкі»; лодкі, выдзеўбаныя са ствала дрэва.

?

**1.** Якія з пералічаных у трактаце «Славіній» — усходнеславянскіх саюзаў плямён — вы ведаеце?

**2.** Як вы думаеце, чаму палюддзе названа «кружэннем»?

**3.** Чым займаліся росы і іх архонты падчас палюддзя?

✧ **4.** Як вы думаеце, чаму палюддзе як агульнадзяржаўнае мерапрыемства доўга не праіснавала?

## Манеты, якія выкарыстоўваліся ў Старажытнай Русі

Нягледзячы на захаванне натуральнай гаспадаркі, у Старажытнай Русі паступовa ўзнікала неабходнасць у сродку плацяжу, своеасаблівым пасрэдніку пры абмене таварамі. Землі ўсходніх славян з часам аказаліся ўцягнутымі ў міжнародны гандаль. На замежныя рынкі з Усходняй Еўропы пастаўляліся футра, мёд, воск, а таксама рабы. Акрамя таго, пачынае развівацца і ўнутраны гандаль. Рост гарадоў, які выяўляўся ў развіцці ў іх рамяства і павелічэнні насельніцтва, прывёў да актывізацыі абмену рамеснай прадукцыі на сельскагаспадарчую. Пасрэднікам пры гэтым абмене выступалі з пачатку IX ст. арабскія **дырхемы**, а з пачатку XI ст. — заходнееўрапейскія **дэнарыі**. Доўгае панаванне на велізарнай тэрыторыі Блізкага і Сярэдняга Усходу, Паўночнай Афрыкі і ўсёй Еўропы арабскай манеты тлумачыцца безумоўнай перавагай рамеснай прадукцыі Арабскага халіфата. Замацаванню дырхема ў якасці між-

народнай валюты спрыяла і стабілізацыя сітуацыі на Блізкім Усходзе. У 749 г. тут да ўлады прыйшла дынастыя Абасідаў, прадстаўнікі якой жорстка расправіліся з сапернікамі. У 762—763 гг. халіф ал-Мансур (754—775) пабудаваў новую сталіцу — Багдад. Ужо праз некалькі дзесяцігоддзяў ён ператварыўся ў найбуйнейшы горад свету з насельніцтвам у чвэрць мільёна чалавек. Халіфат мог выставіць на міжнародны рынак першакласную рамесную прадукцыю, пры гэтым велізарныя прыбыткі двара халіфа, якія налічвалі нават не дзясяткі, а сотні мільёнаў дырхемаў, дазвалялі весці вялікі замежны гандаль. На пабудаваным у Багдадзе манетным двары была распачата чаканка высакаякасных сярэбраных дырхемаў (толькі з другой трэці X ст. арабскі дырхем губляе сваю стабільнасць). З-за актыўнага абмену на футра, рабоў і г. д. дырхемы паступова асядаюць (у тым ліку ў выглядзе скарбаў) у Еўропе. Але да X ст. адток серабра з Халіфата кампенсаваўся здабычай яго на шматлікіх рудніках. Пазней палітычная нестабільнасць на Усходзе, а таксама пераарыентацыя гандлю старажытнарускіх княстваў на Заходнюю Еўропу прывялі да таго, што дырхем быў заменены дэнарыем. У Старажытнай Русі свая манета чаканілася нядоўга і ў невялікай колькасці: залатыя і сярэбраныя манеты (**златнікі** і **срэбранікі** — гэтую назву ім далі нумізматы ў XIX ст.) выпусціў Уладзімір Святаславіч, пазней срэбранікі чаканілі Святаполк Тураўскі, знаходзячыся на кіеўскім прастоле, і Яраслаў Уладзіміравіч, калі быў наўгародскім князем. Лічыцца, што ўзорам для златніка Уладзіміра паслужыла візантыйская манета — солід. Менавіта сярод солідаў былі знойдзены ў 1804 г. златнікі Уладзіміра ў складзе скарбу ў Пінску. Найбуйнейшы спецыяліст па грашова-вагавай сістэме Старажытнай Русі **Валянцін Лаўрэнцьевіч Янін** (нарадз. у 1929 г.) прыйшоў да вываду, што, нягледзячы на выкарыстанне чужой манеты, на Русі была створана самабытная грашова-вагавая сістэма, прадстаўленая грыўнямі, нагатамі, кунамі і разанамі (гл. *Янин, В. Л. Денежно-весовые системы домонгольской Руси и очерки истории денежной системы средневекового Новгорода / В. Л. Янин. — М.: Языки славянских культур, 2009. — 416 с.*).




Арабскі дырхем




Заходнееўрапейскі дэнарый

? **1.** Успомніце, у якія часы выкарыстоўваліся гэтыя манеты на старажытнарускіх землях.

**2.** Якая з гэтых манет была больш якаснай?

✧ **3.** Аб чым сведчаць знаходкі гэтых манет у той альбо іншай мясцовасці?



Златнік Уладзіміра



Візантыйскі солід

? **1.** Знайдзіце агульнае і асаблівае ў старажытнарускіх і візантыйскіх манетах.

✧ **2.** Як вы думаеце, чаму ні візантыйскія, ні старажытнарускія манеты не атрымалі шырокага распаўсюджання на тэрыторыі Русі?

## З’яўленне і знікненне дэнарыя на Русі

Адной з найцікавейшых дапаможных гістарычных дысцыплін, якая дазваляе атрымліваць дадатковую інфармацыю аб жыцці людзей на аснове вывучэння гісторыі чаканкі манет і грашовага абарачэння, з’яўляецца **нумізматыка** (ад лац. «nomisma» — манета). Нумізматыка дае магчымасць даведацца аб эканамічным развіцці той або іншай краіны, напрамках і інтэнсіўнасці гандлю, стане фінансаў дзяржавы і г. д. Манеты таксама даюць інфармацыю аб палітычнай гісторыі дзяржавы: змене правіцеляў, часе праўлення апошніх. Выдатным беларускім спецыялістам-нумізматам быў **Валянцін Навумавіч Рабцэвіч** (1934—2008). З імем Валянціна Навумавіча Рабцэвіча звязана цэлая эпоха ў развіцці нумізматыкі ў нашай краіне. З 1963 г. ён выкладаў на гістарычным факультэце БДУ. Некалькі пакаленняў студэнтаў з падзякай успамінаюць займальныя лекцыі В. Н. Рабцэвіча, яго дзіўную здольнасць рабіць вывады на аснове нямых манет. У сваёй фундаментальнай працы «Нумізматыка Беларусі» навуковец разглядае змест і прычыны змены розных перыядаў у грашовым абарачэнні на тэрыторыі Беларусі ў старажытнарускі перыяд. Пасля эпохі дырхема наступіў

перыяд еўрапейскага дэнарыя, які змяніў так званы «безманетны» перыяд.

Ва ўмовах пашырэння ўнутранага тавараабароту і знешніх эканамічных сувязей Старажытнарускай дзяржавы раслі запатрабаванні яго рынкаў у грошах. Пры адсутнасці ўласнай манетнай вытворчасці яны маглі быць задаволены толькі за кошт знешніх крыніц. Цалкам натуральна, што пры пераарыентацыі рускага знешняга гандлю з усходу на захад менавіта еўрапейскія краіны сталі пастаўшчыкамі на Русь сродкаў грашовага абарачэння.

У перыяд станаўлення руска-еўрапейскіх сувязей (IX—X стст.) арабская манета адыгрывала істотную ролю ў абслугоўванні грашовай гаспадаркі заходнееўрапейскіх дзяржаў, якія атрымлівалі яе галоўным чынам ад рускіх зямель. Зараз Русь і Заходняя Еўропа памяняліся ролямі: па шляхах, ужо «пракладзеных» дырхемам, але ў напрамку, зваротным яго руху, лінуў струмень еўрапейскай сярэбранай манеты — дэнарыя.

Самы ранні старажытнарускі скарб, у якім «сустрэліся» манеты Усходу і Захаду, знойдзены ў 1926 г. у вёсцы Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Гэтае грашовае зберажэнне (201 дырхем, 2 германскія і 1 візантыйская манеты) было схавана паміж 979 — пачаткам 980-х гг.

Паступленні гэтай манеты, якія мелі выпадковы характар у канцы X ст., становяцца рэгулярнымі з пачатку XI ст. Да сярэдзіны XI ст. у скарбах пераважаюць германскія (пфенігі) і англійска-саксонскія (пені) дэнарыі, часам сустракаюцца адзінкавыя дэнарыі Чэхіі, Венгрыі, Францыі, Паўночнай Італіі, Скандынавіі.

Скарбы другой паловы XI — першай чвэрці XII ст. характарызуюцца адноснай аднастайнасцю:

у іх пры пераважнай перавазе пфенігаў іншыя віды дэнарыя трапляюцца даволі рэдка.

Паступленне дэнарыя і яго абарачэнне ў розных абласцях неабсяжнай Русі не былі ў роўнай ступені працяглымі. Сістэматычны ўвоз яго паўночнымі (наўгародскімі) землямі ажыццяўляўся да канца першай чвэрці XII ст., паўднёвымі (сучасная Украіна) спыніўся ўжо ў другім дзесяцігоддзі XI ст. Заходнерускія землі (сучасная Беларусь) занялі ў гэтых адносінах «залатую сярэдзіну», імпартуючы прадукцыю еўрапейскіх манетных двароў прыкладна да сярэдзіны 1060-х гг. Раён існавання дэнарыя на тэрыторыі Заходняй Русі ахапіў пераважна Верхняе Падняпроўе і Падзвінне, у цэлым супадаючы з тапаграфіяй скарбаў апошняга этапу абарачэння куфічнага дырхема.

Як і ў папярэдні перыяд, спыненне манетных паступленняў на Русь было выклікана знешнімі прычынамі.

Да сярэдзіны XI ст. у краінах Заходняй Еўропы назіраецца бурнае развіццё працэсаў феадальнага драблення. Рост старых і ўзнікненне новых гарадоў, узмацненне спецыялізацыі рамяства, уцягванне вёскі ў актыўныя таварна-грашовыя адносіны павялічваюць запатрабаванні ўнутраных рынкаў у манеце.

Рэзка ўзрастае колькасць манетных двароў, з прычыны чаго «распыляецца» маса здабываемага серабра, падаюць тыражы выпускаемых дэнарыяў. Ідзе распад агульнаеўрапейскай грашовай сістэмы, парушаецца якасная і вагавая аднастайнасць манетных эмісій [выпуска манет].

Спад грашовай вытворчасці пры адначасовым асяданні на месцах большай часткі яе прадук-

цыі прыводзіць да згасання экспарту дэнарыяў на Русь.

*Рябцевич, В. Н. Нумизматика Беларуси / В. Н. Рябцевич. — Минск: Полымя, 1995. — С. 118—120.*

**1.** Калі і чаму пастаўшчыкамі манет на Русь сталі еўрапейскія краіны?

**2.** Дзе ўпершыню «сустрэліся» манеты Усходу і Захаду на тэрыторыі Старажытнай Русі?

**3.** Якія манеты пераважалі ў скарбах на тэрыторыі Старажытнай Русі да сярэдзіны XI ст.?

**4.** Да якога часу на тэрыторыю сучаснай Беларусі прыходзілі еўрапейскія дэнарыі?

**5.** Чаму адбылося спыненне манетных паступленняў на Русь з Еўропы?

**6.** Як вы думаеце, чаму не было наладжана чаканенне сваёй манеты ў старажытнарускіх княствах у XII—XIII стст.?

## Запіска Абу Хаміда ал-Гарнаці аб грошах на Русі ў XII ст.

У выніку шэрага прычын, галоўнай з якіх з'яўлялася раздрабленне еўрапейскіх дзяржаў, на тэрыторыю Старажытнай Русі спынілася паступленне чаканнай манеты. Між тым працягваўся рост старажытнарускіх гарадоў, развіццё ў іх рамяства, па-ранейшаму існавала патрэбнасць у разменнай манеце для забеспячэння ўнутранага і міжнароднага гандлю. Што ж замяніла металічныя грошы ў так званы «безманетны» перыяд? Шмат у чым адказ на гэтае пытанне застаецца прадметам здагадак, гіпотэз. Вядома, гэта былі не **грыўні** — грашова-вагавыя адзінкі: для паўсядзённых дробных разлікаў яны мелі вельмі высокі кошт. Выкарыстоўваліся грыўні для буйных аптовых здзелак, а таксама для назапашвання багацця, як вагавая адзінка. Акрамя таго, грыўні выкарыстоўваліся пры куплі зямельных уладанняў, іх ахвяравалі манастырам. На беларускіх землях у XII—XIII стст. мелі хаджэнне «кіеўская» грыўня шасцівугольнай формы (каля 140—165 грамаў) і, у меншай ступені, «наўгародская» грыўня (каля 204 грамаў). Менавіта наўгародская грыўня з канца XIII ст. стане звацца «рублём». Позна, толькі ў XIII ст., на беларускіх землях (і далей на ўсход) атрымлівае распаў-

сюджанне злітак серабра прыкладна ў 102—110 грамаў. Ён атрымаў назву «заходнерускай», або «літоўскай», грыўні. У пісьмовых крыніцах гэтая грашова-вагавая адзінка сустракаецца пад назвай «**ізрой**» і звязваецца з тэрыторыяй Віцебшчыны. Мяркуюць, што гэты тып грыўні быў запазычаны маладой Літоўска-Рускай дзяржавай у якасці першай уласнай грашовай адзінкі (гл.: *Гулецкі, Д. У. Манеты беларускай даўніны / Дзмітрый Гулецкі. — Мінск: Беларусь, 2007. — С. 19*). У якасці ж заменнікаў манет даследчыкі вызначаюць стандартныя тавары з адносна стабільным коштам, такія як валынскія шыферныя праслiцы або ракавіны каўры. Між тым ёсць прамыя сведчанні крыніц аб тым, што ў якасці сродку абмену служылі шкуркі пушных звяркоў. Вялікую каштоўнасць у дадзеным выпадку маюць звесткі, якія прыведзены ў гісторыка-геаграфічнай працы арабскага вучонага **Абу Хаміда Мухамада ібн Абд ар-Рахіма ал-Гарнаці ал-Андалусі** (1080—1170). Ён нарадзіўся ў Грэнадзе на Пірэнейскім паўвостраве, адгэтуль і яго мянушка — «грэнадзец» (па-арабску «Грэнада» гучыць як «Гарната»). У 1150—1153 гг. гэты вучоны непасрэдна пабываў у рускіх землях, наведаў Кіеў, а таксама каля 20 гадоў пражываў у Саксіне ў вусці Волгі, г. зн. недалёка ад Русі. Усё гэта дазваляе з вялікім даверам ставіцца да расказу ал-Гарнаці аб сітуацыі з грашовым абарачэннем у Старажытнай Русі.

Калі я прыехаў у іх краіну, то ўбачыў, што гэтая краіна велізарная, багатая мёдам, і пшаніцай, і ячменем, і вялікімі яблыкамі, лепш якіх нічога няма. Жыццё ў іх таннае.

Разлік яны ажыццяўляюць паміж сабой старымі вавёрчынымі шкуркамі, на якіх няма поўсці і якія нельга ні на што ніколі выкарыстаць і якія зусім ні на што не патрэбны. Калі ж шкурка галавы вавёркі і шкурка яе лапак цэлыя, то кожныя васямнаццаць шкурак каштуюць па разліку [славян] сярэбраны дырхем, звязваюць [шкуркі] у звязак і завуць яго джукн. І за кожную з такіх шкурак даюць выдатны круглы хлеб, якога хапае моцнаму мужчыне.

На іх купляюць любыя тавары: нявольніц, і нявольнікаў, і золата, і серабро, і баброў, і іншыя та-

вары. І калі б гэтыя шкуркі былі ў якой-небудзь іншай краіне, то не купілі б тысячу іх цюкоў за хабу і не спатрэбіліся б яны зусім ні на што. Калі яны [шкуркі] сапсуюцца ў іх хатах, то іх, [нават] ірваныя, нясуць у мяшках, накіроўваючыся з імі на вядомы рынак, на якім ёсць нейкія людзі, а перад імі работнікі. І вось яны кладуць іх перад імі, і работнікі нанізваюць іх на моцныя ніткі, кожныя васямнаццаць у адзін звязак, і прымацоўваюць на канец ніткі кавалачак чорнага свінцу, і адзначаюць яго пячаткай, на якой маецца малюнак цара. І бяруць за кожную пячатку адну шкурку з гэтых шкурак, пакуль не апячатаюць іх усе. І ніхто не можа адмовіцца ад іх, на іх прадаюць і купляюць.

*Абу Хамид ал-Гарнати. Ясное изложение некоторых чудес Магриба, или выборка воспоминаний о чудесах стран // Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том III: Восточные источники. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2009. — С. 143—144.*

! **Джукн** — куна альбо грыўня.
**Хаба** — арабская мера вагі, роўная вазе сярэдняга ячменнага зерня.

? **1.** Чым, па сведчанні арабскага аўтара, была багата Руская зямля?
**2.** З дапамогай чаго ажыццяўлялі разлік паміж сабой усходнія славяне?
**3.** Ці выкарыстоўваліся шкуркі пушных звяркоў у прамым прызначэнні?
✧ **4.** Якую ролю ў замацаванні шкурак пушных звяркоў у якасці грошай адыгрывала дзяржаўная ўлада?

## Абшчына Старажытнай Русі

Гарадское насельніцтва Старажытнай Русі было зусім нешматлікім, у асноўным людзі жылі ў неўмацаваных селішчах і займаліся сельскай гаспадаркай. Пры гэтым сельскае насельніцтва было аб'яднана ў **абшчыны**. Абшчына адыгрывала важную ролю ў жыцці старажытнарускага чалавека, па-за ёю ён станавіўся ізгоем, пазбаўленым падтрымкі і дапамогі ў галодныя гады або ў выпадку хваробы. Абшчына ў старажытнарускі перыяд адрознівалася ад кроўнароднаснага калектыву родаплемяннай, дадзяржаўнай эпохі. Ужо падчас рассялення славян на тэрыторыі Усходняй Еўропы разбураліся роднасныя сувязі, у адным паселішчы маглі аказацца людзі з розных родаў і нават плямён. Так на змену патрыярхальнай вялікасямейнай абшчыне прыходзіць суседская (тэрытарыяльная) абшчына, у якой усё больш самастойную ролю сталі адыгрываць малыя сем'і. Такое развіццё грамадства, на думку савецкіх гісторыкаў, назіралася ва ўсіх народаў. Адным з першых у савецкай гістарычнай навуцы на матэрыяле Старажытнай Русі гэтую думку выказаў «патрыярх савецкай гістарычнай навукі» акадэмік **Барыс Дзмітрыевіч Грэкаў** (1882—1953). Даследчык быў прызнаным лідарам савецкай гістарычнай навукі, якая ўзяла на ўзбраенне марксісцкую тэорыю. За свае працы па гісторыі Старажытнай Русі Б. Д. Грэкаў быў тройчы ўзнагароджаны Сталінскай прэміяй. У яго родным украінскім горадзе Міргарадзе з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння быў пастаўлены помнік. Б. Д. Грэкаў стварыў сваю школу гісторыкаў, якая вызначала развіццё гістарычнай навукі на працягу другой паловы XX ст. У яго манаграфіі «Кіеўская Русь», якая некалькі разоў перавыдавалася, праводзілася ідэя аб раннім фарміраванні ва ўсходнеславянскім рэгіёне феадалізму (з IX ст. і нават раней) і вырашальным уздзеянні на гэты працэс гаспадарчага развіцця.

Такім чынам, можна амаль не сумнявацца ў тым, што ўсходняе славянства, як і ўсе іншыя народы свету, перажыло адны і тыя ж этапы ў сваім развіцці. Усходняму славянству вядомы перыяд родавага бяскласавага ладу; падчас яго распаду родавая абшчына змянілася абшчынай суседскай, побач з якой існавала і вялікая сям'я.

Калі родавы лад у VIII—IX стст. захаваўся ў перажытках, то да XI ст. амаль зніклі і гэтыя сляды.

У найстаражытных рускіх пісьмовых помніках, якія дайшлі да нас, мы бачым ужо класавае грамадства, якое мела за сабой значнае мінулае.

Земляробчая маса, арганізаваная ў абшчыны, працягвае сваё існаванне, але яна пад уплывам прыватнай уласнасці на зямлю моцна змяніла сваю ўнутраную структуру. Члены абшчыны вядуць сваю індывідуальную гаспадарку. «Дым», «рала», «плуг» сталі адзінкай, з якой члены абшчыны неслі свае павіннасці, чаго не ведала родавая абшчына. Сельская абшчына ў асвятленні найстаражытных рускіх пісьмовых помнікаў ужо знаходзіцца пад моцным уздзеяннем дзяржавы: члены абшчыны абкладзены падаткам (падымным, інакш паральным, або паплужным), па патрабаванні ўлады яны становяцца ў шэрагі войска, яны абкладзены шматлікімі натуральнымі павіннасцямі (падводная павіннасць, уладкаванне дарог, пабудова крэпасцей і г. д.).

Нельга не заўважыць, што абшчына сістэматычна асвойваецца знаццю, якая імкнецца пашырыць свае зямельныя ўладанні за кошт сялянскай супольнай зямлі і ператварыць земляробчае насельніцтва, якое сядзіць на ёй, у залежных людзей. Нарэшце, нельга забываць, што сама абшчына не застаецца нязменнай: распачаты вельмі даўно працэс вылучэння з яе больш заможных вярхоў сведчыць аб тым, што ўнутры абшчыны ўжо пануе маёмасная няроўнасць, узвышаюцца больш заможныя, з'яўляюцца беднякі, якім становяцца не пад сілу ўскладзеныя на абшчыну абавязкі...

*Греков, Б.Д. Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII в. — Изд. 2-е, испр. и доп. — М.: Изд-во Академии наук СССР, 1952. — Кн. 1. — С. 81.*

**?** **1.** Што ўяўляла сабой абшчына ў часы Старажытнай Русі?

**2.** Як уздзейнічала на абшчыну дзяржава?

**3.** Як умешвалася ў жыццё абшчыны знаць?

**4.** Якія працэсы адбываліся ўнутры самой абшчыны?

✧ **5.** Як увогуле можна назваць апісаныя ў прыведзеным тэксце працэсы грамадскага развіцця?

# § 22. Горад у IX — сярэдзіне XIII ст.

## Сярэдневяковая кніжная мініяцюра «Будаўніцтва горада»

Усходнеславянскі горад меў рысы, якія адрознівалі яго ад заходнееўрапейскіх гарадоў таго часу, а тым больш ад сучасных. Гарады Русі былі, за невялікім выключэннем, драўлянымі: з дрэва ўзводзілі жыллё, умацаванні, часткова культавыя будынкі, маставыя і нават водаправод. Усходнеславянскія гарады былі цесна звязаны са сваёй воласцю: шмат гараджан займаліся сельскай гаспадаркай. Замежныя сярэдневяковыя аўтары абавязкова звярталі ўвагу на старажытнарускія гарады. З другой паловы IX ст. у Скандынавіі Русь сталі называць Gardar («Гарады, умацаванні»). Гарадоў на Русі ў гэты час было яшчэ няшмат (у канцы X — пачатку XI ст. не больш за 21). Мабыць, пад назвай Gardar скандынавы разумелі ўмацаваныя паселішчы, размешчаныя на важных пунктах гандлёвых шляхоў. Ужо бліжэй к канцу XII ст. Русь стануць называць Gardariki, г. зн. «Краінай гарадоў». Гарады, як умацаваныя паселішчы, цэнтры рамяства, гандлю і княжацкай адміністрацыі, узнікалі рознымі шляхамі. Уласна аб гарадах навукоўцы гавораць толькі ў дачыненні да перыяду існавання Старажытнарускай дзяржавы — пачынаючы з X ст. Для больш ранняга перыяду было характэрна існаванне протагарадоў (прота — ад грэч. prótos — першы, першапачатковы). Аснову насельніцтва протагарадоў складалі галоўным чынам прадстаўнікі таго племені, на тэрыторыі якога яны ўзніклі, — гэта былі племянныя цэнтры. Тут размяшчаліся рамеснікі і князь са сваёй дружынай. Нараўне зператварэннем у гарады протагарадоў, якія з'яўляліся племяннымі цэнтрамі, гарады развіваліся з: 1) умацаваных станаў, пагостаў, адміністрацыйных цэнтраў воласці (куды збіралася даніна); 2) памежных крэпасцей; 3) цэнтраў, пабудаваных па ініцыятыве дзяржаўнай улады; 4) цэнтраў гандлю, створаных на важных міжнародных шляхах (гэ-

тыя паселішчы гісторыкі называюць «вікамі», па ўзоры скандынаўскіх і прыбалтыйскіх гарадоў, у якіх засяроджваўся міжнародны гандаль).



**1.** Разгледзьце малюнак і вызначыце, якім інструментам карыстаюцца майстры.

**2.** Які матэрыял выкарыстоўваюць майстры для будаўніцтва горада?

**3.** Як вы думаеце, хто кіруе працай будаўнікоў?

**4.** Для чаго ў Старажытнай Русі патрэбны былі гарады?

## Вырабы старажытнарускіх рамеснікаў

Менавіта ў гарадах Старажытнай Русі рамяство дасягнула найбольш высокага ўзроўню і падзялілася на мноства спецыяльнасцей. У сельскай мясцовасці таксама працавалі рамеснікі — кавалі, ганчары, бондары і інш., але яны не дасягалі ўзроўню майстэрства гарадскіх рамеснікаў, вырабляючы толькі самыя неабходныя ў побыце і для сельскагаспадарчых работ рэчы. Вырабы на заказ, а з часам усё больш на рынак, выраблячіся ў вялікіх маштабах і ў значна большым асартыменце менавіта ў гарадах. Так, кавальскае рамяство ў гарадах да XII ст. распалася на такія спецыяльнасці, як збройнікі, шчытнікі, гваздзільшчыкі.

Ад кавалёў аддзяліліся домнікі, якія «варылі» жалеза, часта нават за межамі горада. Вялікага майстэрства дасягнулі старажытнарускія майстры-ювеліры — «кавалі медзі і срэбра», якія аддзяліліся ад «кавалёў жалеза». Старажытнарускія ювеліры засвоілі найтанчэйшую тэхніку зерні, скані, фігурнага ліцця і найбольш складаную з усіх — тэхніку перагародчай эмалі. Нашмат багацейшым, чым у сельскіх майстроў, быў асартымент гарадскіх ганчарных вырабаў. Да ганчарнага рамяства прылічаюць і выраб плінфы (шырокая і плоская абпаленая цэгла). Паўсюль чалавека ў тыя часы акружалі вырабы з дрэва, пачынаючы ад хат, маставых, мастоў, колаў, хатняй мэблі і заканчваючы хатнім начыннем — лыжкамі, грабянцамі і г. д. У горадзе (іноў такі ў адрозненне ад сяла, дзе найбольш вылучаліся толькі бондары) узнікла некалькі спецыяльнасцей майстроў па дрэве. Гэта найперш цесляры, спецыялісты па крапасных пабудовах («гароднікі») і інш. Археолагі выявілі ў старажытнарускіх гарадах, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, рэшткі майстэрняў па вырабе шкла. Акрамя таго, гарадскія рамеснікі займаліся ткацтвам, апрацоўкай косці, каменя, скуры. Найбуйнейшы спецыяліст па рамястве Старажытнай Русі Б. А. Рыбакоў налічвае 42 гарадскія рамесныя спецыяльнасці. Да іх яшчэ варта дадаць такія прафесіі, як кухары, пекары, скамарохі, гусляры, лекары і інш. «Рускія рамеснікі X—XIII стст., — пісаў Б. А. Рыбакоў, — зрабілі свой вялікі ўклад у развіццё культуры Старажытнай Русі; у тысячах кузняў па Дняпры і па Ільмені, па Волзе і Ацэ кавалі плугі для ўзворвання палёў, сотні збройнікаў рыхтавалі зброю, якая перамагала качэўнікаў-стэпавікоў, візантыйцаў, немцаў і палякаў, а ў ювелірных майстэрнях стваралася найтанчэйшае «ўзорач'е» з бронзы, серабра і золата, упрыгожанае філігранню, чаканкай і эмаллю, якая не выцвітае». (*Рыбаков, Б. А. Ремесло / Б. А. Рыбаков // История культуры Древней Руси. Домонгольский период. I. Материальная культура / Под ред. Н. Н. Воронина, М. К. Каргера и М. А. Тихановой. — М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1948. — С. 78.*)

*Археология: Древняя Русь. Быт и культура / Отв. ред. тома Б. А. Колчин, Т. И. Макарова. — М.: Наука, 1997. — С. 247.*

?

**1.** Якія вырабы старажытнарускіх рамеснікаў паказаны на малюнках?

**2.** Як называюцца рамесныя спецыяльнасці, прадукцыя якіх адлюстравана на малюнках?



**3.** Што з тагачасных вырабаў магло б выкарыстоўвацца і зараз, а што не?

✧ **4.** Як вы ацэньваеце ўзровень развіцця старажытнарускага рамяства?

## Старажытнарускі горад

Па сваім знешнім выглядзе старажытнарускі горад не пераблытаеш ні з якім іншым — заходнееўрапейскім або ўсходнім. Непаўторнае аблічча яму надавалі драўляныя пабудовы зрубнай канструкцыі. Паказальна, што ў летапісах выраз «пабудаваць горад» перадаваўся словамі «срубить город». Тым больш эфектна на фоне драўляных пабудоў выглядалі нешматлікія мураваныя збудаванні: як правіла, гэта былі храмы, радзей княжацкія палацы і ўмацаванні. Да ліку вядомых сучасных даследчыкаў, якія вывучаюць своеасаблівасці старажытнарускай гісторыі і культуры, адносіцца прафесар Гісторыка-архіўнага інстытута Расійскага Дзяржаўнага Гуманітарнага ўніверсітэта, вядучы навуковы супрацоўнік Інстыту-

та славяназнаўства РАН **Уладзімір Якаўлевіч Пятрухін** (нарадз. у 1950 г.). Расійскі гісторык з'яўляецца найбуйнейшым спецыялістам па гісторыі і археалогіі сярэдневяковай Усходняй Еўропы, асабліва ўвагу ў сваіх шматлікіх працах навуковец надае праблемам паходжання славян, станаўлення Старажытнарускай дзяржавы, міфалогіі народаў Паўночна-Усходняй Еўропы (скандынаваў, фіна-ўграў, славян і іх суседзяў), уплыву суседніх народаў і дзяржаў (скандынавы, хазары) на развіццё Старажытнай Русі і інш.

У Старажытнай Русі горадам называлася паселішча, якое мела ўмацаванні. Шматлікія з іх, асабліва памежныя крэпасці, не былі пастаянна заселены — яны служылі сховішчамі, куды збягалася навакольнае насельніцтва пры набліжэнні ворагаў. Тым не менш гэта былі гарады — бо яны былі важнымі цэнтрамі: на ўтрыманне іх умацаванняў і гарнізона навакольнае насельніцтва павінна было затрачваць сродкі і сілы.

Ужо першыя князі і іх дружыннікі павінны былі «карміцца» ў гарадах. У X ст. у летапісе згадана 25 гарадоў. К першай палове XIII ст. іх вядома ўжо 150 і амаль столькі ж адкрыта археолагамі — валы і равы старажытнарускіх гарадзішчаў захаваліся на тых месцах, дзе былі калісьці гарады.

Значыць, нягледзячы на палітычную раздробленасць Рускай зямлі і княжацкія ўсобіцы, на Русі працягвалі хутка развівацца эканоміка і культура. Узнікалі новыя буйныя цэнтры — сярод іх і новыя сталіцы, такія як Уладзімір на Клязьме і Уладзімір Валынскі, Галіч і Разань. Новыя гарады будаваліся не ў пустынных месцах, а на землях, засвоеных земляробамі. Горад не мог развівацца без сельскагаспадарчай акругі — сваёй «воласці».

Асноўным насельніцтвам гарадоў былі рамеснікі і гандляры: яны павінны былі забяспечваць сваімі вырабамі сельскую акругу ў абмен на прадукцыю

сельскай гаспадаркі. Але ў рускім сярэдневяковым горадзе былі свая ралля і выганы для гарадской скаціны — самі гараджане таксама павінны былі займацца земляробствам і жывёлагадоўляй. Археолагі выявілі, што першыя наўгародскія сядзібы X ст. былі пабудаваны на раллі — наўгародцы абавязаны былі карміць княжацкую дружыну, якая размяшчалася непадалёку, на Гарадзішчы.

...У тых гарадах, дзе княжацкая ўлада была моцнай, князь і яго дружына жылі ў крамлі — дзядзінцы: гэтая назва і азначае месца для «дзецкіх» — малодшых дружыннікаў князя.

Ад дзядзінца праз пасад да гарадскіх варот прамянямі разыходзіліся галоўныя гарадскія вуліцы; за варотамі яны перарасталі ў дарогі, якія вялі ў іншыя гарады і нават краіны. Нездарма заходнія вароты Кіева зваліся Лядскімі — Польскімі. Гарадскія вуліцы пакрывалі драўлянымі насцiламі — маставымі. Вуліцы дзялілі гарады на вялікія кварталы, дзе за частаколамі размяшчаліся сядзібы гараджан.

За сценамі дзядзінца размяшчаўся пасад. Пасад мог мець свае ўмацаванні з вежамі, у якіх рабілі ўязныя вароты: да іх праз роў вялі масты. Мураваныя крэпасці былі рэдкасцю ў Старажытнай Русі: на земляных валах вакол рускіх гарадоў узводзіліся драўляныя сцены.

Цэнтрамі старажытнарускіх гарадскіх ансамбляў былі мураваныя цэрквы, якія ўзвышаліся над драўлянымі сядзібамі. Найстаражытныя храмы на Русі будавалі візантыйскія майстры. Яны выкарыстоўвалі тонкую цэглу — плінфу, часам — змешаны мур з плінфы і каменю. Старажытныя цэрквы не пакрываліся тынкоўкай, і спалучэнні шэрагаў цёмнай плінфы са светлым растворам або мурам са светлага каменю надавала царкве прыбраны выгляд.

На пасадзе знаходзіліся шырокія баярскія сядзібы, дзе, акрамя баярскіх сем'яў, жылі залежныя ад баяр рамеснікі і служкі. Іншыя гараджане называліся «чорнымі людзьмі» — яны павінны былі плаціць падаткі князю; яны дзяліліся на «тысячы» і падпарадкоўваліся княжацкаму адміністратару — тысяцкаму. На пасадзе існаваў і торг — рынкавая плошча.

У сярэдзіне сядзіб размяшчаліся жыллё і розныя гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку майстэрні, свірны, лазні. Баярскія сядзібы былі велізарнымі — да двух тысяч квадратных метраў — з дзясяткамі дапаможных пабудоў. Зразумела, жыллё князёў і баяр адрознівалася ад жылля простых гараджан...

*Петрухин, В. Я. Древняя Русь. IX в. — 1263 г. / Владимир Петрухин. — М.: АСТ: Астрель, 2005. — 167—169.*

?

**1.** Якое паселішча ўсходніх славян можна было назваць горадам?

**2.** Колькі гарадоў налічвалася ў Старажытнай Русі?

**3.** Чым займалася насельніцтва старажытнарускіх гарадоў?

**4.** З якіх частак складаўся старажытнарускі горад?

**5.** Што ўяўляў сабой пасад горада?

**6.** Якімі былі гарадскія баярскія сядзібы?

✧ **7.** У чым вы бачыце адрозненні старажытнарускага горада ад заходнееўрапейскага?

# § 23. Хрысціянства на заходніх землях Старажытнай Русі

## Статут князя Уладзіміра Святаславіча

У 988—990 гг. адбылася вельмі важная падзея для наступнай гісторыі ўсходніх славян. У Старажытнарускай дзяржаве было афіцыйна прынята хрысціянства. Усё насельніцтва (і на тэрыторыі сучаснай Беларусі) павінна было хрысціцца і адмовіцца ад уша-

ноўвання язычніцкіх багоў. Галоўная задача, якая стаяла перад княжацкай уладай пасля прыняцця хрысціянства, заключалася ў стварэнні царкоўнай арганізацыі і яе забеспячэнні ўсім неабходным. Трэба было таксама ўрэгуляваць адносіны паміж свецкай і духоўнай уладамі, дакладна вызначыць, што застаецца ў сферы кампетэнцыі князя і яго адміністрацыі, а што пераходзіць у сферу дзейнасці царквы. Магчыма ўжо ў канцы X — першай палове XI ст. існавалі нейкія дамовы кіеўскага князя з царквой. Аб гэтым узгадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 996 г. (расказваецца аб перадачы Уладзімірам Святаславічам дзясятай часткі сваіх прыбыткаў Багародзічнай царкве). Мяркуецца, што ўстаўная грамата князя Уладзіміра канца X — пачатку XI ст. стала асновай царкоўнага статута, які вызначыў прававое становішча царквы. Устаўная грамата князя Уладзіміра па сваёй форме ўяўляла знешнепалітычны акт — своеасаблівую дамову кіеўскага князя з жонкай Ганнай, сястрой візантыйскага імператара. Статут князя Уладзіміра Святаславіча захаваўся ў больш позніх рэдакцыях канца XII — пачатку XIII ст. (ніжэй прыводзіцца на мове арыгінала). Ён вызначыў матэрыяльнае забеспячэнне царквы выключна за кошт дзясятай часткі княжацкіх (дзяржаўных) прыбыткаў, а таксама тую сферу жыцця грамадства і тых людзей, якія пераходзілі ў веданне царквы.

1. Во имя отца и сына и святаго духа.

2. Се яз, князь великии Василии, нарицаемыи Владимер, сын Святославль, внук Игорев и блаженыя Олгы, восприях святое крещенье от гречьскиих цареи Костянтина и Василья и Фотия патриарха и взях перваго митрополита Михаила на Киев и на всю Русь, иже крести всю землю Рускую.

3. И по томь, летомь минувшим, создах церковь святую Богородицю и дах десятину к неи во всеи земли Рускаго княженья и от всякого суда десятыи грошь, а из торгу десятую неделю и из домов на всякое лето десятое всякого стада и всякого живота чюдьнои матери божии и чюдному спасу.

4. И по томь взрех в греческии манаканун [намаканон — візантыйскі зборнік царкоўных правілаў] и обретох в немь се, еже не подобаеть сих судов су-

дити и тяжеб князю и бояромь его ни судьям его. И згадав аз со своею княгинею Анною и со своими детми и дах святеи Богородици и митрополиту и всемь епископомь.

5. А тъ не вступаються ни дети мои, ни внуци мои, ни род мои в люди церковныя и [во] все суды; по всем градомь дал есм и по погостомь и по свободам, где христьяне суть.

6. А кто уступить на мое данье, суд мне с темь пред богомь, а митрополиту проклинати его збором.

8. А се митрополичи люди церковные: игумен, игуменья, поп, попадья, поповичь, чернець, черница, диякон, дьяконова, проскурница, пономарь, вдовица, калика, стороник, задушьныи человек, прикладник, хромець, слепець, дьяк и вси причетници церковнии.

9. Аще их кто внидеть в вину, судити тех митрополиту и епископомь опроче мирян.

*Устав князя Владимира Святославича // Памятники русского права. — Вып. 1: Памятники права Киевского государства X—XII вв. — М.: Госюриздат, 1952. — С. 235—238.*

? **1.** Што даў для забеспячэння царквы князь Уладзімір?
**2.** Знайдзіце ў тэксце Статута пацверджанне таго, што дзяржава адмаўлялася ад умяшання ў царкоўныя справы.
**3.** Якіх людзей, згодна са Статутам, маглі судзіць толькі царкоўным судом?
✧ **4.** Як вы думаеце, які ўплыў аказала на становішча царквы на Русі Візантыя?

## Пачатак Тураўскага епіскапства

Паводле агульнапрынятага меркавання, Тураўская епархія была створана адной з першых ва ўсходнеславянскіх землях. Кіева-Пячэрскі патэрык называе дакладную дату — 1005 г. — і імя першага епіскапа — Фаму. Між тым не ўсе гісторыкі давяраюць

паведамленню дадзенай крыніцы. У летапісах першае згадванне аб Тураўскай епархіі датуецца толькі 1114 годам. **Кіева-Пячэрскі патэрык** — гэта зборнік расказаў аб заснаванні першага вядомага на Русі манастыра, аб жыцці яго першых паслушнікаў. Патэрыком жа (літар. з грэч. — «бацькоўская кніга») называюць зборнік выслоўяў святых айцоў-падзвіжнікаў або расказаў аб іх. У аснову Кіева-Пячэрскага патэрыка былі пакладзены два пасланні XIII ст., але сам ён быў створаны намнога пазней. Тая рэдакцыя, у якой утрымліваецца згадванне аб заснаванні Тураўскай епархіі (змешчана ніжэй на мове арыгінала), была складзена архімандрытам манастыра Іосіфам Трызнай у сярэдзіне XVII ст. Адметнай асаблівасцю дадзенай рэдакцыі з'яўляюцца значныя дадаткі гістарычнага характару, якія не маюць прамых адносін да яго зместу. Лічыцца, што гэтыя дадаткі І. Трызна запазычаў з розных летапісных зводаў, якія былі ў яго распараджэнні. Магчыма, з нейкага летапісу, які не захаваўся да нашых дзён, і была ўзята інфармацыя аб заснаванні Тураўскай епархіі. Калі верыць прыведзенай інфармацыі, Тураўская епархія ўжо ў пачатку XI ст. уключала, акрамя тураўскіх, пінскія, навагрудскія, брэсцкія, слуцкія і ваўкавыскія землі. Аднак большасці са згаданых гарадоў у той час папросту не існавала. Не была характэрна для пачатку XI ст. і перадача царкве зямельных уладанняў. Магчыма, у дадзеным выпадку мела месца перанясенне пазнейшых рэалій на больш ранні час. І ўсё ж такі трэба пагадзіцца, што такая вялікая і багатая воласць, як Тураўская, павінна была атрымаць епіскапства не пазней за іншыя землі Русі.

Третье богомолие епископью постави в Турове в лето 6513/1005 и придах к ней городы и погосты в послушание и священие и благословение держати себе Туровской епископии: Пинск, Новгородок (Новогрудок), Городень (Гродно), Берестье (Брест), Волковыеск, Здитов, Неблетеск, Дубовица, Высочко, Случеск, Копысь, Ляхов, Городок, Смедяне, и поставих перваго епископа Фому, и придах села, винограды, земли бортныя, волости со всеми придатки (Святому Спасу и святей Богородице...).

*Цыт. паводле: Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: В 2 кн. / Л. В. Алексеев. — Кн. 2. — М.: Наука, 2006. — С. 48.*

? 1. Якія тэрыторыі, паводле Кіева-Пячэрскага патэрыка, уключала Тураўская епархія?

2. Ці ўваходзілі ўсе пералічаныя ў Патэрыку гарады ў адно княства?

✧ 3. У Патэрыку Тураўскае епіскапства названа «третьим богомолием». А якія былі першыя два?

✧ 4. Як вы думаеце, ці з'яўляецца сведчанне Кіева-Пячэрскага патэрыка аб заснаванні Тураўскай епархіі сапраўдным?

## Устаўная грамата смаленскага князя Расціслава Мсціславіча (1150 г.)

Першапачаткова забеспячэнне царквы ўсім неабходным цалкам брала на сябе дзяржава (у выглядзе адлічэння дзясятай часткі ўсіх княжацкіх прыбыткаў). У гэтым выяўляецца залежнае ад дзяржавы становішча тагачаснай царквы. Але вельмі хутка Кіеўская мітраполія, асобныя яе епархіі (епіскапствы) і манастыры, пачалі атрымліваць і зямельныя ўладанні з «сяльцамі». Гэта былі ў асноўным княжацкія падараванні. Першапачаткова толькі князь, як вярхоўны ўласнік зямлі (у перыяд раздробленасці — свайго княства), меў права пасродкам выдачы спецыяльнай граматы перадаваць правы на пэўную тэрыторыю разам з людзьмі, якія на ёй жылі. Адным з найбольш ранніх сведчанняў таму з'яўляецца ўстаўная грамата смаленскага князя Расціслава Мсціславіча (памёр у 1167 г.). Гэты князь вядомы сваёй актыўнасцю як у барацьбе за вялікае княжанне Кіеўскае, так і ў добраўпарадкаванні сваёй зямлі. Імкнучыся падняць значэнне свайго княства і зацвердзіць яго незалежнасць, князь Расціслаў садзейнічаў заснаванню Смаленскай епархіі. Для яе матэрыяльнага забеспячэння смаленскі князь і выдаў у 1150 г. устаўную грамату. Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што нараўне з традыцыйнай дзясятай часткай розных прыбыткаў, князь дараваў епархіі і зямельныя ўладанні. У сярэдзіне XII ст. у Смаленскае княства ўваходзілі некаторыя сучасныя беларускія землі, гарады якіх узгадваюцца ў грамаце.

1. У імя айца і сына і святаго духа. Бог і святая Багародзіца і бацькі майго малітва, прывёў епіскапа Смаленску, параіўшыся са сваімі людзьмі, па наказу айца свайго святога, які жадаў пры жыцці сваім стварыць, але раней гэтага часу не бывала

епіскапства, ды я нявартый, грэшны, гэта засноўваю епіскапства, у ім жа епіскапу быць і з кліpасам сваім, у свае дні і ў сваё княжанне, што мне Бог даў і бацькава малітва.

2. А аддаю [царкве] святой Багародзіцы і епіскапу прашчэнікаў, з мёдам, і з кунамі, і з віраю, і з продажамі і не варта іх судзіць аніякаму ж чалавеку.

3. І аддаю святой Багародзіцы [і] епіскапу дзесяціну ад усіх данін Смаленскіх, колькі ў іх збіраецца сапраўдных кун, акрамя продажы і акрамя віры і акрамя палюддзя: ...[ідзе пералік населеных пунктаў і памер падаткаў з іх] з Копысі палюддзя чатыры грыўні, а перавозу чатыры грыўні, а гандлёвага 4 грыўні, а карчомнага невядома колькі, але з таго, што будзе сабрана, з таго дзесяціна святой Багародзіцы; з Прупоя [Прапойска] 10 грыўняў, а з таго епіскупу грыўня, а карчомнага невядома, але што будзе сабрана, з таго дзесяціна святой Багародзіцы; у Крэчута [Крычава] даніны 10 грыўняў, а святой Багародзіцы і епіскапу грыўня... І аддаю з Таропча [Таропец] ад усіх рыб, што ідуць да мяне, дзесяціну святой Багародзіцы і епіскапу; [Ад] Жызця таксама ад усіх рыб, што ідуць да мяне, дзесяціна святой Багародзіцы і епіскапу, што належыць да вобласці Смаленскай, або малая або вялікая даніна, альбо княжая, альбо княгініна, або хоць бы чыя, выпраўляць дзесяціну святой Багародзіцы, без усякіх адпісак рабіць.

4. Сяло Дросенскае, з ізгоямі і з зямлёй святой Багародзіцы і епіскапу, і сяло Ясенскае, і з бортнікам і з зямлёй і з ізгоямі святой Багародзіцы; і таксама даў зямлю Моншынскую ў Пагановічах святой Багародзіцы і епіскапу; і возера Німікорскае і з сенажацямі, і княжы ўезд, і на Свярковых луках сенажаці, і княжы ўезд, возера Каладарскае, святой Багародзіцы...

9. Я, грэшны сын Мсціслава, спадзеючыся на Божаю маці на святую Багародзіцу, засноўваю гэтую епіскапію; калі жа хто разбурыць яе, хай сам адказвае святой Багародзіцы, і гэтая клятва святых бацькоў будзе на ім, а я буду без граху.

*Уставная грамота князя Ростислава (1150 г.) // Памятники русского права. — Вып. 2: Памятники права феодально-раздробленной Руси XII—XV вв. — М.: Госюриздат, 1953. — С. 39—42.*

! **Прашчэнікі (прощенники)** — дараваныя, адпушчаныя на волю без выкупу халопы.

**Куна** — сярэбраная манета, у XII ст. роўна 1/50 грыўні, таксама сінонім грошай.

**Віра** — грашовы штраф за забойства, выплачваўся на карысць князя.

**Продаж** — грашовы штраф князю за злачынства, не звязанае з забойствам.

**Палюддзе** — у XI—XII стст. — збор з насельніцтва прадуктамі на карысць князя.

**Ізгоі** — людзі, выгнаныя са сваёй абшчыны; былыя халопы, якіх пасадзілі на зямлю.

? **1.** Якія формы падаткаў названы ў грамаце смаленскага князя?

**2.** Знайдзіце ў грамаце сведчанне таго, што царква ў XII ст. валодала зямлёй.

**3.** Над якімі катэгорыямі насельніцтва, паводле граматы, царква атрымала права суда?

✧ **4.** Для чаго царква выкарыстоўвала тыя значныя сродкі, якія яна атрымлівала ад дзяржавы?

## «Дваяверства» ўсходніх славян пасля прыняцця хрысціянства

Язычніцкая рэлігія з яе асобым успрыманнем навакольнага свету мела глыбокія карані ў асяроддзі ўсходнеславянскага насельніцтва. Воля вярхоўнага правіцеля, наколькі б ён ні быў ма-

гутным, не магла раптоўна прымусіць людзей цалкам памяняць іх светапогляд і адмовіцца ад рэлігійных уяўленняў, якія складваліся стагоддзямі. Тым не менш Русь даволі хутка стала хрысціянскай дзяржавай. Адбылося гэта дзякуючы пэўнаму кампрамісу паміж хрысціянствам і язычніцтвам: ранейшыя багі былі прылічаны да «бесаў», іх функцыі перададзены хрысціянскім святым, царкоўныя святы прымеркаваны да тых, што былі дагэтуль. Аднак існавала мноства сфер жыцця чалавека, у якія хрысціянства пранікала з цяжкасцямі. Так, зусім нязначна закранулі царкоўныя рэгламентацыі паўсядзённае сямейнае жыццё. Першы твор, які выказваў праваслаўны погляд на адбудову дома, сям'і, — «Дамастрой» — з'явіўся толькі ў XVI ст. Таму ў гэтай сферы доўгі час захоўваліся язычніцкія звычаі і найстаражытны лад жыцця. Хрысціянства зусім не перамагло язычніцтва, калі знішчыла славянскае шматбожжа і месцы шанавання багоў — свяцілішчы. Ва ўяўленнях людзей доўгі час захоўваліся ніжэйшая міфалогія, вераванні магічнага тыпу. Хаця даволі хутка распаўсюдзіўся хрысціянскі звычай пахавання — трупапалажэнне (інгумацыя), па-ранейшаму ўсходнія славяне насыпалі курганы і ў пахаваннях пакідалі ўпрыгажэнні з язычніцкай сімволікай. Прыклады можна працягнуць. Гэтае своеасаблівае злучэнне хрысціянства з язычніцтвам атрымала назву **дваяверства**. У кнізе вядомага беларускага гісторыка, акадэміка АН БССР **Мікалая Міхайлавіча Нікольскага** (1877—1959) «Гісторыя рускай царквы» прыведзена мноства прыкладаў захавання язычніцкіх вераванняў і іх перапляцення з хрысціянствам. М. М. Нікольскі з'яўляўся выдатным знаўцам Бібліі і гісторыі старажытнаўсходніх цывілізацый. З моманту заснавання Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта навуковец становіцца спачатку яго прафесарам, а затым дэканам педагагічнага факультэта, а з 1929 г. пачаў працаваць у сістэме АН БССР. З 1937 г. Мікалай Міхайлавіч узначальваў Інстытут гісторыі АН БССР. Упершыню выдадзеная ў 1930 г. «Гісторыя рускай царквы» М. М. Нікольскага пазней неаднаразова перавыдавалася з улікам яе карыснасці ў справе навукова-атэістычнай прапаганды.

Хрысціянскія ўяўленні пра бога, рай і ад таксама змяніліся да непазнавальнасці, прайшоўшы скрозь прызму славянскай першабытнай рэлігіі...

Такое ж пераўтварэнне зведалі і іншыя хрысціянскія ўяўленні. Вясна пераўтварылася ў багародзіцу, якая прыязджае на Благавешчанне на сасе;

яна — «багародзіца» таму, што, прыехаўшы, начуе ў сялянскай хаце і нараджае там свайго бога і сына (увесну, а не ў снежні!), таго бога, які прыносіць селяніну ўраджай і хлеб на зіму. Святыя Ілля, Егорый (Юрый) і Мікола ператварыліся ў заступнікаў сельскагаспадарчых работ і памагатых земляроба. З іх на першае месца стаў не Георгій, як у Грэцыі, а Мікола, замяніўшы сабою ранейшага жытняга дзеда, верагодна, таму, што на абразах ён малюецца з доўгай сівой барадой; ён «жито родит», «ярь засевает», «горох сеет» і на поле «первый бог»; яго малюнкі ў выглядзе статуй або абразоў ставіліся на палях, і гэты звычай яшчэ ў канцы XIX ст. існаваў ва Украіне; заключнае ахвярнае піраванне вясновага земляробчага цыкла, якое стала прысвячацца Міколе, атрымала назву мікольшчыны і было прызначана на 9 мая. Георгій, пад імем Юрыя, стаў богам-заступнікам свойскай жывёлы і богам вясновай расліннасці: ён «з ключыкамі», адмыкае зямлю, выпускае расу і гадуе траву. Ілля раздвоіўся — з аднаго боку, замяніў сабою грамавіка Перуна, а з іншага, па супадзенні яго царкоўнага свята з перыядам жніва, замяніў ранейшае бажаство жніва, відаць, жаночага полу: «Илья — старая жнея», «жито зажинает». Іншыя святыя і анёлы пераўтварыліся ў заступнікаў іншых спецыяльных работ, лекараў пэўных хвароб і г. д.

Гэтак жа жывучымі аказаліся ранейшая абраднасць і магія. Дахрысціянская абраднасць, як паказваюць скаргі і павучанні царкоўных прапаведнікаў, працягвала жыць цалкам на працягу ўсяго кіеўскага перыяду і нават на працягу ўдзельна-феадальнага перыяду, і не толькі ў вёсцы, але і ў горадзе; наадварот, хрысціянская абраднасць

прыжывалася дрэнна. Аўтар Пачатковага летапісу вымушаны прызнацца, што людзі яго эпохі толькі «словом нарицающиеся християне», а на справе — «поганьски живуще», на ігрышчах людзей «многое множество», а ў цэрквах падчас службы іх знаходзіцца мала. У канцы XI ст. кіеўскі мітрапаліт Іаан жаліўся, што шматлікія «жрут бесом и болотом и кладезем»...

*Никольский, Н. М. История русской церкви / Н. М. Никольский. — М.: Изд-во политической литературы, 1988. — С. 26—27.*

? **1.** Як пераўтварылася ва ўяўленнях усходніх славян хрысціянская Багародзіца?

**2.** Як пераўтварыліся ва ўяўленнях усходніх славян некаторыя хрысціянскія святыя?

**3.** Якія сведчанні захавання язычніцкай абраднасці прыводзіць М. М. Нікольскі?

✧ **4.** Ці лічыце вы прымальным тэрмін «дваяверства» для вызначэння рэлігійнай сітуацыі ў Старажытнай Русі?

## § 24. Рэлігійна-асветніцкія дзеячы

### З аповесці пра Ефрасінню Полацкую

Ефрасіння Полацкая без перабольшвання з'яўляецца найбольш знакамітай жанчынай беларускай зямлі. Яе дзейнасць у сферы асветы, хрысціянскага паслушання і служэння Богу стала ўзорам святасці. Між тым аб жыцці Ефрасінні захавалася зусім мала звестак, калі што і вядома, то толькі дзякуючы «Жыцію Ефрасінні Полацкай». Гэты твор (арыгінальная назва «Аповесць жыцця і смерці святой блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні…») быў створаны на мяжы XII—XIII стст., але да нас дайшоў у спісах XVI—XVII стст. Не захавалася дакладных даных ні аб часе нараджэння, ні аб часе смерці асветніцы. Лічыцца, што яна нарадзілася ў 1104 г., а памерла ў 1167 або 1173 г. Як дачка князя Святаслава Усяславіча Ефрасіння мела больш магчымасцей для культурнай і асветніцкай дзейнасці. Пасля прыняцця манаства яна пасялілася ў келлі пры Полацкім Сафійскім саборы. У мясцовым скрыпторыі пры бібліятэцы Ефрасіння займалася перапіскай кніг. Між тым ства-

рэнне ёю Полацкага летапісу нічым не пацвярджаецца. Стараннямі Ефрасінні былі заснаваны два манастыры і пабудаваны дзве царквы. Калі верыць «Жыцію», пры манастыры Ефрасіння стварыла школу для навучання грамаце. Свой зямны шлях яна завяршыла ў час паломніцтва ў Іерусалім. Напярэдадні ад'езду, Ефрасіння «ўладзіла свае манастыры», мабыць, напісаўшы для іх статут. Падчас паломніцтва Ефрасіння, магчыма, выконвала і царкоўнадыпламатычную місію, сустракалася з візантыйскім імператарам. Асветніца дабралася да Іерусаліма, у якім і памерла. Пасля захопу горада мусульманамі, яе астанкі ў 1187 г. былі перанесены ў Феадосіеву пячору Кіева-Пячэрскага манастыра. Магчыма, гэта была апошняя воля Ефрасінні. Існуе таксама меркаванне, што яе цела не было вернута ў Полацк, паколькі ў Ефрасінні былі нацягнутыя адносіны з полацкім епіскапам Іллёй. Толькі ў 1910 г. па просьбе вернікаў Полацкага павета рэшткі найпадобнейшай былі перанесены ў Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр. Зусім незадоўга да гэтага, у 1893 г., Ефрасіння была прызнана святой Рускай праваслаўнай царквой. Дзейнасць Ефрасінні з поўным правам дазваляе шанаваць яе як заступніцу і асветніцу Беларусі. Нараўне са звесткамі пра Ефрасінню «Жыціе» змяшчае ўнікальную інфармацыю пра гісторыю Полацка.

...Быў у горадзе Полацку князь Усяслаў і меў ён многа сыноў. І быў у яго меншы сын іменем Георгій, ад якога і нарадзілася шчаснае тое дзяўчо. І ўзрадаваліся бацькі яе нараджэнню разам з усімі роднымі. А праз колькі дзён наказалі хрысціць яе, і хрысцілі яе ў імя Айца, Сына і Духа Святога. І гадавала яе карміцелька, і расло дзень за днём немаўля, жывячы малаком цела, а душу напаўняючы Духам Святым. І дзяўчына была вельмі здольная да кніжнай навукі, нават не дасягнуўшы яшчэ паўналецця, і было гэта плёнам малітвы. Так любіла вучэнне яна, што дзівіўся бацька яе з любові такой да навук. І па ўсіх гарадах разышлася слава пра яе мудрасць, і добрыя здольнасці да навук, і красу цялесную, бо яна была прыгожая надта абліччам. Хараство ж яе многіх слаўных князёў прыводзіла да бацькі яе, хацеў кожны з іх заручыць яе сыну свайму. І многія

часта прасілі згоды на гэта ў бацькі яе, але адказваў той: «Няхай спраўдзіцца воля Госпада!»...

«Ці не было б лепей за гэтае жыццё пастрыгчыся ў манашкі і быць ігуменняй, і слухацца сёстраў, і вучыцца, як Божы страх сцвердзіць у сэрцы сваім і як скончыць жыццё?» І гэтак вырашыўшы, пайшла ў манастыр таемна ад бацькі і ад усіх родных.

У тыя гады ігуменняю была княгіня Раманава. Прыйшоўшы да яе, Еўфрасіння прасіла, каб дазволіла тая прыняць ёй анёльскі воблік і далучыцца да інакіняў, што жылі там, і быць пад Хрыстовай уладай... І стала жыць у манастыры ў паслушэнстве ігуменні і ўсім сёстрам, і ўсіх пераўзыходзіла ў пос- це, малітвах, чуйнаванні начным. І з таго часу яшчэ руплівейшаю стала, збіраючы дабрачынныя думкі ў сэрцы сваім, як пчала мёд у соты.

Так жыла яна нейкі час у манастыры, а пасля папрасіла епіскапа Іллю, што кіраваў пасадам Святой Сафіі ў Полацку, каб той дазволіў ёй жыць у царкве Святой Сафіі ў мураванай келлі. І дазволіў ёй жыць там. І ўвайшла яна туды, і ўчыніла найпадзвіжнейшы подзвіг посту, і пачала пісаць кнігі сваімі рукамі, і прыбытак ад продажу іх аддавала тым, хто быў у нястачы.

*Кніга жыццій і хаджэнняў / Уклад. А. А. Мельнікаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — С. 42—48.*

?

**1.** Якога паходжання была Ефрасіння?

**2.** Якія рысы характару Ефрасінні выявіліся яшчэ ў дзяцінстве?

**3.** Чаму Ефрасіння пастрыглася ў манахіні таемна ад родных? Які лёс яе чакаў?

**4.** Як вы думаеце, ці дазволілі б простай жанчыне мець келлю ў царкве Святой Сафіі?

✧ **5.** Якой яшчэ дзейнасцю, акрамя перапісвання кніг, вядома Ефрасіння Полацкая?

## Уступ да «Прытчы аб чалавечай душы і целе» Кірылы Тураўскага

Аб жыцці Кірылы Тураўскага (памёр пасля 1184 г.) захавалася няшмат звестак. У асноўным аб ім вядома з пралогавага жыція — «Памяці святога айца нашага Кірылы, епіскапа Тураўскага». Магчыма, жыціе было напісана неўзабаве пасля смерці Кірылы, але найбольш ранні яго спіс датуецца XVI ст. Аўтар жыція не ставіў задачай напісанне грунтоўнай біяграфіі Кірылы, як і ў іншых творах жыційнага жанру яму трэба было паказаць ідэальны вобраз чалавека, годнага быць прылічаным да ліку святых. Таму жыціе Кірылы апісваецца ў агульных рысах: «Гэты шчаслівы Кірыла нарадзіўся і вырас у горадзе Тураве. Сын заможных бацькоў, ён не любіў, аднак, багацця і тленнай славы гэтага свету; але перш за ўсё імкнуўся спасцігнуць вучэнне Божаскіх кніг і дасягнуў дасканалага іх спазнання». У 1161 г. Кірыла прыняў пострыг у Тураўскім Барысаглебскім манастыры, а затым «ушел в затвор на столп». Так Кірыла Тураўскі стаў першым вядомым на Русі «стоўпнікам» (зачыніўся ў манастырскай келлі, каб цалкам аддацца разважанням і малітвам). У гэты час ён напісаў свае першыя творы, якія прынеслі яму вядомасць. У Іпацьеўскім летапісе пад 1169 г. захавалася звестка аб запрашэнні Кірылы па патрабаванні князя і гараджан на пасаду тураўскага епіскапа. Аднак пазней Кірыла пакінуў гэтую пасаду і заняўся літаратурнай дзейнасцю. У гэты час ім былі напісаны «Словы» на ўсе гадавыя царкоўныя святы. З багатай літаратурнай творчасці Кірылы Тураўскага — шматлікіх урачыстых «Слоў», павучанняў, малітваў, канонаў — да нашых дзён дайшло каля 70 твораў.

Добра ж, браты, і вельмі карысна разумець нам Святога пісання сэнс: гэтае і душу робіць цнатлівай, і да пакоры накіроўвае розум, і сэрца на імкненне да дабрадзейнасці завастрае, і самога чалавека робіць удзячным, і на нябёсы да Божых запаветаў думку накіроўвае, і да духоўных спраў цела ўмацоўвае, і грэбаванне да гэтага зямнога жыцця, і багацця, і славы дае, і ўсяго жыццёвага свету смутак адводзіць. Таму і прашу вас, паспрабуйце руплiва чытаць святыя кнігі, каб, зведаўшы словы Божыя, вечнага жыцця невымоўнай асалоды дасягнуць:

калі яна і нябачная, затое вечная і канца не мае, трывалая і нерухомая. Давайце не проста прагаворым, мовай напісанае вымаўляючы, але, з развагаю учытаўшыся, паспрабуем справай выканаць гэта. Бо салодка — мядовы сот, і добра — цукар, аднак абодвух гэтых лепш кніжныя веды: таму што яны — скарб вечнага жыцця...

*Слова и поучения Кирилла Туровского // Библиотека литературы Древней Руси. — Том 4 (XII век). — СПб: Наука, 2000. — С. 143.*

**1.** Чым Кірыла Тураўскі абгрунтоўвае карыснасць чытання святых кніг?

**2.** Для чаго патрэбна, па разуменні Кірылы Тураўскага, чытанне святых кніг? Як вы разумееце тое, што трэба «справай выканаць» прачытанае?

**3.** Ці можна словы Кірылы Тураўскага пра царкоўныя кнігі аднесці да кніг увогуле?

## Свецкая ўлада Ефрасінні Полацкай

Актыўная асветніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай выпала на вельмі складаны перыяд у гісторыі Полацкага княства. Яна стала сведкай ссылкі полацкіх князёў у Візантыю, міжкняжацкіх усобіц, барацьбы за ўладу. Пісьмовыя крыніцы не пакінулі сведчанняў удзелу княжацкай дачкі Ефрасінні ў палітычным жыцці сваёй зямлі. Між тым маюцца ўскосныя даныя аб тым, што Ефрасіння-Прадслава не заставалася ўбаку і ад свецкіх спраў. Гэтыя даныя атрыманы дзякуючы **сфрагістыцы** — дапаможнай гістарычнай дысцыпліне, якая вывучае пячаткі і іх адбіткі на розных матэрыялах. Найбольш грунтоўная праца аб ролі і месцы жанчын у старажытнарускім грамадстве належыць доктару гістарычных навук, прафесару **Наталлі Львоўне Пушкаровай** (нарадз. у 1959 г.). З 2008 г. даследчыца ўзначальвае аддзел гендарных даследаванняў Інстытута этналогіі і антрапалогіі РАН. **Гендарная гісторыя** — адзін з папулярных у апошні час напрамкаў гістарычных даследаванняў, які найбольш важнае значэнне надае ўзаемадзеянню мужчынскага і жаночага досведаў, своеасаблівасці светаўспрымання і паводзін у сувязі з прыналежнасцю да таго або іншага полу. Н. Л. Пушкарова чытала курс лекцый «Асновы гендарнай тэорыі для гісторыкаў» у мно-

стве навучальных устаноў свету, у тым ліку ў Мінску. У найбольш ранняй яе манаграфіі «Жанчыны Старажытнай Русі» пэўная ўвага нададзена жыццю і дзейнасці Ефрасінні Полацкай.

Пры раскопках Полацка і старажытнага Кукейноса, правіцель якога знаходзіўся ў васальнай залежнасці ад полацкага князя, былі знойдзены тры асабістыя княжацкія жаночыя пячаткі. Пакуль старэйшыя члены княжацкай полацкай дынастыі не вярнуліся з ссылкі, афармленнем афіцыйных дакументаў, да якіх прывешваліся асабістыя пячаткі, напэўна, займалася ў Полацку жонка Святаслава-Георгія Усеваладавіча княгіня Соф'я. Затым гэтую місію ўзяла на сябе яе дачка Прадслава, якая, хоць і была пастрыжана ў манашкі пад імем Ефрасінні, але ад свецкіх спраў не адышла. Асабістая пячатка Ефрасінні Полацкай (на пячатцы — яе пагрудная выява) — адзіная ў рускай сфрагістыцы, якая не мела да яе знаходкі манаскіх і манастырскіх бул (падвесных пячатак) XI—XIV стст. Паводле меркавання В. Л. Яніна, Ефрасіння і пасля прыняцця схімы [пасля таго як стала манашкай] значны час захоўвала ўсю паўнату свецкай улады. Пры Ефрасінні ў Полацку было заснавана два манастыры (1161 г.) і дзве царквы; укладам у адзін з манастыроў быў крыж Ефрасінні — помнік прыкладнога мастацтва XII ст. Маецца пеўчы цыкл аб Ефрасінні...

*Пушкарева, Н. Л. Женщины Древней Руси / Н. Л. Пушкарева. — М.: Мысль, 1989. — С. 36—37.*

? **1.** Што ў тэксце сведчыць аб тым, што Ефрасіння займалася свецкімі справамі?

**2.** Чаму так атрымалася, што жанчыны з княжацкага роду ў Полацку нейкі час карысталіся значным уплывам?

✧ **3.** Знайдзіце фактычную памылку ў тэксце расійскай даследчыцы.

## Кірыла, епіскап Тураўскі

Літаратурная творчасць Кірылы Тураўскага была высока ацэнена ўжо яго сучаснікамі. Менавіта дзякуючы гэтаму імя епіскапа не згубілася сярод дзясяткаў іншых, што сустракаюцца ў летапісах. «Словы» і павучанні Кірылы ўключаны ў склад шматлікіх зборнікаў нараўне з сачыненнямі візантыйскіх багасловаў і прапаведнікаў. Ушаноўваюць памяць Кірылы Тураўскага і ў сучаснай Беларусі: яму пастаўлены помнікі ў Тураве, Гомелі і Мінску, яго імя носіць Мінская духоўная акадэмія. Месца прапаведніка ў старажытнарускім грамадстве паспрабавала вызначыць сучасная беларуская даследчыца **Любоў Віктараўна Ляўшун** (у цяперашні час — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі). У шэрагу прац Л. В. Ляўшун раскрывае складаны і супярэчлівы шлях развіцця старажытнарускай кніжнай культуры.

Біяграфічных звестак аб гэтым святцілі захавалася не больш чым аб Іларыёне Кіеўскім. Як і ў выпадку з Іларыёнам, невядома нават імя, якім ён быў названы пры хрышчэнні. Да нас дайшло пралогавае «Жыціе Кірылы Тураўскага», складзенае ў канцы XII або пачатку XIII ст. невядомым аўтарам. Паколькі гэта пралогавае жыціе, яно вельмі кароткае: 35 машынапісных радкоў, трэць з якіх уяўляе сабой, не захоўваючы біяграфічнай інфармацыі, хвалу святому...

Паводле падлікаў Мельнікава, дата нараджэння святціцеля прыпадае на 1110—1113 гг. У «Жыціі» гэтай даты, вядома, няма. Затое агіёграф Кірылы сведчыць, што месцам нараджэння будучага архіпастыра быў Тураў. Час нараджэння святціцеля прыходзіцца, такім чынам, на перыяд княжання Святаполка II, які жыў у Кіеве, але меў тураўскую дружыну. «Жыціе» паведамляе таксама аб «багатых» бацьках будучага красамоўцы і аб яго высокай адукаванасці, якой тады лічылася класічная візантыйская адукацыя. Зыходзячы з пералічаных фактаў, Мельнікаў мяркуе, што бацька Кірылы мог

быць, напрыклад, тураўскім намеснікам Святаполка II альбо набліжаным яго. Паколькі намеснікам вялікага князя ў Тураве быў у гэты час сын Святаполка Яраполк, то, паводле меркавання Мельнікава, не выключана, што будучы прапаведнік нарадзіўся альбо ў сям'і самога князя, альбо ў каго-небудзь з яго блізкіх паплечнікаў.

У раннім (паводле царкоўных канонаў, не менш як у 10-летнім) узросце страціўшы бацькоў, отрак падаецца ў Свята-Мікольскі тураўскі манастыр, дзе пасля трохгадовага паслушання (іспыту) прымае манаскі пострыг. Верагодна, каля 1143 г. адбываецца іерэйская хіратонія будучага святціцеля, а яшчэ праз год ён становіцца на чале Мікольскай абіцелі... Дзесьці ў 1147 г., калі кіраўнікам Рускай Царквы становіцца другі пасля Іларыёна Кіеўскага мітрапаліт-русін Клімент Смаляціч, Свята-Мікольскі ігумен, паводле меркавання Мельнікава, як прадстаўнік апазіцыі накіроўваецца ў ссылку: ён вымушаны адмовіцца ад настаяцельства, прымае схіму [тут: зарок выканання строгіх правілаў аскетызму] і — па сваёй волі або па прымусе, невядома — ідзе ў затвор: «в столп вшед затворися», як піша аўтар пралогавага жыцця. На працягу 10 гадоў пустэльніцтва тураўскі прапаведнік «много Божественная Писания изложи», гэта значыць займаўся, відаць, складаннем тлумачэнняў да біблейскіх тэкстаў (не захаваліся).

Прыкладна ў 1159 г. святціцель па просьбе тураўскага князя і тураўцаў, як узгадваецца ў «Жыціі», займае пасаду епіскапа, на якой да 1161 г. — з прычыны адсутнасці ў Кіеве мітрапаліта — знаходзіцца ў якасці нарачонага епіскапа (наміната). Падчас свайго архірэйства тураўскі падзвіжнік займаецца ўладкаваннем епархіі, храмабудаўніцтвам,

шмат прапаведуе... Паводле меркавання Мельнікава, у 1177 г. святцель адыходзіць ад спраў. Найбольш верагодна, што менавіта ў гэты час ён прымае вялікую схіму і атрымлівае імя Кірыла, пад якім нам і вядомы. Апошнія гады жыцця, якія супалі, як відаць, з апошнімі гадамі XII або нават першымі XIII стагоддзя, Кірыла правёў у Барыса-Глебскім епіскапскім манастыры «на Болонье», дзе памёр і на могілках якога быў пахаваны. Царкоўнае ўшаноўванне святцеля Кірылы пачалося неўзабаве пасля яго смерці: у рукапісе XIII ст. ён ужо названы святым. Не пазней XIV ст. было складзена яго «Жыціе» (захавалася толькі ў пралогавым варыянце), разам з «Жыціем» пісалася і служба святцелю, але старажытныя спісы яе не захаваліся...

Бліскучы прапаведнік і паэт-гімнограф, Кірыла Тураўскі ўжо сваімі сучаснікамі быў названы «Златаславесным настаўнікам», «другім Залатавустам... які зіхацеў больш за усіх на Русі». Урачыстыя пропаведзі святцеля нярэдка (аж да XVII ст.) перапісваліся ў складзе зборніка-анталогіі «Торжественник» нараўне з прамовамі найбольш вядомых візантыйскіх красамоўцаў — гонар, якога ўдастойваліся вельмі нешматлікія кніжнікі.

*Левшун, Л. В. История восточнославянского книжного слова XI — XVII вв. / Л. В. Левшун. — Минск: Экономпресс, 2001. — С. 116—118.*

**?**

**1.** Адкуль мы ведаем аб жыцці Кірылы Тураўскага?

**2.** Якім было, паводле меркавання даследчыкаў, паходжанне Кірылы?

**3.** Чаму Кірыла пакінуў пасаду настаяцеля Свята-Мікольскага манастыра?

**4.** Чым займаўся Кірыла падчас знаходжання на пасадзе тураўскага епіскапа?

**5.** Што вядома аб апошніх гадах жыцця Кірылы?

**6.** Што сведчыць аб прызнанні Кірылы Тураўскага, як бліскучага прапаведніка і таленавітага пісьменніка?

✧ **7.** Чаму так мала захавалася сведчанняў аб жыцці і дзейнасці Кірылы Тураўскага ў летапісах?

# § 25. Культура беларускіх земель

## Будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку

Полацкі Сафійскі сабор быў пабудаваны ў сярэдзіне XI ст. у перыяд росквіту Полацкай зямлі падчас праўлення магутнага князя Усяслава Брачыславіча. Далейшы лёс Полацкай Сафіі быў такім жа складаным, як і лёс Полацкай зямлі. У пачатку XVII ст. сабор згарэў, затым быў перабудаваны, у 1710 г. ён быў узарваны (расійскімі войскамі тут быў размешчаны парахавы склад). Да 1750 г. Сафія была адноўлена літаральна з руін, але пры гэтым згубіла сваё ранейшае аблічча. Неаднаразова сабор пераходзіў ад праваслаўных да ўніятаў, у савецкі перыяд ён быў зачынены. Спецыялісты мяркуюць, што першапачаткова Сафійскі сабор у Полацку ўяўляў сабой 5-нефны крыжова-купальны храм з княжацкімі хорамі, з вылучанай алтарнай часткай. (Неф — выцягнутае памяшканне, абмежаванае шэрагам слупоў ці калон). Акрамя таго, да храма прылягалі прыбудовы: хрысцільня і лесвічная вежа на княжацкія хоры. Княжацкія хоры адкрываліся ў цэнтральнае памяшканне падвойнымі аркамі. З летапісных паведамленняў быў зроблены вывад, што сабор меў 7 купалаў (але мяркуюць, што іх магло быць і 5). У адрозненне ад Кіеўскай і Наўгародскай Сафія Полацкая не мела галерэй. Да цяперашняга часу ад пабудовы XI ст. захаваліся толькі фрагменты слупоў і сцен. Вядомым знаўцам архітэктуры старажытнага Полацку з'яўляецца беларускі гісторык і археолаг **Сяргей Васільевіч Тарасаў** (нарадз. у 1961 г.). Да ліку заслуг С. В. Тарасава ў даследаванні Полацка адносіцца адкрыццё месцазнаходжання полацкага пасаду IX—X стст., некалькіх селішчаў-спадарожнікаў Полацка XI—XII стст., вылучэнне асноўных этапаў у развіцці гісторыка-тапаграфічнай структуры Полацка IX—XVII стст. Акрамя таго, навуковец шмат гадоў прымаў удзел у вывучэнні старажытнага Мінска. Значны ўклад унёс С. В. Тарасаў у папулярызацыю беларускай гісторыі: ён з'яўляецца аўтарам кніг для дзяцей і падлеткаў, сцэнарыяў мастацкіх і дакументальных фільмаў, яго мастацкія творы друкаваліся ў Расіі, Украіне і Літве, у 1989—1999 гг. ён з'яўляўся аўтарам і вядучым

шэрага праграм Беларускага тэлебачання. У кнізе «Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі» С. В. Тарасаў ставарае на аснове ўсіх наяўных у яго распараджэнні крыніц поўную карціну гісторыі Полацка XI стагоддзя.

Нядзіўна, што ў якасці ўзору для галоўнага храма Полацка быў абраны Сафійскі сабор. Такія саборы былі ўжо ў Канстанцінопалі — Царградзе, у Кіеве і Ноўгарадзе. Канстанцінопальская Сафія была збудавана пры імператары Юстыніяне ў 532—537 гадах. Гэтакі тып і назва храма былі характэрныя для таго часу. Варта прыгадаць, што нават знакаміты афінскі Парфенон, ператвораны ў хрысціянскую бажніцу, гэтаксама быў прысвечаны Сафіі. Сафійскі храм у Кіеве быў пабудаваны візантыйскімі майстрамі не пазней як у 30-х гадах XI стагоддзя, наўгародская Сафія пабудавана ў 1045—1050 гадах.

Полацк, які быў роўны з Кіевам і Ноўгарадам, іншага сабора будаваць і не мог. Усе гэтыя саборы на ўсходнеславянскіх землях узводзіліся фактычна адной арцеллю. Таму пасля таго як візантыйскія дойліды скончылі сваю працу ў Ноўгарадзе, яны неўзабаве былі запрошаны ў Полацк. Даследчыкі старадаўняй архітэктуры мяркуюць, што адбылося гэта каля 1050 года. А скончылася праца ў 1055 годзе, калі лічыць, што ў Полацку, як і ў Ноўгарадзе, на гэта спатрэбілася пяць гадоў.

Такім чынам, у сярэдзіне XI стагоддзя ў Полацку быў узведзены трэці ва Усходняй Еўропе Сафійскі сабор. Ён значна адрозніваўся ад сваіх папярэднікаў. Перш за ўсё памерамі, але сутнасць яго была нязменная. Цікавы і другі факт. Гісторыя данесла да нас імёны дойлідаў, якія будавалі полацкую Сафію. Падчас археалагічных раскопак у самім саборы археолагі знайшлі вялікі камень-валун, пакла-

дзены ў падмурак храма каля даўняга ўваходу. На гэтым камені былі надрапаны імёны: Давыд, Таўма, Мікула, Капес. Хутчэй за ўсё яны былі з той самай арцелі, якую запрасілі ў Полацк з Ноўгарада.

*Тарасаў, С. В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С. В. Тарасаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991. — С. 21—22.*

**1.** У якіх гарадах Старажытнай Русі ў XI ст. былі пабудаваны храмы, прысвечаныя Сафіі?

**2.** Калі быў пабудаваны Полацкі Сафійскі сабор?

**3.** Як вы думаеце, чаму для будаўніцтва Сафіі ў Полацку былі запрошаны візантыйскія майстры?

**4.** Аб чым сведчыла будаўніцтва ў Полацку сабора Святой Сафіі?

## «Аповесць пра Ефрасінню Полацкую» аб будаўніцтве Спаскай царквы

«Жыціе Ефрасінні Полацкай» захавала расказ аб будаўніцтве Спаса-Праабражэнскай царквы ў Полацку на тэрыторыі манастыра, заснаванага асветніцай. Дакладны час будаўніцтва храма невядомы (называюць перыяд ад 1128 па 1156 г.), аднак (рэдкі выпадак!), дзякуючы Жыцію, вядома імя дойліда — Іаан (Іван). Спаса-Праабражэнская царква (часта яе завуць Спаса-Ефрасіннеўскай) параўнальна невялікіх памераў і простая ў плане. Між тым гэта першы архітэктурны помнік, у якім выявілася не характэрная для Візантыі форма стоўпападобнага храма. Раней цэрквы на Русі будаваліся па ўзоры візантыйскіх, мабыць, візантыйскімі або балгарскімі майстрамі. Узведзеная ж па заказе Ефрасінні царква будавалася полацкім майстрам і ў самабытным стылі, у якім бачны несумненны ўплыў народнага драўлянага дойлідства. Сведчаннем гэтага служыць

адна з асаблівасцей царквы — яруснасць знешняй кампазіцыі. Спаса-Праабражэнскую царкву называюць вяршыняй архітэктурнай думкі Полацкай зямлі і адным з найбольш самабытных помнікаў архітэктуры на землях усходніх славян.

Паставіла Еўфрасіння царкву каменную Святога Спаса, і збудавалі тую царкву за 30 тыдняў. І тут хачу вам, братове, расказаць пра дзіва. Быў муж Іван, прыстаўнік над майстрамі царкоўнымі. І колькі разоў на досвітку чуў голас ён, які прамаўляў: «О Іване! Узрушся, ідзі на будоўлю царквы Уседзяржыцеля Спаса!» І аднойчы ён узняўся і прыйшоў да шчаснае Еўфрасінні і сказаў ёй: «Ці не ты, панна, па мяне пасылаеш, каб я ўзяўся за працу?» А яна адказвае: «Не». Але, падумаўшы, кажа яму шчасная тая жанчына: «Нават калі і не я цябе ўзрушваю, усё адно паслухай шчыра і ўважліва таго, хто цябе кліча на гэтую працу». І скажу вам яшчэ пра адно дзіва, добрыя слухачы. Ужо збудавана была царква тая, але крыху не хапіла плітаў, і не было чым скончыць вярхі. І шукалі, але не знайшлі нічога. І зажурылася Еўфрасіння і, уздыхаючы, мовіла: «Слава табе, Уладар Уседзяржыцель і чалавекалюбча! Ты, Хто даў нам вялікае ўсё, дай і меншае, каб завяршылася царква Твая!» Так яна памалілася, а назаўтра па Божай волі знайшліся пліты ў печы, і ў той самы дзень скончана была царква і ўзнесены крыж.

*Кніга жыцій і хаджэнняў / Уклад. А. А. Мельнікаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994. — С. 55.*

**1.** Колькі часу спатрэбілася для пабудовы Спаскай царквы? Як вы думаеце, гэта многа ці мала?

**2.** Як вы лічыце, адкуль у тыя часы браліся сродкі для будаўніцтва цэркваў?

## Надпіс на крыжы Ефрасінні Полацкай

На створаным майстрам Лазарам Богшам па заказе Ефрасінні Полацкай крыжы быў нанесены надпіс, які павінен быў абараніць яго ад крадзяжу. Але страх божай кары ніколі не спыняў зламыснікаў. Ужо ў 20-я гг. XIII ст. рэліквія была вывезена з Полацка смаленскімі князямі; пасля далучэння Смаленска да Маскоўскага вялікага княства ў 1514 г. крыж трапіў у Маскву. Богабаязны Іван Грозны вярнуў святыню ў Полацк у Спасскую царкву. Але вельмі хутка крыж перавезлі ў Полацкі Сафійскі сабор. Пасля ўсталявання савецкай улады шэдэўр Лазара Богшы быў адабраны ў вернікаў і трапіў у Мінск, а затым у Магілёў. Сляды рэліквіі згубіліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Дзякуючы таму, што захаваліся малюнкі крыжа, яго падрабязнае апісанне і нават фатаграфіі, стала магчымым узнавіць рэліквію.

Въ лѣ[то] 6000 и 669 покладаеть Офросинья чьстьныи кр(е)стъ въ манастыри своемь въ ц(е)ркви С(вя)т(о)го Сп(а)са. Чьстьное дрѣво бесцѣньно есть, а кованье его злото, и серебро, и камѣнье, и жьнчигъ въ 100 гривнъ, а др[ѣво] 40 гривнъ.

Да нѣ изнесѣться из манастыря никогда же, яко ни продати, ни отдаті, аще се кто прѣслоушаеть, изнесѣть и от манастыря, да не боуди емоу помощникъ чьстьныи кр(е)стъ ни въ сь вѣкъ, ни въ боудщии, и да боудеть проклятъ С(вя)тою Животворящею Троицею и с(вя)тыми отци 300 и 18 семию съборъ с(вя)тыхъ от(е)ць и боуди емоу часть съ Июдою, иже прѣда Х(ри)с(т)а. Кто же дрьзнеть сътвори с[ие], властелинъ или князь, или пискоупъ, или игоумѣнья, или инъ которыи любо ч(е)л(о)в(е)къ, а боуди емоу клятва си. Офросинья же раба Х(ри)с(то)ва, сътяжавъши кр(е)стъ сии, прииметь вѣчную жизнь съ всѣ [м]и с[вятыми].

Г(оспод)и, помози рабоу своему Лазорю, нареченомоу Богъши, съдѣлавшемоу крьстъ сии црькви С(вя)таго Спаса и Офросиньи.

? **1.** Якую канкрэтную інфармацыю (час, тварэц, матэрыял) аб крыжы Ефрасінні Полацкай дае зроблены на ім надпіс?

**2.** Якое стаўленне да крыжа, створанага майстрам Лазарам Богшам, мела Ефрасіння Полацкая?

✧ **3.** У чым жа заключаецца сапраўдная каштоўнасць крыжа Ефрасінні Полацкай?

## Старажытныя кнігі

Стварэнне кніг у Сярэдневякоўі было працаёмкім і доўгім працэсам. Кнігі былі вельмі дарагімі, і кожная з іх уяўляла сабой унікальны мастацкі твор. На жаль, толькі адзінкі старажытнарускіх рукапісных кніг захаваліся да нашых дзён. І звязана гэта не з недаўгавечнасцю матэрыялу, на якіх яны пісаліся. Як раз наадварот, пергаментныя лісты кніг — вельмі трывалы матэрыял, да таго ж упакаваны ў драўляныя вокладкі. Аднак часта кнігі згаралі пры пажарах старажытнарускіх, пераважна драўляных, гарадоў. Так, пры пажары ў Маскве ў 1812 г. былі згублены найкаштоўнейшыя помнікі пісьменнасці Старажытнай Русі, і сярод іх унікальны твор — «Слова пра паход Ігаравы».

На Беларусі галоўнымі цэнтрамі перапіскі кніг былі Полацк і Тураў. Гэтыя гарады адыгралі вялікую ролю ў распаўсюджванні пісьменнасці і пашырэнні асветы ў заходніх землях Старажытнай Русі.

Прыкладна да XI стагоддзя адносіцца «Тураўскае евангелле». Знойдзены гэты твор у мінулым [XIX] стагоддзі ў Тураве. Ад яго захавалася 20 старонак, напісаных на пергаменце. Пачатковыя літары і загалоўкі намаляваны фарбамі: чырвонай, сіняй, зялёнай.

Да XI стагоддзя адносіцца таксама Супрасльскі зборнік, напісаны на старажытнай славянскай мове на пергаменце, які быў знойдзены ў манастыры ў Супраслі каля Беластока.

Перапіскай рукапісаў у Кіеўскай Русі займаліся звычайна манахі.

На чыстым аркушы прад вузенькім вакном
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку ўсякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяркоў
І птах нябачаных, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае ўсё, — даволі ёсць снароўкі —
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі.

Так Максім Багдановіч у адным са сваіх вершаў стварыў добра запамінальны вобраз старажытнага манаха-перапісчыка.

Вялікай і надзвычай крапатлівай працай была перапіска старажытнага твора. Кнігі пісаліся на пергаменце — спецыяльна выробленай тонкай скуры маладых жывёл: цялят, ягнят, казлянят. Рукапісы скручваліся ў скруткі ці складаліся ў сшыткі. Сшыткі потым сшываліся ніткамі ці тонкімі вяровачкамі, канцы якіх прымацоўвалі да дзвюх дошак, якія служылі вокладкамі. Адсюль выраз: «прачытаць ад дошкі да дошкі». Такая кніга мела выгляд скрынкі большых ці меншых памераў.

Пераплёт каштоўных рукапісаў аздабляўся металічнымі ўпрыгожаннямі. Каб лісты кнігі не камячыліся, дошкі-вокладкі сцягваліся асобнымі металічнымі засцежкамі. Розныя засцежкі ад старажытных кніг былі знойдзены пры археалагічных раскопках у Мінску, Друцку, Ваўкавыску, Навагрудку.

Кнігі былі вялікія і цяжкія. Яны вельмі дорага каштавалі, і, зразумела, іх асабліва бераглі. Часцей за ўсё кнігі перапісвалі па заказе багатых людзей.

Перапіска кніг — справа складаная і цяжкая. Каб ёй займацца, трэба было быць не толькі пісьменным чалавекам, а яшчэ мець і мастацкія здоль-

насці. Рукапісы пісаліся чарнілам, якое рабілі з адвару дубовай ці альховай кары, жалезнай іржы, квасу, вішнёвага клею.

Пісалі пераважна гусінымі пёрамі, зрэдку выкарыстоўвалі лебядзіныя. Замест пёраў ужываліся таксама палачкі.

Кожная літара пісалася паасобку, паміж літарамі захоўвалася аднолькавая адлегласць, таксама як і паміж радкамі. Існавала пэўная геаметрычная форма літар. Іх пісалі ў XI—XII стагоддзях прама, без нахілу. Літары былі як быццам устаўлены ў радок. Адсюль назва пісьма — «устаў».

Тэкст пісьма на словы не падзяляўся. Пісаўся ён у два слупкі. Кожны абзац пачынаўся вялікай літарай (ініцыялам), якая была ў некалькі разоў большай за радковыя літары.

Вялікія літары часта размалёўваліся мудрагелістымі ўзорамі. Для іх адлюстравання, апрача чарніла, ужываліся розныя фарбы, асабліва кінавар з ярка-чырвоным, вогненным адценнем. Адсюль і назва «чырвоны радок», ён пачынаўся з літары, якая размалёўвалася чырвонай кінавар’ю.

З XII—XIII стагоддзяў пачалі распаўсюджвацца ілюстраваныя рукапісы, падзеі адлюстраваны ў малюнках-мініяцюрах. Самы цікавы ілюстраваны летапіс — так званы Радзівілаўскі. Ён быў скапіраваны ў XV стагоддзі з больш ранняга, таксама ілюстраванага арыгінала XII ці пачатку XIII стагоддзя. У Радзівілаўскім летапісу звыш 600 малюнкаў. Сярод іх мініяцюры, якія маюць дачыненне да старажытнай гісторыі беларускіх зямель.

*Штыхаў, Г. В. Ажываюць сівыя стагоддзі / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Народная асвета, 1982. — С. 66—70.*

? **1.** Назавіце найбольш старажытныя кнігі, зробленыя на тэрыторыі Беларусі.

**2.** Хто (і чаму менавіта яны) у Старажытнай Русі займаўся перапіскай кніг?

**3.** Ці можна назваць старажытныя кнігі творамі мастацтва? Адказ растлумачце.

✧ **4.** Што ўскладняе сучасным даследчыкам разуменне тэксту ў старажытных кнігах?

## Сучасны выгляд старажытнарускіх цэркваў

Кожная царква ў сярэдневяковых гарадах Беларусі мела сваё непаўторнае аблічча. Аднак у некаторых з іх можна было выявіць агульныя рысы, звязаныя з якім-небудзь культурным уплывам, імкненнем да пераймання асабліва шануемых архітэктурных помнікаў або з творчай манерай дойліда. У XI ст. царкоўнае будаўніцтва знаходзілася пад моцным візантыйскім уплывам. Візантыйскі стыль быў прадстаўлены крыжова-купальнымі храмамі, да якіх належаў і Полацкі Сафійскі сабор (яго будавала візантыйская арцель дойлідаў). Але ў цяперашні час гэты храм пасля неаднаразовай перабудовы набыў рысы пазнейшага віленскага барока. У XII ст. у архітэктуры Беларусі вылучаюць самабытныя **полацкую** і **гродзенскую архітэктурныя школы**, якія, зрэшты, захоўваюць і візантыйскія традыцыі будаўніцтва. Да ліку помнікаў архітэктурнай полацкай школы належыць Спаса-Праабражэнская царква, пабудаваная пад кіраўніцтвам майстра **Іаана**. Гэты храм — адзіны помнік XII ст. на тэрыторыі Беларусі, які захаваўся амаль у першапачатковым выглядзе. Унікальны канструктыўны элемент Спаскай царквы — двухступенчаты рад закамараў («какошнікаў»), які ўпрыгожвае падкупальны барабан. У 2007 г. на Спаса-Праабражэнскім храме быў узведзены новы залаты купал. Гродзенская архітэктурная школа прадстаўлена Барысаглебскай (Каложскай) царквой, пабудаванай у 1180-я гг. Каложская царква не захавала першапачатковага аблічча: у выніку апоўзня ў 1853 г. абрушыліся ў раку паўднёвая і частка заходняй сцяны, даўно зніклі таксама яе скляпенні і купал. Між тым архітэктура царквы не мае аналагаў сярод тагачасных пабудоў, што і дазваляе казаць аб існаванні ў Гродне адасобленай архітэктурнай школы, якая развівалася пад уплывам раманскага стылю. Заснавальнікам гродзенскай архітэктурнай школы лічыцца **Пётр Міланег**, згаданы ў Іпацьеўскім летапісе, дзе ён параўноўваецца з біблейскім дойлідам Вяселіілам. Мяркуюць, што дойлід працаваў у Кіеве, затым у 1170-я гг.

у Луцку і Тураве, а пасля 1180 г. — у Гродне. Мяркуюць таксама, што Пётр Мілінег у канцы XII ст. пабудаваў цэрквы ў Белгарадзе і Чарнігаве.



Полацкі Сафійскі сабор



Полацкі Сафійскі сабор. XII ст.
*Рэканструкцыя В. Сташчанюка*



Спаса-Праабражэнская царква



Барысаглебская (Каложская) царква

?

**1.** Знайдзіце асноўныя асаблівасці паказаных на малюнках цэркваў.

**2.** Што можна знайсці агульнае ва ўсіх старажытных цэрквах?

# § 26. Паўсядзённае жыццё нашых продкаў у IX — XIII стст.

## Жыллё ўсходніх славян

Істотнае ўздзеянне на характар жылля ўсходніх славян аказалі змены ў развіцці самога грамадства, а менавіта: перавага малой сям'і як асноўнай гаспадарчай адзінкі. З гэтага часу асобная малая сям'я (бацькі — дзеці) атрымлівае ўласнае жыллё. З часоў Кіеўскай Русі аблічча жылля ўсходніх славян амаль не змянялася да XIX ст. Доўгі час сярод гісторыкаў панавала меркаванне, што на поўдні Старажытнай Русі асноўным масавым жыллём гараджан і сельскіх жыхароў з'яўлялася паўзямлянка, тады як на поўначы (у тым ліку і на беларускіх землях) тыповым жыллём былі наземныя хаты з бярвення. Але даследаванні археолагаў у апошнія гады паказалі, што па ўсёй тэрыторыі рассялення ўсходніх славян жыллё было змешанага тыпу. Тып забудовы залежаў ад характару мясцовасці, прыродна-геаграфічных умоў (напрыклад, нізкая забалочаная мясцовасць або сухое месца на ўзгорку). Будаўніцтва жылля і гаспадарчых пабудоў, дзякуючы іх прастаце, было даступна амаль кожнаму сельскаму і гарадскому жыхару. Менавіта таму жыхары старажытнарускіх вёсак і гарадоў хутка аднаўлялі сваё жыллё пасля пажараў, якія часта здараліся ў тыя часы. У падмурку жылля ўсіх сацыяльных груп — і бедных, і багатых — знаходзіўся драўляны зруб, плошча якога абмяжоўвалася даўжынёй бервяна. Але ўсё ж вышэйшыя пласты насельніцтва Старажытнай Русі маглі дазволіць сабе больш камфортнае жыллё — палацы («харомы») — з больш дасканалай сістэмай абагравання, асвятлення (напрыклад, зашклёныя вокны). Палацы былі адно- і двухпавярховыя.



? **1.** Разгледзьце малюнкі, апішыце ўнутраны выгляд (інтэр'ер) і знешняе аблічча жыллёвых пабудоў.

**2.** Што абавязкова знаходзілася ўнутры жылля ўсходніх славян?

**3.** Чым магло адрозніваецца жыллё простых і багатых людзей у Старажытнай Русі?

**4.** Чым магло адрозніваецца жыллё гараджан і сельскіх жыхароў у Старажытнай Русі?

✧ **5.** Як вы думаеце, ці шмат часу праводзілі сяляне і гараджане Старажытный Русі ў сваіх хатах? Ад чаго гэта залежала?

## Транспартныя сродкі ўсходніх славян

У Сярэднія вякі прасоўванне па сушы было вельмі складанай справай. Дарог было няшмат, ды і яны ў вясновы і восеньскі перыяды станавіліся непраезнымі з-за гразі. Надзвычай працаёмкая справа будаўніцтва дарог — прарубка лясоў, пракладка насцілаў на гразкіх месцах, навядзенне мастоў і г. д. — знаходзілася ў распараджэнні дзяржавы, якая патрабавала ад насельніцтва выканання спецыяльнай павіннасці. У былінным эпасе ў заслугу багатырам ставіцца пракладванне імі «прамаезджых» дарог на поўнач праз лясы, поўныя небяспекі ад разбою і дзікіх звяроў. У зімовы час рух па дарогах на санях аблягчаўся, аднак часта вандроўнікаў спыняў глыбокі снег. Натуральнымі дарогамі зімой станавіліся замёрзлыя рэкі. Аб тым, што зімовы шлях быў больш зручны і прымальны, сведчаць даныя летапісаў. Акрамя таго, археолагі часта знаходзяць дэталі саней — драўляныя палазы, аглоблі і інш. Гэта дазволіла высвятліць, як выглядалі сані ў старажытнасці (гл. мал.).

У Старажытнай Русі існавала некалькіх відаў саней: грузавыя, легкавыя пасажырскія, сані-вазок, ручныя сані і дзіцячыя. Колавы транспарт быў менш разнастайным. Хаця археолагі рэдка знаходзяць элементы старажытнарускіх вазоў («телегі»), але яны часта прысутнічаюць на кніжных мініяцюрах. Старажытнарускія вазы выкарыстоўваліся і для транспарціроўкі грузаў, і для перавозкі жанчын і дзяцей (мужчыны часцей ездзілі вярхом на конях). Вазы былі чатырохколавымі, колы былі суцэльныя і са спіцамі. Спецыялісты адзначаюць, што старажытнарускія вазы нічым не адрозніваліся ад лепшых узораў драўляных вазоў XIX ст.





?

**1.** У залежнасці ад чаго ўсходнія славяне выкарыстоўвалі той альбо іншы транспарт?
**2.** З якіх частак складаліся вазы і сані?
**3.** Ці значна змяніліся з цягам часу ўсходнеславянскія сродкі зносін?
**4.** Якую цяглавую сілу выкарыстоўвалі ў тыя часы ўсходнія славяне?

## Водны транспарт Беларусі ў Сярэдневякоўі

Наземныя сродкі зносін служылі для пераездаў і перавозкі грузаў на невялікія адлегласці, рачны і марскі транспарт выкарыстоўваўся для вандраванняў на вялікія адлегласці. Тэрыторыя Беларусі густа перасечана воднымі артэрыямі — рэкамі, па якіх праходзілі гандлёвыя шляхі. У сувязі з гэтым найбольшае распаўсюджанне атрымалі менавіта рачныя судны. Іх адрознівалі невялікія памеры, нязначная асадка і лёгкасць у кіраванні. Найбольш масавым суднам у Старажытнай Русі былі ладдзі (магчыма, іх называлі стругамі), а таксама невялікія даўбёнкі-чоўны, але апошнія, зразумела, не маглі выкарыстоўвацца на далёкіх маршрутах. Крыніцы таксама згадваюць учан (буйное дашчанае рачное судна) і насад (баявая ладдзя, абабітая дошкамі і перакрытая палубай). Будаўніцтва марскіх суднаў у Старажытнай Русі не атрымала развіцця, для далёкіх плаванняў па моры прыстасоўвалі рачны транспарт. Падчас археалагічных раскопак у Гродне і Брэсце знойдзены дзіцячыя цацкі — караблікі-лодачкі, зробленыя з хваёвай кары. У Гродне і Ваўкавыску археолагі знайшлі таксама шахматныя фігуркі (гродзенская — каменная, а ваўкавыская — касцяная), якія ўяўлялі ладдзю-насад. Увогуле знешняе аблічча знаходак сведчыць, што ў Сярэдневякоўі на рэках Беларусі пераважалі кілявыя варыянты суднаў, а не пласкадонкі. Кіль — гэта доўгая бэлька, якая размешчана ў ніжняй частцы корпуса судна і цягнецца ўздоўж яго ад носу да кармы. Кіль служыў апорай усяго «шкілета» судна.

Будаўніцтва судна (ладдзі) у Старажытнай Русі пачыналася з вырабу **кіля**, які вызначаў даўжыню будучай ладдзі або насада. Археолагамі знойдзены на Русі кілі даўжынёй да 10 м. На кіль напярэдзе мацаваўся **фарштэвень**, а ззаду — **ахтэрштэвень** (назвы састаўных частак судна — сучасныя). Брус у задняй частцы судна — ахтэрштэвень — меў больш шырокую верхнюю частку для засцярогі руля, які на яго навешваўся [гл. 1]. Затым на кіль, фарштэвень і ахтэрштэвень мацаваліся дошкі абшыўкі [гл. 2]. На наступным этапе да абшыўкі мацаваліся **шпангоўты** (па-старажытнаруску — «какоры»). Разам з кілем шпангоўты служылі апорнай канструкцыяй корпуса судна. Шпангоўты выгіналіся па форме дна, іх колькасць залежала ад даўжыні і неабходнай трываласці судна [гл. 3]. Шпангоўты-какоры былі знойдзены пры раскопках Брэста. З дапамогай **кільсонаў** і **бімсаў** шпангоўты мацаваліся да кіля і абшыўкі, а таксама звязваліся паміж сабой [гл. 4]. Кільсоны накладваліся каля дна судна па-над шпангоўтамі ўздоўж кіля, а бімсы звязвалі бартавыя галіны шпангоўта і надавалі судну папярочную трываласць. На апошнім этапе [гл. 5] заставалася аснасціць судна мачтай, ветразем, рулём і такелажам (усе вяровачныя снасці судна). Гэтыя этапы будаўніцтва ў асноўным захоўваліся на працягу ўсяго часу існавання драўляных парусных суднаў.




? **1.** Што абмяжоўвала памеры сярэдневяковых суднаў?

**2.** Апішыце працэс будаўніцтва ладдзі. Як вы думаеце, ці значна адрозніваюцца сучасныя этапы будаўніцтва судна ад сярэдневяковых?

✧ **3.** Як вы думаеце, з дапамогай якога інструмента вырабляліся судны ў Старажытнай Русі?

✧ **4.** Для чаго маглі выкарыстоўваць старажытныя славяне такія судны?

## Музыкі пры княжацкім двары

У «Жыцці Феадосія Пячэрскага» (аднаго з заснавальнікаў Кіева-Пячэрскага манастыра), напісанага манахам Нестарам у 80-я гг. XI ст., захаваўся цікавы расказ пра ігру музыкантаў у кня-

жацкіх палатах. З гэтага расказу становіцца ясным, што захапленне музыкай была звычайнай з'явай у асяроддзі вышэйшага пласта старажытнарускага грамадства. Несумненна, музыка гучала і ў асяроддзі іншых пластоў насельніцтва горада і вёскі. Гэта пацвярджаюць і археалагічныя даныя. Даследчыкамі знойдзена мноства музычных інструментаў, якія падзяляюць на чатыры групы: струнныя (гуслі, смык-гудок), духавыя (жалейка, валынка, сурна, дуда, рог), ударныя (бубны), самагучныя (варган, званец). Пасля прыняцця хрысціянства ігра на музычных інструментах была асуджана царквой як перажытак язычніцтва, але нават прыведзены ніжэй фрагмент з «Жыція Феадосія Пячэрскага» пацвярджае, што выкараніць свецкую музыку царкве не ўдалося.

Аднойчы прыйшоў да князя [кіеўскага князя Святаслава Яраславіча] блажэнны і баганосны айцец наш Феадосій і, зайшоўшы ў княжацкія палаты, дзе знаходзіўся князь, убачыў мноства музыкаў, якія гралі перад ім: адны перабіралі струны на гуслях, другія білі ў арганы, а іншыя свісталі ў замры, і так усе гулялі і весяліліся, як гэта ў звычаі ў князёў. Блажэнны сеў побач з князем, апусціўшы вочы данізу, і, схіліўшыся да яго, спытаў: «Ці будзе вось так на тым свеце?» Той жа расчуліўся ад слоў блажэннага, і праслязіўся, і загадаў спыніць музыку. І з тых часоў, калі запрашаў да сабе музыкаў, то, даведаўшыся аб прыходзе блажэннага, загадваў ім спыніць ігру.

*Житие Феодосия Печерского // Библиотека литературы Древней Руси. — Том 1 (XI—XII века). — СПб: Наука, 2000. — С. 423.*

? **1.** Якія музычныя інструменты ўзгаданы ў «Жыціі Феадосія Пячэрскага»? Якія з іх вы ведаеце?

**2.** Што ў «Жыціі» сведчыць пра адмоўнае стаўленне царкоўнікаў да свецкай музыкі?

✧ **3.** Як вы думаеце, якія музычныя творы у спалучэнні з паэтычнымі гучалі пры княжацкім двары? Можа, вы ведаеце назву аднаго з такіх твораў?

## Публікацыі крыніц

Галицко-Волынская летопись. Текст. Комментарий. Исследование / Сост. Н. Ф. Котляр, В. Ю. Франчук, А. Г. Плахонин; Под ред. Н. Ф. Котляра. — СПб: Алетейя, 2005.

Джаксон, Т. Н. Исландские королевские саги о Восточной Европе (первая половина XI в.) / Т. Н. Джаксон. — М.: Ладомир, 1994.

Древнерусские княжеские уставы XI—XV вв. / Издание подготовил Я. Н. Щапов. — М.: Наука, 1976.

Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том I: Античные источники. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2009.

Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том II: Византийские источники. Сост. М. В. Бибиков. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2010.

Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том III: Восточные источники. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2009.

Древняя Русь в свете зарубежных источников: Хрестоматия / Под ред. Т. Н. Джаксон, И. Г. Коноваловой и А. В. Подосинова. — Том V: Древнескандинавские источники. — М.: Русский Фонд Содействия Образованию и Науке, 2009.

Златоструй. Древняя Русь. X — XIII вв. / Сост., авторский текст, коммент. А. Г. Кузьмина, А. Ю. Карпова. — М.: Мол. гвардия, 1990.

Ипатьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 2. — Изд. 2-е. — СПб: Типография М. А. Александрова, 1908.

Кніга жыцій і хаджэнняў / Уклад. А. А. Мельнікаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1994.

Константин Багрянородный. Об управлении империей. — М.: Наука, 1991.

Корнелий Тацит. Сочинения в двух томах / Изд. подготовили А. С. Бобович, Я. М. Боровский, М. Е. Сергеенко. — Л.: Наука, 1970.

Лаврентьевская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 1. — Л.: Изд-во АН СССР, 1928.

Латиноязычные источники по истории Древней Руси. Германия IX — первая половина XII в. / Составление, перевод, комментарий М. Б. Свердлова. — Т. I. — М.; Л.: Наука, 1989.

Матузова В. И., Назарова Е. Л. Крестоносцы и Русь. Конец XII в. — 1270 г. Тексты, перевод, комментарий. — М.: Издательство «Индрик», 2002.

Назаренко А. В. Немецкие латиноязычные источники IX—XI вв.: Тексты, перевод, комментарии. — М.: Наука, 1993.

Памятники русского права. — Вып. 1: Памятники права Киевского государства X—XII вв. — М.: Госюриздат, 1952.

Памятники русского права. — Вып. 2: Памятники права феодально-раздробленной Руси XII—XV вв. — М.: Госюриздат, 1953.

Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. — Изд. 2-е, испр. и доп. — СПб: Наука, 1996.

Прокопий Кесарийский. Война с персами. Война с вандалами. Тайная история / Пер., ст., коммент. А. А. Чекаловой. — М.: Наука, 1993.

Радзиловская летопись // Полное собрание русских летописей. — Том 38. — Л.: Наука, 1989.

Свод древнейших письменных известий о славянах. — Изд. 2-е, испр. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1994. — Т. I (I—VI вв.).

Свод древнейших письменных известий о славянах. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1995. — Т. II (VII—IX вв.).

Свод древнейших письменных известий о славянах. Том I (I—VI вв.). — Изд. 2-е, испр. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 1994.

Слова и поучения Кирилла Туровского // Библиотека литературы Древней Руси. — Том 4 (XII век). — СПб: Наука, 2000.

Слово о полку Игореве: [Для сред. и ст. школ. возраста / Предисл., дослов. и объясн. пер. с древнерус. Д. Лихачева]. — Минск: Юнацтва, 1981.

Тацит Корнелий. Соч.: В 2 т. / Отв. ред. С. Л. Утченко. — Л.: Наука, Ленингр. отд-е, 1969. — Т. 1.

## Выкарыстаная літаратура

Алексеев, Л. В. Западные земли домонгольской Руси: очерки истории, археологии, культуры: в 2 кн. / Л. В. Алексеев. — М.: Наука, 2006.

Амальрик, А. С. Что такое археология / А. С. Амальрик, А. Л. Монгайт. — М.: Просвещение, 1966.

Арлоў, У. Таямніцы полацкай гісторыі / Уладзімір Арлоў. — Мінск: «Беларусь», 1994.

Археалогія Беларусі: Энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. А—К / рэдкал.: Т.У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2009.

Археология: Древняя Русь. Быт и культура / Отв. ред. тома Б. А. Колчин, Т. И. Макарова. — М.: Наука, 1997.

Библиотека литературы Древней Руси. — Том 1 (XI—XII века). — СПб: Наука, 2000.

Борисковский, П. И. Древнейшее прошлое человечества / П. И. Борисковский. — Изд. 2-е, перераб и доп. — Л.: «Наука», Ленинградское отделение, 1979.

Васіна, З.О. Український літопис вбрання. — Том І. 11000 років до н.е. — XIII ст. н.е. Науково-художні реконструкції. — Київ: Мистецтво, 2003.

Вернадский, Г. В. Киевская Русь / Г. В. Вернадский. Под ред. Б. А. Николаева. — Тверь: ЛЕАН; М.: АГРАФ, 1996.

Горский, А. А. Древнерусская дружина / А. А. Горский. — М.: Наука, 1989.

Горский, А. А. Русское Средневековье / Антон Горский. — М.: Астрель: Олимп, 2010.

Горский, А. А. Русь: От славянского расселения до Московского царства / А. А. Горский. — М.: Языки славянской культуры, 2004.

Греков, Б. Д. Киевская Русь / Б. Д. Греков. Отв. ред. Л. В. Черепнин. — М.: Госполитиздат, 1953.

Греков, Б. Д. Крестьяне на Руси с древнейших времен до XVII в. — Изд. 2-е, испр. и доп. — М.: Изд-во Академии наук СССР, 1952. — Кн. 1.

Грушевський, М. С. Історія України-Руси: В 11 т., 12 кн. / М. С. Грушевський. — Київ, Наук. думка, 1992. — Т. 2.

Гулецкі, Дз. У. Манеты беларускай даўніны / Дзмітрый Гулецкі. — Мінск: Беларусь, 2007.

Дайнека, Л. Меч князя Вячкі. След ваўкалака / Л. Дайнека. — Мінск, 1993.

Джаксон, Т. Н. AUSTR Í GÖRÐUM: Древнерусские топонимы в древнескандинавских источниках. — М.: Языки славянской культуры, 2001.

Древняя Русь в свете зарубежных источников: Учебное пособие для студентов вузов / Под ред. Е. А. Мельниковой. — М.: Издательская корпорация «логос», 1999.

Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полац. і новагарод. перыяды / М. Ермаловіч. — 2-е выд. — Мінск: Маст. літ., 2001.

Зализняк, А.А. «Слово о полку Игореве»: взгляд лингвиста / А. А. Зализняк. — 3-е изд., доп. — М.: Рукописные памятники Древней Руси, 2008.

Зверуго, Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. / Я. Г. Зверуго. — Минск: Навука і тэхніка, 1989.

Зинкявичюс, З. Откуда родом литовцы / Зигмас Зинкявичюс, Алексеюс Лухтанас, Гинтаутас Чеснис. — Вильнюс, 2006.

История культуры Древней Руси. Домонгольский период. I. Материальная культура / Под ред. Н. Н. Воронина, М. К. Каргера и М. А. Тихановой. — М.; Л.: Изд-во АН СССР, 1948.

Ігнатоўскі, У. М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі / У. М. Ігнатоўскі. — 5-е выданне. — Мінск: «Беларусь», 1992.

Калечыц, А. Г. Першыя людзі на зямлі Беларусі: дапаможнік / А. Г. Калечыц. — Мінск: Беларус. навука, 2007.

Каштанов, С. М. Из истории русского средневекового источника: Акты X—XVI вв. / С. М. Каштанов. — М.: Наука, 1996.

Кирпичников, А. Н. Древнерусское оружие / А. Н. Кирпичников. — Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. — М.; Л.: Наука, 1966.

Кирпичников, А. Н. Древнерусское оружие / А. Н. Кирпичников. — Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX—XIII вв. — М.; Л.: Наука, 1966.

Клейн, Л. С. Воскрешение Перуна. К реконструкции восточнославянского язычества / Л. С. Клейн. — СПб: Евразия, 2004.

Ключевский, В. О. Русская история. Полный курс лекций в трех книгах / В. О. Ключевский. — М.: Мысль, 1993. — Кн. 1.

Кобищанов, Ю. М. Полюдье: явление отечественной и всемирной истории цивилизаций / Ю. М. Кобищанов. — М.: Российская политическая энциклопедия (РОССПЭН), 1995.

Королев, А. С. История междукняжеских отношений на Руси в 40-е — 70-е годы X века / А. С. Королев. — М.: Прометей, 2000.

Котляр, Н. Ф. Древнерусская государственность / Н. Ф. Котляр. — СПб: Алетейя, 1998.

Лебедев, Г. С. Эпоха викингов в Северной Европе: историко-археологические очерки / Г. С. Лебедев. — Л.: Изд-во ЛГУ, 1985.

Левшун, Л. В. История восточнославянского книжного слова XI — XVII вв. / Л. В. Левшун. — Минск: Экономпресс, 2001.

Ловмяньский, Г. Русь и норманны / Генрих Ловмяньский. — М.: Прогресс, 1985.

Лысенко, П. Ф. Открытие Берестья / П. Ф. Лысенко. — 2-е изд., доп. — Минск: Белорус. наука, 2007.

Морган, Л. Г. Древнее общество или исследование линий человеческого прогресса от дикости через варварство к цивилизации / Л. Г. Морган. — Л.: Изд-во Института народов севера ЦИК СССР, 1933.

Назаренко, А. В. Древняя Русь на международных путях: Междисциплинарные очерки культурных, торговых, политических связей IX—XII вв. / А. В. Назаренко. — М.: Языки русской культуры, 2001.

Насонов, А. Н. История русского летописания XI — начала XVIII века. Очерки и исследования / А. Н. Насонов. — М.: Наука, 1969.

Никольский, Н. М. История русской церкви / Н. М. Никольский. — М.: Изд-во политической литературы, 1988. — С. 26—27.

Новосельцев, А. П. Восточные источники о восточных славянах и Руси VI—IX вв. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998 г. Памяти чл.-кор. РАН А. П. Новосельцева. — М.: Издательская фирма «Восточная литература» РАН, 2000.

Пашуто, В. Т. Внешняя политика Древней Руси / В. Т. Пашуто. — М.: Наука, 1968.

Петрухин, В. Я. Древняя Русь. IX в. — 1263 г. / Владимир Петрухин. — М.: АСТ: Астрель, 2005.

Петрухин, В. Я. Древняя Русь: Народ. Князья. Религия / В. Я. Петрухин // Из истории русской культуры. Т. I. (Древняя Русь). — М.: Языки русской культуры, 2000. — С. 13—401.

Пресняков, А. Е. Княжае право в древней Руси. Лекции по русской истории. Киевская Русь / А. Е. Пресняков. — М.: Наука, 1993.

Прохоров, А. А. Князь Тур: история легенды. Сакрализация княжеской власти у славян / А. А. Прохоров. — Минск: БГУ, 2005.

Пушкарева, Н. Л. Женщины Древней Руси / Н. Л. Пушкарева. — М.: Мысль, 1989.

Пьянков, А. П. Происхождение общественного и государственного строя Древней Руси / А. П. Пьянков. — Минск: Изд-во БГУ, 1980.

Рапов, О. М. Княжеские владения на Руси в X — первой половине XIII в. / О. М. Рапов. — М.: Изд-во Моск. ун-та, 1977.

Рыбаков, Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII—XII вв. / Б. А. Рыбаков. — Изд. 2-е, доп. — М.: Наука, 1993.

Рыбаков, Б. А. Первые века русской истории / Б. А. Рыбаков. — М.: Наука, 1964.

Рыбаков, Б. А. Язычество древних славян / Б. А. Рыбаков. — М.: Наука, 1994.

Рябцевич, В. Н. Нумизматика Беларуси / В. Н. Рябцевич. — Минск: Полымя, 1995.

Свердлов, М. Б. Генезис и структура феодального общества в Древней Руси / М. Б. Свердлов. Под ред. И. П. Шаскольского. — Л.: Наука, 1983.

Свердлов, М. Б. Домонгольская Русь: Князь и княжеская власть на Руси VI — первой трети XIII в. — СПб: Академический проект, 2003.

Свердлов, М. Б. Становление феодализма в славянских странах / М. Б. Свердлов. — СПб: Дмитрий Буланин, 1997.

Седов, В. В. Древнерусская народность: Историко-археологическое исследование / В. В. Седов. — М.: Языки русской культуры, 1999.

Тарасаў, С. В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С. В. Тарасаў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1991.

Флоря, Б. Н. Отношения государства и церкви у восточных и западных славян (Эпоха Средневековья) / Б. Н. Флоря. Отв. ред. Л. В. Милов. — М., 1992.

Фроянов, И. Я. Города-государства Древней Руси / И. Я. Фроянов, А. Ю. Дворниченко. — Л.: Изд-во Ленинградского университета, 1988.

Фроянов, И. Я. Рабство и данничество у восточных славян / И. Я. Фроянов. Под ред. А. Я. Дегтярева. — СПб: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1996.

Хрусталев, Д. Г. Северные крестоносцы. Русь в борьбе за сферы влияния в Восточной Прибалтике XII—XIII вв. — Т. 1. — СПб: ЕВРАЗИЯ, 2009.

Чарняўскі, М. М. Вогнепаклоннікі : кніга для вучняў / М. М. Чарняўскі .— Мінск : Нар. асвета, 1989.— 80 с.

Чарняўскі, М. М. Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі: Першабытны перыяд / М. М. Чарняўскі. — Мінск: Выд. Цэнтр БДУ, 2003.

Чаропка, В. Імя ў летапісе / Вітаўт Чаропка. — Мінск: Полымя, 1994.

Штыхаў, Г. В. Ажываюць сівыя стагоддзі / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Народная асвета, 1982.

Штыхаў, Г. В. Археолагі дапаўняюць летапісцаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Беларус. навука, 2009.

Штыхаў, Г. В. Галасы далёкіх продкаў / Г. В. Штыхаў. — Мінск: Беларусь, 1968.

Щукин, М. Б. Машина времени и лопата / М. Б. Щукин. — Кишинев: Штиинца, 1991.

Щукин, М. Б. На рубеже эр: Опыт историко-археологической реконструкции политических событий III в. до н. э. — I в. н. э. в Восточной и Центральной Европе / М. Б. Щукин. — СПб: «Фарн», 1994.

Энгельс, Ф. Происхождение семьи, частной собственности и государства / Ф. Энгельс // Маркс К., Энгельс Ф. Избранные произведения: в 3-х т. — Т. 3. — М.: Политиздат, 1986.

Энциклопедия для детей. [Т. 31.] Древние цивилизации. — М.: Мир энциклопедий Аванта+, 2007.

Янин, В. Л. Денежно-весовые системы домонгольской Руси и очерки истории денежной системы средневекового Новгорода / В. Л. Янин. — М.: Языки славянских культур, 2009.

Ochmáski, J. Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku / J. Ochmáski. — Pozná: Wydawnicnwo Naukowe UAM, 1981.

# ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ**
**са старажытных часоў**
**да сярэдзіны XIII ст.**

6 клас

**Хрэстаматыя**

Дапаможнік для вучняў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

Аўтар уступных матэрыялаў,
складальнік **Цемушаў** Сцяпан Мікалаевіч

Заг. рэдакцыі *В. Г. Бехціна.* Рэдактар *В. В. Зань.* Мастак *А. А. Ждаnоўская.* Мастацкі рэдактар *А. А. Пратасеня.* Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай.* Карэктары *Д. Р. Лосік, В. С. Бабеня, Г. В. Алешка.*

Падпісана ў друк 26.06.2012. Фармат $60 \times 90\ ^1/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 12,5.
Ул.-выд. арк. 9,7. Тыраж 5667 экз. Заказ .

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Народная асвета»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494083 ад 03.02.2009.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.